ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ





ВЕРАСЕНЬ

МІНСК, 1973


Выдавецтва ЦК КП Беларусі

Заснаваны ў 1953 годзе



Вокладка **І. Крэйдзіка.**

Шмуцтытулы **П. Драчова** (стар. 3) і **У. Мяжэвіча** (стар. 97).





# ПАЭЗІЯ

- Людміла ЗАБАЛОЦКАЯ
- Сяргей ГРАХОЎСКІ
- Алесь КРЫГА
- Алесь АДАМОВІЧ
- Янка БРЫЛЬ
- Уладзімір КАЛЕСНІК



- Ніл ГІЛЕВІЧ
- Святлана ЛОБАЧ
- Міхась СТРАЛЬЦОЎ
- Віктар ЯРАЦ
- НАСІМІ

# ПРОЗА





***людміла забалоцкая***

*

ПАЭЗІЯ

*

■

Вопыту нам часам нестае,
Вымушаны ў гэтым мы прызнацца.
І ідзе бязвусае юнацтва
Да высокай годнасці свае.
Часам мы з сабою на нажах:
У баку застацца ці наперад?
Дзе між злом і праўдаю мяжа?
Як у сілы нам свае паверыць?
Пераймаць чужое без падстаў,
Пераймаць пакорліва і сонна?
Супраць слепаты такой паўстаць
Маладосць мая імкнецца сёння.
Мы будуем новае жыццё,
Не імкнёмся мы да кампрамісаў.
Пачуццё гарачае узвысім —
Да Радзімы нашай пачуццё.

■

Дзе прычал? І сіне-жоўты бераг?
Пырхне дзён мінулых чарада.
Ах, жыццё — салодка-горкі пернік,
Зменлівая колкая вада!
Часам спатыкнешся і на роўным,
Ды няхай не вернецца адчай.
Толькі адчувай з Радзімай роднасць
І руку Радзімы на плячах.
Трэба вера, у здзяйсненні вера.
Добрага ўсё ж болей на зямлі.
...Запаветны вернецца наш бераг,
Нібы ў гавань з шторму караблі.

■

Пакінь свой след на сонечнай зямлі
І маладосць сваю аддай сынам.
Старэюць людзі. Не мінуць і нам
Віхураў тых, што скроні замялі.
Растуць жа побач ружы і палын,
Бацькі з сынамі разам назаўжды,
І звонкія, як яблыкі, гады
Няўмольна ападаюць на палі.
Гартаем мы лісткі календара,
Углядваемся у імклівасць дзён.
І заўважаем: надышла пара
Жыцця свайго узважыць першы плён.
Жар-птушка шчэ не схоплена за хвост,
І зоркай пуцяводнаю — пяро.
Гады у сэрцы выпаляць таўро,
А ты ідзеш за казкаю наўпрост.
Пакінуць след, глыбокі, залаты,
Пакінуць след вялікага дабра.
Нам надышла адказная пара
Спытаць сябе: «А што даў людзям ты?»

■

Іскрынкі ціхага агню
Знікалі паміж сосен.
На ўлежаную цішыню
Кідала лісце восень.
Акорд птушыны уначы
Азваўся сарамліва.
І песню новую вучыў
Вятрыска палахлівы.
Сумненні, радасці сяброў
Жывуць з маім даверам.
Упартасць чуйная бароў —
Твая, каханы, вернасць.
Касцёр гарыць, імжыць раса
На папараць ля дрэваў.
Угледжу ў русых валасах
Я з зоркай светлай крэўнасць.



**сяргей грахоўскі**

*

ПАЭЗІЯ

*

*Сяргею Грахоўскаму спаўняецца 60 гадоў. Шчыра віншуем даўняга сябра «Маладосці» з юбілеем і жадаем новых творчых поспехаў.*

## Радзіма

«Люблю Радзіму я!»
А хто яе не любіць?
Няма тут перавагі нічыёй:
Яна, як сына, кожнага галубіць,
І кожны да канца адданы ёй.

Ніколі я ў любові не клянуся,
А так, як дыхаю, як думаю,
люблю
Палі Расіі, пушчы Беларусі,
Каўказ і Украінскую зямлю.

Як паслухмяны сын, як уладар я
Памірскіх пікаў і сібірскіх рэк,
Люблю Амур і тундру Запаляр'я
І тытул свой — Савецкі чалавек.

Вытокі помнячы, у заўтрае глядзім мы,
Прыспешваем і абганяем час
І так жывём, і любім так Радзіму,
Каб і Радзіма палюбіла нас.



## Раённая сталіца

Люблю спакой раённых гарадкоў,
З гародчыкамі, студнямі, дварамі,
На сінім золку цоканне падкоў
І хлебны дух ад новай крамы,

Язмін у пацерках расы,
Шпакоўні каля кожнай хаты,
Гарластых пеўняў галасы
Ля ганка райваенкамата.

Сцяжкі і дзераза трымцяць
На вільчыку раённай аркі,
А з Дошкі гонару глядзяць
Сяўцы, камбайнеры, даяркі.

Світанне пахне малаком,
Травою, кропам і аерам,
А з самай раніцы ў райком
Ужо адчыненыя дзверы.

У калідорах — халадок,
Гарачыня ва ўсіх пакоях:
Раённы ціхі гарадок
Ні дня не ведае спакою:

Зімой, увесну і ў прыпар
Нікому не хапае часу,
І толькі ноччу сакратар
Пазвоніць з дальняга калгаса,

Спытае пра апоры ЛЭП,
Раскажа пра ўраджай пшаніцы,
Бо дбае пра надзённы хлеб
Уся раённая сталіца.

Калі сагнуцца яблыні ў садку,
Заблішчае над полем навальніца,
У ціхім неспакойным гарадку
Усім да раніцы не спіцца.

## Спатканне

Бяжыць яна, натхнёная, як песня,
І рыфмамі абцасікі звіняць.
Здаецца, хоць зямля пад імі трэсне,
Нішто яе не здолее суняць.

Сама сабе ўсміхаецца ад шчасця,
Іскрацца вочы, аж займае дух,
І толькі белай мітульгою засціць
Крутую сцежку тапалёвы пух.

Празрысты вечар радасны, як ранне.
Яна бяжыць, нібы ў дзівосны сон,
На першае таемнае спатканне,
І ёсць у цэлым свеце толькі ён.

Негаваркі, чубаты і няўклюдны,
Хоць голас і ламаецца на бас,
А ёй здаецца найвялікшым цудам,
Што на спатканне кліча першы раз.

Бяжыць дзяўчынка, ледзь не
задыхнецца,
Злятае пух на шоўк чарнявых кос.
Яны ідуць насустрач — і здаецца,
Што сустракаюць свой шчаслівы лёс.

## Узрост

Мне месца саступаюць у трамваі.
Я дзякую, але усё ж стаю:
Не толькі марку —
маладосць трымаю
Заўсёды неспакойную сваю.

Ні сцюжа не палохае, ні спёка,
Не гнуся ад нялёгкае хады,
Хоць і адсталі ад мяне далёка
Трывожныя юнацкія гады.

Гляджу на ўсё развважліва і проста,
Хоць страчанага болей не вярну,
І ўсё ж не веру пашпартнаму ўзросту,
Пакуль крадком у люстра не зірну.

■

Пакрыўдзіў, кажуць, чалавека лёс.
А дзе той лёс? Якім ён быў і будзе?
Людзей часамі да бяды і слёз
Даводзяць абыякавыя людзі.

Святы запал астудзяць у душы,
Дзіця зняважаць, засмяюць калеку,
Аж пабягуць па скуры мурашы...
Пара быць Чалавекам чалавеку!

## Страта

Мы трацім слова,
Мы нямеем,
І хвалімся, што ўжо
Не ўмеем
Так гаварыць,
Як наша маці,
І дарагую песню
Трацім.
Хоць з ёй нялёгка
Разлучыцца,—
Лягчэй забыць,
Як навучыцца.



■

З настылай восені вярніся
У нашу першую вясну,
Да сэрца сэрцам дакраніся
І не зважай на сівізну.

Яна прыйшла неспадзявана
Не ад дарог, а ад трывог,
І запяклася тая рана,
Якую залячыць не змог.

І не залечыш, як ні бійся,
Якія ні загадвай сны,
Каб не зачахнуць, зноў вярніся
У абдымкі першае вясны.

Няхай укрыюць жыта хвалі
Спакусы позняе сляды
І ўсё, што мы недакахалі
У нашы даўнія гады.



*алесь крыга*

# ПОРТ ПРЫЗНАЧЭННЯ

## АПОВЕСЦЬ

Мал. В. ШРАМЯКОВА.

### РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

Радыст сарыентаваў антэну на ўзбярэжжа, і тэлевізар адразу ажыў. Паказвалі нейкі баявік. Хлопцаў набілася ў кают-кампанію, як селядцоў у бочку. Сядзелі ціха, хоць гуку ўсё роўна не было. Ды калі б ён і з'явіўся, карысць малая: мовы ніхто не разумеў.

На экране стралялі, бегалі людзі, разбіваліся аўтамабілі, але найбольш цалаваліся. Матросы ў такія хвіліны пачыналі варушыцца, перакідвацца жартамі.

Перадача перапынілася ў самым цікавым месцы. Успыхвала застаўка: «Карыстайцеся бензакалонкамі «Эсо»!».

Хлопцы спачатку злаваліся, потым прывыклі, і калі ўзнікала гэтая недарэчная застаўка, дружна рагаталі: адчувалі на сабе сілу рэкламы.

Антон з Юркам Старковым не згаворваючыся пайшлі на фабрыку. На промысле іх прызначылі працаваць у адну змену, рабочыя месцы былі побач. Антона «вылучылі» расфасоўваць рыбу, каб яна была аднаго гатунку, а Юрку — вазіць гэтую рыбу ў маразільныя камеры. Абодва былі рады: цяпер аж да самага порта будуць побач. Іншая рэч, калі б трапілі ў розныя змены — маглі б не сустрэцца цэлы месяц: адзін — з вахты, другі — на вахту...

На фабрыцы было ціха і светла, пахла лаўровым лістам і чорным перцам. Цьмяна паблісквалі падлога, доўгі латок, пузатая мыйка для рыбы. Над вялізнай бочкай вёдзер на пяцьдзесят схіліўся тэхнолаг Іван Фролыч. Убачыўшы хлопцаў, ён завойкаў, замітусіўся, смешна размахваючы рукамі, забегаў вакол бочкі.

— Што я гаварыў?.. Каго папярэджваў? Ці ж гэта рыбакі?.. Вуды ім у рукі і на бераг, хай сядзяць дзе-небудзь у чароце. Жонкам на юшку ловяць... Сказаў жа гэтаму артысту: налі ў бочку вады, а то рассохнецца. Дык ці ён наліў? Дулю...— Фролыч узяў рукі ўбокі, паглядзеў на хлопцаў ва ўпор, нібы яны былі вінаватыя, што Саўцыла не выканаў яго загаду.— Дваццаць рублёў сваіх мне гэтая бочка каштавала... Такая бочка, магу пахваліцца, адна на ўвесь флот. Яе ў калгас хацелі завезці, а я перахапіў. Лепей бы гэты артыст мяне зарэзаў...— Фролыч абхапіў галаву рукамі.— А зараз... Гэта ж сапраўднае сіта. Вось паглядзіце,— тэхнолаг наліў у бочку вядро вады, і адразу ж між клёпак ажылі струменьчыкі.— Што я гаварыў? Бог з імі, з грашыма, у моры новыя надрукую, але дзе дастаць яшчэ такую штучку?..

Фролыч вылаяўся, у роспачы ўдарыў нагой па бочцы.

— У кіпяточак яе, Фролыч, усяго толькі,— спакойна параіў Юрка.— Знайшлі каму даручаць бочку замочваць.

— А што яму, толькі бакі адлежваць? — не сціхаў Фролыч.

Гэта было ў характары тэхнолага. Ён быў гаваркі, спрытны на язык, калі побач не было начальства. Тады ён абураўся, нешта доказваў самому сабе і матросам, зрэдку пакрыкваў, а як толькі на небасхіле заўважаў хмарку — адразу мяняў тон. Але быў ён чалавек незласлівы, не мог доўга насіць у сабе крыўду, да хлопцаў ставіўся прыхільна і асабліва не прыдзіраўся.

— Чаго ты смяешся? — нечакана накінуўся Фролыч на Антона.— Весела табе? А мне?.. На Фарэрскія астравы высадзіць лайдака хочацца...

— Ён музыкант,— упікнуў Юрка,— і там на кавалак хлеба заробіць...

Фролыч вырачыўся, сціснуў вусны.

— Хай на чым хоча зарабляе, толькі не на маім аўтарытэце... Я з матросаў у тэхнолагі выбіўся, а ён з артыстаў у матросы... Усё навыварат...

Антон заўважыў, што Юрка спахмурнеў, ссунуў бровы. Мабыць, словы тэхнолага зачапілі яго за жывое.

— Ты вось што, Фролыч,— сказаў Юрка,— матросаў не чапай. Яны табе рыбу ловяць... А ты рапартуеш... Разумець павінен.

Фролыч, відаць, ужо і сам зразумеў, што перагнуў.

— Не будзем сварыцца,— прымірэнча сказаў тэхнолаг.— Я не так выказаў сваю думку, а вы не так зразумелі. Той, хто сам пахадзіў матросам, не будзе вярнуць нос...

Тэхнолаг так гаварыў можа нават таму, што без матросаў яму прыйшлося б мяняць кваліфікацыю.

— Замочым мы табе бочку,— паабяцаў Юрка.— Будзе лепей за новую.

— Вось за гэта дзякую,— узрадаваўся Фролыч.— З вамі можна і ў акіян на шлюпцы. Прывітанне,— ён памахаў рукой.— Пайду дакументацыю рыхтаваць.

— Якая дакументацыя, Фролыч? — сказаў Антон.— Яшчэ ж ніводнай рыбіны не злавілі.

Тэхнолаг зарагатаў, паляпаў сябе рукой па ключыцы. Там у яго некалі быў перелом: у шторм зваліўся з трапа.

— А ты што думаў? За так сабе грошы атрымліваю? — спытаўся ён.— Вы вярнуліся ў базу, атрымалі аванс і адпачываеце. А я як аша-

---

Заканчэнне. Пачатак у № 8 г.г.

лелы бегаю. Адзін гаворыць, што гэтую графу не так запоўніў, другі — гэтую. Дзён дзесяць пабегаеш, і ўрэшце-рэшт высвятляецца: усё было правільна. Так і атрымліваецца: я без вас нішто, а без мяне — упраўленне флотам... Бумеранг...— глыбакадумна сказаў ён.— Вось і рыхтую паперкі, каб потым толькі лічбы падставіць...

Флорыч зноў быў у гуморы.

Ягоныя крокі паступова заціхлі. Антон сеў на падлогу, падкурчыў пад сябе ногі, Юрка таксама прымасціўся побач.

Нечакана пагасла святло, праз нейкае імгненне ўспыхнулі аварыйныя лямпачкі. Яны, здавалася, тлелі, і, мабыць, таму фабрыка нагадвала фантастычнага павука: ад усіх механізмаў, латкоў, клецяў, якія былі ўжо пастаўлены на тонкія рэйкі, што віліся ўздоўж фабрыкі, падалі цені. Чорнай плямай на белай столі праступаў вялізны люк, праз які звычайна выгружаюць рыбу на плывучыя базы.

Зноў заліліся няяркім, але трывалым святлом плафоны.

— Электрыкі трэніруюцца,— сказаў Юрка.— Нічога, пойдзе рыба, таксама возьмуць нажы ў зубы — і да нас... Вось толькі пайшла б...

Антон абапёрся рукой аб Юркава плячо. Яму было добра і спакойна побач з сябрам.

— А план нам вызначылі фантастычны,— паківаў у роздуме галавой Юрка.— Начальства, мабыць, трохі і разумнейшае за нас, але, мне здаецца, у кабінетах рыба нават на паперу ловіцца...

І праўда, план быў вялізны. Судна тое ж, капітан таксама, а рэйсавае заданне пабольшала.

Успомнілася, як на другі дзень пасля выхаду ў мора экіпаж сабралі ў сталоўцы. Першы памочнік Анісімаў павіншаваў з пачаткам рэйса, а потым абвясціў заданне. Хлопцы ад нечаканасці сціхлі, потым загаманілі на ўсе галасы.

— Лепей дадому вяртацца,— крыкнуў нехта з кутка.

Анісімаў пакашляў у кулак, і ўсе зразумелі, што ён просіць цішыні. Ён абапёрся рукой аб край стала, загаварыў ціха, але пераканаўча:

— Не буду крывіць душой: я таксама не згодзен з планам. Гаварыў пра гэта, ды мяне не паслухалі. Кажу вам таму, каб вы зразумелі, што і да чаго. Рыба — рэч хітрая. Сёння яе многа, а заўтра няма... Парушаецца рытм работы, судна пачынае бегаць з квадрата ў квадрат, шукае, дзе лепей, а рыба, як вядома, ідзе, дзе глыбей... Калі гаварыць шчыра, дык мы яе лавілі дзедаўскімі метадамі. І даўно — ой, як даўно! — донныя тралы аджылі свой век.— Анісімаў на хвіліну змоўк, быццам угледаўся ў кожны твар.— Будзем лавіць рыбу рознаглыбінным спосабам. Апошнія весткі з раёна промыслу даволі аптымістычныя...

Нехта крыкнуў:

— Калі ідзём у раён, заўсёды ўсё аптымістычна!

І зноў усе загулі, зашумелі. Анісімаў цярпліва перачакаў, пакуль аціхне гоман.

— Але ж было і такое, што радыёграмы ішлі трывожныя, а мы прыходзілі і пачыналася пуціна? — спытаўся ён.— Для нас самае галоўнае — працаваць без перабояў. Колькі злавілі, столькі і паклалі ў трумы. Каб ніводная рыбінка не прапала. Таму тэмп і яшчэ раз тэмп...

# «Я—З ВОГНЕННАЙ ВЁСКІ...»

Раздзелы з кнігі






● Алесь АДАМОВІЧ
● Янка БРЫЛЬ
● Уладзімір КАЛЕСНІК


## «ЧЫНГІСХАН З ТЭЛЕГРАФАМІ»

«...Я буду так расказваць. Мы жылі: свёкар, свякруха і залувіца. У залувіцы ўжо дзеці былі, і ў мяне дзеці былі. Свёкар запрог каня і нас адвёз у лес. А свякруха засталася, адна адным у хаце. Сама яна засталася, бо ўжо была старая і нямоглая...

Паехаў свёкар з лесу паглядзець, а яе ўжо ў хаце няма...

А яны ўзялі яе ды ўкінулі ў калодзеж, невялікі такі быў. Жывую. Толькі ў яе была во тут, у галаве, дзірка прабіта, як яна галавою ўпала. І тады, якое было ў нас у хаце шуплацце — усё ў тую студню пакідалі: і посцілкі, і польты, і падушкі,— усё на яе пакідалі ў калодзеж. І такое было берваяно дубовае, дык яны ім зверху тое шуплацце прыціснулі, каб яно не ўсплыло. А тады былі калёсы такія, два каткі, дык яны перавярнулі адзін каток і ўсадзілі туды, у калодзеж, а тады ўзялі зямлёю замуравалі — нідзе нічога не відна, адзін каток тырчыць...

Тры тыдні праляжала, як адзін дзень. У нядзелю яе ўкінулі, і ў нядзелю мы яе адкапалі».

**Калгасніца Ганна Капшай. Вёска Пагулянка Рэчыцкага раёна.**

«...Гэта было рана, іх яшчэ немцы стралялі на пасцелях. Аднаго, Дзянісава Макара, сямнаццаць раз стралялі,— у ногі, у рукі, пака гэта на смерць убілі. І ўсіх астальных стралялі не адразу. Убівалі — каб больш мучыўся».

**Рахункавод Аліна Сцяпанава. Вёска Роўнае Шумілінскага раёна.**

«...Маму маю, маю свякроўку, пераняў у акне. І як пачаў абухам біць!.. Яна спужалася, пад печку забілася і там сядзела да самага вечара. А потым у акно палезла — уцякаць. А ён — абухам. Сякерай, абухам у плечы. Яна валіцца, паднімецца, а ён — ізноў...»

**Даярка Усціння Волкава. Вёска Жары Ушацкага раёна.**

«...Мяне тры разы на ступу клалі. Плечы мае былі чорныя, як кацёл. Відзелі людзі. Ну, такая была ступа, як даўней крупы таўклі. А яны тую ступу абярнулі,

Працяг. Пачатак у №№ 7,8 г.г.

— А хто яго падтрымае? — напаўголасу, але так, каб усе пачулі, спытаўся Юрка.— На караблі адна моладзь. Хай бы вярнулі наш былы экіпаж, тады быў бы і тэмп...

Гэта была праўда, і ўсе чакалі, што адкажа Анісімаў. А ён перавёў на жарт:

— Я думаў, што ты пасля вяселля за дваіх працаваць пачнеш... Жонка не даруе, калі вернешся без плана. Яна кабета сур'ёзная... А калі без жартаў, дык намеснік начальніка флоту абяцаў: вазьмі план — нікога з судна не буду спісваць. Адным словам, усё ў нашых руках. Рознаглыбінным мы яшчэ не лавілі, таму проста ў моры давядзецца вучыцца і вам, і тым, хто на мосціку... Ну дык як,— спытаўся Анісімаў,— папрацуем? План цяжкі... Але ж хочацца, калі будзем вяртацца дадому, ведаць, што мы зрабілі ўсё, што маглі...

...Тады здалося, што ўсё абыдзецца, «Бусоль» выканае рэйсавае заданне, асвоіць новы трал, але цяпер, тут, у цішыні фабрыкі, зноў стала трывожна. Магло ж здарыцца і так, што рыба адразу не пойдзе ў новы трал.

— Слухай,— павярнуўся Антон да Юркі,— на нашай вахце многа маладых?

— Хапае,— адгукнуўся Юрка.— Чалавек шэсць набярэцца. Толькі пра замежныя парты і гавораць. Быццам яны на экскурсію плывуць, а не на промысел. Хоць бы ў шторм трапілі, можа паразумнелі б...

Нечакана бразнулі дзверы. Ды так моцна, што на стале загойдаліся плафоны, а па фабрыцы прабегла рэха. Гэта ўвайшла Лена.

— Эй, вы, чаго расселіся? Я для іх па рыбу іду, а яны, як паны

---

цябе грудзьмі на яе паложаць, а рукі назад, накрыж, і дзяржалі, і цябе білі. Тры разы клалі і білі. «Дзе партызаны?». Загналі нас у хату. Перада мною шэсць чалавек забілі. Што яны ні рабілі! На ступу паложаць, галавой к парогу. Выразалі цела... Жалеза награвалі і прыкладвалі... Шэсць чалавек забілі перада мной. Гадоў па пятнаццаць-шаснаццаць. «Парцізаны! Вы нам спаць не даеце!» І білі...

Я чуць жывая была. А калі ўжо апомнілася, гляджу — разбягаюцца людзі, хаты гараць...»

**Жонка настаўніка Марыя Гладыш. Вёска Мосар Ушацкага раёна.**

«...З нашай вёскі ўлавілі дзяўчыну. Яны над ёю надругаліся. На могілках потым знайшлі яе. Ужо нежывая ляжыць і цукерка... у зубах... А другую забілі ў садзе. Во так ляжыць — дагэры, прыкапана,— после мы агледзелі. Сукенка ўся падраная на ёй...»

**Ганна Дзядзёла. Вёска Відокі Верхнядзвінскага раёна.**

Бабулі, якая гэта расказвала, за восемдзесят гадоў, яна ляжала ў ложку, ужо зусім нямоглая. Дачка яе, Барбара Ясюкевіч (у хаце прымак) і суседка Наталля Падгайская, якія добра памятаюць тыя дні, удакладнілі шэптам пра тую цукерку... Бабуля не змагла сказаць: ці па душэўнай далікатнасці, ці з-за памяці беднай пакутніцы.

«...Як яна крычала! Усе млелі. Тут жа вот, у бані, быў такі вялікі гвозд, сантыметраў мо дваццаць. Дык яны ўзялі той гвозд ды ёй у грудзі... Самаковачным гваздом — у грудзі...

А цётку маю на штыках паднялі...»

**Калгасніца Ганна Грыбоўская. Вёска Латыгава Верхнядзвінскага раёна.**

«...А яшчэ і да бою здзекаваліся: і віламі паролі, і нагамі хадзілі, і білі — ой!.. Дзеці малыя былі, то па жывых нагамі хадзілі. Каторую мацеру пажануць, заб'юць, а дзіця застанецца. А яны па жывых з нагамі хадзілі. А некаторыя знаюць, што немцы яйца любяць, нясе каторае дзіця яму яечак, дык просіцца, каб не забілі. А ён як дасць яму нагою, дык яно і перакуліцца. І з нагамі па ім пайшоў...»

**Калгасніца Марыя Скок. Вёска Паўлавічы Слонімскага раёна.**



нейкія. Рабіць няма чаго? — яна дурасліва высунула язык.— Дык я вам знайду справу...

Нельга было зразумець, жартуе яна ці гаворыць сур'ёзна.

Юрка ўстаў, падышоў да Лены і нешта сказаў дзяўчыне. Тая, кінуўшы вядро, адразу выбегла з фабрыкі.

— Куды ты яе адправіў? — здзіўлена спытаўся Антон.

Юрка, усміхаючыся, зноў сеў на падлогу, выцягнуў з кішэні пачак цыгарэт.

— Зараз кампазітар прыляціць. Я Лене шапнуў, што з Алега сто рублёў вылічаць, калі да вечара бочка будзе цячы... Во падхапілася! «Браточак, што рабіць?..» Чырвоны акунь табе браточак...

Затрашчаўшы спачатку, ажыў дынамік. З яго пачуўся голас вахтавога штурмана, які загадваў матросу Саўцылу неадкладна спусціцца на фабрыку.

Штурман паўтарыў свой загад двойчы. Гаварыў ён адрывіста, урачыста, як і заўсёды на пачатку рэйса, калі не паспела яшчэ надакучыць трансляцыя.

Неўзабаве на фабрыку прыбег Саўцыла, Лена за ім.

«Дзіўна,— падумаў Антон,— яны такія розныя, а заўсёды разам. Каб хоць гэта ў іх далёка не зайшло... Паедзе ён дадому, а Лена будзе перажываць...» Ён адразу ўспомніў Святлану і Хлебнікава. Яны таксама здаліся яму непадобнымі, асабліва, калі Антон пабыў у Хлебнікава ў бальніцы. А вось жа Святлана кахала Хлебнікава, а той не ўяўляў свайго жыцця без яе. Блізкасць такіх розных па сваёй сутнасці людзей ставіла Антона ў тупік. Ён бачыў у гэтых адносінах нейкую вялізную і крыўдную несправядлівасць.

---

Тут прыгадаем расказ Акуліны Івановай («Сцішнаватая радасць»),— як фашысцкаму афіцэру мала было сваімі нагамі душыць пакладзеных у хляве на гнаі дзяцей, жанчын і нямоглых старых, і ён прывёў каня...

Прымітыўнае, ручное зверства, спрадвечная крывавая работа нелюдзяў.

А было яно, зверства, у новым, удасканаленым выглядзе, узброенае сучаснай тэхнікай.

Былі міны.

**Расказвае бабуля Акушэвіч, Аляксандра Навумаўна, з вёскі Стаўпішча Кіраўскага раёна:**

«...Там было чалавек дзвесце з розных вёсак. У камеры. Са мной дзве дзевачкі было, пляменніцы. А нашы самалёты наляцелі. Дык **яны** нас і замініравалі. *Пастралялі і замініравалі.*

А я была не ўбітая. Ранена ў абее нагі. У адну папала, і гэтую пераламала. Дык я прытварылася як убітая. Так выцяглася. Кроў на мне — тых, што забілі...

Адзін нас страляў з аўтамата, а другі свяціў. А потым паглядзелі, што ўсе забітыя, і прынёс гэта... І кладзе... А я думала, гэта мо якая бляха,— я ж не ведала, што гэта міна.

Ну, мы ўжо ляжым. І яшчэ са мной



**Бабуля Акушэвіч.**

— Вось, прывяла,— падышоўшы да хлопцаў, радасна сказала Лена.— Растлумачце яму, што трэба рабіць...

Палуба раптам правалілася некуды ўніз, і Саўцыла, каб не паваліцца, ухапіўся рукамі за Лену. Антон з Юркам, трымаючыся рукамі за перагародку, усталі з падлогі.

— Знаёмая? — паказаўшы пальцам на бочку, спытаўся Юрка ў Саўцылы.— Пазнаеш?

Алег пацёр пальцамі радзімку на шчацэ. Ён рабіў так заўсёды, калі чаго не разумеў ці намагаўся што ўспомніць.

— Дальбог, не даходзіць...— сказаў урэшце Алег.— Я ж у вёсцы, як вы, не жыў. Сталіца ўсё ж такі...

— Перахрысціся, што цябе тут тэхнолаг не сустрэў,— як мага сур'ёзней сказаў Юрка.— Ён гэтую бочку зубамі грыз... Плакаў і крычаў: «Я да Васіля Дзянісавіча пайду! Хай спіша Саўцылу на стрэчнае судна і — у порт!.. Што гэта за матрос, які загады не выконвае?..» Фролыч усе парогі паабіваў, пакуль гэтую бочку дастаў, а ты яе не запарыў. Цяпер з яе цячэ, як з рэшата. Зразумеў?

— Даруйце, хлопцы, я думаў, гэта глупства... Нават з галавы выскачыла.

У ягоным голасе была шчырасць, і Юрка не вытрываў, засмяяўся.

— Ты ўжо глядзі, матрос... Сапраўды, так далей нельга. Бачыш, якая гэта штуковіна — судна, і кожнаму адведзена сваё месца. Хай маленькае, але сваё. Што будзе, калі рэфмашыністы не прасочаць за сваёй устаноўкай і не змогуць уключыць маразільныя камеры? Або машыністы застопараць машыну? Без адказнасці ў нас нельга. Аба-

было дзве, таксама не забітыя: адна жанчына і мая пляменніца, меньшанькая. Жанчына ўстала і гаворыць:

— Знаеш, яны адступаюць!

А я гавару:

— Ляжыце моўчкі. Маўчыма.

Дык яна на чардак узлезла.

Чую — дзверы адчынілі. Адчынілі, паглядзелі і пайшлі. Гэта ўжо нашы — красныя. Я стала войкаць, стала гукаць. Адна жанчына з імі была, яна цераз парог галаву і кажа:

— Ой, воечкі! Жанчына жывая!.. Мамаша, не станавіцеся на провад, у вас тут замініравана!..

Яны на парог узышлі, заплакалі. Нашы ўжо. А я дзевачку пабудзіла, каторая жывая, меншую. Яна спала. Пяць гадоў ёй было.

Нашы яе паклікалі:

— Дочачка, ідзі к нам!

А яна:

— Адыдзіце, немцы! Вы маю мамку забілі, я к вам не пайду.

Дык салдаты яе ўзялі неяк цераз міну. Міна ж ляжыць!.. Я толькі чую, што яны гавораць пра гэта. Ляжу і калачуся.

Яны кажуць:

— Падай, мамаша, рукі і скінь бітых з сябе.

Дзе ж я іх скіну!..

Адзін узяўся за мяне, а той узяўся за гэтага, а трэці зноў за гэтага і давай цягці. Як пацяглі, дык гэтая нага, што пераломана,— у ету міну, у еты провад. Як у прывад, дык гэтая міна — хлоп! Разарвалася. Тых усіх і параніла трох. А я ўжо крычу:

— Ногі паадарвала!

Я вады прашу, а ён кажа:

— Вады няма.

Яны яе патруцілі, немцы.

— Не, мамаша,— гавораць мне, паглядзеўшы,— вашы ножкі цэлы.

Перавязалі мяне, і тых салдатаў, і нас павезлі.»

Было радыё.

Яно не толькі каардынавала работу карнікаў як сродак сувязі, — яно іх тады і весяліла.

У вёсцы Святая Воля Івацэвіцкага раёна быстрая маладзіца Аўдоцця Ермаловіч, у вайну дзіця, а цяпер сама ўжо маці, нават удава з малымі неслухамі, расказвала нам пра гэткую весялосць. Жанчына плакала, успамінаючы, як яны, некалькі малых, схаваліся ў драўляным зрубе пустога, амаль даверху засыпанага калодзежа, абраслага высокім быльнягом, і чулі крык і плач, і страляніну — наверсе, у вёсцы, дзе засталіся іх мамы, бабулі, брацікі і сяст-



вязкова што-небудзь здарыцца. Што бочка?.. Вядома, дробязь. Але ж і без яе нельга.

— Зразумеў, генералы,— ужо весялей сказаў Алег, але па твары было відаць, што яму сорамна.— Больш не буду. Аднак падкажыце, што з ёй рабіць...

— Прасцей кіпятком заліць,— сказаў Антон.— А няма яго — налівай бочку вадой. Выцеча яна — зноў налівай. І так рабі, пакуль у норму не прыйдзе...

Яны трохі пастаялі, пакурылі. Саўцыла ўзяў у Лены вядро, пайшоў да крана, што віднеўся за срабрыстым латком для рыбы.

Аднак Лена прыдумала лепш. Яна пабегла ў куток фабрыкі, да тэлефона.

— Ало! Машына?..— закрычэла яна ў трубку.— Хутчэй дайце ваду ў пажарную магістраль! Не, не гарым яшчэ... Палубу змыць трэба. Ага, палубу... Толькі ж не цягніце, а то зараз капітан-дырэктар зойдзе... Хутчэй!..

— Во дзеўка дык дзеўка,— зусім, як некалі Фролыч на Кацю, ціха сказаў Юрка.— За такою, як за каменнаю сцяной...

Лена тым часам ужо выцягнула з чырвонай скрыні на перагародцы брызентавы шланг, падключыла яго да магістральнага ражка, другі канец шланга ўкінула ў бочку.

— Вось так! — задаволена крыкнула яна.— Цяпер пачакаем...

У кране нешта спачатку зашыпела, потым шланг заварушыўся, у бочку палілася вада.

— Патрабуй ад мяне чаго хочаш,— жартаўліва абхапіў Лену за плечы Саўцыла.— Усё зраблю!

рычкі, якія самі яшчэ не ўмелі ўцякаць.

Немцы ўключылі ў сваёй машыне радыё, яно грымела нейкай музыкай, галёкала нейкія песні, і дзеці чулі праз гэтую весялосць не ўсё. Не ўсё яны таксама бачылі. Быструю Дзянку, як называлі Аўдоццю Іванаўну змалку, падсадзілі па сценцы калодзежнага зруба, і яна бачыла,— яна дагэтуль бачыць,— як немцы, адных людзей пастраляўшы, мылі ў вялікім цэбры закасаныя рукі, выцiралі іх белымі ручнікамі, а потым зноў пачыналі расстрэльваць.

А радыё іх весяліла...

Былі самалёты.

Пра паядынак старэнькай, нямоглай жанчыны з баявым самалётам «люфтваффэ» расказвала нам Зінаіда Путронак, сакратар сельсавета ў вёсцы Боркавічы Верхнядзвінскага раёна. **Тады** ёй было дзевяць год і жыла яна ў роднай вёсцы Ваўкі, дзе адбываўся той паядынак.

«...Не паспелі мы да гэтага лесу даехаць, як наляцела другая парцыя самалётаў і пачалі паліць хаты. Якой-та жыдкасцю. Варашылава, бабуля... Яе сын цяпер у Міёрскім раёне пражывае. А тады быў на фронце. Сям'я вялікая была. Было сямёра дзяцей. Яна засталася адна і да апошняга сваю хату зашчышчала. Яны тры разы палілі, а яна ўсё пяском тры разы тушыла... Ну, потым яна ўжо не змагла. Нізка-нізенька самалёт спусціўся і падпаліў. І яна ўжо была абгарэўшы, сіл не было, і яна пайшла. У нас называлася такая Старасека — лес. А вёску ўсю нашу спалілі...»

У вёсцы Лозкі Калінкавіцкага раёна, дзе забіта 476 чалавек, супраць бабуль, дзяцей, жанчын і ўсіх іншых няўзброеных, мірных людзей быў выкарыстаны бронецягнік. 22 чэрвеня 1942 года. Гэта было вельмі зручна: лясная вёска расцягнулася каля самай чыгункі, на аўтаматны стрэл ад яе.

Расказвае Кацярына Данілаўна Крот, што была тады маладою дзяўчынай.

«...Ну, я той дзень... У мяне сястра была і бацька, маці не было. Мы жылі ўтраіх...

Не магу я расказваць... **[Плача.]**

Тады я з сястрой была на рабоце. Стрэл адкрыўся. Чуем — поезд ідзе, стрэл адкрыўся. Мы прыйшлі дадому...

От характар — гаварыць не магу...»

Калісьці, можна здагадвацца, валявая і энергічная, яна прыкусвае губу і змаўкае, каб не расплакацца зноў.

Гаспадыня хаты, у якой мы сядзім,

Лена нават разгубілася, і яе саламяныя вейкі задрыжэлі, нібы крылы ў матылька.

— Хочаш песню? — не адступаў Алег.— Самую лепшую!

Лена толькі кіўнула галавой.

— Тут нам рабіць больш няма чаго,— сказаў Юрка.— Хадзем на палубу.

Дзень стаў шарэць. Толькі далёка-далёка, нібы за нейкімі горамі, праз белыя хмары глядзеў у ваду, нібы ў люстэрка, ружовы кавалачак сонца. Ад яго, як вусы антэн, разыходзіліся танюсенькія вяртлявыя праменьчыкі. І там, дзе яны дасягалі мора, ледзь прыкметна пераліваласся ліловая вада. Яна цягнулася вузкай палоскай кудысьці на поўнач, дзе — Антон гэта добра ведаў — плавалі айсбергі...

— Можна лічыць, што мы ўжо ў адкрытым акіяне,— задумёна сказаў Юрка.— Усё бліжэй да дому...

Ён таксама, як зачараваны, глядзеў на гэтую ліловую палоску. Пад нагамі павольна ўздрыгвала палуба, за кармой заставаўся белы пенны след. З кожнай хвілінай судна ўсё далей і далей адыходзіла ад сваіх берагоў...

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

На падыходзе ў раён промыслу на «Бусолі» атрымалі радыёграму з флагмана. Абставіны на Лабрадоры былі цяжкія. Пачаліся штормы, і, як заўсёды ў такіх выпадках, з поўначы дрэйфавалі лядовыя палі.



**Кацярына Крот** (злева) **і Вольга Века.**

Вольга Века, мала старэйшая за расказчыцу, сама перажывала той жахлівы «стрэл». Апроч ваеннага гора, аднаго для ўсёй вёскі, ёсць у яе яшчэ і нядаўняе, ужо толькі сваё: загінуў малады, адзіны сын. Электраманцёр. Цягнулі высакавольтную лінію, і на яго «ўпаў слуп». Фота вясёлага, бравага юнака павялічана разам з даўнейшым фота маці, калі яна, Вольга Іосіфаўна, і сама была маладая, вясёлая. Гэты падвойны партрэт, нібы здымак шчаслівай пары або, яшчэ больш падобна, дружных сястры і малодшага брата, вісіць у міжваконні пад белым вышываным ручніком. Умудроная даўнім і новым горам жанчына, гаспадыня стаіць каля свае халоднай белай кахлянкі, залажыўшы за спіну рукі, якія цяпер не пагрэеш, і на плач сяброўкі, што госцяй прыйшла з другое вёскі, дзе замужам, нягучна, але на ўсю глыбіню разумення сур'ёзна кажа:

— Ты не плач. Пацярпі. Трэба цярпець.

О, як жа ён гэта ўмее, наш народ!..

Сяброўка супакойваецца пакрысе і ўжо гаворыць зноў:

«Там гэты канец, дзе людзей білі, ужо гарэў поўнасцю. Ужо вёску палілі з поезда. Нас на вуліцу павыходзіла, можа, чалавек пяцьдзесят, і гаворым:



Маленькія траўлеры вымушаны былі адысціся ў запасныя квадраты, дзе пакуль што не лавілася рыба, але і не плавалі айсбергі.

Калі гэтую трывожную радыёграму зачыталі камандзе, матросы спахмурнелі. Прападала надзея на добрую пуціну. У сталоўцы паявіліся спісы лёдавай вахты, рыхтаваўся аварыйны матэрыял на выпадак прабоіны. Пайшла чутка, што ў раён промыслу накіравалі ледакол. Аднак і загаду ісці ў новы раён не было: «Бусоль» трымала ранейшы курс.

Ужо даўно за сіняй смугой схаваліся берагі, адсталі чайкі, і здавалася, што мора ніколі не скончыцца. За ўвесь час сустрэўся толькі адзін карабель: гэта быў вастраносы эсмінец, які вяртаўся на базу. А так, куды ні глянь,— бясконцае шэрае мора, непрыветнае, нерухомае і, мабыць, таму занадта халоднае.

Антон заступаў на лёдавую вахту ўвечары. Час ужо быў падымацца на хадавы мосцік, але Пятровіч папярэдзіў, каб ён чакаў выкліку ў каюце, бо лёду яшчэ не было.

Каб нечым заняцца, Антон вастрыў нож. Можа, у гэтым і не было патрэбы, бо нож ужо даўно стаў як брытва, але занятак супакойваў. Будучае хвалявала, бо ўсё ішло не так, як хацелася. Ад маці ён так і не атрымаў пісьма, і цяпер цяжка было сказаць, калі яно дагоніць яго ў моры. Пошту пасылалі з суднамі, якія ішлі на промысел, і бывалі выпадкі, калі пісьмы хадзілі доўга, пакуль знаходзілі адрасата. Пісаць самому таксама не было сэнсу, бо хто ведаў, калі яго адправіш. Таму Антон паслаў толькі кароценькую, на некалькі слоў, радыёграму.

Антон правёў пазногцем па лязе нажа, закруціў у газету брусок,

— Дзеўкі, уцякайма ў лес!

А сястра мая гаворыць, што не пойдзе. Бо гаварылі людзі раней, што і з самалёта будуць страляць, і ўсяляк страшылі, але — не стралялі...

І вот сабралі нас і вядуць проста ў той агонь. Мы просімся, а яны нас цераз вуліцу вядуць у двор, і ўжо там хлеў падпальваюць. І так мне хочацца, і так жа мне хочацца ўцячы!.. Адзін раз я паспрабавала. Жыта было пасеяна каля самай вуліцы, дык я хацела туды, а немец заметціў, крыкнуў і вінтоўку наставіў. І я пашла. Ідзём, ідзём, а там, дзе ўжо яны палілі, сільна многа немцаў відаць. Дайшлі мы да сярэдзіны, дзе ўжо мы жылі, сям'я наша, а тут стаяла хата незгарэўшая і абгароджаная, як і трэба. І падружка ішла са мною. Дык яна гаворыць:

— Давай сюды ўцякаць!

А на гэтую сторану вецер кланіў, дык усё пагарэла і садоў не засталося. А іду я, можа, метраў дзесяць наперад. А потым вось так азірнулася назад. Тая дзяўчына пабегла сюды, а я сюды. Тыя два немцы — яны мяне не заметцілі, і трэці не заметціў. Я і пабегла ў двор, а там ужо ў картоплю, у жыта і — папаўзла.

А тых усіх павялі.

Я адпаўзла так ад вёскі і ляжу ў жыце, думаю: «Што ж яны там будуць з імі рабіць?» Праўда, я далекавата была ад іх, дзе там іх палілі,— метраў, можа, з чатырыста, а можа і больш. Ляжу я і слухаю, а іх там з аўтаматаў: та-та-та-та — строчаць, строчаць з аўтаматаў, як завялі ўжо ў хату. Ляжу я, ляжу, а потым бачу — гарыць ужо хаты, вёску ўсю асвяціла. Відна стала, бо ўжо цямнець збіралася.

А поезд так і хадзіў па пуці: сюды-туды, сюды-туды. Як ён біў па сялу! З кулямётаў ды з усяго. Аж тое жыта косіць!..

А я ў разоры ляжу. Бо я чула, што мужчыны гавораць, як на вайне,— у ямку трэба. Ляжу я к пуці галавою, а поезд, здаецца, коціцца ў нагах. Так перапужалася, што не чуствую нічога. Ляжала, ляжала я, ужо цямнее. Чую: машыны пагулі на Васілевічы. І поезд пайшоў. Той, што страляў.

Я тады ў жыце ўстала, вярнулася на сваё селішча і пагукала, можа дзе хто ёсць. Ніхто не адзываецца, толькі тавар раве, ды каты мяўкаюць, ды сабакі брэшуць... Дзе ж дзецца? Куды ж ісці?.. Пайду я забяру тое барахло, што кінула, і пайду ў лес.

Падыходжу я туды — багацтва ўжо ляжыць, а людзей няма, і ўжо цямнее. Сустрэла дваюродную сястру, і яна сказала мне, што людзей папалілі...»

паклаў яго ў сундук. Ён любіў парадак. Спрабаваў да гэтага прывучыць і Алега, але пакуль што не ўдавалася. Алег па характары быў хлопец занадта эмацыянальны, рабіў усё пад настрой, і Антону часам здавалася, што і на флот ён паехаў, паддаўшыся хвілёваму настрою. Можа, няўдалае каханне, а, можа, і што-небудзь іншае. Цяжка было здагадацца, бо Алег ніколі пра гэта не заводзіў гаворкі, а Антон саромеўся спытацца.

Цяпер Алега ў каюце не было. Ён, мабыць, зноў пайшоў у госці да Лены. Апошнім часам ён прападаў там кожную вольную хвіліну. Хлопцы над імі жартавалі, але ні ён, ні Лена быццам гэтага не заўважалі.

Пасядзеўшы яшчэ трохі ў каюце, Антон пайшоў да радыстаў: можа, ёсць якія-небудзь навіны? У калідоры яго ўразіла нязвыклая цішыня. Можна было падумаць, што судна вымерла. Дзверы ўсіх кают зачынены, ніхто не выходзіў і не заходзіў, ніхто нікуды не бег, як бывае, калі пачынаецца пуціна або карабель падыходзіць да порта.

Антону захацелася як мага хутчэй убачыць каго-небудзь з хлопцаў. Ён міжволі паскорыў крок. Прайшоўшы праз кают-кампанію, дзе таксама нікога не было, ён падняўся па трапе ў радыёрубку. Начальнік радыёстанцыі, светлавалосы і занадта тоўсты, з маленькімі жвавымі вочкамі, друкаваў нешта на машынцы. Убачыўшы Антона, узрадаваўся.

— Добра, што прыйшоў,— сказаў ён.— А то надакучыла да твайго сябра ў каюту бегаць. Зноў жонка дзве радыёграмы прыслала. Ужо восем з пачатку рэйса...— Начальнік радыёстанцыі гаварыў з

Бронецягнік — тэхніка баявая, толькі прыстасаваная для забойства мірнага насельніцтва.

Была і тэхніка спецыяльная...

З яе работай, дакладней — са слядамі гэтай работы мы пазнаёміліся ў вёсцы Касцюковічы, кіламетраў з трыццаць ад Мазыра, уверх па Прыпяці.

Расказвае малады, чарнявы мужчына ў цяльняшцы пад расшпіленай кашуляй. Прыпяцкі бакеншчык Андрэй Казак, у хаце якога мы прыпыніліся.

«...Мне восем гадоў было. Я помню так:

Падышлі машыны, к нам напроці, дзе вот мы жывом на цэнтры. Падышла машына з халабудай. Стала. Там гэта, у гэтай халабудзе, знаходзілася бочка. Кажны падыходзіў ды па кружцы пілі чаго-та. Там і немцы, і паліцаі былі. Наверна, гарэлку.

Народ сагналі ўвесь і пачалі зганяць на бераг.

Мы малыя былі, нас матка за рукі дзяржала. Матка чаго-та сказала на аднаго паліцая. Ён вінтоўку наставіў і хацеў: «Моў, я цябе прыкончу!» Тутака мы пачалі галасіць.

Ну, мы ў той спісак не папалі, дзе бытта партызанскія сем'і. Таму мы засталіся. Нас вывезлі адсюль.

А калі мы потым вярнуліся ў сяло, каб накапаць картошкі ці жыта сваё зжаць,— усё тут было спалена.

Патом пачалі калодзежы глядзець: гэта ўжо было пасля вайны.

Немцы людзей у душагубках травілі на беразе, а потым прывозілі і скідвалі ў калодзежы. Тут чатыры такія калодзежы. Душагубка — машына спецыяльная была, закрытая, і газам атраўлівалі...

Немцы спачатку людзям сказалі, што будуць прывозіць малых дзяцей, сірат, каб у нас яны, у Касцюковічах, жылі. Дык мы думалі, калі яны прыехалі, што гэта яны вязуць тых дзяцей. А яны не дзяцей нам везлі, а прыехалі ды нас загубілі...»

Больш памятае Дар'я Гусак, у той час ужо дарослая.

Людзі з сяла былі выгнаны на бераг Прыпяці, што і тады спакойна плыла сабе ў сваю вечнасць па раздоллі зялёнай даліны, унізе ад Касцюковіч і трохі воддаль, калі хадзіць на раку пехатой.

«...Нас, партызанскія сем'і,— расказвае Дар'я Несцераўна,— паставілі на беразе асобна. Мужчын і жанчын асобна. Яшчэ ў мяне сястра была, з дваццаць чацвёртага года. Маці папрасіла аднаго паліцая:

— Мой даражэнькі, ты маіх гэтых дзе-



нейкім здзіўленнем, нібы не мог зразумець, навошта так часта турбаваць чалавека.

Антон толькі зараз убачыў, што начальнік радыёстанцыі друкуе радыёграму. Ён падышоў бліжэй, зазірнуў цераз плячо. «Вельмі сумую. Чакаю вяртання. Цалую. Каця.»

Радыст крутнуў ручку прыёмніка. Адразу ў рубку ўварваўся гоман, а потым данеслася музыка.

— Ты па каютах дай паслухаць,— сказаў Антон,— а то хлопцы пазасыналі... Весялей будзе...— і ўжо без усялякай сувязі запытаўся: — Ёсць што-небудзь новенькае?

Радыст засмяяўся. Антон заўважыў: калі матросам няма чаго рабіць, яны заўсёды залішне многа смяюцца, можа, каб адагнаць хваравітую тугу.

— Вядома, ёсць,— нарэшце, адгукнуўся той.— Шведы таксама адышлі з Лабрадора, ды і італьянцы збіраюцца падмазаць пяткі... Адны мы смелыя...

— Можа, і смелыя,— задумёна сказаў Антон.— Там, куды ідуць шведы, таксама пакуль нічога. Глядзіш, падзьме з поўдня — і зноў паявіцца чыстая вада. Пакуль усе вернуцца, мы груз возьмем...

Антону вельмі хацелася, каб было менавіта так. Ён не тое што верыў, а проста вельмі жадаў гэтага. Урэшце-рэшт, павінна ж некалі пашанцаваць і «Бусолі»! Антон заўсёды лічыў сваё судна адным з лепшых, але з няўдалым лёсам. Мабыць, так лічылі і наверсе, бо інакш не паслалі б «Бусоль» у такі адказны рэйс. Маглі вызначыць месца промыслу дзесьці і паблізу, у Баранцавым моры.

вак забяры куды-небудзь, усё роўна нам ужо магіла.

Дык ён нас дваіх узяў туды, дзе збіралі адпраўляць у Германію.

Як мы ўжо ішлі, дык бачылі — разбіралі ў вёсцы калодзезі, ужо падгатаўлялі іх на людзей... А гэтыя душагубкі, знаеце, яшчэ толькі пад'ехалі. Такія яны, як вот ездзяць нападобіе кузні ў нас, з МТС. Толькі ў гэтых цвет цёмназялёны, а там, як бы вам сказаць, салатавы. Такія нейкія вілюхі. Іх дзве было: адна на беразе, а другая ўжо тут пад'ехаўшы, к калодзежу.

Яны, знаеце што, сядзелі на беразе, мужчыны, іх пасадзілі ў рад па шэсць чалавек, на коленцах... То адзін яшчэ агляну ўся так,— гэта Грыша Адамоўскі,— а немец падышоў і прыкладам як дасць сюды па шыі, дык ён вот так абвесіў галаву, і кроў пайшла з носа, з рота. І ён больш не падняў галавы.

У мяне маці і бацька засталіся там...»

Нейкі Іван Рачыцкі, чорная душа, перад вайною спрытны прыстасаванец, што залез быў, калі браць па ягоных маштабах, даволі высока, дапамагаў карнікам распазнаваць у натоўпе касцюкоўцаў партызанскія сем'і і тых, каго ён лічыў памочнікам партызан.

«...Дык адных астаўлялі, а другіх выводзілі,— расказвае яшчэ адна цётка, значна старэйшая, таксама Дар'я, але Мінаўна, а прозвішча Карась.— Моладзь усю пасадзілі на калені, мужчынаў і хлопцаў. А тых, што пакінулі, а потым забілі,— тым гаварылі, што іх павязуць кацерамі. Толькі іх не павезлі кацерамі, а чатыры калодзежы напхалі. Вот у гэтым адны мужчыны, у гэтым адны дзеткі. Там два калодзежы — адны жанчыны... Яны падзялілі іх.

Як прыязджала наша камісія, руская,— раскопвалі. Дык тут адны мужчыны. Голыя, голыя! Раздзявалі іх. Бацька адзін прышоў, сына свайго пазнаў, ён наверсе быў, і пахаваў на могілках. Цэленькія ўсе былі, не пазгорбленыя і нічога. Словам — яны травілі. Бо як кідалі б жыўём, дык чалавек курчыўся б, гнуўся б у вадзе, а то яны цэленькія, роўненькія. Ляжалі, як іх пакідаў, так і ляжалі...»

Карнікі стараліся, каб іх работа была «чыстай», каб яе ў вёсцы тады ніхто, апроч іх саміх, не бачыў. На беразе Прыпяці людзей саджалі ў тыя «салатавыя аўтобусы», у дарозе да вёскі людзі душыліся выхлапным газам, каля калодзежаў іх гаспадарліва раздзявалі і голых кідалі ў прадонне. Усё рабілася настолькі спраўна і ціха, што тыя, хто

Начальнік радыёстанцыі выцягнуў з машыны бланк радыёграмы, акуратна абрэзаў, падаў Антону.

— Занясі Старкову,— сказаў ён.— Табе ўсё роўна ўніз спускацца. Абрадуеш жанішка...

Начальніка радыёстанцыі не любілі. Ён залішне задзіраў нос, лічыў сваю пасаду самай галоўнай і, мабыць, таму быў занадта ганарысты. Тое, што ён пасмейваўся з Юркавага кахання, абурала Антона.

— Ладна,— падымаючыся з крэсла, сказаў Антон,— я аднясу. Дай божа, каб табе такія радыёграмы ішлі...

Антон павярнуўся і выйшаў з рубкі. Яму не хацелася больш нічога гаварыць. Ведаў, што радыст усё роўна нічога не зразумее.

Юрка сядзеў, нахіліўшыся над сталом, нешта пісаў. Убачыўшы Антона, адсунуў убок лісток паперы, паклаў на яго далонь. Мабыць, ён пісаў дадому і засаромеўся, што сябар убачыў яго за гэтым заняткам.

— Уключым трансляцыю,— сказаў Антон, каб загладзіць непрыемнасць.

У каюце ціха зайграла музыка. Юрка падняў накрыўку ілюмінатара, і Антон убачыў шэрае нізкае неба. Яно гойдалася, як на арэлях. Судна трохі нахілялася на борт, і тады здавалася, што гэтае дажджлівае неба лізалі маленькія жвавыя хвалі. Нечакана ля ілюмінатара падняўся ў паветра іскрысты вадзяны слуп і празрыстыя кволыя пыркі, нібы рой пчол, уляцелі ў каюту. Толькі цяпер Антон заўважыў, што на перагародцы ўжо няма белазубых прыгажунь, якія не спадабаліся Каці.

---

заставаўся тым часам каля ракі, стоячы на каленях і тварам **ад вёскі**, нічога не бачылі і не чулі. Тыя ж, хто быў у той дзень асуджаны не на смерць, а толькі на часовае выгнанне з роднай вёскі або на вываз у Нямеччыну, былі ўжо выгнаны і вывезены з Касцюковіч. З пэўнымі «недапрацоўкамі» — нават і пры нямецкай акуратнасці. Скажам, бачыла ж Дар'я Гусак, калі яе міма гналі, як рыхтавалі для людзей калодзежы, бачыла і той «салатавы аўтобус»... Бачыла, аднак не ведала, што тут да чаго, і разабралася больш-менш толькі пасля, значна пазней, калі над тымі карнікамі, якім не ўдалося ўцячы або замесці сляды, адбыўся суд і на судзе тым пабывалі людзі з Касцюковіч.

Акрэсленне «Чынгісхан з тэлеграфамі» належыць А. І. Герцану. Сімвал нелюдства бачыўся яму ў палавіне мінулага стагоддзя ўзброеным ужо не толькі рукамі ды нагамі, шаблямі ды лукамі, але тэлеграфамі, параходамі, чыгункамі, стрэльбамі Міньe і ракетамі Кангрэва...

Знішчаючы мірнае насельніцтва, фашысцкія чынгісханы розных рангаў карысталіся і метадамі сваіх спрадвечных папярэднікаў, і новай, дасканалай тэхнікай. Былі ў іх аўтаматы, міны, аўтамабілі, радыё, бронецягнікі, самалёты, танкі і супернавінка — іхняе вынаходніцтва — Gasenwagen ці Sonderwagen — душагубка, рухомая памочніца канцлагерных крэматорыяў.

Альберт Шпэер, міністр узбраення і ваеннай прамысловасці Трэцяга Рэйха, адсядзеўшы дваццаць гадоў, прысуджаных яму на нюрнбергскім працэсе, напісаў «Успаміны». У гэтай кнізе пра свайго друга і фюрара ён гаворыць так:

«Гітлер быў першым, хто здолеў прымяніць тэхналогію для мэтаў масавага злачынства».

Колькі пакут, колькі жахлізай антычалавечнасці стаіць за словамі гэтага кампетэнтнага сведчання!..

## МАЛЕНЬКІ ХЛОПЧЫК БЯЖЫЦЬ РАЗОРАЮ

З гэтай жанчынай мы сустрэліся выпадкова.

Былы партызан, інвалід, ужо і бухгалтар таксама былы, на пенсіі, Раман Драгун, параіцца з якім падказалі нам у райкоме партыі, аднёсся да справы сур'ёзна. Пакінуў кіраваць сямейным ка-



— А дзе мэмы? — успомніўшы любімае Алегава слова, спытаўся Антон.

— Жонкі збаяліся.

Антон палез у кішэню, намацаў радыёграму, але адразу не аддаў.

— Ці піша табе Каця? — спытаўся ён, бо не ведаў, як адносіцца Юрка да жончыных вестак. Можа, саромеецца хлопцаў, якія заўсёды рады пакпіць з жаночай увагі? Матросы кажуць, што калі жанчына часта піша — значыць, адчувае за сабой віну.

— Амаль кожны дзень! — весела адгукнуўся Юрка.— А што будзе, калі сапраўдная пошта дагоніць...

— Тады трымай,— працягваючы радыёграму, сказаў Антон.

Юрка прабег вачыма радыёграму і, акуратна склаўшы яе, засунуў у кішэню.

За ілюмінатарам шумела мора, а дзесьці над галавой чуліся таропкія крокі. Раптам данесліся глухія ўдары па жалезе.

— Рыхтуюць трал да спуску,— сказаў Юрка.— Але ж мы яшчэ ў ільды не ўвайшлі...

Палубная каманда яшчэ некалькі дзён назад пачала рыхтаваць трал, вымала са скрыняў бобенцы, кухтылі *. Але каманды на спуск не было.

— Падымуся на мосцік,— сказаў Антон.— Я цяпер на лядовай вахце.

— Нічога сабе вахта,— ухмыльнуўся Юрка.— На ложку...

На хадавым мосціку было ўжо ўсё начальства. Пятровіч бегаў

* Кухтылі, бобенцы—грузілы для трала.

---

паннем студні, памыўся, пераапрануўся і, цяжка спраўляючыся з пратэзам і кульбай, падсеў у наш «газік». Адтуль, з зялёнай ды зацішнай станцыі Капцэвічы, мы накіраваліся ў яго родныя мясціны, у заходні куток Петрыкаўшчыны. Справіўшыся там, дахаты мы вярталіся амаль што прыцемкам. І тады наш праваднік раптам успомніў яшчэ аднаго — у вёсцы Слабада. «Можа, і ён раскажа».

Яго знаёмы, Адам Стракач, таксама былы партызан, сам не бачыў таго, што адбывалася ў яго родных Беразняках (у Слабаду ён пераехаў пасля вайны). З чатырохсот аднавяскоўцаў, памардаваных у лістападзе 1942 года, цудам выратавалася некалькі чалавек. І сярод іх — Адамава сястра Алена. Жыве і яна ў Слабадзе, цераз некалькі хат...

Алена Іванаўна Булава на шмат старэйшая за свайго брата. Ужо зусім павольная, нямоглая бабуля, добра за семдзесят. Гэта мы спачатку толькі адчулі па яе стомленым голасе, па непрытворным кракстанні. У хаце была шэрая гадзіна, гаспадыня адпачывала, прылёгшы на ложку, яшчэ не распрануўшыся. Энергічны Адам Іванавіч уключыў святло і сказаў ёй, што трэба вось, каб яна расказала, што было тады ў Беразняках. А калі трэба — дык трэба.



Алена Іванаўна Булава.

з крыла на крыло, углядаўся ў мора, потым таропка, быццам баяўся, што не паспее аддаць загад, крычаў рулявому:

— Лева пяць!.. Лева дзесяць!..

Вахтавы на рулі, малады матрос з астрыжанай нагола галавой і з пышнымі чорнымі вусамі, моўчкі круціў штурвал, і праз шкло хадавой рубкі было добра бачна, як нос судна паслухмяна паварочваўся.

Ужо сцямнела, і на прыборах, якіх на мосціку было багата, пераліваліся зеленаватым колерам надпісы. Праз няшчыльна зачыненыя дзверы штурманскага пакойчыка вузенькай палоскай прабівалася святло. Антон, каб не перашкаджаць Пятровічу, адышоўся ў куток. Той заўважыў яго, але ў гэты момант зазваніў тэлефон. Штурман прыклаў да вуха трубку.

— Добра,— адрывіста сказаў ён.— Зразумела. Праз дзве гадзіны, пэўна, і пачнём...— Пятровіч павярнуўся да капітана.— Просяць уключыць пражэктары...

Анатоль Канстанцінавіч, капітан-дырэктар «Бусолі», на выгляд зусім малады, гэтак гадоў трыццаці пяці, а на самай справе значна старэйшы, сядзеў у крэсле ля акна. Ён сядзеў моўчкі, трохі нахіліўшыся набок, і, здавалася, спаў. Але гэта было не так. Капітан не любіў без патрэбы лезці са сваімі загадамі. Ён быццам прыглядаўся да штурманаў, хацеў ведаць, на што яны здольныя. Але ж Антон памятаў, што калі трэба было прыняць тэрміновыя меры ці складваліся аварыйныя абставіны, Анатоль Канстанцінавіч умомант ачынаўся. Ён станавіўся ля штурвальнага, і ягоны голас, трохі хрыплаваты, з металічнымі ноткамі, здавалася, далятаў да ўсіх адсекаў судна. Ён

Бабуля ўстала і, зразумеўшы, што да чаго, спакваля наладзілася, пачала.

«...У мяне і галава ўсё баліць, ды яшчэ я і сільна не дачуваю...

Ну, як яно было. Там жа нашых усіх людзей пабілі. Там на другі дзень людзей столькі ляжала... А вэўкі як папрывыкалі, дык людзей лавілі потым. Людзей папрывыкалі есці...

Ну, абкружылі нас кругом, усю вёску. А я ў той час у хаце была. Вышла з хаты — не бачыла, што той немец з кукардай стаіць. Ён наставіў вінтоўку — вось так во на мяне. А гэты мой хлопчык малы, што на руках у мяне быў, Сашка, мяне за шыю ды:

— Ой, мамко, заб'юць нас!..

А я кажу:

— Не, не, сынок, пан не будзе біць, не!..

Як я так сказала, дык ён, праўда, і вінтоўку апусціў. Ды на мяне паказвае:

— Дахаты!

Увайшла я ў хату ды на сваю дзеўку кажу:

— Евачка, нас паб'юць.

— А што рабіць, мамо?

У мяне ж яшчэ і той хлопчык быў, Колька. Ужо быў, здаецца, у трэцім ці ў чацвёртым класе. Колька кажа:

— Мамко, я пабягу ў мох.

А я кажу:

— Калі можна... А мо не праскочыш, сынок?

А мы не бачым, што яны там сядзяць у касках. Панадзявалі гэтыя каскі і не відно іх. Хлопчык мой — каб чуць, дык і прарваўся б. Хацеў, бедненькі, праскочыць, а яны яго — раз! — у грудзі сюды во. Толькі крыкнуў ён: «Мамко!..»

Дык дзе там — мацярынскае сэрца. Выскачыла я ды да яго. І Еўка мая выскачыла. А я за гэтае дзіця, за Сашку свайго, ды прыгарнула да сябе. Дык ён мяне — раз! — у руку раніў. І хацеў яшчэ раз, а Еўка ашчапілася за мяне і кажа:

— Мамко, няхай нас разам б'юць! Хай і мяне б'юць з вамі!..

А я хацела ўпасці, адале думаю: «А як жа дзеўка мая? І дзіця ж на руках...»

Ён хацеў у Еўку папасці, ды яшчэ раз мне ў руку. І сюды во. Дык у мяне рука апусцілася. І дзіця я пусціла. Пабегла малое. А Еўка — за мною. Я кажу ёй «Пáдаймо!» І вось мяне ўжо зноў ранілі, а ў дзевачку не папалі. Во сюды мяне ранілі, а куля тут во выскачыла. Ужо ў мяне ўвяла ўсё, я і сама ўпала. Упала ды кажу на дзевачку: «А цябе ранілі?» Кажа, што не ранілі. А з мяне кроў аж ціўкае, так ліецца. Жылу тут мне, бачыце, перабілі. Дык я кажу:

— Падай разам са мною. А будзеш ляжаць — не торкайся. Упадзі і ляжы



аддаваў загады нетаропка, аднак упэўнена, трохі жарсткавата. І гэта дзейнічала на вахтавых, як халодны душ.

— Уключайце,— нарэшце, быццам незадаволены тым, што яго патурбавалі з-за такой дробязі, адгукнуўся капітан.— Даўно трэба...

Пятровіч пазваніў па тэлефоне.

— Даць напружанне на кармавыя і насавыя пражэктары! — сказаў ён.

Адразу наперадзе па курсе карабля замітусіліся па чорнай з сівізной вадзе белыя плямы. На мосціку пасвятлела. Ужо не свяціліся надпісы на прыборах. Доўгія тонкія промні пражэктараў выхоплівалі з цемры грывастыя пакатыя хвалі. Здавалася, «Бусоль» прабіраецца праз не вельмі густую, але вязкую цемру.

Калі Антон выйшаў на крыло хадавога мосціка, вецер адразу залез пад кашулю, надзьмуў яе, нібы ветразь. Каб не ўпасці, Антон ухапіўся за дзверы, прыціснуўся спіной да перагародкі. Вецер быў цёплы, і Антон зразумеў, чаму яны не сустрэліся з лёдавым полем. Змяніўся вецер — і вось мора чыстае.

Проста над галавой рассыпаліся вялізныя, з кулак, зоркі. Здавалася, яны віселі на нейкіх нябачных дроціках і іх ледзь-ледзь пагойдваў вецер. Зоркі падміргвалі, пераліваліся, нібы клікалі да сябе. Прыглядзеўшыся, Антон падумаў, што зоркі рассыпаны не абы-як, а, выцягнуўшыся далёка да небасхілу, нагадваюць шырокія алеі, пасыпаныя залацістым пяском. Ён адразу ўспомніў порт, парк з невялічкімі кволымі ліпкамі, якія не хацелі расці, шкляны будынак магазіна, дзе працавала Святлана. Ці сустрэнуцца яны зноў? І якая гэта будзе сустрэча? Яму хацелася, каб ён нічога не ведаў пра Хлеб-

на месцы. Бо, можа, я і жывая не буду, а ты — ляжы. І глядзі — як-небудзь у бераг.

А я ўжо бачу, што хлопчык мой, Колька,— ляжыць нежывы...

А гэты, што малы быў, пабег разоркаю. А ралля была высокая, дык яны і не пападалі ў гэтага хлопчыка. А кулі разрыўныя ляцяць. А хлопчык усё роўна жывы, усё роўна бяжыць разораю.

А там жанчына паўзла ровам. Ды так вось яна: «Хадзі сюды! Хадзі сюды!..» Яна за яго ды ў тую канаву.

А я ляжу. І Еўка за мною ляжыць. А з мяне кроў ідзе. А яны ходзяць па двары, гяргечуць. Павыпускалі мае каровы, дзве было, авечкі павыганялі на вуліцу, свінні. А я ляжу ды так во пазіраю. А яны падпалілі маю хату і пайшлі да суседа. А сусед той стаў на калені і просіцца. А яны яму ў грудзі — раз!.. А я ляжу ды сама сабе думаю: «Ну, усё». Маё дзіця пабегла, а я не ведаю — ці яно там жывое, ці не жывое... А потым, калі я ўжо бачу, што гарыць, што галавешкі ляцяць на мяне, дык я ўзяла якнебудзь уставаць. Я на адным калене, на адным калене — папаўзла ў тую канаву, дзе хлопчык мой там, з маладзіцаю. Тая маладзіца спужалася і папаўзла. Я кажу: «Хаця ты мне руку перавяжы!» А яна — папаўзла...

Еўка мая таксама тады ўцякла і недзе голая ў стозе начавала. Выбрала дзірку ды палезла ў сярэдзіну, у стог, і там схавалася. Потым партызаны прышлі і гукалі, мо хто жывы, каб адгукнуўся, а людзі баяліся адгукацца. На другі ўжо дзень мая дзевачка вылезла са стога і пайшла...

Ляжу я ў той канаве, а тут бяжыць яшчэ дзве, гэта Кацярыніны, дзевачкі.

— Ох, ох, цётачка, ужо нашу мамку забілі, і браціка ўбілі! А мы толькі ўдвох засталіся, дзве дзевачкі!..

А ў мяне ў вачах цёмна. Кажу я:

— Донька, паўзіце вось гэтаю во канаваю ды туды ў мох. Можа, застанецеся. Калі я ўжо не буду гаварыць, то вы пасядзіце, пакуль немцы паедуць, дык мо тады хто азавецца, дык можа як куды-небудзь зойдзеце.

Яны пабеглі ў той мох, тым раўчуком. А я — ужо з тым малым дзіцем, з Сашкай маім. На адным калене ўскочыла — і я ў тую канаву. Ускочыла, пацямнела ў вачах, папаўзла ў той мох. Блізенька ад хаты мох быў. Запаўзла я ў той мох, ляжу. І яны, тыя дзевачкі, палеглі ў карчах...

Ужо мы там чуем — людзі вішчаць, крычаць — ужо там людзэй б'юць!.. У нас маладзёжы многа было. І можа ніводнага не засталося. Ні маладзёжы,

нікава, мог проста зайсці да яго дамоў, сказаць, як гавораць старому сябру, па якім вельмі сумаваў у моры: «Вось я і вярнуўся...» Але Антон ведаў, што колішняя бестурботнасць не вернецца, як не вернецца радасць першай сустрэчы з Хлебнікавым.

З рубкі выскачыў Пятровіч. На ягонай худой шыі матляўся марскі бінокль.

— Ідзі ў каюту,— сказаў Пятровіч Антону.— Спускаем трал. Пашанцавала: вецер дапамог... Цяпер,— ён па-тэатральнаму перахрысціўся,— лавіся рыбка малая і вялікая, а лепей вялікая...

Наперадзе заскакалі па вадзе рознакаляровыя агеньчыкі: белыя, зялёныя, чырвоныя. Калі нос карабля паволі ўзбіраўся на хвалю, іх станавілася ўсё больш і больш. Сапраўдны горад на вадзе.

— Падыходзім да групы,— сказаў Пятровіч.— А дакладней, да таго, што ад яе засталося. Разбегліся лёгкага жыцця шукаць,— засмяяўся ён.— А мы тут як тут...

Антон адчуў у грудзях радаснае хваляванне. Ён ужо ўяўляў сабе, як спусціцца на фабрыку, стане на сваё рабочае месца — і пойдзе жывой плынню рыба.

— Трэба апранацца,— сказаў Антон.— Заступаю на першую вахту.

Ён прабег праз хадавы мосцік і хацеў ужо спусціцца ў калідор, як яго паклікаў капітан Анатоль Канстанцінавіч.

— Падыдзі да мяне, стары мой таварыш,— жартаўліва сказаў капітан.— Прыемна сустрэць знаёмага матроса ў самым цэнтры акіяна.

Капітан, па ўсім відаць, быў у гуморы. Ён ссунуў на патыліцу форменную фуражку. Ягоны гладкі, ледзь прыкметна пабіты воспай

ні дзевачак,— усіх *пабілі*. *Божа мой*, дзеці плачуць!.. Страшна было, каб вы пачулі. Некаторых у хаты загналі, а то проста так білі, акружылі і так білі — на нашай вуліцы. А маленькае дзіця... Гэта Каціна,— узялі ды ўбілі Кацю, а дзіцятка яшчэ жывое. Яно поўзала, а яны ўзялі ды штыхом жывоцік яму распорваюць. А яно, бедненькае, поўзае па той мацеры, яшчэ жывое, кішачкі павылазілі. А яно поўзае...

Хлопчыка майго, Колька што быў, у сенцы ўцягнулі, і ён там згарэў. Костачкі толькі ляжалі. Як я прыйшла з бальніцы, то ўжо нікога... І там я яго костачкі ў сенцах нашла. Харошы быў хлопец...

**Пытанне:** — А *гэта хто былі* — немцы ці паліцыя?

— Паліцэйскія былі, і гэтыя, немцы, з гэтымі іхнімі кукардамі. Акружылі вёску так, што сядзелі адзін каля аднаго, адзін каля аднаго...

**Пытанне:** — А вы пра тое яшчэ, як вы ў канаве ляжалі.

— Ляжала. У мяне маленькі хлопчык, хоча плакаць, а я кажу:

— Не плач, бо і цябе заб'юць.

Не плача. Ляжаць яны, бедныя... Каціны дзевачкі і мой. Потым у мяне чуць вось так павесялела, ужо чую — сціхлі тыя, у сяле. Я за дзяцей ды гэта прывяла іх да канавы. Стала ў ваду і **нагою іх папераводзіла на той бок**, бо вада пасярэдзіне бяжыць. **Нагою паперацягала.** *Пацямнела ў мяне ў вачах...*

Дубікі прыйшлі, мяне забралі. Ужо як нежывую. Ужо тады я ляжала раненая, дык мяне адзін чалавек падабраў і павёз у бальніцу.

Каб не Яроміха, дык мяне там убілі б. На станцыі яшчэ ўбілі б. І майго хлопчыка...

Маленькі застаўся жывы, і цяпер жыве. У Гомелі. Я тады яго на руках дзяржала. Яшчэ як бацька ішоў у армію, а я яго праводзіла, дык на руках малога трымала. І бацька нёс яго на руках, маленькага. Такі пацанок — і застаўся жывы. Білі, так па ім білі, што, паверце, кулі разрыўныя — гарадзь!.. Я яшчэ чу*ставала* трохі, дык *пазіраю* і думаю: «Ну, усё!..»

А яно, бедненькае, каціласа па гэтай баразне. Рялля высокая, а яно малое.

Усіх нас пачці пабілі, гэта во толькі я раненая засталася. Дый то не ведаю, як я засталася. Ад мяне людзі ўцякалі... Гэта ў бальніцы той.

Здаецца, ляжу і здаецца, што хлопчык мой крычыць. Чутно — крычыць!.. Я і не сплю, а ён — крычыць!.. Усхапіцца хачу, а няма як — крылы падаюць. Хачу схапіцца — вазьму ўпаду. Дык яны, што ў бальніцы ляжаць, глядзяць на мяне ды





баяцца, уцякаюць ад мяне. Бабка там адна ляжала, дык яна мала была ранена, дык яна, калі я з ложка ўпаду, падыдзе ды возьме мяне, ды на ложак. Яна не баялася. Есці тады не было што,— тады ж быў немец,— а ляжалі так, на саломе. Ды хустачка толькі. На мне ж не было нічога — як з хаты выскачыла, так і была...

**Пытанне:** — А як вы трапілі ў тую бальніцу? І што гэта за Яроміха?

— Як я трапіла? Там саставы стаялі на станцыі, калі мяне той дзядзька вёз, і без пропуска не прапускалі нікога. Мяне ж вязе гэты чалавек, а я раненая ляжу. І гэты хлопчык каля мяне маленькі, каторы застаўся жывы. Дык мяне хочуць у камендатуру. Я думаю: «Ну, усё...» Крычаць яны:

— Падымайся, бабо!

А чалавек той кажа:

— Яна не паднімецца, яна бальная.

А там бабушка была старэнькая, што з немцаў, якія тут засталіся. Яна памерла ўжо. І вось тая бабушка ідзе. А яна была са мною знаёмая, начавала ў мяне не раз. Бедная была, хадзіла, то краску прадае, то што-небудзь. Я з яе нічога не брала, а так дам картоплі ці чаго. Бо жылі ж мы тады добра. Дык яна ў мяне і начуе тыя разы. Глянула яна ў воз ды кажа:

— Хто гэта цябе, Аленка? Якая ж ты нешчаслівая!

Ды на мяне ўпала, ды стала галасіць, абняла мяне ды стала цалаваць. Цалуе і плача. А ён пытае ў яе, немец, па-нямецку:

— Хто гэта?

А яна кажа:

— Гэта мая родзічка, гэта мая фамілія.

Яна сама — з немцаў, засталася яшчэ ў колішнюю вайну. Ён работаў на заводзе, чалавек яе. Рабіў на заводзе нейкім старшым, і астаўся тут на жыццё. А яна па-нямецку гаварыла. Дык яна ўпала на мяне і кажа: «Гэта мая фамілія!..» Пагаварылі яны па-нямецку, і яна кажа:

— Няхай ка мне вязуць.

Праўда, яна і павезла мяне. Я абамлелая была. А як добра трошачкі што ўбачу, дык я ёй рукі цалую і кажу:

— Мамко, ратуй мяне!..

— А што ж мне вам рабіць? — кажа яна.— Што мне вам рабіць?

А мой гэта хлопчык маленькі прыйдзе ды ў рукі яе цалуе:

— Ах, цётачка, ратуйце маю мамку!

Маленькі быў, а — бедненькі — цалуе ў рукі.

Яна пабегла і паклікала Казлоўскага, перавязаць мяне. А мяне, гэта, кроў кругом, ды застыла яна, ды мне ўжо так

Базана, паправіў на робе капюшон. Узяў і ў яго нож, правёў пазногцем па лязе.

— Ты яго вастрыў? — ссунуўшы бровы, спытаўся тэхнолаг.

Пятро пакрыўдзіўся. Увесь яго шырокі твар выказваў абурэнне.

— А як жа?!

Фролыч пагардліва прыжмурыў вочы:

— Каб мяне дзесяць дзён з зубнога пакоя не выпускалі, калі ты вастрыў гэты нож.

Хлопцы зарагаталі.

— А што табе там рабіць? — спытаўся Юрка Старкоў.— У цябе ж зубы ўсе штучныя. З золата зробленыя...

— І на ключыцы залатая пласцінка,— пырснуў нехта ў кулак.

— Цябе, Фролыч,— не суніМаўся Юрка,— калі ў скупку аднесці, дык можна ўсё жыццё не працаваць...

Пятро Базан, адчуўшы падтрымку, зайшоўся ад смеху.

— Ой, памру! — ухапіўшыся рукамі за бакі, прастагнаў ён.

— Не трэба,— сказаў Антон.— Хто працаваць за цябе будзе? Лепей вазьмі ў кладоўцы брусок і навастры нож...

Пятро пакрыўджана змоўк, але спрачацца з Антонам не стаў, пайшоў у кладоўку.

— Дык вось, браточкі, зараз падымуць трал,— звярнуўся да хлопцаў Фролыч,— і пачнецца для нас вясёленькае жыццё. Каб працавалі ў мяне як гадзіннік. Старшым на вахце прызначаю Старкова. Ён кадр вопытны, мае аўтарытэт. Да таго ж — чалавек сямейны...

— Ты не паддобрывайся, Фролыч,— адгукнуўся Юрка.— Усё роўна больш, чым можам, не зробім.

небудзь пытанне. Гэта быў голас яе душы, ачышчанай пакутамі, кароткае і яснае рашэнне горкага, настойлівага роздуму. Маленькі хлопчык, які — пад абстрэлам дарослых, выдатна ўзброеных і навучаных забіваць — бег, кацячы глыбокай разорай, зноў, каторы ўжо раз за трыццаць год вярнуўся ў матчына сэрца, на матчыны вочы...

«...Я гэта думаю, дык мне страшна...

Я жыла ў тыя войны, як тыя войны былі. Ужо не маладая. Ну, то свіней бяруць, то што... А гэтая?.. Ад звера дык хоць уцячэш, на хвойку якую, ці што. А гэта ж чалавек. Чалавек чалавека трапіць, дзе ўчуе. Ой, што ўжо гэта! — гэта ж не вайна была, а проста... Ну, той, што на фронце, ну, таго чалавека заб'юць,— дык ён жа ваяваў, праўда? А дзіця тое беднае? Хлопчык — ён жа, бедны, нідзе не быў. Таксама білі... Гэтае дзіця маленькае бяжыць,— за *што ж яго?* Яно ж маленькае, яно ж дзіця, яно ж каціліся, як тое яблычка... А яны — б'юць. Іскры скачуць!..

*Што гэта, што гэта за такое было ў іх,* я не ведаю. Гэта звяры былі, а не людзі. Гэта не людзі, гэта — звяры былі...»

Такімі іх памятае народ.

# ДЗВЕ СТАРАСЦІ

## 1. «ГАЛОЎКА ЯГО БАЛІЦЬ...»

Сённяшні дзень настройвае на бяздумную весялосць. Не пустую, а лёгкую і амаль па-дзіцячы светлую. Асабліва калі забыцца пра нашу тэму, пра тую бездань жахаў, якую мы растрывожваем з даўніны, клічучы для разумнага ўдзелу ў змаганні за *лепшую* будучыню чалавецтва. Мы свайго не забыліся, аднак у нас быў перапынак, цэлы тыдзень, *калі* мы былі дома і жылі больш клопатамі і радасцямі свае надзённасці; і таму цяпер сонечны, зялёны чэрвень мы па хатняй інерцыі ўспрымаем яшчэ без людскіх успамінаў пра кроў і агонь.

Вёска Альхоўка. Клічаўскі раён.

Спешыўшыся каля патрэбнай нам хаты, ідзём ад машыны да лаўкі перад гародчыкам, на якой сядзіць дзядок. Ціхенькі, сівы, маленькі. І не ў цяньку, хоць спёка, а на сонцы. Вітаемся, а ён не адказвае, пытаемся, а ён маўчыць. Ды не ад грубасці, мусіць, бо глядзіць ён на нас ці *то* прыязнымі, ці *то* бязгрэшнымі вачыма. Не ўсміхаецца,— толькі зірнуў адзін раз, даўгавата і абыякава, і зноў глядзіць кудысьці, нібы наперад, нібы ўдаль.



— А я і не гавару, каб са скуры вылазілі,— адказаў тэхнолаг.— Тады на ўвесь рэйс не хопіць. Галоўнае — не траціць час, не збівацца з рытму.

Так заўсёды гаварыў і першы памочнік. Тэхнолаг залішне прыслухоўваўся да таго, што гаварыла начальства. Не тое, каб ён паддобрываўся, а проста любіў адчуваць над сабою руку. Мабыць, гэта засталося яшчэ ад таго часу, калі ён плаваў матросам. Фролыч не мог зразумець, што ён цяпер трэці чалавек на судне і можа многае вырашаць сам. І не толькі ў вытворчых пытаннях, дзе, па праўдзе кажучы, ён быў сапраўдны майстар.

— Ну дык што? — спытаўся Антон.— Ці не час паглядзець, як трал падымаюць?

— Толькі пад нагамі ў палубнай каманды не таўчыся,— папярэдзіў тэхнолаг.— А то капітан заўважыць, дык галаву, як кураняці, адкруціць...

— Не першы год замужам...— агрызнуўся Юрка.— Самі разумныя...

— Ну, ну,— паківаў галавой Фролыч.

Хлопцы дружна пайшлі на палубу. Каб не перашкаджаць пад'ёму трала, падняліся на кармавую надбудову. Унізе рыпела лябёдка, нацягвала, нібы струну, тросы. Але трал яшчэ быў у моры.

Юрка прыслухаўся да натужнага рыпення, задаволена ўсміхнуўся:

— Здаецца, нешта ёсць...

З кармавой рубкі, адкуль камандавалі пад'ёмам трала, даносіліся

Вартуе штосьці? Абдумвае? Проста любуецца тым, на што глядзеў столькі гадоў, а ўсё ж не наглядзеўся? Відаць, ні адно, ні другое, ні трэцяе: на ўсё на тое патрэбна нейкая актыўнасць, а ён, дзядок, проста глядзіць. Сядзіць сабе і глядзіць...

Зразумеўшы, адчуўшы, што гэта — не тое, не той, хто можа нам дапамагчы, ідзём у брамку. Ужо на дварыку нас сустракае шустрая, прыветлівая бабуля. Ды яшчэ і талковая,— хутка ўцяміўшы, што нам трэба, запрашае ў хату, дзеда свайго з вуліцы не клічучы.

У хаце чыста і пуста, і не пытаючыся можна здагадацца, што дзед і баба, як ва ўсіх амаль казках, жывуць адны.

Прысеўшы да стала, бабуля, як і большасць тых, з кім мы ўжо сустракаліся і ў хатах, і на полі, на мікрафон не зважае,— проста расказвае і ўсё.

«...Як мяне, кажаце, завуць? Цмыг, Грыпіна Паўлаўна Цмыг. А колькі мне гадоў? Мне ўжо, хлопчыкі, два гады яшчэ і тады будзе восемдзесят. Ой, даўно ўжо жыву-у, ой-ой-ой!.. **(Смяецца.)** А ён у мяне, мой гаспадар, ужо саўсем... Ён старэйшы за мяне. Мусіць, на трынаццаць ці на чатырнаццаць год. А завуць Амяллян Атрафімаў Цмыг. І той мой дзед быў Амяллян, першы мужык. Гэты мой дзед — удавец быў, у яго пятнаццаць душ забілі немцы, у яме ў той ляжаць. А ён застаўся, гэты дзед.

Ну, я засталася ўдава. Мой сын быў у партызанах. А ён, гэты дзед, ды таго майго дзеда кум. Дык ён кажа:

— Знаеш што, кума, давай мы будзем удваіх.

Дык я кажу:

— Ну давай.

Сын прыбег з лесу, і я спыталася:

— Так і так, сынок, што рабіць?

— Мама, калі дзе прыхінуцца ёсць, дык ты тут і будзь. Можа, калі парцянкі дасі ці рубашку пераменіш мне, прыбегшы.

Ну, вот мы і зыйшліся з дзедам, і гадоў, мусіць, трыццаць жывём.

А цяпер галоўка яго баліць...

Гэты дзед і гэтыя хлопцы збіраліся кучамі — нядзелька была. І жанчыны папрыбіраліся, старыя і маладыя. Сядзяць дзе-небудзь, сабраўшыся. Ну і тады гэта дзед стаіць у курані, а тая баба, яго першая, ды кажа:

— Збіраюць на сабранне! Ідзі, дзед.

— Я схаваюся.

А яна кажа:

— Чаго схаваешся? — Гэта ж мы такія дурныя, бабы.— Што ты схаваешся — усе ж на сабранне пашлі.

Ну, на сабранне, дык на сабранне. Усе

Базана, паправіў на робе капюшон. Узяў і ў яго нож, правёў пазногцем па лязе.

— Ты яго вастрыў? — ссунуўшы бровы, спытаўся тэхнолаг.

Пятро пакрыўдзіўся. Увесь яго шырокі твар выказваў абурэнне.

— А як жа?!

Фролыч пагардліва прыжмурыў вочы:

— Каб мяне дзесяць дзён з зубнога пакоя не выпускалі, калі ты вастрыў гэты нож.

Хлопцы зарагаталі.

— А што табе там рабіць? — спытаўся Юрка Старкоў.— У цябе ж зубы ўсе штучныя. З золата зробленыя...

— І на ключыцы залатая пласцінка,— пырснуў нехта ў кулак.

— Цябе, Фролыч,— не сунімаўся Юрка,— калі ў скупку аднесці, дык можна ўсё жыццё не працаваць...

Пятро Базан, адчуўшы падтрымку, зайшоўся ад смеху.

— Ой, памру! — ухапіўшыся рукамі за бакі, прастагнаў ён.

— Не трэба,— сказаў Антон.— Хто працаваць за цябе будзе? Лепей вазьмі ў кладоўцы брусок і настры нож...

Пятро пакрыўджана змоўк, але спрачацца з Антонам не стаў, пайшоў у кладоўку.

— Дык вось, браточкі, зараз падымуць трал,— звярнуўся да хлопцаў Фролыч,— і пачнецца для нас вясёленькае жыццё. Каб працавалі ў мяне як гадзіннік. Старшым на вахце прызначаю Старкова. Ён кадр вопытны, мае аўтарытэт. Да таго ж — чалавек сямейны...

— Ты не паддобрывайся, Фролыч,— адгукнуўся Юрка.— Усё роўна больш, чым можам, не зробім.

небудзь пытанне. Гэта быў голас яе душы, ачышчанай пакутамі, кароткае і яснае рашэнне горкага, настойлівага роздуму. Маленькі хлопчык, які — пад абстрэлам дарослых, выдатна ўзброеных і навучаных забіваць — бег, каціўся глыбокай разорай, зноў, каторы ўжо раз за трыццаць год вярнуўся ў матчына сэрца, на матчыны вочы...

«...Я гэта думаю, дык мне страшна...

Я жыла ў тыя войны, як тыя войны былі. Ужо не маладая. Ну, то свіней бяруць, то што... А гэтая?.. Ад звера дык хоць уцячэш, на хвойку якую, ці што. А гэта ж чалавек. Чалавек чалавека трапіць, дзе ўчуе. Ой, што ўжо гэта! — гэта ж не вайна была, а проста... Ну, той, што на фронце, ну, таго чалавека заб'юць,— дык ён жа ваяваў, праўда? А дзіця тое беднае? Хлопчык — ён жа, бедны, нідзе не быў. Таксама білі... Гэтае дзіця маленькае бяжыць,— за што ж яго? Яно ж маленькае, яно ж дзіця, яно ж каціласе, як тое яблычка... А яны — б'юць. Іскры скачуць!..

Што гэта, што гэта за такое было ў іх, я не ведаю. Гэта звяры былі, а не людзі. Гэта не людзі, гэта — звяры былі...»

**Такімі іх памятае народ.**

# ДЗВЕ СТАРАСЦІ

## 1. «ГАЛОЎКА ЯГО БАЛІЦЬ...»

Сённяшні дзень настройвае на бяздумную весялосць. Не пустую, а лёгкую і амаль па-дзіцячы светлую. Асабліва калі забыцца пра нашу тэму, пра тую бездань жахаў, якую мы растрывожваем з даўніны, клічучы для разумнага ўдзелу ў змаганні за лепшую будучыню чалавецтва. Мы свайго не забыліся, аднак у нас быў перапынак, цэлы тыдзень, калі мы былі дома і жылі больш клопатамі і радасцямі свае надзённасці; і таму цяпер сонечны, зялёны чэрвень мы па хатняй інерцыі ўспрымаем яшчэ без людскіх успамінаў пра кроў і агонь.

Вёска Альхоўка. Клічаўскі раён.

Спешыўшыся каля патрэбнай нам хаты, ідзём ад машыны да лаўкі перад гародчыкам, на якой сядзіць дзядок. Ціхенькі, сівы, маленькі. І не ў цяньку, хоць спёка, а на сонцы. Вітаемся, а ён не адказвае, пытаемся, а ён маўчыць. Ды не ад грубасці, мусіць, бо глядзіць ён на нас ці то прыязнымі, ці то бязгрэшнымі вачыма. Не ўсміхаецца,— толькі зірнуў адзін раз, даўгавата і абыякава, і зноў глядзіць кудысьці, нібы наперад, нібы ўдаль.



— А я і не гавару, каб са скуры вылазілі,— адказаў тэхнолаг.— Тады на ўвесь рэйс не хопіць. Галоўнае — не траціць час, не збівацца з рытму.

Так заўсёды гаварыў і першы памочнік. Тэхнолаг залішне прыслухоўваўся да таго, што гаварыла начальства. Не тое, каб ён паддобрываўся, а проста любіў адчуваць над сабою руку. Мабыць, гэта засталося яшчэ ад таго часу, калі ён плаваў матросам. Фролыч не мог зразумець, што ён цяпер трэці чалавек на судне і можа многае вырашаць сам. І не толькі ў вытворчых пытаннях, дзе, па праўдзе кажучы, ён быў сапраўдны майстар.

— Ну дык што? — спытаўся Антон.— Ці не час паглядзець, як трал падымаюць?

— Толькі пад нагамі ў палубнай каманды не таўчыся,— папярэдзіў тэхнолаг.— А то капітан заўважыць, дык галаву, як кураняці, адкруціць...

— Не першы год замужам...— агрызнуўся Юрка.— Самі разумныя...

— Ну, ну,— паківаў галавой Фролыч.

Хлопцы дружна пайшлі на палубу. Каб не перашкаджаць пад'ёму трала, падняліся на кармавую надбудову. Унізе рыпела лябёдка, нацягвала, нібы струну, тросы. Але трал яшчэ быў у моры.

Юрка прыслухаўся да натужнага рыпення, задаволена ўсміхнуўся:

— Здаецца, нешта ёсць...

З кармавой рубкі, адкуль камандавалі пад'ёмам трала, даносіліся

Вартуе штосьці? Абдумвае? Проста любуецца тым, на што глядзеў столькі гадоў, а ўсё ж не наглядзеўся? Відаць, ні адно, ні другое, ні трэцяе: на ўсё на тое патрэбна нейкая актыўнасць, а ён, дзядок, проста глядзіць. Сядзіць сабе і глядзіць...

Зразумеўшы, адчуўшы, што гэта — не тое, не той, хто можа нам дапамагчы, ідзём у брамку. Ужо на дворыку нас сустракае шустрая, прыветлівая бабуля. Ды яшчэ і талковая,— хутка ўцяміўшы, што нам трэба, запрашае ў хату, дзеда свайго з вуліцы не клічучы.

У хаце чыста і пуста, і не пытаючыся можна здагадацца, што дзед і баба, як ва ўсіх амаль казках, жывуць адны.

Прысеўшы да стала, бабуля, як і большасць тых, з кім мы ўжо сустракаліся і ў хатах, і на полі, на мікрафон не зважае,— проста расказвае і ўсё.

«...Як мяне, кажаце, завуць? Цмыг, Грыпіна Паўлаўна Цмыг. А колькі мне гадоў? Мне ўжо, хлопчыкі, два гады яшчэ і тады будзе восемдзесят. Ой, даўно ўжо жыву-у, ой-ой-ой!.. **(Смяецца.)** А ён у мяне, мой гаспадар, ужо саўсем... Ён старэйшы за мяне. Мусіць, на трынаццаць ці на чатырнаццаць год. А завуць Амяллян Атрафімаў Цмыг. І той мой дзед быў Амяллян, першы мужык. Гэты мой дзед — удавец быў, у яго пятнаццаць душ забілі немцы, у яме ў той ляжаць. А ён застаўся, гэты дзед.

Ну, я засталася ўдава. Мой сын быў у партызанах. А ён, гэты дзед, ды таго майго дзеда кум. Дык ён кажа:

— Знаеш што, кума, давай мы будзем удваіх.

Дык я кажу:

— Ну давай.

Сын прыбег з лесу, і я спыталася:

— Так і так, сынок, што рабіць?

— Мама, калі дзе прыхінуцца ёсць, дык ты тут і будзь. Можа, калі парцянкі дасі ці рубашку пераменіш мне, прыбегшы.

Ну, вот мы і зышліся з дзедам, і гадоў, мусіць, трыццаць жывём.

А цяпер галоўка яго баліць...

Гэты дзед і гэтыя хлопцы збіраліся кучамі — нядзелька была. І жанчыны папрыбіраліся, старыя і маладыя. Сядзяць дзе-небудзь, сабраўшыся. Ну і тады гэта дзед стаіць у курані, а тая баба, яго першая, ды кажа:

— Збіраюць на сабранне! Ідзі, дзед.

— Я схаваюся.

А яна кажа:

— Чаго схаваешся? — Гэта ж мы такія дурныя, бабы.— Што ты схаваешся — усе ж на сабранне пашлі.

Ну, на сабранне, дык на сабранне. Усе

прыглушаныя галасы, прарэзлівыя званкі тэлефона, таропкія, гулкія крокі.

Справа і злева таксама ішлі судны з запаленымі сігнальнымі агнямі і вымпеламі над рубкай: «Іду з тралам!..» Суднаў было многа. Яны сустракаліся, разбягаліся ў розныя бакі, каб не перашкаджаць адно другому; мільгацелі ў вачах рознакаляровыя агеньчыкі, і таму з палубы здавалася, што гэта не мора, а сапраўдны вялікі горад. Зрэдку даносіліся сіплыя працяглыя гудкі — перасцярогі. Гледзячы на сігнальныя агні, Антон падумаў пра капітана. Паспрабуй разабрацца ў гэтым кірмашы! Так і бойся, што на каго-небудзь наскочыш.

— Пэўна, рыба здурнела, калі столькі суднаў сышлося,— сказаў Антон.

— Толькі чэрпаць трэба ўмець,— адгукнуўся Пятро.— Сам ведаеш, не ўсіх рыбка шануе...

Юрка пацёр далоні, накінуў на галаву капюшон. Потым пстрыкнуў запальнічкай, закурыў.

— Не, хлопцы, як яно ні будзе,— нечакана ажывіўся ён,— а план трэба ўзяць. Смешна сказаць: у партовым горадзе і то рыба толькі па суботах... Сорамна прызнацца, што ты рыбак...

— Твая праўда,— згадзіўся Пятро.— Калі рознаглыбінным ва ўсіх пойдзе — план выканаем. Павінны выканаць,— ён зашпіліў на робе гузік.— Але ж хто яго ведае, што там, у трале...

Матросы з нейкай надзеяй зноў паглядзелі на палубу. Ля сліпа * стаяў тралмайстар і паказваў Алегу Саўцылу, дзе трэба прымацоўваць да сеткі трос з круком, каб лябёдка патроху падбірала на палубу трал. Для Алега гэта была першая вахта. Вядома, ён амаль яшчэ нічога не ведаў, але стараўся. Зачапіўшы крук, ён адбегся ўбок і, падняўшы ўгору руку, закрычэў:

— Віра памалу!

— Няйначай, забыўся, што Лена спіць,— засмяяўся Юрка.— Крычыць на ўвесь сусветны акіян.

За кармой усплыў мех з рыбай. Адразу на яго навялі кармавыя пражэктары. Рыба ў мяху трапяталася, мех то сціскаўся, то расцягваўся, нібы гармонік у руках зухаватага хлопца.

Праз некалькі хвілін трал выцягнулі на палубу, падчапілі тросамі ад лябёдкі: ён узняўся высока над палубай, бліскучы і доўгі, паволі наблізіўся да вялізнай бартавой скрыні. Тралмайстар развязаў мех, і рыба, знясіленая доўгай барацьбой, пасыпалася бліскучым градам на палубу.

З кармавога мосціка скаціўся па трапе Пятровіч. Ён падбег да скрыні, амаль да краёў напоўненай рыбай, нахіліўся над ёй. Потым выцягнуў за жабры вялікага акуня. Той біў у паветры хвастом, спрабаваў вырвацца, а штурман радасна прыціснуў яго да грудзей, адной рукой гладзіў па галаве.

— А мой жа ты тоўсценькі, а мой даражэнькі...— прыгаворваў ён.— Лавіся, чырванапузік, дарагі ты наш...— і ўзняў акуня высока над галавою.

— Ура, таварышы! — смехам крыкнуў Алег.— Віншую з першым трафеем!

* Сліп — пакаты выраз на карме, па якім цягнуць трал.

гэтыя бабы, і хлопцы маладыя... А хат ужо не было,— курані. Хаты папалены былі. Зямлянкі былі. Дзед хацеў у зямлянку пад нары, дык яна не пусціла.

Тады гэтыя немцы і кажуць:

— Вот тры чалавекі — гэты, гэты і гэты (старэнькіх ужо, маладых жа пагналі ў плен), тры чалавек трэба кароў гнаць. І ганіце іх сюды пад раку, на луг, папасіце іх. А тады ганіце ў Кіраўск. А еслі не будзе кароў, дык і вас не будзе!..

Гэта дзед мне ўжо расказваў усё, калі мы з ім сышліся.

Дык яны пагналі ў Кіраўск.

А яны ўжо іх — немцы людзей тых, што засталіся,— паставілі ў шарэнак, на сабранне. Два пасёлкі было. Кілометра не было — гэты пасёлак і гэты пасёлак. Дык яны адтуль і адтуль, а пасярод картошка. Выкапалі яму, загатавалі. І паставілі іх у шар, і пілямёты пастаўлялі. І тады: «Столькі і столькі!» І бягом у яму. Гэта расказвалі падводчыкі.

Дык не выдзяржаў чалавек адзін з Гарадца, які падводчыкам прыязджаў,— не выдзержаў, памёр.

Людзей у яму, у яму, а тады ён пілямётам пастрочыць, пастрочыць. А бабы возьмуць... як толькі ўжо галосіць, дык так во завязваецца, ды тады ўжо ў яму. Кідаецца. Завязаўшы твар хусткай. А тады ўжо, кажа, другія ўсе...

Адкопвалі потым. Мусіць, сто пяцьдзесят гэтых... чарапоў...

А як закопвалі іх у той яме, дык зямля, казалі, гэтак во дыша, дыша, дыша!.. Гэта падводчыкі расказвалі. Якраз Хвядотавых сваяк быў. Дык ён казаў: «Так усё на мне млела». Памёр той чалавек, ад гэтага і памёр, не выдзержаў.

Калі мы ўжо сыйшліся са сваім дзедам, дык пашукалі, пашукалі яго сямейных з тыдзень. Чуем — нейкі рой гудзе... А гэта ўжо не рой, ды ўжо мухі, авадні ўсё... А яны закапалі во так — тут дарога, а яны каля дарогі, блізка ў гэтым... Ну, бульбешнік бальшы. Гэты мой дзед і яшчэ чалавекі тры-чатыры: «Давай пойдзем адкопваць. Пахаваем іх аддзельна». Адкапалі. Як за руку возьмецца ўжо, дык і лезе кожа гэтая ўся... Ну, дык некаторыя казалі, каб выцягваць, але мой дзед кажа:

— Не буду я кратаць іх — няхай дзе пакладзены, там і ляжаць.

Там мы іх і прыкапалі, а абгародку паставілі...

После таго ўжо галоўка яго забалела, у дзеда майго. Вот нічога ён так і не ведае... Хлопчыкі мае, як гэта дажыць? І купіць усё трэба, і яго даглядаць, як малое дзіця...»



**Дзед Амяллян і баба Грыпіна.**

Але ніхто не падхапіў яго жарт. Толькі з кармавога мосціка выйшаў Васіль Дзянісавіч.

— Саўцыла! — крыкнуў ён.— Ты свой спрыт пакажаш, калі трал будзем латаць!..

— Добра,— пакрыўджана азваўся Алег,— я і там апошні не буду...

— Вось і дамовіліся,— сказаў першы памочнік.— А мітынгаваць будзем, калі выканаем план.— Ён прыклаў да вуснаў мегафон.— Усім на свае рабочыя месцы!

Антон спусціўся на фабрыку. У бункер праз люк з палубы загружалі рыбу. А за доўгім сталом хлопцы ўжо трымалі напагатове нажы. Юрка Старкоў уключыў транспарцёр, па якім рыба падавалася ў мыйку.

— Пачнём? — сказаў ён.

Усё было напагатове: уключана вада, правераны вагі, на якой узважвалі рыбу, сістэма сціснутага паветра, падкочана клець, у якую закладвалі формы з рыбай, каб потым даставіць іх у маразільную камеру.

Вялікі чырванаваты акунь памалу ехаў на транспарцёры і раптам плюхнуўся ў мыйку.

— Трымайся, палкоўнік! — весела крыкнуў Антон Старкову.

Рыба пайшла бясконцай плынню. У адно імгненне ўвесь срабрысты латок мыйкі стаў чырвоны. Антон зачэрпнуў формай яшчэ жывую рыбу, паставіў на вагі.

— Як у аптэцы...— задаволена крыкнуў Старкоў. Ён схапіў форму, спрытна, адным рухам, паставіў яе ў клець.— Першая!..

Вось і казка — не казка пра дзеда і бабу.

Свеціць сонца, радасна, як дзеці, шчабечуць жаўранкі, увесь наш свет жыве па-летняму, бабка — вясёлая, шустрая, добрая — плача, а ціхенькі, сівы, маленькі дзядок глядзіць... Толькі глядзіць і нічога як быццам не бачыць.

Калі і сапраўды нічога, дык добра хоць, што ён не бачыць таксама і рою лясное заядзі, і разрытай магілы з усім сваім родам, з усёю вёскай — таго, ад чаго «забалела яго галава».

Назаўсёды.

## 2. ВЁСКА ГЭТА ЦІ ХУТАР — БАКА́НІХА!

Да Баканіхі мы дабіраліся доўга і цяжка. А мо і не дабраліся б зусім, каб не шафёр і праваднік, узяты шафёрам у вёсцы, апошняй перад лясным бездарожжам. Павел Канстанцінавіч Вашчанка, шафёр райкомаўскі, энергічны, вясёлы мужчына гадоў пад сорак, які на сваім «газіку» мог бы, відаць, і цераз плот пераскочыць. А праваднік, былы партызан і салдат, Антон Іванавіч Мацыевіч, цяпер камбайнер, не толькі расказаў шафёру пра найлепшую дарогу, але і павёў нас у тыя зялёныя нетры. Спакойны і цягавіты мужчына, з тых, што гавораць няшмат, а справай паказваюць, на што яны здольныя. Дый не паказваюць — справа паказвае сама.

Гэта было на Расоншчыне, дзе за кожным узгоркам возера, а за возерам зноў узгорак ды трохі поля, і лес, і возера зноў. У адным раёне сто восемдзесят азёр. Трыццаць гадоў пасля вайны, а людзей, у параўнанні з даваенным годам, усё яшчэ толькі трохі больш за палавіну... Былая фашысцкая «зона пустыні». Цудоўны закутак нашай зямлі, край партызанскай мужнасці — і бездань нявінных пакут...

На неапошняй паляне таго балоцістага лесу, за якім, на самай мяжы Беларусі з Расіяй, павінна быць Баканіха, Антон Іванавіч яшчэ раз нагаварыў шафёру, куды тут і як, а сам выбраўся з машыны, пайшоў кудысьці і знік. Мужны таварыш Вашчанка зноў урэзаўся ў гушчар. «Газік» і хроп, і роў, і задыхаўся, вывільваў па разбалочаным пасля шчодрых дажджоў падабенстве лясное дарогі, сям-там пракладаў сабе дарогу сам, і ўсё ішоў, ішоў наперад. Потым таварыш Вашчанка, як строга сказаў бы хто-небудзь, трохі зарваўся: у захапленні боем ён ірвануў у адну падазроную латачыну з ходу, пароў, пахроп, патузаўся «газікам» і — грунтоўна засеў. Як сказаў бы хто-небудзь другі, весялейшы,— толькі антэна відаць... І тут, як добры дух-лясун, з зялёных нетраў вынырнуў наш праваднік. Пачалося спакойнае думанне, што ж тут рабіць... Спалучыўшы галаву і рукі, гадзіны праз дзве мы выбраліся з яміны, пасля памыліся трохі ў сонечным пасля гушчару і трывогі возеры Глыба, тады яшчэ раз урэзаліся ў гушчар, яшчэ раз ледзь-ледзь не заселі і неўзабаве вырваліся ўсё-такі на вялізную паляну.

Да зімы 1942—1943 года на гэтай паляне стаяла вёска. Сорак адна сядзіба. А засталася — адна. На ўзгорачку каля лесу. А паміж намі,— бо мы тут, на сваім узлеску, спыніліся фатаграфаваць,— і тою сядзібай у нізкай даліне цячэ крыніца з мосцікам на ёй і стаяць акінута два былыя кароўнікі і адрына. Раней калгасныя, пастаўленыя неўзабаве пасля вайны, а сёння ўжо не патрэбныя саўгасу, у які далучылі калгас. Цэнтр саўгаса далекавата адгэтуль — за возерам, што зіхатліва распасцерлася на поўдні.

Вырашай цяпер, што гэта — вёска ці хутар — Баканіха...

Той, да каго мы прыехалі, дзед Архіп Жыгачоў, быў на двары, складаў каля хлява наколатыя дровы. Мы ўжо збольшага ведалі пра яго, аднак галоўнае было тут. Яно пачалося з дзедавых рук — абгарэлых кalісьцi, без пальцаў, якія зрасліся ў адно. Ды ўсё ж дзядок — рухавы яшчэ і нават вясёлы. Восемдзесят чатыры гады.

Яму не ўпершыню такія роспыты, і ён у хаце зняў шапку, сеў самавіта за стол і пачаў, для разгону сказаўшы:

«...Дайце мне надумацца толькі...

...Калі быў тут прышодшы атрад нямецкі, то мы былі забраны ў дзярэўню Мамолю. З атрадам. І раніцай, у гэтат жа дзень, як палілі нас, прышлі мы ў Лапаткі, а там смотрым — Заўсвецце гарыць. Мы не астанавіліся, прышлі ў сваю вёску. Сюды, у Баканіху.

Як толькі прышоў я ў кварціру — сабраліся жэншчыны, пытаюцца, дзе мы былі? І пасматру я — во паліцэйскі пабег цераз мой двор. І шаравары абматваець вакруг спіны: мае шаравары былі выбрашаны ў сад. А ён ужо забраў сабе.

І тады сейчас жа каманда нам паступіла, усёй дзярэўні, сабрацца ў адну кварціру. І сабралі нас, шэсцьдзесят чатыры чалавекі, туды, дзе цяпер памятнік стаіць. Адзін паліцэйскі бег і камандаваў, штоб ішлі ўсе туды. Не на сабранне якое, а так папросту гаварыў: «Ідзіце ў тую хату».

Нас ужо туды пагналі, а тут падвод-



І больш за ўсю вахту Старкоў нічога не сказаў, толькі паспяваў закладваць формы, адкочваць напоўненыя клеці ў маразільныя камеры. Ішла рыба...

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

У сталоўцы панавала нязвыклая цішыня. Хлопцы, нізка нахіліўшыся над талеркамі, сёрбалі капусту. Яны выглядалі соннымі, знясіленымі, абыякавымі да ўсяго. Здавалася, кожны быў вельмі рады, што можна маўчаць. Між сталоў бясшумна сноўдала Лена, адносіла і прыносіла талеркі. Ніхто ёй не дзякаваў, ніхто не перакінуўся жартам. Ужо некалькі тыдняў запар пражэрлівы трал падымаў і падымаў на палубу рыбу. Вахты беглі, як у калейдаскопе: не паспееш бухнуцца ў ложак, як зноў трэба падымацца на работу.

На фабрыцы працавалі ўсе: і матросы, вольныя ад сваёй хадавой вахты, і афіцыянткі, і штурманы на чале з Пятровічам, і нават сам капітан-дырэктар. Пуціна зрабіла ўсіх роўнымі, прымусіла і начальства на нейкі час стаць матросамі.

Памалу запаўняліся вялізныя трумы. Фролыч хоць зрэдку і пакрыкваў на матросаў, не мог схаваць задаволенай усмешкі: так добра рыба яшчэ не лавілася. Матросы, як заўсёды, хвалілі капітана і новы трал. Але кожны баяўся, што калі-небудзь трал вернецца на палубу

пусты. Тады судна пачне лётаць з квадрата ў квадрат, шукаць, дзе болей, а рыба, як знарок, будзе трапляць у трал па паўтоны.

Цяпер «Бусоль» штодзень перавыконвала рэйсавы план. Анісімаў ад радасці прапанаваў выклікаць на спаборніцтва экіпаж «Каметы», але хлопцы, баючыся сурочыць, так зацыкалі, што першы памочнік толькі развёў рукамі.

Стомленасць, якая накоплівалася патроху, паступова авалодала матросамі. У руках адчувалася нейкая маруднасць.

Цяжэй было навічкам. Яны, нібы лунацікі, сноўдалі па судне, не маглі спаць, у іх балелі рукі, пакolатыя атрутнымі іголкамі акуня. Амаль пасля кожнай вахты яны беглі да суднавой дакторкі, немаладой жанчыны, якая змазвала далоні зялёнкай, бінтавала.

А Алег Саўцыла трымаўся малайцом. Ён не скардзіўся, не бегаў да дакторкі. Толькі зрэдку дазваляў Лене, якая прыходзіла ў каюту, змазваць яму рукі адэкалонам. Тады ён крывіўся ад болю, на вачах выступалі слёзы, але трываў. Толькі калі падаў, як ссечанае дрэва, на ложак, пачынаў глуха стагнаць, клікаць нейкую Наташу.

Антон па сабе ведаў, як цяжка ў першым рэйсе, калі рукі яшчэ не загрубелі і кожны рыбіны ўкол аддаецца пякучым болем.

За час пуціны жыццё на судне перамянілася. Юрку Старкову не хапала часу адказваць на жончыны радыёграмы, а Каця, не атрымаўшы адказу, таксама прымоўкла. Пятровіч змарнеў яшчэ больш. Толькі задзірыста тырчэў на худым твары яго востры нос. Хадзіў перабінтаваны Фролыч. Ён ударыўся галавой аб магістральную трубу. Пятро Базан успомніў, што забыўся аформіць жонцы даручэнне, каб яна атрымала грошы за шосты месяц, і вельмі пакутаваў. Хлопцы яго

чыкі, паліцэйскія — выганяюць наш скот. Угналі за дзярэўню.

Калі мы сабраліся ў адну кварціру, увайшоў нямецкі афіцэр і стаў абглядаць, у каго што адзета. Еслі харошы тулуп іліі валёнкі, заставулялі раздзяваць і выбрасываць на волю, а там падбіралі падводчыкі. Тагда афіцэр гэты ўзяў і папрашчаўся з намі. Гаворыць:

— Да свідання. Давайце спасіба сваім гэтым партызанам.

А для чаго ён так сказаў, я не паняў.

Как толькі ён так сказаў, так кварціру закрылі і ў два акны бросілі к нам гранаты. Гранаты гэтыя сіпелі доўга. Еслі б такі быў *адчайны* — іх можна было б назад выбрасіць. Ну, нічога. Узарваліся гранаты — многа пабіла там людзей, але адхінуліся ўсе ў адну сторану. Тады з аўтамата па гэтай па кучы. Кагда з аўтаматаў бросілі страляць, тады яшчэ многа было жывых. Выбілі людзі адно акно і началі прыгаць з акна. Паліцэйскія стралялі, хто выскачыць з акна. Стаялі кругом кварціры.

Яны падпалілі. Паталок абсыпаўся. Віжу, што мне некуда... З суседам мы працію гэтага акна пад канапку схаваліся. Ага. Ужо яны нас не відзелі. Тады сусед гаворыць, Фёдар Лук'янавіч:



Архіп Ціханавіч Жыгачоў.



суцяшалі. Гаварылі, што тых грошай, якія ёй выплацяць за пяць месяцаў, хопіць з'ездзіць на курорт і падчапіць прыгожага хлопца, не такога кірпатага карча, як Пятро.

Урэшце-рэшт, калі прыгледзецца, дык усё ішло так, як і павінна ісці ў рэйсе. Нават у тым, што Антон так і не знайшоў часу схадзіць да капітана, адчувалася заканамернасць.

Патрэбная была і гэтая цішыня ў сталоўцы, калі кожны заставаўся сам-насам са сваімі думкамі. Хлопцы нават абурыліся, калі Лена, якая доўга не магла трымаць свой востры язык за зубамі, аднойчы сказала ўсім у вочы:

— Макрахвосцікі, вы што, нябожчыка сабраліся хаваць? Дык я ў пахавальнае бюро не наймалася...

— Сціхні ты, божы адуванчык,— адмахнуўся ад яе Пятро.— Папрацуй, як мы,— паглядзім, ці захочацца табе скакаць...

Ды яе не так проста было спыніць. Яна кінулася да дынаміка, што вісеў ля ўваходу ў сталоўку, крутнула ручку. Загучэла вясёлая мелодыя, і на камбузе жанчыны перасталі грукатаць посудам. Музыка нечакана разварушыла матросаў, яны пажвавелі, а на стомленых тварах паявіліся ўсмешкі.

Тады Лена адкінула галаву назад, задзірыста тупнула нагой:

— Ка-а-а-марынская!..

Пляскаючы ў далоні ў такт музыцы, яна прайшлася ўздоўж сталоў, за якімі сядзелі матросы, схілілася над Алегам, нешта яму шапнула. Алег адмоўна пакруціў галавою, пачырванеў, а Лена вылецела на сярэдзіну.

Павеяла чымсьці блізкім, родным, да болю знаёмым, нібы дзяў-

— Пасматру ў акно, можат яны адышодшы.

Толькі прыпадняўся, а яму какраз пуляй сюды, у лоб — ён назад і зваліўся.

А я ляжу. Паталок ужо стаў абсыпацца. Тады я ўжо віжу, што мне дальша некуда ляжаць — упёрся ў прасценкі, у акно прыгаць, і прасценкі пасыпаліся. Тагды я ў снег — снег быў глыбокі каля кварціры. І сразу ў мяне з рук кожа далой. Тагда я нямножка адпоўз і ляжу. А ў мяне ўсё фуфайка са срадзіны гарыць і гарыць. Я снегам затру. Немцы хадзілі. Када зацёр — уціх. І яны ўжо адышлі ўсе.

Адзін мой таварыш ляжаў. Ахрэм быў Бурнасенка. І яго пуляй стрэлілі. І мелка хваціілі вот тут па рабру — не ўрэдна дужа. Ён адышоўся к забору, лёг і ляжыць. І вот немцы як прахадзілі з ацаплення дарогай, увідзелі, што ён шавеліцца — прыйшоў адзін немец і яму ва ўпор вінтоўкай сюды ўдарыў. Пуля прайшла вось так вось. Я падышоў к яму,— после ужо, як адышлі ўсе,— дык ён мне гаворыць:

— Чаго ты тут ходзіш, яшчэ ўвідзяць.

Ён яшчэ жывы быў. Толькі кроў тут была, ага.

Праўда, Пашкоў быў вучыцель здзесь, адступіўшы так нямнога, прапоўзшы,— астаўся цэлы.

Тады мы з Пашковым пайшлі ў сарай здзесь начаваць. А яго, Ахрэма, так і аставілі. А ён тады падняўся і,— авін быў такі, што хлеб сушылі,— у гэтую печку забраўся і трое сутак ляжаў. А мы з Пашковым пайшлі ў Перавоз... У Заўшчу тоесць. У Заўшчы там у Пашкова сястра заставалася, забрала яго ў Перавоз. А я ў старухі жыў трое сутак.

Ну, а старуха гаворыць:

— Как хочаш — ілі ты ідзі з кварціры, ілі мы пайдзём, а то немцаў баюся.

Я і пайшоў адтудава. На азяро выйшаў, глазы запухшы ўсе, не віжу нічога. Вот так веечкі падыму, пасматру — не ў той бок іду. Ліцо ж усё абгарэўшы было, і галава была абгарэўшы. І вярнуўся ўсётакі сюды, дабраўся да сваёй дзярэўні.

Ужо некаторыя з адступлення прышлі. Ужо там рабяцішкі. Адзін такі, Пётра Мядзведзяў. Мяне яны к сабе ўзялі. І тут мы астанавіліся. Тады дачка прышла. Тады адна кварціра з усяго пасёлка засталася не згарэўшы. Мы тады сабраліся ў тую кварціру. Тады мяне сястра ўзяла на ізлячэнне, я ў сястры быў месяц. Больш. Яна мяне там посным маслам лячыла, трапкамі ўвёртвала. І так я згаіў скора...

**Пытанне:** — А вас з вашай хаты забралі аднаго?

чына рассыпала жменю сонечных промняў. І ўраз знікла стомленасць. Хлопцы таксама пачалі пляскаць у далоні.

— Давай, Ленка, давай!..

— Шпар, каб аж буржуям стала млосна!..

Антон раней ніколі не лічыў яе прыгожай, а цяпер яе нібы падмянілі. Гэта была іншая, зусім незнаёмая дзяўчына, загадкавая і недаступная.

Калі музыка скончылася, Лена стомлена апусцілася ў крэсла побач з Пятром.

Той наліў у чыстую конаўку кампоту, вінавата ўсміхаючыся, падаў Лене.

— Выпі, балярына, і прабач расейскаму матросу...

У каюту Алег з Антонам прыйшлі разам. Ім здавалася, што як толькі крануцца падушкі, адразу заснуць. Але Антон раптам адчуў, што спаць не можа. Нешта ціснула ля сэрца, балюча калола ў скроні. Судна трохі пагойдвала, і Антону ў цемры здавалася, што ён узбіраецца па пакатай сопцы, а з-пад ног сыплецца ўніз каменне, але спыніцца ці перадыхнуць нельга, бо тады паляціш у бездань...

На ложку неспакойна заварушыўся і Алег.

— Ты чаго? — спытаўся Антон.

Алег трохі памаўчаў, цяжка пасопваючы.

— Думаю... Балазе часу хапае. Усё проста: вахта, потым сталоўка, каюта і зноў вахта. Як у кіно: ці то яна ў яго закахаецца, ці то не... Па-іншаму не бывае, а можа, проста ў рэжысёра не хапае фантазіі. Ды і адкуль яму ўсё ведаць? Сядзіць дзесьці ў пакоі і з пальца

— Усю сям'ю. У мяне была жынка, і дочке чатырнаццаць лет, і яшчэ мальчышка Коля быў, паўтары годы. І гэтых яны там уністожылі ўсех. А сын вот этат, і дачка яшчэ была. Сын у партызанах быў, а дачка з партызанамі адступала, цераз дня чатыры вярнулася ўжо.

Цяпер мы тут жывём адны. Вот наша хата. Прошлы год віцебскія прыязджалі карэспандэнты, каторыя фатаграфіравалі тут. І яны сказалі, што ў іх няпоўна вышла, што будта бы я адзін тут жыву. Мяне ўсё аднаго, усё аднаго фатаграфіравалі. Без сям'і. А прошлы год то мяне ўжэ звязлі ў саўхоз туды, дзе закладваюць сянаж, фатаграфіравалі, касу мне далі, касіў ужо я з гэтым, з шафёрам...

**Пытанне:** — Вам і не хочацца адгэтуль ехаць?

— Не. Здзесь радзіўся, так і думаю ўжэ здзесь дажыць...»

Сіла жыцця. Цяга роднай мясціны. Калі хочаце, нават і сцвярджэнне перамогі. Я тут быў, я тут ёсць, я тут буду, дакуль я хачу.

Перад вайной Архіп Ціханавіч працаваў у калгасе конюхам, брыгадзірам, пасля вайны хадзіў лесніком. Цяпер ён на пенсіі, а ўсё яшчэ варушыцца. Трэба і ў гаспадарцы памагчы, і ўнука даглядаць. Трэба і людзям расказаць пра тое, што было,— няхай ведаюць, хто не ведае, што такое фашысты. Да яго ўжо сюды прыязджалі не раз, бралі яго і ў Віцебск на верталёце, і ўжо адтуль, як кажа дзед, яго «ўся вобласць слухала па радыё». Згодзен ён нават, як быццам, і з тымі стараннымі журналістамі, якія палічылі, што дзеда трэба завесці яшчэ і за возера, у саўгас, дзе якраз закладалі сянаж, і даць яму ў абгарэлыя рукі касу. Што ж, няхай людзі, калі гэта трэба, паглядзяць на яго яшчэ і па тэлевізары. Што жывы ён, Архіп Жыгачоў, што ён на родны свет глядзіць і часцей усміхаецца, чым сумуе. А тут во гэтыя кажуць яшчэ, што і ў кнізе ён будзе. Калі трэба, дык трэба. У гэтым і адчуванне абавязку, і гонару крышку таксама.

Пасля гутаркі, пасля гасціннай перакускі мы ўсёй кампаніяй адпачывалі перад нялёгкай дарогай назад у Расоны,— сядзелі на лаўцы перад хатай. Архіп Ціханавіч курыў, папыхваў люлечкай. Што ж, яшчэ адзін здымак прыдасца. Дзед не пазіраваў, калі яго здымалі,— сядзеў сабе, курыў сабе, як і курыў, аднак не вытрываў, сказаў, як быццам не пра самога сябе:



сюжэты высмоктвае... Яго б да нас на судна. Спачатку трал падняў бы, а потым яшчэ і на фабрыку спусціўся б рыбу пашкерыць, пакалоў бы пальцы, паляжаў на ложку, нібы нябожчык, каб ні нагі ні рукі падняць не мог. Тады, мабыць, зразумеў бы многае ў жыцці...

— А ты што, ужо многае зразумеў? Ды і пры чым тут рэжысёр? У кожнага чалавека свая прафесія. Адзін робіць справу горш, другі лепш. У гэтым уся розніца...— сказаў Антон.

Алег звесіў уніз галаву.

— А ў мяне хіба не было спецыяльнасці? Была, і яшчэ якая!.. Выступіш — трыццаць рублёў у кішэнь. Бывала і больш... Гастрольныя паездкі, сустрэчы, новыя мясціны, грошы. Дзяўчаты глядзяць на цябе, як на снежнага чалавека. І ніякіх клопатаў — лёгка, проста... Вось і закахаўся ў спявачку з нашага аркестра. Наташай звалі. Прыгожая да ачмурэння. Валасы да пояса, вочы блакітныя, з нейкай таямнічай смугой. Чорт, не магу перадаць словамі... Адным словам, прыгажуня, мара! Ну і закахаўся, як хлапчук. Убачу яе — дрыжыкі б'юць... Вачэй не спускаю. Заўважыла яна, што бегаю за ёй, нібы цуцык...— Алег на хвіліну змоўк.— Так, так. Чаго саромецца? Так яно і было... Як гэта ні агідна... Пачала здзекавацца. Хто я для яе? Гітарыст! Не чалавек, а гітарыст. Зразумеў? А чалавек яе не цікавіў. Яно і зразумела. Яе акадэмікі на машынах пасля канцэрта чакалі. Ну, вядома, я душуся ад рэўнасці. Неяк спрабаваў пагаварыць з ёй, а яна смяецца. Адчуваю, што нараблю глупства... Ды на шчасце, а можа, на бяду сустрэў свайго аднакласніка. Сам не ведаю, чаму, але расказаў яму ўсё. Нічога не ўтаіў. Той і кажа мне: «Давай на флот, вылечышся...» Заселі гэтыя словы, нібы стрэмка якая... Напісаў

— Гэтая люлька пабывала ўжо на многіх здымках.

Сіла жыцця. Аптымізм. Хоць стары, чаго добрага, слова такога і не асвоіў. Жыве чалавек. У цэлым, як гаворыцца, зусім нядрэнна. Хоць і не так часамі гладка, як па тэлевізары... Жонка, Таццяна Іванаўна,— дабрадушная, людская руская жанчына, таксама асіpацелая ды аўдавелая ў вайну, гаворыць хораша па-беларуску. Сын дзедаў, ад першай жонкі, што быў у партызанах, і нявестка. І гора ў дружнай сям'і, без якога жылося б і зусім добра. Гора такое, што ў ім ужо няма чыёй-небудзь віны. Адзіны сын у маладых, адзіны ўнук у хаце, падлетак Васіль — цяжка хворы. Нібы гэтага дзеду яшчэ не хапала пасля ўсяго перажытага... А чаму толькі дзеду? Гора ўсім, але стары з гэтым хлопцам яшчэ і дагэтуль за няньку. Бо з хаты ўсе, нават і баба, на шмат маладзейшая за дзеда, ідуць на саўгасную работу, а дзед — з Васілём...

Аднак і гэтае гора не ломіць старога. Ён кратаецца, ён жыве. У працы, якая па сіле, у родным свеце.

## ЗВЕР ПАЛЮЕ НА ЧАЛАВЕКА

Чалавека гоняць, выжываюць з вёскі, з горада — у лес. Потым ідуць на паляванне. На жанчын, на дзяцей палююць.

Звяры ідуць аблавай на людзей.

**Расказвае Ганна Паўлаўна Бурак. У вёсцы Лісна Верхнядзвінскага раёна:**

«...У лесе мы там з нядзелю прасядзелі. Муж гаворыць:

— Паедзем мы бліжэй к дому. Там адзін сусед, гаворыць, пераехаўшы, дык яны ў дзярэўню ходзяць, картошкі прыносяць.

Ну што я, я ж адна не ўпруся, што я зраблю адна з дваімі дзецямі? Ну вот, прыехалі, налажылі воз сена, павёз ён, і дачка паехала з ім.

— Я,— гаворыць,— пайду дамой, можа прынясу картошкі.

Ну вот яны паехалі, а я асталася так з дзецьмі сваімі. Прыехаў, апошні воз сена налажылі. Ён на мяне гаворыць:

— Няхай рабяты едуць са мной, а то паследняе будзем забіраць, дык не будзе як ім сесці...

Там і дзежкі былі з жырамі, там усё было. І недзе будзе сесць. А па азяру

заяву, развітаўся з хлопцамі і паехаў да вас... І вось цяпер бачу, што дурнем быў...

Алег на хвіліну заціх. Здавалася, што гэтая споведзь адняла ў яго апошнія сілы, і ён заснуў.

— А ты думаеш, чаму дурнем? — нечакана зноў загаварыў Алег.— Мабыць, вырашыў, што рыбацкая справа не па мне? Спалохаўся, музыкант? Не, Антон, сто разоў не... Хлусіць не стану, цяжка. Сам бачыў, як я нібы мёртвы на ложак пасля вахты падаў, а заснуць усё роўна не мог. Ляжу і чую Наташын голас. Хоць ты вушы затыкай. Здаецца, што прытаілася яна ў цемры, спявае і ціхенька пасмейваецца... Ды ты і сам неаднойчы чуў Наташу...— Алег назваў прозвішча папулярнай спявачкі. Антон адразу ўспомніў, што ў радыстаў ёсць яе пласцінка.— Дык вось... Усё думаў, ну чаму яна нада мной здзекавалася, усё пра незвычайных людзей гаварыла? Што значыла для яе «незвычайны чалавек», цяпер, здаецца, зразумеў. Гэта доктар навук у дваццаць восем гадоў, канструктар касмічных караблёў у трыццаць, заслужаны майстар спорту ў васемнаццаць... Але ж самі людзі яе ніколі не хвалявалі. Яна захаплялася іх славаю, талентам, здольнасцямі... Марыла дакрануцца да гэтага «незвычайнага», каб сяброўкі з зайздрасцю глядзелі ўслед машыне, за рулём якой сядзеў вядомы на ўсю краіну чалавек. Дзеля гэтага яна магла паступіцца сваім гонарам...

Алег нечакана саскочыў з ложка, у паветры мільгалі ягоныя белыя лыткі. Падбег да стала, пстрыкнуў запальнічкай, закурыў.

— Можа хочаш? — спытаўся ён.

— Не,— адказаў Антон,— лепей падымі накрыўку ілюмінатара.

ісці — ужо быў насліг на азярэ, вада бальшая.

— Ногі,— гаворыць,— змочаць, а дзе яны тады будуць сушыць, недзе будзе сушыць.

Ну, а я думаю: няўжо ж ён ужо горш хочаць. Я ўзяла гэтых рабят, усадзіла яму на сена, яны і паехалі. Ён гаворыць:

— Прыедзем, згрузім, а тады або я, або Клаўдзя да цябе прыедзем.

Ну, вот яны і паехалі, а я асталася. Жджу-жджу-жджу — іх нетуці. І сонца зашло — усё іх нет, і цёмна стала — усё іх нет. Я ўжо ў паніке, плачу. Што ўжо, значыць, даўно нетуці, што ўжо іх нет. Пайшла к суседу, стала расказваць. Яны гавораць:

— Ясна, што іх нет, ужо іх немцы ўлавілі, там бы яны не сядзелі.

Ну і вот раніцай, чуць свет, прыбягае гэты мой большы хлопец ка мне. І гаворыць:

— Мамка, нас немцы ўлавілі. І дзедушку ўлавілі, гаворыць, і Віцю, і там, гаворыць, Кузьму з рабятамі ўлавілі, старуху адну... А я гэта прышоў, бо найшлі дзвюх кароў і загадалі адну карову мне вясці, а другую — другой дзевачцы. Ну, я, гаворыць ён, думаю: «Павяду гэтую карову да балота, а тады, гаворыць, за сані прывяжу, а сам — у лес». Едзем ціхонечка, прывязаў за сані, а немец на-



Ганна Бурак.



Алег падцягнуўся да ілюмінатара. У каюце адразу пасвятлела, быццам загойдалася шызая смуга.

— Гэта, мабыць, цемра расчульвае чалавека. Вось і цягне на шчырасць,— ціха сказаў Алег.— А цяпер і расхацелася гаварыць...

— Тады спі,— параіў Антон.

— Дрэнна ты мяне ведаеш. Я калі ўжо нешта пачаў, абавязкова павінен закончыць. Хоць часам ад гэтага мне бывае і горш. Вось як з першым памочнікам. Мог бы і прамаўчаць... А то ён перш заказаўся ў мяне на ўвесь рэйс...

— Мой характар таксама не салодкі,— сказаў Антон.— Многім не падабаецца...

— Ведаю,— усміхнуўся ў цемры Алег.— Затое з матросамі добра жывеш, ды і з начальствам не сварышся. Так, абараняеш свае прынцыпы... Што тут дрэннага? Наадварот. Мабыць, табе я ўсё і расказваю, бо бачу, што ў цябе галава на плячах свая...

— Ну, дзякую,— Антон быў здзіўлены.

— Няма чаго дзякаваць. На многае мне мора раскрыла вочы. Вось вы пасмейваецеся з Лены. І ніхто не хоча бачыць, шанаваць у ёй дзяўчыну. А Лена шчырая, добрая, клапатлівая. Ёй многа не трэба ад людзей — толькі добрае слова, пяшчотны погляд... Ёй кветкі трэба дарыць за тое, што яна любіць усіх нас, загрубелых і няўважлівых...

Антон падумаў, што хлопцы сапраўды скептычна ставіліся да Лены. Яна была для іх толькі членам экіпажа, які робіць пэўную работу, а не дзяўчына з чулаю душою.

— Мне неяк прысніўся дзіўны сон,— працягваў Алег.— Нібы мы з Наташай купаемся ў рацэ. Я выйшаў з вады на бераг і клічу яе.

зад не глядзіць. Прывязаў гэтую карову і — ходу, у кусты, і пабег. І гэтая дзевачка так сваю карову кінула і пабегла за мною. Падбег, гаворыць, пад дзерава і паваліўся, і лёг...

Ацец мой быў глухі, а меншы хлопчык гаворыць на яго:

— Дзедушка, а нашага Шуры ўжо нетуці.

І плачаць. А немец гаворыць:

— Не плач, гаворыць, мальчык, заўтра будзе і Шура ўмесце, і мамка будзець, усе будзеце ўмесце...

Ну і вот, гаворыць, ён вочарадзь з аўтамата пусціў, гэты немец, якраз у тую сторану, дзе мы ляжалі, у тое дзерава. Еслі б, гаворыць, на адну чвэрць ніжэй, ён бы, гаворыць, мяне ўбіў бы. Дзве пулі папалі ў тую сосну.

Ну, і тады яны ўжо пастралялі і паехалі, а ён знаў, што там на адным астраве два мужчыны капалі зямлянку сабе, вот ён і пабег туды: можа, іх там найду. Прыбягаець туды, а яны, гаворыць, коні выпрагшы, пакурваюць у праспакойнасці. А я як закрычаў на іх:

— А дзядзячкі, скарэй будзем уцякаць! Ужо немцы, гаворыць, улавілі і павялі і дзедушку, і Кузьму, і рабят!..

А яны скоранька запраглі, адзін, гаворыць, дзядзька ўзяў мяне да сябе на сані, у ногі ўшчаміў і, як маглі толькі гэтыя коні бегчы, так яны іх гналі. Выскачылі на азяро, ужо ў палавіну азяра, і немцы з гэтымі ўжо людзьмі на азяро выехалі і пачалі з кулямёта па іх страляць. Але яны ўжо іх не даставалі, толькі гэтымі асколкамі, лёдам абсыпалі іх. Тады яны выехалі к берагу, паставілі аўтамат... не, кулямёт, і сталі па іх страляць. Але ўжо іх не даставалі, яны ўжо далёка былі. Ну і вот, яны ўжо тады паехалі к нам, і так ён вот ужо ка мне прышоў і расказаў, што так случылася.

Тады я на суседзяў гавару:

— Ну, раз іх ужо сягоння ўлавілі, то заўтра нас уловяць. Яны сюды прыдуць. Яны ўсё роўна ім скажуць, гэтыя старыя.

Ну, і так палучылася. На зорачку яны прышлі к нам, гэтыя немцы.

Нас многа там сабралася. Ну, і вот не маглі ніяк вапрос рашыць. Адзін гаворыць:

— Паедзем за азяро, за Ліснянскае.

А другі гаворыць:

— Не!..

**Пытанне:** — Гэта вы так гаворыце?

— Суседзі. Там жа многа было, можа сотні дзве. Ну, і тады ўжо яны так давалтузіліся, і ўжо соцна стала ўсходзіць,

А Наташа доўга не выходзіць. Гляджу — а яе нідзе няма. Кінуўся да кустоў, што раслі паўз бераг. Бачу, стаіць мая Наташа па грудзі ў вадзе і плача. Але божа ты мой, што гэта за дзяўчына!.. Валасы зліпліся, з твару пазмывала ўвесь грым, калоціцца, румзае, як маленькая дзяўчынка. Думаю: дык вось якая на самай справе мая каханая! Не вытрымаў, таксама заплакаў... Ты ніколі не чуў, як я плакаў у сне?

— Не,— адказаў Антон,— ты толькі стагнаў...

Алег абхапіў галаву рукамі.

— Усё,— нарэшце сказаў Алег,— больш гэтага не будзе. Кропка.— Ён прыцмокнуў языком.— Трэба хоць трошкі паспаць. Нампаліт за мяне на вахту не пойдзе...

З калідора данеслася жорсткае і звыклае:

— В-а-а-хце ўст-а-а-ваць!..

Алег адразу падхапіўся.

— Ну вось, нам на працу... Даеш за змену пяць тон чырвонага акуня!.. Карысны занятак...

Яны апрануліся і пайшлі на фабрыку. Вахта аказалася цяжкай. Акунь ішоў упярамешку з траской, і трэба было выбіраць рыбу паасобку. Хлопцы шкерылі рыбу хутка, яна набівалася з транспарцёра ў мыйку, запаўняла да краёў латок, і Антон ледзь паспяваў. Формы мільгалі ў руках, ён кідаў іх на вагі, нават не гледзячы, колькі рыбы, бо рукі ўжо настолькі звыкліся адчуваць вагу, што глядзець на формы не было сэнсу. Калі трошкі і не хапала або было лішняе, дапамагаў Юрка. Ён праз кожную гадзіну закочваў у маразільныя камеры па дзве клеці.

ужо на азяро не выдзеш; відно, немцы ўсё роўна заб'юць. І тут чуем з-за гары шорах нейкі. Шэрань бальшая была і шорах бальшы. А людзей многа, не дабіцца толку ніяк. Крычаць:

— Сціхніце! Сціхніце!

Вот. Тады нескалькі хлопчыкаў пабегла на гару, і я ў тым чысле пабегла на гару, і мой хлопчык гэты большы пабег са мною. Ну, чалавек нас з дзесяць пабегла. Толькі мы на гару ўзбеглі — і тут пад намі такі густы-густы соснік. І тут немцы. Ідуць з-пад гары. Мы тады закрычалі і рукамі замахалі на гэтых, што ўжо немцы. І яны як стаялі пад гарой, так і пусціліся ўдоль балота. А мы па гары пабеглі. І вот мы па гары беглі, а ўжо немцы — іх штукі тры бегла за намі — па-руску ўжо крычалі, па матушке на нас, і стралялі, а мы ўсё беглі. На мне быў палушубак надзеты, я расшпілілася, і полы гэтыя махаліся, і куля папала мне ў палу, разрыўная. Тут вырвала клок. Я тады палушубак здзела і кінула. Усё роўна я з ім нікуды не збягу. І ў каго былі якія там хатомкі за плячамі з сухарамі — усё пакідалі, і пабеглі так, як стаём. Прыбеглі к аднаму азяру і гаворым:

— Ці па балоту аббягаць, ці цераз азяро?

А я гавару:

— Не, пабягом лепш прама цераз азяро. Пака будзем путацца — тут яны нас і насцігнуць.

**Пытанне:** — А як называлася возера?

— Карáсіна. Вот. Так перабеглі ўжо мы гэтае азяро. Я первая пабегла, і за мною ўсе пабеглі. Вышлі на пpаталак. Гэта дзела было перад пасхай, пpаталкі былі. Стаём. Абціраемся, што з нас пот ліецъ з усіх. І ўдруг нам наперад едуць немцы, на пары канях. А куды нам дзецца? Уперад ісці — тут лес рэдкі зусім, яны нас тут уб'юць. Назад ісці — там страляюць і людзі крычаць, палюць, дым стоўбам ідзе. Прама страх невазможны! Куды дзецца? І раптам глядзём — ляжыць ад нас так вот ёлка лахматая, заваленая ў балота. Я гавару на аднаго мальца:

— Давай пад гэтую макаўку ляжам, ты з аднаго боку, а я з другога.

А гэтыя ўжо мальчышкі, каторыя былі... Во такі ельнічак быў, дык яны яго паднялі і пад ніз палезлі, і там сядзелі. А мы з тым мальцам пад макаўкай: ён з аднаго боку лёг, а я з другога. Адна толькі кофта была астаўшыся ў мяне, прытом красная, і платок на галаве цёплы быў. Я зняла платок з галавы і накрыла вот так плечы, каб не відалася,





што красная. І рукі голыя, і галава голая, і каленкі голыя. Чулкі аб'ехалі, не было калі падцягнуць. І так у снег лягла, у гэтым снягу я ляжала... І цэлы дзень мы адляжалі. І вот яны, калі пад'ехалі да нас, гэтыя немцы,— сталі. Ну, мы гаворым, што цяпер тут будзе наша смерць... Злезлі з саней і началі глядзець, ці ёсць сляды. Харашо, што нікуды мы з гэтай пpаталкі не збяжалі. Паглядзелі, паглядзелі яны — нетуці нідзе слядоў абратна, пагáркалі па-свойму, выцягнулі папяросы, закурылі, запахла іхнімі гэтымі сігарэтамі, і селі на полі: ад нас можа метраў трыста ад'ехалі і здзелалі засаду. Коні выпраглі, агонь разлажылі, выстрал далі. А мы ляжом, ні з месца, нікуды не можна сыйсці. І яны нам відаць. Ну, і вот мы ляжалі цэлы дзень. Як не страляюць,— тады нам начынае мароз перабягаць па спіне, як толькі выстраляць — так сразу жарка, жарка стане, што кіпятком хто-небудзь абварыць. Ну, і вот так ляжалі поўны дзень, да самага сонца. Сонца зайшло. Тады яны коней запраглі, выстрал далі і падаліся. А мы тады ўжо паляжалі з поўчаса, усталі, і рукі — што граблі, і ногі ўжо проста дзвіжэння нетуці... У снягу адляжаць босымі-голымі нагамі...

Ну, і мы тады пайдзем ужо гэтых рабят сабіраць. Сталі гэтых рабят сабіраць, сталі крычаць на іх. Якія блізка былі, тыя папрыбягалі, а мой як збег — абратна назад, цераз азяро; прыбіўся да чужых людзей і ён ужо там быў. Я стала крычаць на ўсю галаву. На мяне крычаць:

— Не крычы, а то прыдуць немцы і ўсіх паб'юць!

А я гавару:

— Няхай ідуць — мне ўжо ўсё роўна жызнь неінцярэсна, я ўжо, гавару, адна асталася. Няхай, гавару, ідуць.

Ну, і яны не ўчулі, не прышлі к нам. А мы пойдзем ужо тады, абратна паглядзём, дзе яны ўжо гэта нас... Дзе кінулі мы сваіх коней, павозкі. Выходзім ужо тады на гару па сляду, след у след.

Да. Тады на гару ўзышлі, чуем — у балоце які-та шорах. Захрускала гэта сучча. Мы абратна паразбягаліся па лесу куды хто, слухаем. Чуем — гавораць парýску.

— Гэта,— гаворым,— нашы.

Тады абратна ў кучу сабраліся туды, у балота. Аж там з Вялікага Сяла тры чалавекі... Не, два. Адзін з нашай дзярэўні, а два з Вялікага Сяла, дзе каля Асвея, такі Сямён ёсць з сынам. Ну, тады мы прышлі к ім, пагаварылі, як хто адкуль ужо ішоў, а пра ежу ж — і толку нету. Двое сутак нічога ў роце не было. І ні ў кога нічога. Гэты ўжо чалавек гаворыць, Бельскі:

А рыба, здавалася, ніколі не скончыцца, як і вахта. У Антона балела спіна, у вачах скакалі чорныя іскрынкі і ўсё цела стала нібы чужое, непаслухмянае.

Антон нават і не заўважыў, як падышоў Фролыч.

— А ты баец,— сказаў Фролыч,— упраўляешся. На другой вахце дык па два чалавекі на расфасоўку ставім.

— Дзякую,— агрызнуўся Антон,— але мне ад гэтага не лягчэй...

— Добра, добра,— як спалохаўся тэхнолаг.— Гэта я так, каб ты ведаў. Калі патрэбна будзе падмога, не саромейся. Скажы рыбмайстру. Ён табе яшчэ аднаго чалавека падкіне...

— Абыдземся,— махнуў рукой Антон.— Хутка ўжо і падмена прыйдзе...

Ён зноў накінуўся на работу. Ужо не адчуваў уколаў, не адчуваў, як пячэ рукі. Час быццам спыніўся. З нейкай апантанасцю, але і з асалодай, што ловіцца рыба, Антон скоса паглядваў на мыйку, адкуль пад напорам выляталі ў латок безгаловыя доўгія рыбіны.

— Усё! — крыкнуў на вуха Юрка Старкоў.— Больш няма вольных клецяў... Адкрывай усе заслонкі на латку, хай напаўняецца... Мы працуем хутчэй, чым марозяць камеры...

На рэйках не засталося ніводнай клеці. Антон моўчкі адкрыў заслонку на латку, які цягнуўся ўсцяж фабрыкі. Пасунуў рыбу шуфлец у самы канец. Цяпер можна было разагнуцца.

— Колькі? — спытаўся ён у Юркі.

Той стомлена засмяяўся, зняў вялізныя брызентавыя пальчаткі. Ён не любіў працаваць у гумаваных.

— У мяне ёсць гароху прыгоршчаў двое.

Дык ён нам па жменьцы ўсім раздзяліў, той гарох, і вось мы той гарох з'елі і пайшлі туды, дзе мы ўжо кідалі сваё ўсё. Прыходзім туды — коні пабітыя, сані паламаныя, падушкі ўсе параспусканыя — белы-белы ўвесь чыста лес! У каго было сала ў дзежках — усё паадкрывана і гэтай патрутай перасыпана, і бумажкі гэтыя з мухамі нарысованыя на пакецiках, што яны ўжо перасыпаны... А людзі ўсе пабітыя, пасцягваныя ў груды, аблітыя бензінам і так гараць, што настаяшчыя дровы, аж прышчыць — як гарыць! Ну, і вот мы тады там пабылі...

**Пытанне:** — А людзі гэта з вашай вёскі?

— Адусюль былі, з усяго сельсавета былі з'ехаўшыся. Вот. І ўсе там пагіблі. Ну, вот, тады мы ўжо ідзём — пойдзем пад дом. Ідзем адзін за адным — гэта ў след, чалавек дзесяць, і слова ні адзін нікому не гаворыць. Нада астанавіцца — тады я за цябе вазьмуся, а ты за другога, за трэцяга — так усе і астанаўліваемся. Паслухаем — нідзе нічога не чуваць. Тады таўкнеш адзін аднаго па вочарадзі, так і пашлі. Такі наш страх быў, так мы не маглі гаварыць, што колькі людзей ляжыць і ўсе гараць...»

І гэта, т а к о е — не дні, не месяцы, а на працягу гадоў. І зімою і летам...

Ганна Паўлаўна Бурак працягвае сваё горкае апавяданне:

«Немцы адступалі, нашы наступалі. Гэта—ужо ў сорак чацвёртым было. Ну вот, нам дзецца недзе, і мы тады пабеглі ў азяро. Такое глыбокае, бузя́нае. Мы ўлезлі ў гэта азяро і за курганне гэтае, за папараць дзяржаліся, і ляжалі ў гэтым... Ну, па роўнае горла ў вадзе былі. І к нам як прывяжуцца жабы. Такія бальшыя, страшныя—не адбараніцца. Возьмеш у руку — я-ак бросіш яё ад сябе падальша. Мінут пяць нет, абратна прыпаўзаець к табе, «ква-ква» крычыць. Мы абратна яе адкінем. Вот так ляжалі да вечара, у гэтым азярэ. Тады ўжо ўчулі, што машыны ідуць і наша радыё гаворыць. Мы засмяяліся, рады сталі — нашы паехалі! Наша радыё гаворыць. Вылезлі з гэтага азяра і пашлі, пашлі ў дзярэўню Мала́шкава. Там не ўзнаць — быў пясок жоўты, а стаў чорны, ад гэтых, ад снарадаў. Ну, тады прышлі з Малашкава на Залугу. З гары мы ўжо наблюдалі, што ў Лісна робіцца. Тут бальшое дзвіжэніе па бальшаку ішло, а якое — мы не знаем. Ну, і каля бало-



— Ідзём на рэкорд,— адказаў ён.— Шостая тона. Калі будзем так і далей, праз тыдзень можна здаваць прадукцыю на базу...

— Перахрысціся! — ускрыкнуў Антон. Ён адчуваў, што толькі цяпер стаў астываць ад азарту.— Сам чуў, рыба — справа вадзяная: сёння ёсць, заўтра няма...

— Твая праўда,— згадзіўся Юрка.

Антон пайшоў за бункер. Абапёршыся спіной аб перагародку, глядзеў, як спрытна працуюць матросы-шкершчыкі. Яны стаялі шчыльна адзін ля другога, выхоплівалі з бункера яшчэ жывую рыбу. Адзін узмах нажа — і галава ляцела ўніз, у латок, а сама рыбіна, апісаўшы дугу, падала на транспарцёр.

Алег стаяў трэці ад краю. Працаваў спрытна, як стары матрос. Ён жвава выцягваў з латка рыбу, з нейкім шыкам умомант адразаў ёй галаву і кідаў на стужку транспарцёра. Але адчувалася, што Алег стаміўся. Па яго прыгожым твары каціліся буйныя кроплі поту.

— Перакуры,— прапанаваў Антон,— а я пакуль за цябе папрацую. У мяне вымушаны прагул. Усё з-за вас: усе клеці запоўнены...

Алег на секунду павярнуўся. У ягоных вачах бегалі нейкія чорцікі.

— Што, завалілі цябе? — засмяяўся ён. У гэтым смеху адчувалася нешта радаснае, хлапчукоўскае.— Ведай, як артысты працуюць!

— Давай пакажу, як могуць матросы,— Антон падхапіў Алегавы жартаўлівы тон.

Алег задраў галаву, паглядзеў на гадзіннік, што вісеў на перагародцы пад столлю.

та была рож пасеяна. Мужчыны гавораць: «Нада ісці паглядзець, чые сляды,— немецкія ці нашы?» Пайшлі, паглядзелі і гавораць: — «Гэта немцы».

Гэта ўжо нашы іх пагналі. І пайшлі мы, дагаварыліся, каб па адной каляі ісці, каб не папасці на міну. Нямнога адайшлі ад гэтай дзярэўні — ляжыць немец забіты.

— Ага! — гаворым,— папаўся хоць адзін!..

Стаём мы на гэтай на гарэ... Ой, спутала!.. Падыходзім мы гэта ўжо сюды, к Лісну, дзе піларама, там стаяла кухня нашых краснаармейцаў. Яны нас увідзелі — прыбеглі, нас абнімаюць, цалуюць, і мы іх цалуем, і плачам, рады, што ўжо сваіх увідзелі. А яны гавораць, што мы, гаворыць, ідзём ад самага Неўля і нідзе, гавораць, не відзім гражданскага чалавека, кроме ваенных. Гаворым, што мы тожа не з гэтай дзярэўні, мы дзесяць кілометраў адгэтуль. З гэтай дзярэўні яшчэ ніводнага чалавека не было — усе ў палоне, каторыя жывыя былі. Ну, і вот яны нас тут чаем напаілі, накармілі, па шынялю нам далі, па рубашке па вязанай нямецкай далі... Ну, іх там было набіта, гэтых немцаў, што страшна. Ішла «Кацюша», па іх як ударыла, дык яны без памяці ў азяро. І ў азярэ было многа, і па палянке было многа, дык жара была, лета. Мы іх тады пабіралі ўжо на месцы і закопвалі, каб ужо не было ніякага заражэння».

А жыхароў вёскі Гарадзец Быхаўскага раёна звяры лавілі з рознымі «паляўнічымі» хітрыкамі, жудаснымі і здзеклівымі. Пра тое і сёння можа вам расказаць Марыя Гаўрылаўна Кавалёва. Яна выратавалася. І яшчэ некалькі чалавек.

А чатырыста шэсцьдзесят жанчын, дзяцей звяры тады... упалявалі...

«..Ну вот, мы былі ў лесе. Як толькі немцы ў сяло, дык тагды — цёмная хмара — людзі у лес збягаць. Ну, тагды аднажды ўсе выбраліся туды. Тут Клённе спалілі, Студзёнку тут спалілі — ну ж, людзі баяцца. Ну, і пабеглі ўсе ў лес: і дзяцей, і курэй, і свіней, і ўсіх туды. І жывём там. А ў Гарадзец жа ходзім бульбы капаць. Што-небудзь, хлеба спеч, хаты ж сталі.. На жорнах дзе-та намелеш, і прыдзеш ноччу ў Гарадзец, спячэш і — ношку, назад у лес. Ну і так во... Тут аднаго залавілі: «Дзе людзі?» «Дзе ж людзі — у лесе». Ён прывёў туды. Ну, як прывёў, яны давай браць баб. Некаторыя паўцякалі, а некаторых пабралі — ну і ў Гарадзец. І Замошша, і Гуту, і Сялібу, і бежанцаў — бежанцы тут смаленскія і ўсякія... Ага, хазяін уцёк і я ўцякла. Ну,

— Перацярплю,— адгукнуўся ён.— Тым больш, прычына ёсць: Лена юшку варыць.

Антон не стаў замінаць.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

Шторм наляцеў неспадзявана. Здавалася, не было адкуль чакаць бяды: неба, звычайна хмарнае, у той дзень пафарбавалася ў блакітны колер, мора, маршчыністае, быццам заўсміхалася, разгладзілася. Нават Фролыч, які ведаў акіян як свае пяць пальцаў, не адчуў наблíжэння непагадзі. Дзень ішоў як звычайна: вахта змянялася вахтай, сняданак — абедам, а доўгі, здавалася, бяздонны трал цягаў і цягаў на борт «Бусолі» рыбу. Заставалася зусім мала, каб дабраць норму. Капітан «Бусолі» звязаўся па рацыі з капітанам плывучай базы, дамовіўся аб разгрузцы, матросы працавалі з ахвотай, бо ведалі, што наперадзе чакае хоць нейкі перапынак.

І тут наляцеў шторм.

Антон не бачыў, як расхадзілася мора. У гэты час быў на вахце. Толькі адчуў, як хваля глуха грукнула ў борт, палуба пад нагамі правалілася ўніз, захісталася ў шалёным танцы; ён спачатку падумаў, што судна мяняе курс, але праз некалькі хвілін зразумеў: разгуляліся хвалі. Яшчэ праз нейкія паўгадзіны «Бусоль» пачало кідаць, нібы трэску. Аднекуль паявіўся Фролыч.

уцякла, у балоце пасядзелі... І, словам, далі каня сястрэ маёй і — ідзі. Яна прывяла дзяцей у хату маю. Яшчэ адны там... І немцы кажуць:

— Едзьце, забірайце адзежу.

Усё ж там, адзежа ж там паасталась, толькі дзяцей забралі, кароў прыгналі ў Гарадзец. І яны, нашы, крычаць... Раева гэтая:

— Лёні-і-к, хадзі дамоў!

І я выходжу.

— Ну во, Манька,— кажа мая сястра,— паедзем дамоў, мы ў хаце ўжо, печ вытапілі, дзяцём бульбы напякла, дзяцей спаць паклала.

Ну, мы едзем, адзежу ўзгрузілі, едзем. Ага, холадна было: на Пакрава, восень. Ну, і мы едзем дамоў, сейчас як выязджаем — тут ужо людзі стаяць. Людзей вывелі ўжо. Тых, што запёрты былі: пабралі іх, прывезлі раньша, чым нас, тых людзей. Як толькі мы пад'ехалі, яны нашага каня забралі і сюды, на двор, к хазяіну. А нас у гэты табун. А мая сястра:

— Ай, пан, а кіндэры? Кіндэры, а божа ж мой, дзе мае кіндэры!

А яны ў хаце. Даводзіць яе да нас, к нашай хаце:

— Быстра, быстра!

Немец так. А жэншчына, што ездзіла па адзежу, ета крычыць... Тут яе матка. Чэцвера ці пяцера ў яе было дзяцей. Яна крычыць:

— Ма-а-ма, вядзі дзяцей!

Маці яе вывела дзяцей. Яна з хаты, а мая сястра ў хату, а сестрыны дзеці — на печы спяць. І ён прычыніў і павёў нас, і павёў нас.

**Пытанне:** — А сястра асталася ў хаце, з дзецьмі?

— Ага. І яшчэ некаторыя жэншчыны асталіся ў хаце. Ну, ладна. Прыгналі на канец сяла. Сюды во, як едзеш во з Быхава, дзе астаноўка там — сюды прыгналі. Сейчас прыгналі, ну, і тут паставілі. Паставілі, ну, і стой тут. Божа ж мой, дзеці крычаць. Ага. Яны пайшлі на другі бок вуліцы і сейчас — раз, выстрал! А гэтыя дзеці: «А-а-а-а!» — крычаць. Дык адна смаленская баба — чэцвера дзяцей — дык яна кажа:

— Дзетачкі, чаго вы крычыцё, памучуць трохі, пастрашуць і пусцяць.

Ну, тут і мы ўжо, мы тут ужо каніцелімся:

— А бабачкі, а любачкі, а што дзелаць, куды пагоняць!

— Нікуды не пагоняць,— заяўляе паліцэйскі,— паб'ём, папалім. Усё вам!

Ну, і тут во яны яшчэ раз выстралілі. Цераз выстрал гэтыя людзі сталі ўжо каніцеліцца, яны сейчас заварачваюць:



— Спыніць работу! — закрычэў ён.— Усё замацаваць па-штармавому!..

— Ты чаго крычыш, як недарэзаны? — абурыўся Юрка Старкоў. Ён не пераносіў панікі.— Самі бачылі, што трэба заканчваць... Лепей скажы — ты бліжэй да начальства — чым угнявілі акіян?

— А ліха яго ведае,— махнуў рукой Фролыч.— Тайфун нейкі. Ці то «Машка», ці то «Глашка»... Паспрабуй у іх разабрацца...

Хлопцаў заўсёды здзіўляла, што ўсе тайфуны носяць жаночыя імёны. «Маргарыта», «Дора», «Клаўдзія»... Колькі іх было за гэты час! У тым, што яны насілі жаночыя імёны, адчуваўся нейкі здзек, быццам сіноптыкі, якія сядзелі на беразе, знарок пасмейваліся з маракоў.

— Не пашанцавала,— уздыхнуў Фролыч.— Гэта ж трэба! Заўсёды, як мужчына заняты чым карысным, дык нейкая баба перашкодзіць...

Матросы-шкершчыкі, якія пакінулі ўжо свае рабочыя месцы і абступілі тэхнолага, засмяяліся. Па праўдзе кажучы, дык смяяцца не было з чаго. Судна моцна падкідвала на хвалях, гайдала з боку на бок, палуба быццам вырывалася з-пад ног, і хлопцы, шырока расставіўшы ногі, трымаліся адзін за другога, каб не паваліцца. Мора разгулялася не на жартачкі.

— Надоўга гэтая музыка? — спытаўся ў Фролыча Алег Саўцыла. Ён яшчэ не прывык да гайданкі, і ў яго пазеляне́ў твар.

— Пра гэта ведае толькі першы памочнік ды сам бог...

— Тады зразумела,— кісла ўсміхнуўся Алег.— Да першага памочніка мне яшчэ далей, чым да бога...

— Ком, рус, ком, ком у хату!

Хата тут.

— Ком, рус, ком, ком, ком! — гоняць нас у хату. Увагналі нас сюды ў хату ў гэту. Там, праўда, у гэтай хаце мосту не было: тады як бамбёжка была, дык вырывалі масты, гэту падлогу і ўсё гэта. Думалі: «Паедзем у лес і пасядзім, а вайна кончыцца, дык прыедзем, дык хоць зямлянку якую з тых дошак здзелаць».

Ну, і нас сюды. І вочарадзь — р-р-р-р! З пулямёта ў дзверы. Каго ўбілі, каго ранілі. Дзверку закалачваюць і запальваюць дом еты. Там адзін кажа:

— Цётка Манька, хадзі во тутка свіціцца.

Ямка такая — бульбу сыпалі:

— Свіціцца! Дай-ка мы будзем драць гэту зямлю.

А я ўжо ранена. Мне ўжо некуды. Уся во так у крыві. Босая. Пакроў жа, сняжок ужо, босая і ўся ўжо во так у крыві, голая ж! А божа ж мой! Давай мы так калупаць, давай. Ды ўжо прыцемкам, так во на змярканні.

— Лезь, чаго не лезеш!

Я палезла — вылезла. І ён за мной. Дык я ўжо як вылезла, папаўзла ў ямкі — там колесь кірпіч дзелалі. Дык я ямкамі і там на агарод, там двор — я туды. Божа ж мой,— сабака! Ну як сабака — я на агарод і попаўзкам, попаўзкам... Стажок стаяў — я пад гэты стажок рачочкам. І ўжо ў мяне ўсё, во тут вырвала кусок, і цяпер рана ёсць тая. Ну, і ляжу. Думаю... Толькі ляжу, чую — кулямёт коціцца: тр-тр-тр. І немцы. Думаю, ну ўсё. Адтуль вылезла... Тут ужо паміраць буду. Ну, чую крычыць Мархвачка тая, вечарам і крычыць:

— Лю-юодцы! Хадзіце дамоў-ў-ў, паны-ы-ы- завуць!..

**Пытанне:** — Гэта яны прымусілі крычаць?

— Прымусілі. Узялі і павялі. І загадалі: «Гукай усіх людзей».

І яна крычыць:

— Людцы! Хадзіце дамоў, паны завуць!..»

Чалавек, ратуючыся ад фашысцкага «новага парадку», абжывае лес. Робіць і абжывае норы, ратуючыся ад звера ў мундзіры.

Расказвае Аксеня Кузьмоўна Бароха, з вёскі Вялікае Сяло Верхнядзінскага раёна.

«...У лесе мы пастроілі зямлянкі. І жылі там да экспедыцыі.

Калі пачалася экспедыцыя зімой, то часць партызан прарвалася за фронт, і

Судна высока падкінула на хвалі, яно ўстала на карму, потым паляцела некуды ў бездань, і Фролыч, каб не паспелі падхапіць яго хлопцы, мог апынуцца ўнізе пад латком. Матросаў раскідала куды каго. Збоку гэта выглядала смешна: нібы хлопцы вучацца катацца на каньках, але не ўмеюць яшчэ трывала стаяць на нагах, і таму хапаюцца за ўсё, што трапіць пад руку, каб не паваліцца. З клеці вылецелі формы з рыбай, шалёна замітусіліся па палубе, з іх пасыпалася рыба. Яе пачало перакочваць ад перагародкі да перагародкі, рыба забівалася пад латок, пад дзверы маразільнай камеры, пад філейную машыну.

Юрка Старкоў кінуўся збіраць формы. Калі ён нахіліўся, яму было цяжка ўтрымацца на нагах, і ён два разы грукнуўся на палубу.

— Халера,— вылаяўся ён,— з такой работай і жонку больш не ўбачыш... Дзеці сіротамі застануцца...

Хлопцы, трымаючыся рукамі за перагародкі, за скрынкі з пажарнымі шлангамі, распаўзліся па фабрыцы. Быццам малых дзяцей, яны спавівалі вяроўкамі бочкі, прывязвалі іх да машын, да разборачнага стала, а то і проста да бункера. Усё некуды ляцела, імчалася, нібы ў рэчы ўсяліўся нячысты дух. Але ў гэтым вар'яцкім танцы адчувалася хоць нейкая арганізаванасць. Бочкі ляцелі менавіта туды, куды хацелі матросы. Адзін падштурхоўваў бочку, а другі, нібы вопытны брамнік, лавіў яе і прымацоўваў да якога крука ці трубы.

Алег дапамагаў Антону збіраць пад латком раскіданую рыбу. Гэта быў не самы прыемны занятак. Латок сядзеў над палубай зусім нізка і трэба было выбіраць з-пад яго рыбу толькі паўзком.

часць насялення з імі пайшла. Мы ж засталіся. Тры сям'і нас жылі ў балоце, пака экспедыцыя. Экспедыцыя радам ішла, але нам якраз удалося. Толькі мы зайшлі ў балота і прайшоў снег. Гэта якраз перад Новым годам было. У сорак трэцім, мабыць, зімой. Скот мы не бралі. Толькі нас было чатырох, маці і тры сястры. Там яшчэ дзве сям'і. Тры сям'і нас. Без ската вайшлі ў гэта балота. Снег прайшоў — сляды завеяла, і экспедыцыя радам ішла ноччу. Помню — новы год сустрачалі немцы, стралялі, салют давалі ў дванаццаць часоў. Новы год. І мы ўсё — і разгаворы слышалі, і выстралы, усё слышалі, але асталіся. Немцы не дагадаліся. А хто вёз на канях і скот з сабою, тых усіх экспедыцыя дагнала і расстраляла. Мы после вышлі, кагда ўсё ўціхла, прайшлі па лясу — жуткая была карціна. Мы прашлі да сваіх зямлянак,— ляжалі трупы, коні, каровы, парастрэльваныя — жуткая карціна была...

Другая экспедыцыя ішла летам. Гэта ўжо ў сорак чацвёртым. Летам ужо мы сядзелі ў тайніках. Прышоў з партызанскага атрада Арлоўскі, помню яго фамілію, выступіў перад насяленнем і расказаў, як строіць гэтыя тайнікі. Пастроілі мы тайнікі. Каждая сям'я строіла сабе тайнік. Што б можна было толькі сесці ўсёй сям'ёй. Зразалі дзірванкі акуратненька. Абчэрціш так вось квадрат. Дзірванкі клалі, пясок увесь выкапвалі, каб можна было сесці, яму такую выкапвалі. У карзіны пясок, аднасілі далёка і пад мох хавалі. Немцы ўжо ведалі пра такія тайнікі і калі ішла экспедыцыя — яны шукалі. Гэта ўсё мы шчацельна маскіравалі: пясок, патом накладалі досак тоўстых, каб не зыбаліся, і назад роўненька, дзірванок у дзірванок, складывалі. Усё як было — назад на гэтыя доскі. Патом па дзірванцах чашуёй засыпалі. Точна як наўкол лес расце. І устрайвалі, што б дыхаць можна было. Пад бальшое дзерава, окала бальшога дзерава выкапаць, а пад корні — каб прасвет быў, некалькі іх. Как сядзіш, што б воздух нямножка, дыхаць. Там жа доўга сядзець нельзя было, толькі той мамент, пака пройдзець экспедыцыя. Патом вылезеш з гэтага тайніка — чалавек жоўты-жоўты, вобшчам — галавакружэнне. У зямлі, поўнасцю ў зямлі...

Другая экспедыцыя калі шла, у нас быў тайнік. І Кухаронак такі жыў, і Чагак. Яны з Боркавіч. Удраўшы былі ад немцаў у парцізанскую зону. Ішоў гэты Кухаронак па лясу і якраз найшоў на нямецкую цэп, на экспедыцыю, на самых на немцаў напаў. І расцяраўся, ну, і назад, бягом у свой лагер. А немцы толькі засмяяліся, таму што яны знали, што



— Мэмы стаяць каля люстэрка,— наблізіўшы твар да Антона, сказаў Алег,— а мы на карачках... Зусім, як у салдатах... «Капрал командует вперёд, а сам, конечно, отстаёт...» — прасняваў ён і паказаў вачыма на Фролыча, які выбіраўся з фабрыкі.

Нечакана Алег спыніўся на слове. Нібы вужака, імкліва выслізнуў з-пад латка, кінуўся некуды ўбок. Антон убачыў, як са страшным грукатам праляцела міма латка клець, потым пачулася нешта падобнае на гарматны выбух — і ўсё сціхла.

У Антона пахаладзела ў грудзях. Ён зразумеў, што са стопара сарвала клець і яна, набіраючы хуткасць, урэзалася ў другую клець, якая стаяла на рэйках. А Юрка Старкоў збіраў паміж клецямі рыбу.

Антон, нібы падкінуты спружынай, вылецеў з-пад латка.

Алег з Юркам ляжалі побач у праходзе на фабрыку. Юрка на спіне, шырока раскінуўшы рукі, а Алег уткнуўся галавой у штабель скрыняў. Юркавы вочы сталі круглымі, нібы пятакі, а твар белы-белы. Трошкі далей, у дзвярным праёме, быццам прырос нагамі да палубы Фролыч. Здавалася, ён на хвіліну прыпыніўся, ды так, стоячы, і заснуў з расплюшчанымі вачыма.

Нарэшце Антон нахіліўся над Юркам, ціха спытаўся:

— Што тут такое? Я пад латком быў, дык нічога не бачыў...

Ён падаў Юрку руку. Той устаў на ногі, страсянуў галавой, потым дапамог падняцца Алегу. У таго з носа цякла кроў.

— Во дык падарунчак,— нервова засмяяўся Алег,— першы шторм, а я ўжо носам усю палубу ўзараў...

Фролыч, нібы певень, раскінуў рукі, забегаў вакол Юркі. Ён кру-

з усіх канцоў усё ацэплена, тры цэпі ішлі. Ён адразу як прыбег — замахаў: «Немцы ідуць!» Мы тут касцёр пагасілі, які быў... Зямлянка ў нас наверху была, як адкрыта жылі. І мы адразу ўсе ў тайнік. Як толькі ў свае тайнікі ўлезлі... Такую дзверку дзелалі на завесах, палачкай падпіралі, і ўлазілі туды. Ляжаш і нагамі туды ўсунешся. Усе ў тайнікі залезлі, і тады за гэтую палачку возьмеш і апусціш. Прышлі немцы, зямлянку ўзарвалі. Мы разгавор чулі нямецкі, вешчы якія былі — яны разбрасалі. Прайшлі па самаму нашаму тайніку — хруп-хруп-хруп ветачкі пад нагамі ў іх...

Мы гэтыя тайнікі рабілі так шчацельна, што было там нас тры сям'і, усе ведалі прыблізіцельна, дзе чый тайнік, а часамі самі не маглі знайсці, што б падняць гэтую дзверку. Адзін у аднаго. І вот Кухаронак, кагда прайшла гэтая экспедыцыя, ён першы вылез з тайніка і рашыў прыйсці даць нам сігнал, што немцы пайшлі. І знаў, дзе наш тайнік, і не найшоў. Слышым, ён ходзіць, кліча нас па фаміліі, вызывае, што немцы, значыць, прайшлі, а мы не верым: а раптам немцы заставілі яго паказаць наш тайнік. А патом прыпаднялі дзверку, паглядзелі праз шчэль, што гэта Кухаронак адзін, нікакіх немцаў няма, і мы вылезлі самі. А Чагак не ўспеў тайнік зрабіць поўнасцю, ён яго замаскіраваў, а дзверку гэтую, на завесах, праз каторую нада ў тайнік лезці, ён не ўспеў зрабіць. Пагэтаму яны ўскочылі ў тайнік усе, ялушачку ўзялі ў рукі, селі... Ну, чалавеку толькі каб сесці... І ялушку гэтую бяруць. І дзяржалі. Дык яны ні жывыя, ні мёртвыя сядзелі, усё відзелі праз гэтыя веткі. Сядзяць і відзяць, як немец дайшоў, пачці ўжо вот-вот нагой стаць, астанавіўся, пасматрэў. Яны ўжо ўсё, гаварылі, падгатовіўшы былі: еслі ўжо немец стане — ён абваліцца ў іхнюю яму, дык яны какія-то там вяроўкі падгатовілі, каб адразу яму рот закрыць, што б ён і не крыкнуў і не піснуў...

Так мы дзве экспедыцыі ў лесе і прасядзелі...

Як Красная Армія прыйшла, дык усе ўзрослыя пабеглі ад радасці, а нас, дзяцей, пакінулі, а мы сядзём і не ведаем, што рабіць. Празднуюць тамака ўзрослыя, салдаты гаворaць, што многа прайшлі, а толькі тут мірнае насяленне ўстрэцілі. Усё было ўсюды папалена. Часа цераз два ўзрослыя вазвраціліся і нам, дзецям, аб'явілі, што нас асвабадзілі—пара выхадзіць з лесу».

Палююць на людзей, забіваюць цэлыя вёскі, і раптам... Дзяўчынка, лежачы сярод трупаў у сваёй хаце, чуе:

ціўся доўга, але нічога не мог сказаць. Мабыць, ад хвалявання ў яго высахла ў горле.

— Глядзець трэба, мора! — нарэшце накінуўся ён на Юрку.— А што, калі б цябе прыціснула клеццю? Знайшоў дзе,— ён выразна пляснуў далоняй аб далонь,— сядзець. На рэйках! І засталося б адно мокрае месца. Скажы дзякуй кампазітару: не адштурхні ён цябе, дык не ўбачыў бы ты свае Кацькі...

Антон адчуў, як нешта ціснула грудзі. Ён адразу ўспомніў Каціны словы: «Ты ўжо беражы яго, Антон...» Ён таксама накінуўся на Юрку:

— Дзеці хутка на свет паявяцца, а розуму ў бацькі няма...— Антон перахапіў Юркаў позірк і, зразумеўшы, што сказаў лішняе, у роспачы махнуў рукой.

Вакол сабраліся хлопцы. Пятро паставіў клець на стопар, для пэўнасці падклаў пад клець дошку. Судна хістала, на перагародках мітусіліся цені, і было нешта дужа трывожнае ў маўклівым абліччы матросаў. Мабыць, да іх толькі цяпер даходзіла, што магло здарыцца, калі б Юрка застаўся на рэйках і на яго наляцела клець.

— Сходзі да дакторкі,— павярнуўшыся да Алега, сказаў Фролыч.— Яна ў момант спыніць кроў...

— Яму Лена дапаможа лепей за дакторку...— улез Пятро.— Калі яна тваю бочку залатала, дык Алега вылечыць, будзь пэўны...

Матросы засмяяліся, і адразу знікла напружанасць. Хлопцы павесялелі, пачалі перакідвацца жартамі.

Юрка адвёў Алега ўбок.

---

— О, пахне хлеб, цёплы! Даставай яго з печкі, а то я галодны, як звер!

«Як звер!..» Гаворыць, але сам, мабыць, усё яшчэ лічыць, што толькі апетыт у яго «звярыны». А сам ён чалавек, нават — «звышчалавек». Той, каго са зверам нельга параўноўваць,— пакрыўдзіш звяроў.

І зноў — услед за вогненнай людской памяццю — вернемся ў тое жудаснае мінулае, якое для ўсіх нас звяры-паляўнічыя ў фашысцкіх мундзірах хацелі зрабіць самой будучыняй. Паўсядзённай рэальнасцю гатовы былі зрабіць для мільёнаў людзей.

**Расказвае Вольга Фамінічна Гайдаш з вёскі Першамайск Рэчыцкага раёна.**

«...Чатырнаццатага мая сорак трэцяга года немцы спалілі нашу вёску. Мужа майго ўзялі партызаны-каўпакоўцы восенню сорак другога года, і два тыдні пасля гэтага мы пераехалі ў лес. За Каўпаком у нас пайшло чалавек восемдзесят. У лесе мы, партызанскія сем'і, сядзелі ўсю зіму. Пасля нам прыйшлі сказалі:

— Хто ў Каўпака, то вы не бойцеся — вас расстрэльваць не будуць.

Сказалі гэта нам свае людзі, а людзям гэтым — немцы. Ну, мы і папрыязджалі дадому. Я таксама ў лесе з канём была. Пераначавала я ў брата, а потым прыходзіць матка мая, свякруха, і кажа, што прыходзілі з паліцыі і казалі, каб я дома была заўтра, у дзесяць гадзін, і каб нікуды не ішла. Ну, мне страшна стала, што ганяюцца за мной. Я пабыла і зноў пайшла на сяло. Прыходжу з сяла ўжо ўвечары. Зарэзала аўцу. У лес уцякаць пачала зноў збірацца... Луплю тую аўцу ў адзінаццаць гадзін. Прыходзяць, стукаюць вечарам. Святла тады не было, капцілка. Яны пастукалі, я спалохалася, расцяралася. У мяне дзяцей было трое: сын з трыццаць пятага года і дочка з трыццаць сёмага, а меншанькая — з трыццаць дзевятага. Тая сядзіць каля мяне, а мне дзецца недзе. А баялася, бо яны ганяліся за адзежаю майго гаспадара: у яго былі боты хромавыя і кожанка. Забраць хацелі ад мяне. Страх мне стаў. А тут падпечча ў нас, дзе куры заганяюць. Свякруха пайшла адкрываць сенцы, а я пад тую печ, бо баялася. А дзеці большыя, што былі на печы, не ўбачылі, дзе я. А меншанькая сядзела. А матка кажа:

— Вот была толькі што, а дзе дзелася, не ведаю.

Яна думала, што я за ею выскачыла на двор, яна і не бачыла, што я пад печ схавалася...

— Ну дык скажы ёй, каб яна заўтра ў



— Ты ж толькі маёй не скажы... Тады бывай, рыбацкая кар'ера...

— Пра што гаворка, генерал? — ледзь чутна адказаў Алег. Ён шморгнуў носам, потым заціснуў яго двума пальцамі.— Цячэ, халера. Пайду...

Усе здагадаліся, што Алег сабраўся да Лены. Юрка лёгка падштурхнуў Алега ў спіну:

— Давай, кампазітар...

Штосьці ледзь улоўнае, цёплае, удзячлівае адчувалася ў ягоным голасе, нібы Юрка прасіў прабачэння за тое, што праз яго неасцярожнасць давялося рызыкаваць Алегу. Але ж стрыманасць, народжаная морам, не давала выказаць свае пачуцці паўней. І хоць больш нічога не было сказана, па Юркавых вачах можна было здагадацца, пра што ён думаў. Мабыць, успамінаў Кацю, адчуваў вінаватасць перад ёй, і гэты клопат за вельмі блізкага, роднага чалавека не даваў часу думаць пра сябе.

— Колькі нам да поўнага грузу засталося? — спытаўся ў Фролыча Пятро.

— Трыццаць тон,— сумна адказаў тэхнолаг.— На адзін дзень работы... Так яно і бывае: людзям заўсёды трохі не хапае...

— Тады я думаю, што можна ўжо здаваць прадукцыю на базу,— сказаў Пятро.— Навошта чакаць?

Фролыч здзіўлена ўзняў бровы.

— Паспрабуй, разумнік, прышвартавацца ў такі шторм. Адны шапкі паплывуць да родных берагоў...

Пятро пакрыўдзіўся. Ён засунуў рукі ў кішэні, прысвіснуў.

---



Вольга і Мікіта Гайдаш.

— Не такія мы дурні,— адгукнуўся ён.— Я думаў падысці бліжэй да базы, а як скончыцца гэтая заваруха — стаць першымі ў чаргу...

— Гэта іншая рэч,— Фролыч зрабіў выгляд, што не заўважыў выкліку.— Так, відаць, капітан і зробіць. Трыццаць тон — гэта дробязь у параўнанні з тым, што кампазітар разбіў нос...

Хлопцы не азваліся на гэты жарт.

— Ты таксама грукнуўся галавой аб трубу,— напомніў Юрка.— Вось і зараз яшчэ шрам відаць.

Фролыч памацаў рукой лоб, нацягнуў аж на самыя вочы берэт. Ніхто не зразумеў, што ён хацеў гэтым жэстам сказаць.

— Можна ісці па каютах...— Фролыч зрабіў паўзу.— Дармаеды...

Калі Антон зайшоў у каюту, адразу ўбачыў, што яна нагадвае поле бойкі. На палубе ляжаў разбіты графін, лёталі туды-сюды чаравікі, боты, пад сталом бялела падушка, а на паліцы, якая была прымацавана над рукамыйнікам, у шклянцы жалобна звінелі зубныя шчоткі. Ілюмінатар быў задраены наглуха, і ў каюце стаяла цяжкая спякота.

Антон пазбіраў кавалкі шкла, узяў венік, падмёў каюту. Адчуваў, як нейкая млявасць агортвае ўсё цела. Ён не распрануўшыся бухнуўся на ложак, выключыў святло. Некалькі хвілін ляжаў з расплюшчанымі вачыма, усім целам адчуваючы, як высока ўзлятае разам з суднам, а потым быццам правальваецца некуды ўніз...

Шторм сціх так жа нечакана, як і наляцеў. Быццам яго і не было. Раніцой, калі Антон прачнуўся, судна не гайдалася. Антон доўга ляжаў на ложку, прыслухоўваючыся да спакойнага дыхання мора. Пры-

---

дзесяць была дома.

Яны паехалі, а я тады каня запрэгла, мяса тое, аўцу нелупленую — на воз і ў лес. Двое дзяцей са мной паехала, а меншанькая з бабай засталася. Матка не пусціла яе. Яна і так у лесе тым намерзлася. Назаўтра ў дзесяць гадзін яны прыехалі, забралі маці маю і дзіця. Яна яшчэ ім песенькі пела, дзіця тое... Чатыры гады дзевачцы было. І тут яе расстралялі разам з усімі. Трынаццаць душ тады забілі, старых жанчын і дзяцей...

А ў маі месяцы, трынаццатага, прыехалі да нас у лес і сказалі... Мы там у лесе сядзелі, стары араў, дык яны таго старога паклікалі і сказалі:

— Хто ў лесе сядзіць — аб'яві ім, каб ехалі дамоў, бо ў лесе пастраляем.

І па лесе яны пахадзілі, каго захапілі ў куранёх, пастралялі — дзяцей малых і старых. Людзі перапалохаліся: сабраліся ўсе, паехалі ў вёску, ноччу. Проста як абоз ішоў з таго лесу. Уранні прышлі дадому. Тут стары такі ходзіць і гаворыць:

— Хто партызанскія, то мы не будзем з-за іх, з-за партызанскіх сямей хавацца ў лесе...

Ну, я партызанская сям'я, мне ўжо трэба маўчаць. Прышла я да суседа, ён друг наш быў, і пытаюся:

— Што будзем, Брэль, рабіць?

А ён кажа:

— Хто куды хоча, а мая сям'я нявінная, не буду я адвячаць за каго-та.

Яго з сям'ёю тады забралі; і ён і дзеткі яго ўсе пагарэлі.

Ну, сталі гнаць худобу, цяляты. Людзей пазганялі. Тут адна старая засталася, таксама партызанская сям'я. Яна з сяла прыбегла сюды на наш канец. Халіха гэтая. Я пытаюся:

— Цётка, партызанскія сем'і зганяюць асобна ці ўсіх людзей разам?

А яна гаворыць:

— Усіх зганяюць у сараі, у хаты, хто партызанская сям'я, а хто і не партызанская.

Ну, я стаю з дзецьмі, на вуліцы. Каля хаты свае, каля дзвярэй стаю. Прагналі яны адну кучу, прагналі другую. Сястры маёй дачка была ў Германіі, дык сястра пісьмы дзяржыць, а я ў яе пытаюся:

— Куды ты, Тацяна, пойдзеш?

А яна кажа:

— Ты хавайся, а я пайду туды: у мяне пісьмо е, дык мо ў Германію мяне забяруць?

Дочка яе была ў Германіі, а дзве дома былі, а сын быў у партызанах. Яна думала, што яе пісьмы тыя спасуць. Іх там у хаты пазаганялі, а я дзе стаяла,—



мусіў сябе ўстаць, падышоў да ілюмінатара, падняў накрыўку. Адразу ў каюту ўварвалася зыркае святло раніцы. Антон сеў на лаўку. Звыклыя да работы мышцы трохі пабольвалі. На душы было нейк млосна, як і заўсёды пасля шторму. Антон, адчуваючы патрэбу ўдыхнуць свежага паветра, адкрыў ілюмінатар. Каюту запоўніў халодны ветрык. Данёсся радасны і пераможны крык чаек. І адразу ўскочыў з ложка Алег.

— Жывём, братаны! — прадзіраючы вочы, крыкнуў ён. Здавалася, што Алег не спаў, проста прыкідваўся.— Цяпер можна і заспяваць...

Ён дастаў з рундука гітару. Моцна, усёй рукой некалькі разоў ударыў па струнах. І нечакана адклаў яе ўбок.

— Слухай,— сказаў ён — толькі цяпер спазнаў, што такое гэтае самае шчасце.

— Ну і як? — усміхнуўшыся, спытаўся Антон.— Якое яно, тваё шчасце?

— А вось якое, генерал! — выгукнуў Алег.— Як падумаў ноччу, што маглі паведаміць дадому, што я трапіў пад клець, дык аж дрыжыкі пайшлі. Канфуз на ўсю сталіцу і яе прыгарады... Гітарыст Алег Саўцыла загінуў пад нейкім металічным возам... Смех сказаць... Ну яшчэ пад новую «Волгу» ці звычайны блакітны тралейбус — гэта яшчэ я разумею... Лепей нават знайсці канец ад жончынай рукі, калі яна табе бразне па галаве якой-небудзь чыгуннай каструляй... А вось цяпер прачнуўся, абмацаў сябе, адчуў, што мора супакоілася, і зразумеў, што доўга мне яшчэ адведзена па струнах трымкаць. І пляваць мне на ўсякія тайфуны, будзь яны хоць самой «Эдзітай П'ехай»...

---

стаю, чакаю. У мяне вось такая думка была: узяла і выпіла я добра і думаю, каб білі нас у хаду. І дзяцей так настрапаліла:

— Сынок і донька, будзем уцякаць, што б білі нас, а не так.

Немцы цялят вязуць па вуліцы, а потым толькі трох ідуць і жанчын гоняць, бабулек. Адзін, такі малады, відна, чысты немец. Падыходзіць да мяне. А мой пацан... Шапка на ём — шлём такі быў, пуп зверху. Краснаармейская. Дык немец за той пуп узяў, шапку падняў над галавой, потым зноў надзеў. Ручка хлопчыкава ў мяне ў гэтай руцэ, а дочкі — у гэтай. Немец яму зноў зняў і зноў надзеў шапку. А тады трэці раз яго вось так пад паху падхапіў і падняў. І мне вот здаецца, што ён кіне і заб'е яго. Паставіў. Зноў тую шапку падняў і зноў апусціў.

Дык я тады кажу:

— Пан, я пайду рабёнка свайго вазьму.

У мяне ўжо тады рабёнка не было, але мне так на вум узбегла. Дык ён засмяяўся і кажа:

— Ідзі!

Сам сабраўся і пайшоў. Дык мы ў двор свой. Ну, у хату зайшлі — няма чаго браць. А я думала, што ён сцеражэ і ўб'е нас. Кошка была з кацянятамі за печкай. Я тую кошку з кацянятамі ўкруціла ў хустку і выношу на двор. Гэты мой сын паглядзеў і кажа:

— Мама, ужо няма нікога, паехалі. Давай астрагу паставім у калодзеж і пахаваемся.

Паставілі мы астрагу, улезлі дзеці і я ўлезла, і так мяне відна...

— Не, так мы прападзем, дзеці!

Выскачылі мы на агарод. Там у нас бліндаж быў. Але ў тым бліндажы ўжо суседка сядзіць, чатыры душы. І тут яшчэ жанчына бяжыць з дзеткамі, у яе маленькае дзіцятка. І тая — туды. Сталі крычаць тыя дзеці. Ну, мы і вылезлі адтуль. Вылезла я са сваімі дзецьмі, ажно бачу — бягуць за гэтаю жанчынаю ўдагонь, утрох. Немцы. Бягуць — ну, мне ўжо некуды дзецца. Я ў разору вось так. І дзеці мае ў разору паміж градамі пападалі. Яны ў той бліндаж, выгналі тую жанчыну. Дзве дочкі ў яе; і была там жанчына чужая. Збілі іх і пагналі ў вёску. А ў вёсцы ўжо стогне зямля, гарыць, крычаць!.. Так усё прама — ажно сумна ляжаць. Той хлопчык уцёк назад у бліндаж, думаў, што я ў бліндажы. І суседа другога ўцёк. Ну, яны ў бліндаж не палезлі, бо я ім сказала, каб ішлі ў разору, бо з бліндажа павыганяюць. Яны ў разоры палеглі. Маіх двое і я. Усіх пяць нас у разоры. Перабеглі цераз нас. І кошка ж

Я гэтага шторму, можа, больш за ўсё баяўся. А нічога — жывы... Ці ж гэта не шчасце?

Антон разумеў Алегаву ўзбуджанасць. Не так лёгка перамагчы самога сябе. Многія хлопцы з тых, каго сустракаў Антон, здаровыя і моцныя, не вытрымлівалі выпрабавання морам, пачыналі прасіцца, каб іх спісалі на базы, якія вярталіся ў порт. Ён не ведаў іх далейшага лёсу, але разумеў, што сапраўднага шчасця яны ніколі не паспытаюць. Не было ўпэўненасці, што чалавек, які спалохаўся аднойчы, не зробіць гэтага і другі раз, сустрэўшы перашкоду. А з другога боку, якое яно, гэтае шчасце?

Яму прыгадаўся Хлебнікаў. Заўсёды, калі Антон думаў над нечым, разважаў, ён успамінаў лейтэнанта. Гэта было як міраж. Быццам з шызай смугі выплываў лейтэнант, худы, знясілены. Тады Антону часам здавалася, што Хлебнікаў мае права на сваё маленькае хатняе шчасце, што, мабыць, для яго вялікая радасць бачыць Святлану, без якой ён прапаў бы, пра якую ён шчыра клапоціцца і слепа верыць, што і яна шчаслівая...

Ад гэтых думак станавілася моташна. Антон адчуваў, што прымушае сябе даравацъ Хлебнікаву тое, чаго ніколі не дараваў бы нікому, нават Юрку. Тады, калі Антон упершыню ступіў на палубу тральшчыка, у яго не было яшчэ свайго жыццёвага вопыту. Таму, мабыць, і кранула яго за сэрца лейтэнантава шчырасць і павага.

— Ты што, генерал — заснуў? — патрос Антон за плячо Алега.— Я вось што зараз падумаў. Атрымаю калі-небудзь адпачынак і прыеду дадому. Зайду ў магазін, убачу, што людзі купляюць рыбу, і не вытрымаю, як тая жаба-падарожніца, заквакаю: «Гэта — я, гэта —

тая з кацянятамі ляжыць каля мяне, і кукла, што я сабіралася ў Германію. Яечкі, сала кусок і хлеба луста. Яны тую маю куклу нагой кашканулі і, значыцца, пабеглі. Я сама сабе думаю: «Ці яны падумалі, што мы бітыя?» Яны прабеглі. Потым зноўку бягуць, хаты паляць, хлявы ўжо, сараі нашыя. Гарыць ужо дзярэўня. Ужо дым. Тут у мяне ў галавах стог саломы стаіць, і я ўжо расцяралася, як ён стаў тую салому паліць зажыгалкай... На мне тая тужурка-кожанка і боты хромавыя, бо падумала я, што згару сама і ўсё на мне згарыць. Я расцяралася, а дзеці спяць — мае двое і чужыя. Мае рукі во так пазакладаныя за галаву былі, дык рука ўпала. Ён на маю руку стаў, перайшоў. І сабраліся яны і пайшлі. Салому запалілі. А дзеці ляжаць — пазасыналі. Толькі ўжо як салома загарэлася, і хлеў наш загарэўся, і полымя стала прыпякаць — дзеці гараць: і рубашкі на іх, і косы гараць. Мой ужо увесь абгарэў хлопчык, крычыць:

— Ой мама! Я не магу ўжо ляжаць!

А я яму кажу:

— Ляжы!

А тут шляшок, во гэта вулачка наша каля школы. Мы туды павярнулі, дык па нас б'юць, страляюць, пулі сыплюцца, як боб. Мы зноў там ляжалі, гэты мой хлапец устаў... Тут такія копчыкі каля нас, дык я іх туды папераносіла. Ужо сонца заходзіла. Вечар. Ціхі такі. Шулы стаяць — гараць, а мне ўсё здаецца, што гэта немцы стаяць. Папераходзіла я сюды, а тут у мяне на двары конь стаіць. Толькі сухары ўкраты ў мяне з возу.

Я ўжо тады, увечары пайшла шукаць, хто ў лесе застаўся жывы...

Хлопчыку майму было восем, а дзяўчэнцы шэсць, сёмы год. А меншанькую расстралялі, я вам казала.

Што яна ім спявала, дык гэта чула жанчына, суседка. Яна была, бачыла, як свякруха мая і на воз садзілася і прашчалася. А меншанькая сказала:

— Дзядзі, не бярыце мяне з бабуляй, я вам спяю тую песеньку, каторая «Пасею гурочкі».

Яна спела ім, стоячы на акне, і яны яе забралі і застрэлілі.

(Заканчэнне ў наступным нумары)



я...» Адно толькі суцяшае: тая бразнулася з неба ў балота, а на мяне паглядзяць, як на дзівака...

Антон схамянуўся, загаварыў не адразу.

— А ты, калі выступаў у ансамблі, таксама крычэў на кожным рагу, што артыст? Ці думаў: і так усе ведаюць?

Алег памаўчаў.

— Не задумваўся над гэтым,— прызнаўся ён.— А цяпер, мабыць, таму, што далёка ад дому, ад блізкіх, наогул, як гавораць, ад цывілізацыі, калі ведаеш, што твае сябры ходзяць у тэатры, глядзяць хакей, а ты працуеш, як ачмурэлы, без нядзель і перакураў, раптам запытаеш сябе: ці варты тыя людзі, якія будуць есці нашу рыбу, нашага нялёгкага рыбацкага жыцця?

Апошнія словы Алег прамовіў з усмешкай, і было бачна, што ён зусім не злуецца на тых людзей, якія засталіся на беразе і будуць есці рыбу з «Бусолі».

— Уяві сабе,— сказаў Антон,— мы вернемся ў порт, пойдзем з табой куды-небудзь у сталоўку...

— Навошта ў сталоўку? — здзівіўся Алег.— Адзін раз за паўгода можна і ў рэстаран...

— Добра,— згадзіўся Антон,— гэта я так... Дык вось, усё, што нам прынясуць на стол, таксама людзі здабывалі. У гэтым уся соль. Так і выходзіць, што чалавек робіць для чалавека.— Ён зноў успомніў Хлебнікава.— Як гаварыў мой знаёмы, дыялектыка жыцця...

Алег засмяяўся, хацеў нешта сказаць, але ў гэты момант у каюту зайшоў Пятровіч.

— Марскі воўк Саўцыла,— сказаў ён,— збірайцеся на швартоўку. Падыходзім да плывучай базы. Начальства пачула нашы малітвы.

— Які тут марскі воўк,— паківаў галавой Алег.

Пятровіч з нейкай замілаванасцю паглядзеў на Алега.

— Сціпласць табе да твару. А я тады падумаў, што ты і праўда ў галёшах на пуціну сабраўся... Адным словам, артыст...

Мабыць, Пятровіч ужо ведаў пра здарэнне на фабрыцы і гэта яго кранула.

— А цябе,— ён павярнуўся да Антона,— чакае на рандэву капітан-дырэктар...

За ілюмінатарам прарэзліва крычалі чайкі, пляскалася стомленае мора, і Антону падумалася, што сёння яго чакае нешта прыемнае і радаснае.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

Калі Антон падышоў да капітанскай каюты, дзверы нечакана адчыніліся, і Анатоль Канстанцінавіч выйшаў на калідор. Ён быў апрануты ў чорную куртку, падшытую футрам, на галаве форменная фуражка. У сініх вачах яго хавалася заклапочанасць. Убачыўшы Антона, капітан спыніўся.

— Такі кампот,— сказаў ён,— то ты заняты, то я... Швартавацца да базы трэба. Хадзем на мосцік. А потым, калі гэтая музыка скончыцца, пагаворым...

Наверсе было ціха. Анісімаў, нахіліўшыся над картай, стаяў у штурманскім пакойчыку. Пятровіч падняў акно і, напалову высунуўшыся з яго, глядзеў уперад, вахтавы на рулі ляніва круціў вялізнае кола.

Пятровіч павярнуўся, прыгладзіў вусы.

— Як справы, арлы? — спытаўся капітан.

— Нармальна. Далі дазвол. Там іх «Рэмбрант» затрымаў. Падыходзіў па мазут і не змог заправіцца ў тэрмін...

Непадалёку гайдалася, нібы песцячыся на хвалях, плывучая база. Доўгая і шырокая, яна выглядала шэрым айсбергам. Па палубе, пад узнятымі ўгару стрэламі кранаў, бегалі матросы. Можна было падумаць, што базу захапілі мурашкі,— такімі маленькімі здаваліся адсюль людзі. З высока ўзнятай кармавой і насавой надбудовай база нагадвала вялізнага вярблюда.

Капітан падышоў да перадатчыка:

— «Палярная зорка», пацвердзіце дазвол на падыход!..

Мабыць, «Бусоль» ужо чакалі. Адказалі адразу.

— Дазваляем!..

— Самы поўны! — загадаў капітан і, убачыўшы здзіўлены позірк Пятровіча, засмяяўся: — Ехаць, дык з ветрыкам...

«Бусоль» уздрыгнула, нібы стрыножаны конь, паднялася на хвалі, потым клюнула носам уніз і, рассыпаючы салёныя пырскі, пасунулася наперад, усё паскараючы тэмп. База расла на вачах, і здавалася, што «Бусоль» ужо нельга спыніць.

— Самы малы! — спакойна, але з металічнымі ноткамі ў голасе скамандаваў капітан.

Пятровіч націснуў на кнопку. Аднак тое, што судна суцішыла ход, нібы і не адчувалася. Па-ранейшаму яно шпарка ішло да плывучай базы, цэлілася проста ў сярэдзіну «Палярнай зоркі».

— Малы назад! — скамандаваў капітан.

«Бусоль» зноў уздрыгнула, павярнула нос, як чалавек, якому нешта не спадабалася. На базе падрыхтаваліся прыняць канцы. Па левым борце стаялі матросы. Яны радасна размахвалі рукамі, нібы сустракалі блізкіх людзей.

— Колькі прывезлі? — крыкнуў з палубы высокі рыжы хлопец з доўгай залацістай барадой.

— Амаль па макаўку! — адгукнуліся з «Бусолі».

Хлопцы паспелі ўжо перадаць на базу тросы. Судна стомлена і даверліва прыхінулася да доўгага борта базы.

— Хвацка падыходзіце! — крыкнуў усё той жа барадаты.

— А ты як думаў? — задаволена пачулася ў адказ.

Капітан задумёна ўсміхаўся. Яму было прыемна пачуць пахвалу. Пятровіч таксама распусціў хвост, нібы не капітан, а ён так прыгожа прышвартаваўся, выклікаўшы захапленне ў матросаў. Выскачыў на крыло мосціка, закрычэў у мегафон:

— Эй, на баржы, пачынаем работу!..

— Ха-ха, жартаўнік! — засмяяліся ў адказ.— Знайшоў баржу! Лепей азірніся на сваю шаланду! На такіх начоўках толькі ў ванне плаваць...

Сапраўды, побач з магутнай базай «Бусоль» здавалася цацкай. Да таго ж судна было загружана рыбай і сядзела ў вадзе амаль па самую ватэрлінію.

— Вось каб за суткі разгрузіцца,— сказаў капітан-дырэктар.— Як думаеш, Булынка, зможам?

— Паспрабуем, калі... зможам...— пажартаваў Антон. Ён добра ведаў, як цяжка здаваць рыбу. Асабліва з кармавога трума, дзе была занадта нізкая столь і даводзілася цягаць скрыні сагнуўшыся, каб не ўдарыцца галавой аб магістральныя трубы халадзільнай устаноўкі.



— Гэта не Лас-Пальмас...— сказаў капітан.— Што значыць — паспрабуем? Абавязаны! Хутчэй здадзім рыбу — хутчэй зойдзем у порт. Адпачнём, атрымаем свежыя прадукты: яблыкі, апельсіны... Ты ж, думаю, любіш яблыкі?

Антон засмяяўся. Вядома, ён іх любіць. Яму ўспомніўся сад, сусед у дзіцячай панамцы, пунсовыя яблыкі, якія раслі каля ягонай хаты.

Пятровіч, пакрыўджаны непавагай да «Бусолі», вярнуўся ў рубку. Паглядзеў, як матросы замацоўваюць на баку тросы.

— Навошта Антону яблыкі? — сказаў штурман.— Ён на беларускай бульбе вырас...

— Мабыць, таму і дзяўчат абыходзіць, што салодкага не любіў...— пажартаваў капітан.— Я дык цяпер быў бы не супраць бульбачкі. Такой, каб з дымком, у лесе, каля вогнішча...— Капітан заплюшчыў вочы, нібы прыгадаў нешта з дзяцінства.— У акіяне пра гэта толькі марыш. Ды і дома няма калі... Вернешся, з жонкай не паспееш пакахацца — і тут зноў у мора...



З левага борта да «Бусолі» набліжаўся невялічкі рыбалоўны траўлер. Маленькі, акуратна пафарбаваны ў блакітны і белы колер, з невысокай чорнай трубкай, з якой колцамі падымаўся шызы дым. Траўлер цягнуў за сабой трал, які пачалі выбіраць на палубу.

— Швед ідзе,— ні да каго не звяртаючыся, сказаў капітан.— Цікава, дзе ён хаваўся ад шторму?

Ля небасхілу, быццам раскіданыя непагаддзю, таксама снаўдалі туды-сюды траўлеры. Удзень гэта было не так прыгожа, як ноччу, калі запальваліся сігнальныя агні. Тады здавалася, што па чорнай, як сама ноч, вадзе плаваюць зоркі.

— Пакліч сюды тэхнолага,— загадаў Пятровічу капітан.— Хачу паслухаць, што думае рыбны прафесар.

Пакуль чакалі Фролыча, шведскі траўлер паспеў падняць трал. Рыбы ў ім было небагата, не больш тоны.

— Цяпер рыба толькі праз некалькі дзён вернецца,— сказаў Пятровіч.— Паразганяла яе. Вунь як дзьмула, да самага дна акіян разгуляўся...

Капітан у знак згоды кіўнуў галавой, апусціўся ў крэсла, нервова пабарабаніў пальцамі па акне. Гэтае акно нельга было назваць ілюмінатарам, бо яно было доўгае і нешырокае, вымалася з рамы.

Пра што думаў капітан? Пэўна, яго ўсхвалявала, што швед падняў амаль пусты трал. Такое ў рэйсе заўсёды сумна бачыць.

Задыхаўшыся, прыбег Фролыч. Хуценька і неяк вінавата падышоў да капітана, схіліўся перад ім. Антона заўсёды злавала гэтая разгубленая ўвішнасць.

— На фабрыцы быў,— апраўдваючыся, сказаў тэхнолаг.— Пачалі кармавы люк падымаць.

— Добра, рыбны прафесар,— сказаў капітан.— Хачу ў цябе спытацца: суткі хопіць?

Фролыч па-вайсковаму выцягнуўся, нават прыўзняўся на пальчыках. Можна было падумаць, што ён стаяў перад генералам.

— Ты можаш ісці ўніз,— звяртаючыся да вахтавага, сказаў капітан.— А ты, Іван Фролыч, што маўчыш? Укладзешся ў такі кароткі тэрмін?

Капітан-дырэктар глядзеў на Фролыча запытальна, і па ягоных вачах, у якіх свяцілася надзея, адчувалася, што яму вельмі хочацца, каб тэхнолаг адказаў станоўча. Ён добра ведаў, што можна загадаць, і тэхнолаг разаб'ецца, але ўсё зробіць. Аднак капітану, мабыць, хацелася, каб Фролыч выказаў сваю думку.

— Паспрабуем,— нарэшце ціха адказаў тэхнолаг.

— Вы што, з Булынкам згаварыліся? — успыхнуў капітан.— Я сам здыму кіцель і палезу ў трум. Ну і цябе, вядома, вазьму з сабой за кампанію. Усё весялей будзе.— Ён трохі памаўчаў.— Я не патрабую нічога немагчымага. Змаглі ж другія здаць рыбу за суткі, а мы чым горшыя?

Фролыч, пэўна, спалохаўся, што капітан-дырэктар і сапраўды скіне кіцель і палезе з матросамі ў трум. Ён прыжмурыў вочы, погляд адразу стаў нейкім жорсткім.

— Зробім!

— Я так і ведаў,— сказаў капітан.— Цяжка толькі пачынаць... Матросы ў нас такія, што з імі не аднаму д'яблу можна рогі скруціць...— Ён задаволена пацёр рукі.— А цяпер хадзем, Булынка, каву піць. Вельмі люблю каву, асабліва пасля вахты. Так і здаецца, што вярнуўся дадому і гаспадарыш, пакуль жонка бегае па магазінах...

Каюта ў Анатоля Канстанцінавіча была вялізная, на два пакоі. Сцены, зробленыя пад дуб, пераліваліся жаўтаватым святлом, быццам падсвечваліся знутры. На ілюмінатары віселі светла-зялёныя фіранкі ў белую тонкую палоску. На дзвярах, што вялі ў спальню,— цяжкія жоўтыя шторы, такія ж і ля ўваходу ў невялічкі пакойчык, дзе знаходзіўся рукамыйнік. Збоку ад ілюмінатара ў кутку стаяў невысокі прыгожы пісьмовы стол, на ім лямпа пад зялёным абажурам, воддаль — нешырокая тахта, абабітая чырвонай матэрыяй, над ёй доўгая кніжная паліца. Каюта ўражвала чысцінёй і нейкай цёплай хатняй утульнасцю.

Капітан-дырэктар зняў сваю чорную куртку, падшытую футрам, потым кіцель, павесіў яго на спінку крэсла, якое стаяла ля стала. Нахіліўшыся, выцягнуў з-пад тахты магнітафон, ткнуў шнур у разетку. Калі на панелі загарэлася зялёнае вочка, капітан націснуў на кнопку. Адразу зайграла музыка. Анатоль Канстанцінавіч, суцішыўшы гук, сеў насупраць Антона ў крэсла.

— Як, браце, у цябе з этыкетам? — весела спытаўся ён.— Ці ведаеш, у якой руцэ трымаць відэлец і нож? Што пад якую закуску п'ецца?

Антон ад нечаканасці вырачыў вочы, а капітан засмяяўся:

— Усё зразумела. Пытанняў больш няма. Але ж, Булынка, прыйдзецца табе гэтую навуку, хай яна гарыць, асвойтаць. Ты пісаў дадому, на якім судне плаваеш?

Антон, нічога не разумеючы, кіўнуў галавой. Вядома, пісаў маці.

— Ну дык вось,— сказаў Анатоль Канстанцінавіч,— цябе чакае наперадзе сустрэча. Не ведаю, прыемная ці не. У порце, куды мы будзем заходзіць, жыве твой дзед.

Усё, што сказаў капітан, было нечаканае. Антон не быў гатовы да гэтай навіны. Ён не сказаць каб разгубіўся, яго проста гэта ашаломіла: за вахтамі, клопатамі ён ужо і забыўся пра дзеда...

У каюце ціха іграла музыка, здавалася, яна даносілася аднекуль з глыбіні акіяна. Сумная, пяшчотная, з нейкай ледзь улоўнай журбой.

Анатоль Канстанцінавіч дастаў з шафы зялёныя кубачкі, бляшанку кавы, дзве чайныя лыжачкі.

— Не хачу турбаваць буфетчыцу...

Антон сядзеў моўчкі. Ён ніколі не думаў, што ўбачыць свайго дзеда. Яго толькі засмучала, што гэтую вестку ён прыняў абыякава: яна і не радавала і не хвалявала, нібы размова ішла пра зусім чужога чалавека, які не меў ніякага дачынення да Антона.

Анатоль Канстанцінавіч памешваў лыжачкай каву.

— Вядома, табе рашаць наконт сустрэчы,— сказаў ён.— Але я раіў бы вам пабачыцца, бо ведаю твой характар: потым будзеш перажываць. Ды і наогул цікава паглядзець, што з чалавекам за гэтыя гады сталася... Нават каб і чужы чалавек. А гэта ж свой...

— Які ён свой... Мо я кепскі ўнук, але ў сэрцы ў мяне нічога не скранулася, калі вы мне сказалі пра дзеда...

Капітан толькі паглядзеў пільным позіркам на Антона.

— Што ж, сэрцу не загадаеш,— азваўся ён нарэшце,— аднак рыхтуйся. Фрака не трэба, але бараду пагалі...

Засаромеўшыся, Антон правёў рукой па твары. Барада яму не ішла, ён і сам гэта ведаў.

— Няма калі,— нібы апраўдваючыся, адказаў Антон.— Рыба добра лавілася, дык толькі паспееш упасці на ложак — і зноў на вахту.

— Ведаю, што цяжка. Але, як гавораць, чым цяжэй, тым даражэй.— Капітан адсунуў убок кубачак.

Адразу з каюты Антон пайшоў на фабрыку. Там ужо сабраліся матросы з першай змены. Яны сядзелі проста на палубе, каля нешырокага люка, што вёў у трум. Былі тут Саўцыла і Юрка Старкоў.

Юрка кінуў Антону ватоўку.

— Апранай! Пакуль разагрэемся, дык можна запаленне лёгкіх схапіць...

Яны па адным спусціліся на верхнюю пляцоўку трума. Вахта, якая працавала да іх, паспела ўжо разгрузіць трум напалову.

— З богам! — крыкнуў Юрка. Ён падхапіў цяжкую скрыню з рыбай і, нахіліўшыся, каб не ўдарыцца галавой аб столь, пабег да люка.— Давай, матросікі, давай!..

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

— Ты чаму мне раней не сказаў? — пакрыўджана спытаўся Саўцыла.— Жывём у адной каюце, разам стаім вахты, а ты нечага тоішся. Нягожа так...

Ён стаяў каля люстэрка, старанна прычэсваў валасы. Потым узяў са шкляной палічкі флакон адэкалону, папырскаў на касцюм. Адышоўшыся на некалькі крокаў, трохі пакруціўся, агледзеў сябе, задаволена падміргнуў у люстэрка.

— Не было часу,— азваўся Антон. Ён сядзеў на крэсле, апрануты ў сіні святочны касцюм, чакаў, пакуль закончыць свае таямнічыя маніпуляцыі Алег.

У каюту ціха пастукалі. Потым пачуўся голас Лены:

— Хлопчыкі, можна да вас? — Лена не зайшла адразу таму, што ведала: ва ўсіх каютах хлопцы пераапранаюцца, збіраюцца на бераг.— Пусціце чалавека пагрэцца.

— Сарамлівая стала,— усміхнуўся Антон.— Раней дык без дазволу заходзіла.

Алег адчыніў дзверы.

— Заходзь, юная дзева, заходзь,— радасна сказаў ён.

Можна было падумаць, што Лена сабралася на дыпламатычны прыём. Светлыя валасы былі перахоплены стужкай, а вейкі акуратна пафарбаваны ў сіні колер. Светлы вязаны касцюм шчыльна абляГаў Ленчыную гнуткую постаць. На нагах блішчэлі белыя лакіраваныя туфлі.

— А мяне ў горад не адпускаюць,— сказала яна, зайшоўшы ў каюту.— Трэба прадукты прымаць.

Алег прысвіснуў.

— Ну дык і я не пайду.

Лена, мабыць, забылася на Антона, яна пяшчотна пацалавала Алега ў шчаку.

— Ты ідзі. Два месяцы на беразе не быў.— Лена далікатна падштурхнула Алега.— А я пайду распранацца. Хто ж вас яшчэ пачастуе апельсінамі?..

Алег з Антонам сядзелі моўчкі. У душы Антон зайздросціў сябру.

— Возьмем гітару? — спытаўся Алег.

— Бяры, калі хочаш.

У Антона раптам балюча сціснулася сэрца: здалося, дакрануўся да чужога шчасця, а сваё прайшло міма...

Ён даўно чакаў пісьма ад Святланы і нечага баяўся. Можа, неспакойных начэй, якія, ён адчуваў, прыйдуць разам з пісьмом? А можа бянтэжыла пачуццё вінаватасці перад Хлебнікавым?

Алег узяў гітару.

— Пайшлі, генерал, буржуі зачакаліся...

На палубе сабралася ледзь не ўся каманда. Хлопцаў было не пазнаць: усе добра апранутыя, старанна паголеныя.

Ноччу да «Бусолі» прышвартаваўся французскі траўлер, матросы на ім, мабыць, адпачывалі пасля пераходу ў порт, і толькі адзін вахтавы, высокі, з кучаравай чорнай бародкай хлопец, жэстыкуляваў рукамі, спрабуючы нешта растлумачыць нашым.

Хлопцы сабраліся на левым борце, амаль звешваліся за лееры штармавой агароджы, але так і не разумелі, што гаварыў француз.

Антона хвалявала гэтая незнаёмая бухта з пароспымі светлазялёнай травой берагамі, што, патроху звужаючыся, цягнуліся ўдалечыню, да выхаду ў акіян, і незвычайна доўгі прычал, дзе стаялі краны, зусім не падобныя на тыя вялізныя волаты, што ўзвышаліся ў іхнім порце. Краны былі пафарбаваны ў жоўты і чырвоны колер, з кароткімі стрэламі і, пэўна, таму здаваліся цацачнымі. Гэтае ўражанне ўзмацнялася яшчэ і тым, што шэры прычал быў размаляваны нешырокімі, але даволі яркімі палосамі і чымсьці нагадваў шахматную дошку, а краны — шахматныя фігуры.



Удалечыні віднелася невысокая арка — уваход на тэрыторыю порта. Белы з чорным шлагбаўм для машын. Ля шлагбаума — невялічкі будынак кантрольна-прапускнога пункта.

Антон глядзеў на прычал, і яму здавалася, што ён яго ўжо некалі бачыў. І судны, і краны, і гэты кантрольна-прапускны пункт. Мабыць, усе парты падобныя адзін да другога, бо яны сустракаюць і праводзяць караблі.

Антон не заўважыў, калі да яго падышоў Алег.

Цяпер яны абодва сачылі за доўгай, быццам абрэзанай з двух бакоў чорнай машынай, якая, нецярпліва нырнуўшы пад шлагбаўм, паволі набліжалася да «Бусолі».

— «Кадзілак»,— неяк абыякава, быццам ён усё жыццё толькі і ездзіў у такіх машынах, сказаў Алег.— Нават, здаецца, новага выпуску...

Машына спынілася ля трапа «Бусолі». З яе вылез высокі малады чалавек у кароткім плашчы. Спрытна ўзышоў на палубу «Бусолі» і, убачыўшы першага памочніка, упэўнена накіраваўся да яго. Анісімаў таксама зрабіў некалькі крокаў наперад. Матросы, зацікаўленыя візітам, глядзелі то на бліскучую машыну, то на госця.

— Аляксей Мынікаў з гандлёвага прадстаўніцтва,— сказаў той і працягнуў руку.— Віншую са шчаслівым прыходам у порт...

— Дзякую,— цёпла адказаў Анісімаў.

Прадстаўнік, як старога знаёмага, узяў Анісімава пад локаць, адвёў убок.

Антон не чуў, пра што яны гаварылі, але, стоячы побач з Алегам, адчуваў, як у грудзях трывожна б'еццa сэрца. Ён быў чамусьці ўпэўнены, што гэты прадстаўнік у піжонскім плашчы прыехаў па яго.

— Калі гэта па цябе,— нечакана сказаў Алег і кіўнуў на госця,— то вазьмі мяне з сабою. Думаю, каяцца не будзеш.

Здавалася, Алега нішто не можа выбіць з раўнавагі, і Антон пазайздросціў яму. Сам ён адчуваў сябе не вельмі ўпэўнена, а вось чаму — і сам не мог адказаць.

— Булынка,— паклікаў Васіль Дзянісавіч,— хадзі сюды.

Тое, што прадстаўнік нібы ацэньваў яго, як каня на кірмашы, Антону не спадабалася.

— Гэта па цябе,— кіўнуўшы ў бок машыны, сказаў Анісімаў.— Адвязуць, нібы графа...

— Я мог бы і пешкі, дайце толькі адрас,— сказаў Антон.

— Не забывайцеся, што ў нас фірма,— усміхнуўся прадстаўнік.— На нас глядзяць, па нас мяркуюць...

Нешта ў чалавеку не падабалася Антону. Але ён не мог зразумець.

— Калі дазволіце, я хачу ўзяць сябра,— сказаў Антон і, паглядзеўшы ў вочы першага памочніка, трохі жорстка дадаў: — Алега Саўцылу.

Ён чакаў, што́ адкажа Анісімаў. Чакаў нават з нейкім выклікам, бо ведаў, што першы памочнік неаднойчы быў строгі да Алега.

Анісімаў на хвіліну задумаўся, закусіў губу.

— А што? — сказаў ён.— Разам жывуць у каюце, хай разам і ў госці сходзяць?..
— Мне ўсё роўна,— падтрымаў прадстаўнік.— Разам дык разам. Вы за экіпаж адказваеце...
Не чакаючы, што скажа першы памочнік, Антон кіўнуў Саўцылу, і той падбег, нібы спрынтэр, які чакаў стрэлу старцёра.
— Да вашых паслуг, генерал! — радасна ўсміхнуўся Алег, закідваючы за плячо гітару.— Са сваёй канцэртнай праграмай. «Очи чёрные, очи жгучие...» Як ты думаеш, расчулім да слёз?
— Паехалі,— перабіў яго прадстаўнік.
— Салют, браточкі, мы ў лімузін,— сказаў Алег і памахаў рукою.
Яны селі ў машыну. Шафёр, пажылы лысаваты мужчына, завёў матор. «Кадзілак» мякка крануўся з месца і, набіраючы хуткасць, памчаўся ў горад.

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

Каля трохпавярховага будынка з шырокімі вокнамі, у якіх нерухома, прыхінуўшыся спінамі да блакітнага шкла, стаялі манекены ў чорных кацялках, машына павярнула ўлева. Віскнуўшы тармазамі, яна напалохала веласіпедыста, хударлявага мужчыну ў карычневым пінжаку і шэрым капялюшыку.
— Асцярожней,— сказаў шафёру прадстаўнік.— Са сваім гаспадаром ты можаш ехаць як хочаш...
З гэтай фразы Антон зразумеў, што машына, няйначай, належыць яго дзеду. Гэта раззлавала. «Не вялікі пан, мог бы і сам прыехаць...» — падумаў ён.
Шафёр прамаўчаў, толькі, нібы робат, кіўнуў галавой і збавіў хуткасць. Цяпер можна было і агледзецца.
Вулачка, па якой яны ехалі, была нешырокая, добра заасфальтаваная. Край тратуара пафарбаваны ў белы колер, і, мабыць, таму вулачка чымсьці нагадвала прычал. Абапал, каля жалезнай агароджы, стаялі тонкія бетонныя слупы, на якіх, нібы наканечнікі коп'яў, тырчэлі чатырохвугольныя ліхтары. Удалечыні сярод высокіх дрэў віднеліся прысадзістыя катэджы з масіўнымі калонамі, нейкія прыбудовы, а перад адным асабняком Антон заўважыў невялічкі фантан, каля якога скакала на адной назе дзяўчынка ў чырвонай шапачцы.
На вуліцы амаль не было людзей. Зрэдку прамільгне і застанецца ззаду якая-небудзь жанчына з карзінай у руцэ або сівы дзед з сумкай за плячыма.
Алег асцярожна крануў прадстаўніка за плячо.
— Выпадкам, гэта не вуліца пенсіянераў? — спытаўся ён.
Прадстаўнік павярнуўся, выцер хустачкай лоб. У машыне было духотна.
— Тут у асноўным жывуць... рускія.— Ён, мабыць, хацеў сказаць «эмігранты», але, глянуўшы на шафёра, перадумаў.— Адгарадзіліся ад свету і дажываюць свой век...
— Здаецца, і нішто сабе,— паказваючы на акно, сказаў Алег.
Прадстаўнік скрывіў вусны.
— Адзінкі... Астатнія — насільшчыкі, гарсоны, чысцільшчыкі абутку... Іншы раз паглядзіш на якога-небудзь эмігранта, што прэ на сабе вялізныя чамаданы,— і шкада робіцца. Усё ж рускі чалавек...



Шафёр скоса паглядзеў на прадстаўніка. У ягоных маленькіх карычневых вачах то ўспыхвалі, то знікалі нядобрыя іскрынкі.
«Кадзілак» спыніўся перад шырокімі, пафарбаванымі ў срабрысты колер варотамі. Шафёр пасігналіў. Але з дома ніхто не выходзіў.
— Нічога сабе сустрэча,— усміхнуўся Алег.
У гэты час вароты бясшумна адчыніліся, прапускаючы машыну.
Па шырокай бетоннай дарожцы, якая ішла вакол дома, машына пад'ехала да доўгай, выкладзенай з чырвонай цэглы стаянкі. Абапал яе раслі невысокія елачкі.
— Вось мы і на месцы,— сказаў прадстаўнік і першы выйшаў з «Кадзілака». У Антона моцна, трывожнымі штуршкамі забілася сэрца.
Яны ўздымаліся па шырокіх прыступках. Ля дзвярэй з пазалочанай ручкай Антон азірнуўся, нібы хацеў перад тым, як зайсці ў гэты маўклівы, пажоўклы, як асенні ліст, асабняк, убачыць сваю «Бусоль». Але за бліскучай агароджай ляжала незнаёмая самотная вуліца. Узрушылі толькі беластволыя бярозкі, што ціха шапацелі лістотай каля заштораных акон.
Цяпер нават Алег стаў сур'ёзны, неяк падцягнуўся, з яго зляцела колішняя бестурботнасць і весялосць. Ён зняў з пляча гітару, пакруціў у руках, не ведаючы, што з ёю рабіць.
Антону чамусьці ўспомніўся шафёр, ягоны насцярожаны позірк, ненатуральная маўлівасць.
— А скажыце, шафёр таксама з эмігрантаў? — спытаў ён у прадстаўніка.
— Так,— адказаў той.— З цяперашніх... з вайны. Спалохаўся, здрадзіў, а цяпер глядзіць на ўсіх воўкам...
Ён гаварыў неяк прафесійна, завучана. Быццам гаворка ішла не пра лёс людзей, а пра нешта дужа неканкрэтнае.
Нечакана прадстаўнік загаварыў зноў.
— А дзед твой, Сяргей Нічыпаравіч, два гады назад ажаніўся. Узяў унучку графа Ярмалеўскага... У таго толькі і засталося, што герб на варотах ды дзевяноста гадоў за плячыма.
— А колькі ж унучцы? — пацікавіўся Саўцыла, быццам гэта мела для яго нейкае значэнне.
— Пацярпі трошкі,— ледзь прыкмета ўсміхнуўся прадстаўнік,— хутка пабачыш...
Гэтая цікавасць да дзедавай жонкі здалася Антону такой нязначнай, дробязнай, што ён не вытрымаў, сказаў сябру:
— Ты хоць цяпер памаўчаць можаш?
— Прабач,— прашаптаў ён сур'ёзна.
Не дачакаўшыся, пакуль хто-небудзь сустрэне, яны самі ўвайшлі ў хол. Быў ён не вельмі вялікі, але з высокай столлю, якую падпіралі дзве масіўныя калоны пад мармур. Справа і злева — абабітыя меднымі лістамі дзверы. З хола на другі паверх вяла нешырокая лесвіца, засланая зялёнай дывановай дарожкай. Па абодва бакі стаяла па тры ліхтары.
Антон запытальна паглядзеў на прадстаўніка. Той у адказ неяк прыязна і весела падміргнуў. Цяпер ён ужо не здаваўся піжонам і ягоная іранічная стрыманасць не выклікала непрыязнасці.
З другога паверха збегла па лесвіцы высокая чарнявая дзяўчына ў шэрай сукенцы і ў белым накрухмаленым чэпчыку. Яна сарамліва ўсміхнулася, і Антон заўважыў на яе шчоках ямачкі.
— Калі ласка, праходзьце ў залу, гаспадар хутка будзе,— з лёгкім акцэнтам сказала дзяўчына па-руску.

— А як ваша імя? — галантна раскланяўшыся, спытаўся Алег.
Дзяўчына пачырванела.
— Жанета...
— Значыцца, па-нашаму Жана,— сказаў Алег.— Вы руская?
Дзяўчына нахіліла галаву і пабегла па лесвіцы наверх.
— Густ у старога дай божа кожнаму,— падзівіўся Алег.
Антона ўразіла гэтая прыгожая жвавая дзяўчына ў маўклівым змрочным доме. «Якраз, як птушка ў клетцы»,— падумаў ён.
Зала была абстаўлена багата. Цяжкая і, мусіць, дарагая мэбля цьмяна пералівалася пад святлом крыштальных плафонаў на жоўтых сценах. Амаль над кожным свяцільнікам віселі карціны: Шышкін. Рэпін, Айвазоўскі...
— Копіі,— шапнуў на вуха Алег,— але ж домам запахла...
Пасярэдзіне залы стаяў доўгі стол, накрыты зялёным абрусам. Вакол яго некалькі крэслаў, на далёкім канцы — шырокае, на доўгіх тоўстых ножках. Алег асцярожна падышоў да гэтага крэсла, памацаў яго.
— Спаць зручна,— сказаў ён.— Аднак у такім паважным узросце, як у твайго старога, небяспечна: можна заснуць і не прачнуцца...
Дзверы нечакана адчыніліся, і ў залу зайшоў высокі сівы чалавек. На выгляд яму можна было даць не больш шасцідзесяці. У вочы адразу кінуліся моцныя, зусім не старэчыя плечы, вялікія рукі. На ім быў апрануты чорны фрак, вузкі ў таліі, грудзі аблягала белая манішка. Падцягнуты, з вялікай адкінутай назад галавой, ён нагадаў былога вайскоўца. У яго твары, парэзаным глыбокімі маршчынамі, у зеленаватых, трошкі выцвілых вачах, у доўгім з невялічкай гарбінкай носе, тонкіх валявых губах, у вострым з ямачкай падбародку, які ўпарта выдаваўся наперад, Антон угадваў нешта знаёмае.
— Добры дзень, панове! — сказаў ён і схіліў сівую галаву.
Прадстаўнік нетаропка падышоў да гаспадара, падаў руку.
— Чым маглі, тым памаглі,— сказаў ён.— А каторы з іх ваш унук, разбірайцеся самі. Мне час дадому...
— Ж-а-а-нет! — гучна паклікаў стары. А калі з бакавых дзвярэй у залу выбегла пакаёўка, загадаў: — Перадай Сымону, каб ён адвёз Аляксея Спірыдонавіча ў прадстаўніцтва.
Пакаёўка хуценька выбегла. Прадстаўнік падышоў да хлопцаў.
— Шчасліва заставацца,— сказаў ён,— як у вас гавораць, сем футаў пад кіль!
— І вам шчасліва,— адказаў Антон.— І шчырае дзякуй...
Ён убачыў, як за дзедам адчыніліся дзверы і ў пакой увайшла невысокая светлавалосая жанчына ў доўгай, да самай падлогі, сукенцы.

## РАЗДЗЕЛ ВАСЕМНАЦЦАТЫ

Пакой, у якім яны сядзелі, можна было б назваць утульным, каб не такое яркае святло. Невялічкі, квадратны, з двума вокнамі, завешанымі цяжкімі шторамі, ад якіх трохі мігцела ў вачах, ён не быў загрувашчаны мэбляй, стаяла толькі самае патрэбнае: стол, некалькі крэслаў, маленькі газетны столік, на якім блішчэла талерка-попельніца.
За сталом з двух бакоў сядзелі Сяргей Нічыпаравіч з жонкай і Антон з Алегам. Бліскучае святло залівала пакой, і Антону здавалася, што на іх навялі пражэктары.



Гаспадыня — бабка! — Антону адразу спадабалася. І хоць да сустрэчы ён быў настроены супраць яе, цяпер, седзячы насупраць, не знаходзіў у сабе да яе ніякай непрыхільнасці. Яму спадабаліся і яе добразычлівы позірк чорных уважлівых вачэй, і прастата, з якой яна назвала сябе,— Вера Кірылаўна.
Можа, Антона прымірыла з Верай Кірылаўнай і тое, што яна аказалася ўжо немаладой жанчынай. Раней, калі ён пачуў, што Вера Кірылаўна ўнучка графа Ярмалеўскага, дык міжволі ўявіў сабе маленькую прыгожую драпежніцу, якая чакае смерці свайго мужа.
Цяпер Вера Кірылаўна стала нейк бліжэй, чым дзед, які, ганарыста адкінуўшы назад галаву, глядзеў на Антона ва ўпор сваімі зялёнымі выцвілымі вачыма.
Маўчанне за сталом прыгнятала. Быццам нейкая нябачная сцяна адгарадзіла гаспадароў ад гасцей, нібы яны прыглядаліся адзін да другога.
Па дзедавым твары прабег ледзь прыкметны цень. Як бы штосьці ўспомніўшы, ён узяў у рукі графін, наліў спачатку Веры Кірылаўне, потым хлопцам.
Гаспадар устаў з-за стала, і Антон падумаў, што пачне гаварыць залішне доўга і ўрачыста. Але ж памыліўся.
— Па-рускаму звычаю давайце вып'ем,— сказаў Сяргей Нічыпаравіч і паглядзеў на Антона.
Потым, не чакаючы астатніх, зусім па-мужыцку кульнуў чарку, задаволена патрос галавой.
Вера Кірылаўна засмяялася.
— Не адвык яшчэ...
Сяргей Нічыпаравіч выцер сурвэткай вусны.
— Хоць гэта ды засталося...— пажартаваў ён.
Калі ўсе выпілі, гаспадар звярнуўся да Антона:
— Ці падабаецца табе твая работа?
«Ці не хоча ён запрасіць да сябе?» — у думках усміхнуўся Антон, а ўголас сказаў:
— Работа — яна заўсёды работа...
— Ну не скажы,— нечага ўздыхнуў дзед.— Бывае работа па сэрцы, а бывае і так, што мусіш ісці, бо другога нічога няма...
Антон зразумеў, куды хіліць стары, і яму стала весела. Але ж не будзеш расказваць, што табе спецыяльнасць падабаецца, што ў цябе мноства сяброў. Таму ён адказаў коратка і трохі іранічна:
— Тыя, хто былі вымушаны, цяпер тут...
Антон кіўнуў галавой у бок акна. Стары нічога не адказаў. Затое загаварыла Вера Кірылаўна.
Чамусьці звяртаючыся да Алега, яна спыталася:
— Вам у моры не сумна? — у яе чорных вачах забегалі іскрынкі.— Міма праходзіць жыццё, а вы яшчэ такія маладыя...
— Чаму ж сумна? — пакрыўдзіўся Алег.— У мяне дзяўчына на судне ёсць...
Вера Кірылаўна здзіўлена акругліла вочы.
— А ў вас і дзяўчаты, як гэта сказаць, матросы?
— Ага,— пацвердзіў Антон і нечакана ляпнуў: — У нас раўнапраўе... Нават жанчыны-капітаны ёсць...
Сяргей Нічыпаравіч прыклаў да вуснаў сурвэтку, але яго выдаваў нос: ён трапятаўся, нібы птах. Затое Вера Кірылаўна слухала ўважліва, моўчкі, у яе вачах віднелася несхаваная цікаўнасць. Пэўна, для яе гэта была навіна.
— Як гавораць, каб не забылася,— наліваючы ў чаркі, сказаў

Сяргей Нічыпаравіч. Ён ужо не смяяўся.— За маладых агітатараў...— Стары усё ж такі не стрымаўся, каб не ўпікнуць Алега.— Мне адразу ўспомнілася юнацтва... Вось быў час! Як сказаў малады чалавек, раўнапраўе: кожны гаварыў, што хацеў... Аж галава кругам ішла... Нічога не зразумееш...

Увесь час Антон лавіў на сабе ўважлівы позірк Сяргея Нічыпаравіча, які быццам свідраваў яго з-пад густых калматых броваў. Але гэта не бянтэжыла, наадварот, ён адчуў палёгку, бо стары не маўчыць. Колькі хвілін назад яму здавалася, што за сталом сядзяць зусім розныя людзі, у якіх няма нічога агульнага. Цяпер жа ўзнікла ўпэўненасць, калі чалавеку не трэба шукаць нейкія словы, штосьці прыдумваць, што ён можа смела гаварыць тое, што думае.

Сам таго не жадаючы, Антон пашкадаваў старога, бо занадта жаласліва і бездапаможна прагучэла гэтае «нічога не зразумееш...» Захацелася распытаць дзеда аб тым, як ён жыў, паспрабаваць разабрацца ў ягоных учынках, зразумець, чаму ён пакінуў свой кут. Няўжо Сяргей Нічыпаравіч не адчувае сябе вінаватым нават перад маці?

Думкі ў галаве блыталіся. На імгненне Антон забываўся, што знаходзіцца далёка ад дому, што Сяргей Нічыпаравіч даводзіцца яму дзедам і, мабыць, чакае, калі Антон раскажа пра тое, як жыве маці, пра сябе. «Ну хай бы спытаўся першы»,— падумаў Антон. Але стары чамусьці не спяшаўся. Зноў загаварыла Вера Кірылаўна:

— Чалавека можна пазбавіць усяго: уласнасці, тытулаў...— яна з-пад апушчаных веек паглядзела на Алега.— Але душы пазбавіць нельга... Гэта вам цяжка зразумець...

— Не, мы разумеем,— адгукнуўся Алег.— Мне таксама ў моры часам дом сніцца...

Вера Кірылаўна быццам не пачула гэтай рэплікі.

— Хтосьці можа пашкадаваць мяне, што я жыву на чужыне. Абарыгенам, яно лягчэй: вось яна, іхняя зямля, на якой яны нарадзіліся і па якой ходзяць...— Вера Кірылаўна паказала рукой за вокны.— Але ж ніхто не мае права шкадаваць мяне за тое, што я — руская... Нялёгка, вядома, было... Вось і Сяргей Нічыпаравіч пачынаў простым інжынерам, а зараз...

Астатняга Антон не чуў.

Быццам праз нейкі туман прыйшлі да яго няяркія, але незабыўныя малюнкі. Успомнілася, як неяк маці збіралася ў горад, доўга корпалася ў бялізне, шукала, што можна павезці на продаж. Так нічога і не знайшоўшы, з маленькай скрыначкі дастала бліскучы гадзіннік з бранзалетам. Антон ніколі не бачыў яго дагэтуль. І калі ён спытаўся ў маці, чый гэта гадзіннік, яна адказала: аднаго інжынера.

Цяпер Антон не сумняваўся, што той гадзіннік быў дзедаў. Памятка ці скарб? Адзіны скарб, які бацька пакінуў сваёй дачцы... Кінуў яе, малую, на волю лёсу... Колькі ж ёй давялося вынесці з-за гэтага чалавека? Ці ж можна дараваць такое? Антон сядзеў, углядаўся ў маўклівы суровы твар Сяргея Нічыпаравіча, і яму захацелася ўстаць з крэсла, сказаць гэтаму чалавеку штосьці абразлівае, жорсткае. Яму стала непрыемна чуць дзедаў голас.

— Вера Кірылаўна, як жанчына, заўсёды перабольшвае,— сказаў Сяргей Нічыпаравіч.— Не кожны змог зберагчы сваю чалавечую годнасць. Многія з нас згубілі не толькі радзіму, але і саміх сябе... Жыццё — даволі жорсткая рэч, і трэба мець характар, калі на цябе глядзяць з пагардай, калі ўсе лічаць, што тваё жыццё засталося ў мінулым... Застацца чалавекам — значыцца ў любых умовах умець абараніць сябе, не даць растаптаць у сабе чалавека...



Антон не вытрымаў, кроў прыліла яму да твару.

— Сяргей Нічыпаравіч,— падаўшыся трохі наперад, спытаўся ён,— пра якую чалавечую годнасць вы гаворыце? Калі я вас правільна зразумеў, дык годнасць чалавека ў тым, каб на новым месцы пабудаваць свой уласны дом?

У пакоі раптам запанавала цішыня. Сяргей Нічыпаравіч сядзеў, нібы аглушаны, Алег нават перастаў жаваць. Толькі на твары Веры Кірылаўны не адбілася ніякіх пачуццяў. Мабыць, яна добра ўмела валодаць сабою.



— Гэта доўгая гутарка,— нарэшце адгукнуўся Сяргей Нічыпаравіч,— у нас будзе час. Прапаную выпіць яшчэ па адной.

Не дачакаўшыся згоды, дзед наліў у чаркі. Піць Антону не хацелася, але пачуццё маленькай перамогі, адчуванне таго, што дзеду патрэбны час, каб нешта сказаць у сваю абарону, трохі супакоілі яго.

Новая чарка не памагла, размова ўсё роўна не клеілася. Яшчэ трохі пасядзеўшы, Сяргей Нічыпаравіч прапанаваў пайсці пагуляць у парку. Вера Кірылаўна спаслалася на тое, што на дварэ холадна, і адмовілася. Алег таксама застаўся.

У парку сапраўды адчуваўся халодны подых восені. Незласлівы пакуль яшчэ вецер гуляў у вяршалінах голых дрэў. Толькі беластвольныя бярозкі яшчэ шапацелі лістотай.

Сяргей Нічыпаравіч дыбаў моўчкі, заклаўшы за спіну рукі. Уся яго мажная постаць выказвала гаспадарскую ўпэўненасць: глядзіце, як я жыву...

— Пра тваю маці я ведаю,— спыніўшыся каля ружовай альтанкі, за якой у негустым кустоўі блішчэла невялічкая сажалка, сказаў ён.— А як твае справы?

Дзедаў голас гучэў будзённа, спакойна, нібы ён меў нейкае маральнае права распытваць.

— Адкуль вы знайшлі наш адрас? — пытаннем адказаў Антон. Гэтая думка хвалявала яго ў рэйсе, не давала спакою і цяпер.

Стары задумёна паплямкаў вуснамі, на хвіліну заплюшчыў вочы, быццам збіраўся з думкамі або паспеў ужо забыцца, як ён знайшоў сваю дачку.

— Гэта не ў адзін дзень,— нарэшце адказаў ён.— Цэлых дванаццаць гадоў. Не так проста было. Я ж не ведаў, дзе маці твая засталася... Да ўсяго,— Сяргей Нічыпаравіч тужліва ўздыхнуў,— цяжка адшукаць чалавека, калі ён змяніў прозвішча...

Тое, што дзед сказаў «твая маці», а не «мая дачка», балюча ўразіла Антона.

— Дык вось, Сяргей Нічыпаравіч,— ціха сказаў Антон,— я не думаю, каб вы паклікалі мяне сюды захапляцца вашым садам. Ды я не такі чалавек, каб нешта хаваць... Давайце шчыра.

— Я таксама не прывык адводзіць вачэй,— павёў шырокімі плячыма стары.— Прысядзем,— прапанаваў ён,— мне ўжо не лёгка стаяць на нагах.

Антону стала смешна. «Прывесці маладую жонку лёгка,— падумаў ён,— а гаварыць стоячы — цяжка...» Але пайшоў за дзедам у альтанку, прысеў побач на лаўцы. Хацелася курыць, і ён, дастаўшы з кішэні пачак «Беламору», з прагнасцю зацягнуўся. Дзед нечакана ўзяў з ягоных рук пачак, доўга разглядваў папяросы.

— Шкада, што кінуў курыць,— сказаў ён.— Урачы забаранілі, а так бы з вялікай ахвотай... Але, урэшце, не ў гэтым справа. На мне туфлі таксама савецкія. Тут купіў...

Туга, што чулася ў голасе старога, не прымірыла Антона.

— Усё магло быць іначай, Сяргей Нічыпаравіч,— сказаў ён.— Маглі б курыць і гродзенскія, але ж вам, мабыць, падабаліся цыгары...

Антон падумаў, што гаворыць груба, што гэта неэтычна, але яму вельмі хацелася ўпікнуць дзеда. І гэта была не задзірыстасць хлапчука, а той выключны выпадак, калі маладзейшы адчувае сваю перавагу.

— Я, на жаль, не ведаю, што пісала вам маці, бо быў у рэйсе і не атрымліваў ад яе лістоў,— сказаў Антон.— Але калі б мы маглі з вамі параіцца, я сказаў бы, што гэта жорстка — турбаваць чалавека на старасці гадоў, абуджаць успаміны, каб у нечым апраўдацца. Вы гаворыце, шукалі дванаццаць гадоў... Я паспрабую зразумець гэта. Але ж ці зразумееце вы мяне? — Антон перадыхнуў, як бы шукаючы пераканаўчых доказаў.— Вы, мабыць, не ведаеце, што мой бацька загінуў на вайне. Дык вось, калі я падымаўся ў ваш асабняк, нечага падумаў пра вашага маўклівага шафёра...

— Не,— стары прыклаў рукі да грудзей,— ён няшчасны чалавек. Служыў у абозе і ніколі не страляў у людзей. За гэта я адказваю перад сваім сумленнем.

— І ўсё ж такі вы пашкадавалі гэтага... чалавека,— як мага спакойней сказаў Антон.— Добра, вы не змаглі разабрацца тады, усё кінулі, уцяклі. Можа вам, інжынеру, сапраўды было цяжка разабрацца... Але ж гэты ваш шафёр вучыўся ў нашай савецкай школе...



Стары нечакана ўзняў галаву, паглядзеў на Антона. Здавалася, яму было цяжка дыхаць, пад манішкай ліхаманкава хадзілі грудзі.

— Я з табой згодзен,— глуха сказаў дзед.— Такіх мы не шануем, грэбуем імі. Тыя, хто даўно сюды перасяліліся, як гавораць, старая гвардыя, не вельмі водзяцца з такімі, хто ў вайну... Проста зачыняюць перад імі дзверы. У вайну мы пераводзілі грошы, каб на іх у Расію пастаўлялі зброю... А ў гэтага чарвяка,— Сяргей Нічыпаравіч кіўнуў галавой у бок стаянкі для аўтамашыны,— нічога ў жыцці не засталося.

Антон задумаўся. Яму раптам здалося, што яго дзед дрэнна спіць па начах, што ўсе гэтыя гады ён думаў, пакутаваў.

— А наконт чалавечай годнасці,— зноў загаварыў дзед,— дык яна вярнулася да мяне праз доўгія гады пакут і выпрабаванняў, калі я зразумеў, што зрабіў трагічную памылку...

Стары падняўся з лаўкі, не чакаючы Антона, пайшоў па алеі. Ён ішоў згорбіўшыся, нібы нёс на сваіх плячах непасільны цяжар.

Антон дагнаў Сяргея Нічыпаравіча ўжо на прыступках. Дзед паглядзеў на яго скоса, спытаўся:

— А цяпер вы куды?

— Пойдзем лавіць рыбу,— адказаў Антон.— А потым дадому.— Падумаўшы, дадаў: — У порт прызначэння...

Дзед нечакана ўзяў яго за руку, зазірнуў у твар сваімі, цяпер шэрымі, вачыма.

— Складаны ты чалавек, Антон,— сказаў ён.— Глядзеў я на цябе і ўспамінаў, як некалі ў маленстве лавіў вожыкаў, бо за іх нядрэнна плацілі, а есці трэба было...

Вось і маці некалі сказала — «а есці трэба было». Але ж яна выгадавала Антона, паставіла яго на ногі, усё вынесла, вытрымала. А яе бацька збег...

Яны ўвайшлі ў хол. Моўчкі падняліся па лесвіцы, потым павярнулі ў калідор. Яшчэ здалёк Антон пачуў Алегаў голас.

«Абвастраецца»,— незласліва падумаў Антон.

Алег сядзеў на тахце побач з Верай Кірылаўнай, нешта даказваў ёй.

— ...Разумееце, гэта не ўсё так проста,— гаварыў Алег.— Толькі курыца можа загадзя сказаць, што знясе яечка. А чалавек ніколі не ведае, што з ім будзе заўтра...

«Ну і філосаф!» — падзівіўся Антон. Але ён убачыў, што Вера Кірылаўна слухае яго ўважліва.

І ўсё ж Антон вымушаны быў перабіць іх размову.

— Даруйце, нам трэба на судна.

Вера Кірылаўна адразу ўстала.

— Заўсёды будзем рады вам,— проста сказала яна і падала руку — Антону, потым Алегу.

— Можа, і вы калі-небудзь прыедзеце,— сказаў Алег.

Вера Кірылаўна спахмурнела, а Сяргей Нічыпаравіч развёў рукамі, уздыхнуў:

— Цяпер, бадай, позна... Хацеў тваёй маці перадаць падарунак, але ж ведаю — не возьмеш,— ціха сказаў ён.

— Не вазьму,— пакруціў галавой Антон.

Яны развіталіся.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

Ля борта судна плылі па сіняй вадзе маленькія белыя крыгі. На іх сядзелі прыціхлыя і стомленыя чайкі. Гэтыя маленькія крыгі, якіх так многа было раскідана па моры, нагадвалі прагулачныя цеплаходзікі, а чайкі — пасажыраў. Удалечыні скрозь ліловы туман ледзьледзь прабіваліся нияркія промні зімовага сонца. Яно вісела проста над вадой, нават не спрабавала ўзабрацца на чорнае неба, на якім яшчэ мільгалі жоўтыя зоркі. Гэта было незвычайна — зоркі і сонца, і Антон стаяў, як зачараваны. Ён бачыў, як далёка-далёка, амаль на самым небасхіле, высунуўся з вады шэры айсберг. Ён нечым быў падобны на недабудаваны высокі дом: з аднаго боку шэсць паверхаў, а з другога — толькі чатыры.

— Э-гэ-гэй!..— склаўшы рупарам рукі, крыкнуў Алег.

Рэха не вярнула крыку, затое азваўся Пятро Базан.

— Сціхні ты, божы адуванчык, без цябе на душы моташна...

— Калі моташна, дык асвяжыся, вады многа.

— Пагавары...— адразу ўспыхнуў Пятро.— Я табе не Ленка, што вушы развесіла... У момант марафет навяду...

Алег мог дараваць многае, але толькі не тое, што датычыла іхніх з Ленай адносін. Ён таксама ўскіпеў:

— Я даўно ведаў, што ты нікчэмны чалавек! Але не думаў, што да ўсяго яшчэ і дурань...

— Кінь, кампазітар. Яго бог пакрыўдзіў,— спыніў яго Юрка Старкоў.

На дзіва, Алег паслухмяна адышоўся да лееpаў штармавой агароджы.

Антон ведаў, што вінаваты быў не Саўцыла, не Пятро Базан — вінаваты былі няўдачы.

Цяпер Антон стаяў на палубе, глядзеў на стомленых шэрых чаек і думаў, што яны, самі таго не ведаючы, пакутуюць разам з матросамі. Чайкі чакалі, пакуль пойдзе трал, чакалі сваёй здабычы, якую, яны ведалі, падымаюць людзі. Але трал выцягнулі пусты. Рыба ўжо некалькі дзён не лавілася. Хлопцы хадзілі па судне маўклівымі злоснымі ценямі, падоўгу стаялі на палубе, глядзелі на мора. Парушыўся звыклы распарадак дня. Пасля сняданку збіраліся па каютах, прыкідвалі і так і гэтак, бегалі да начальніка радыёстанцыі, пыталіся пра навіны з іншых квадратаў, а рыбы ўсё не было. Заставалася спадзявацца на пошукавыя судны, якія разбегліся па акіяне.

Але галоўнае, што хвалявала ўсіх,— набліжаўся канец промыслу. Заставалася быць у моры менш за месяц. Нават тыя, хто найбольш думаў пра дом, цяпер з жалем падлічвалі дні. Антону часам здавалася, што цяпер ён глядзіць на людзей у мікраскоп: такімі рознымі яны аказаліся.

Нечакана над суднам рвануў цішыню сіплы працяглы гудок. Чайкі залемантавалі і, быццам падкінутыя нябачнай хваляй, узляцелі ў паветра.

— Гэта Пятровічу без рыбы сумна. Вось і не дае птушкам паспаць,— сказаў Юрка і прапанаваў: — Хадзем у сталоўку. Можа, хоць у даміно згуляем.

Яны пайшлі ў калідор, за імі накіраваліся астатнія. У сталоўцы было поўна матросаў.

Антон, убачыўшы першага памочніка, спытаўся ў яго:

— Гэта што, стыхійны мітынг?

Анісімаў пацiснуў плячыма.



— Не ведаю. Я таксама прыйшоў пабачыць людзей. Сумна аднаму старому ў каюце.

— Вядома, што сумна,— падтрымаў Юрка.— А каму цяпер весела?

— Трэба паклікаць капітана! — крыкнуў нехта з матросаў: — Пагаворым...

— Гэта можна,— згадзіўся Анісімаў. Абвёў хлопцаў вачыма, спыніўся на начальніку радыёстанцыі.— Злётай па Анатоля Канстанцінавіча.

— Маладзейшых няма? — абурыўся радыст.— У мяне ўжо дзеці...

— Тваё тваімі і застануцца,— усміхнуўся Анісімаў.

— Рыбу не шкерыў, дык хоць хай пабегае,— не вытрымала Лена.

Яна вынесла з камбуза табурэт і ўселася на ім каля раздатачнага акенца. Алег прымасціўся побач, нешта шаптаў Лене, і тая весела смяялася.

У сталоўку спусціўся капітан-дырэктар. Ён быў без фуражкі, у накінутым на плечы кіцелі.

— Святло ў гэтую хату,— сказаў Анатоль Канстанцінавіч.— Крыві прагнеце? Думаеце, заснуў там капітан? — Ён засмяяўся.— А чаму і не паспаць яму ў двухпакаёвай каюце? Ды павінен сказаць: сон да мяне ўжо некалькі дзён не ідзе. Як і рыба ў трал...

Капітан прысеў на крэсла, правёў рукой па шчоках.

— Во, і пагаліцца не паспеў. Ну, дык давайце. Хто самы смелы?

Мабыць, каб судна цяпер разламалася папалам, хлопцы і то так не здзівіліся б, як з таго, што голас падаў Фролыч.

— Анатоль Канстанцінавіч, мы ўжо неяк абмяркоўвалі гэтае пытанне,— падбіраючы словы, пачаў тэхнолаг.— Але ж мне хочацца, каб вы адказалі перад усім экіпажам: ёсць надзея, што прамысловая абстаноўка палепшыцца, ці не? Калі такой надзеі няма, дык прыйдзецца перакладваць у трумах скрыні, каб іх не пабіла і не раскідала ў шторм.

Фролыч зрабіў крок назад, нібы сам спалохаўся сваёй смеласці.

Капітан пацёр пальцамі лоб.

— Такой гарантыі я даць не магу,— жорстка сказаў ён.— Нават не маю права. Вы не маленькія дзеці, каб вас суцяшаць...

— Тады зразумела,— адгукнуўся тэхнолаг,— будзем мацаваць скрыні.

— Каму зразумела, а каму і не! — крыкнуў Юрка.

— Ты штосьці, Старкоў, хочаш сказаць? — павярнуўся да Юркі капітан.

— Даўно хачу! З самага пачатку рэйса. Але тады яшчэ сумняваўся, думаў, што не ўсё разумею, у чымсьці памыляюся.— Юрка ўзбуджана ўскудлаціў валасы, выйшаў на сярэдзіну.— Скажыце, Анатоль Канстанцінавіч, і вы, Васіль Дзянісавіч,— можна папракнуць экіпаж? Можа, мы працавалі дрэнна ці ленаваліся?

Анісімаў палез у кішэню, выцягнуў запісную кніжку, нетаропка пачаў гартаць старонкі. Хлопцы насцярожыліся.

— Каб адказаць на гэтае пытанне, прывяду лічбы,— сказаў першы памочнік.— Як гавораць, ад лічбаў нікуды не схаваешся... Дык вось, па тым, як мы выконвалі сутачную норму, наша «Бусоль» займае другое месца па флоце. Былі мы некалі дзесятымі, былі і далей, але ў прызёрах не хадзілі. Тут яшчэ трэба ўлічваць, што ў гэты спіс уключаны судны, якія раней за нас прыйшлі на промысел і таму былі ў лепшых умовах...

— Вось і я пра гэта,— не вытрымаў Юрка.

Пятро Базан, які прымасціўся ў самым кутку, ускочыў з месца і падняў руку, просячы цішыні.
— Што нам гэтае другое месца — грэе, ці што? — крыкнуў ён.— Усё роўна прэміі не будзе. Дык навошта яшчэ месяц па моры вандраваць, лепей адразу ісці дадому!
— Змоўкні, чыжык,— пакрывіўся радыст.— Колькі начальства загадае — столькі і будзем шастаць... Гэта табе не прыватная лавачка!
— Мне ўсё роўна,— буркнуў Пятро,— абы грошы плацілі...
Антон успомніў, як учора застаў Пятра ў каюце за лістом паперы. Высунуўшы ад стараннасці язык і нахіліўшыся над сталом, ён падлічваў, колькі зарабіў грошай.
Тады Антон толькі ўсміхнуўся. Калі не ловіцца рыба, ці мала чым можа займацца чалавек? Але цяпер ён зразумеў, што ўсё было не так проста. На душы стала прыкра, нейкая сіла штурханула Антона наперад.
— Табе прэмія патрэбна? — Ён ва ўпор паглядзеў на Пятра.— Я думаю, хлопцы не пашкадуюць па рублю, каб табе яе выплаціць.
Матросы засмяяліся.
— Яшчэ і аркестр ноймем...
Антону не спадабалася, што хлопцы пераводзяць размову на жарт.
— Смешнага тут мала,— сказаў ён, і матросы адразу аціхлі, насцярожыліся.— Вядома, нельга сказаць, што мы выйшлі ў мора з-за рамантыкі. Ды мне і не паверылі б. Але ж падлічваць кожную капейку, нават сваю, мазольную,— Антон зноў паглядзеў на Пятра,— гэта дробязна. Так можна забыцца і на галоўнае... А галоўнае — наш рэйс у нейкім сэнсе эксперыментальны. Ад нас чакаюць добрых вестак, за намі пойдуць астатнія. І калі мы не выканаем плана, трэба разабрацца, чаму так здарылася. Трэба, каб тыя, хто заўтра выйдзе у мора, верылі ў новы трал.— Ён павярнуўся да капітан-дырэктара.— Анатоль Канстанцінавіч, а якія паказчыкі ў тых суднаў, што лавілі па-старому, доннымі траламі?
Капітан-дырэктар быццам чакаў гэтага пытання.
— Прыкладна ў два разы менш нашай сутачнай нормы,— з нейкім задавальненнем адказаў ён, хоць і радавацца не было чаму.
— Значыцца, трал сябе апраўдвае. Тады ў чым прычына? — Антон абвёў вачыма хлопцаў.
— У рыбе...— жартам падказаў Фролыч.
— Во, во,— зноў падхапіў Юрка,— і я кажу, што ў рыбе!
Анісімаў слухаў моўчкі, чакаў, мабыць, нейкіх слушных думак, але, убачыўшы, што хлопцы хвалююцца, перабіваюць адзін другога, незадаволена сказаў:
— Бліжэй да справы.
— Я і гавару па справе,— адказаў Юрка.— Выходзіць, што толькі рыба вінаватая. Вось вы казалі, што многія судны лавілі ў лепшых умовах, калі толькі пачалася пуціна. А дзе ж мы былі ў гэты час?
— У заводзе,— падказала Лена.— Вяселле тваё гулялі...
Гэты раз хлопцы не засмяяліся, зразумелі, куды хіліць Юрка.
— За той час, што нас рамантавалі, можна было не толькі маё вяселле адгуляць, але і пераржаніць увесь экіпаж...— сказаў Юрка.— Мы бачылі, што рабочыя лянуюцца. А хто з нас пальцам паварушыў, каб паскорыць справу, каб дапамагчы?
— Памагалі,— махнуў рукой начальнік радыёстанцыі.— Частавалі папяросамі.
— На жаль, гэта так,— уздыхнуў Юрка.— Думалі, што рыба нас чакаць будзе... Мабыць, так меркавала і начальства. За ўвесь рамонт па пальцах можна падлічыць, колькі разоў я бачыў на судне капітана, першага памочніка... Пэўна, ім хапала спраў і ва ўпраўленні. Ніхто не гуляў... Аднак патрэбен быў кантроль. Мала нас заставалася на судне, але ж і мы маглі памагчы. Не думаю, што рабочыя курылі б, каб бачылі, што матросы працуюць...
Анісімаў пачырванеў.
— Ты, Старкоў, не вельмі крытыкуй, калі не разумееш усяго. Укамплектаваць экіпаж, арганізаваць падвоз прадуктаў — на гэта патрэбны не адзін дзень.
Капітан паглядзеў на першага памочніка з усмешкай. Хітравата прыжмурыўшы вочы, упікнуў:
— А ты не скачы, як певень на патэльні... Маглі з табой і графік скласці: дзень ты на судне, а я ва ўпраўленні, назаўтра наадварот. Правільна, Старкоў, улічым. І начальству параім...
Падтрымка капітана-дырэктара падбадзёрыла Юрку, ён пачаў гаварыць больш спакойна.
— Спадзяюся, што стаянка ў порце зараз не будзе такая доўгая. Тым больш, Васіль Дзянісавіч абяцаў не спісваць нікога з судна. Хлопцы прывыклі адзін да другога, працаваць пасля адпачынку пачнуць з ахвотай. А гэта вялікая рэч.
— Хто будзе працаваць, а хто і не...— буркнуў са свайго кутка Пятро Базан.— Я дык, напрыклад, больш на «Бусолі» ў рэйс не пайду. Хопіць.
— Давай, давай! — крыкнула Лена.— Цябе ніхто не трымае. На карову ты ўжо зарабіў...
Убачыўшы, што хлопцы трохі ўгаманіліся, Антон устаў.
— Ёсць яшчэ адна прапанова... Мне здаецца, што пошукавыя судны не павінны круціцца вакол нас. Трэба, каб яны былі ў адпаведных квадратах, вялі прамысловую разведку. Не ідзе ў нас рыба — запрасілі па радыё дзяжурныя судны. Глядзіш, і навялі нас на касяк... А то пакуль яны што знойдуць, нам і ў порт час...
— Правільна гаворыць,— падхапілі хлопцы.— Прывыклі толькі грошы падлічваць. Турысты...
Капітан-дырэктар выцягнуў з кіцеля запісную кніжку, штосьці таропка занатаваў у яе.
— Добра,— сказаў Анатоль Канстанцінавіч,— абяцаю, што гэтыя пытанні мы ўзнімем на нарадзе ва ўпраўленні флоту. А вам што сказаць? Усе працавалі сумленна. І для мяне гэта самае галоўнае...
Калі выйшлі на палубу, зорак ужо не было відаць. Толькі паранейшаму сядзелі на бліскучых маленькіх крыгах шэрыя чайкі.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

«Бусоль» уваходзіла ў заліў. Яна асцярожна, паволі пасоўвалася наперад праз белыя воблакі туману. Там-сям будзілі цішыню працяглыя гудкі параходаў. Сонечным зайчыкам прабег па вадзе прамень маяка. Папоўзаў трохі па судне, потым пераскочыў кудысьці далей, выхапіў з цемры рэйсавы цеплаходзік. У ягонай рубцы заўважылі «Бусоль», рэзка пераклалі руль улева, даючы дарогу. Гэты маленькі рэйсавы цеплаходзік, які хадзіў на востраў, нечым нагадваў зайца, які ўбачыў перад сабой паляўнічага.
Яны стаялі на палубе. Юрка ўзяў Антонаву руку, прыклаў да грудзей.

— Чуеш, як скача,— адным губамі ўсміхнуўся ён.— Нават не верыцца, што хутка...
З-за вялікай заснежанай сопкі раптам выбеглі агеньчыкі. Яны цягнуліся ўздоўж заліва, нібы падвешаныя да неба. Але Антон ведаў, што гэта не ліхтары, а вокны дамоў. Адчуў, як салодкія трывожныя дрыжыкі прабеглі па ўсім целе. Яму здалося, што там, дзе мільгаюць гэтыя цёплыя агеньчыкі, стаіць Святланін дом.
— Прыехалі,— амаль шэптам сказаў Антон.— Вось і прыехалі...
Агеньчыкаў станавілася ўсё больш і больш. Буйнымі рознакаляровымі зоркамі яны абсыпалі ўвесь небасхіл. Быццам напалохалі цёмную палярную ноч, і яна адступіла туды, на другі бок заліва, дзе высока дыбіліся пакатыя сопкі.
— Здаецца, кінуўся б зараз у ваду і паплыў...— нервова засмяяўся Юрка.— Вось што значыць вярнуцца дамоў...
Антон успомніў дзеда, ягонае сумнае і безвыходнае: «Цяпер, бадай, позна...», і невыказны жаль крануў Антонава сэрца. Ён не мог апраўдаць дзеда, але шкадаваў яго, як можа шкадаваць чалавек, які выйшаў з дому і ўбачыў на вуліцы беспрытульнага. Дзед проста не мог быць шчаслівы, бо некалі згубіў самае галоўнае, што ёсць у чалавека.
Судна прыцішыла ход, праз некалькі хвілін спынілася зусім. Загрукатаў на баку якарны ланцуг, потым пачуўся моцны ўсплёск, і амаль адразу з туману вынырнуў катэр з пагранічнікамі.
На палубу падняўся той самы старшы лейтэнант, які праводзіў іх у рэйс. Убачыўшы Антона з Юркам, радасна крыкнуў:
— Здарова, хлопцы!..
— Добры дзень, старшой,— адказаў Антон. Яму нечага вельмі захацелася абняць гэтага дужага вайскоўца.
— Які ж дзень? — засмяяўся пагранічнік.— Пакуль вы па свеце бадзяліся, дык усё пераблыталі...— Потым хітравата паглядзеў на Юрку.— Штосьці без музыкі сустракаюць. Мабыць, без плана ў порт прыйшлі?
— Крыху недабралі,— адказаў Юрка. Ён апусціў галаву: — Недабралі...
— Нічога,— супакоіў пагранічнік,— дома даберацё. Твая маладзіца ўжо даўно на прычале. Прасілася на катэр, але нельга...
Юрка страпянуўся, нібы пташка, паглядзеў на прычалы, быццам мог убачыць там жонку...
Таможны агляд і праверка дакументаў закончыліся хутка. Усе, хто быў вольны ад вахты, высыпалі на палубу. Хлопцы штурхаліся, перакідваліся жартамі, нецярпліва глядзелі на агеньчыкі. Яны нагадвалі малых дзяцей, у якіх закончыліся заняткі.
З рубкі выглянуў Пятровіч, на ягонай шыі па старой звычцы вісеў бінокль.
— Што, Пятровіч, касякі ўсё яшчэ шукаеш? — кінуў нехта.
— Адчапіцеся, нячысцікі! — адмахнуўся Пятровіч, звесіўшыся з масціка.— Гэ-эй, на баку! Выбірай якар!
— Не крычы, самі спяшаемся,— адгукнуліся з палубы.
— Забегалі, д'яблы...— паківаў галавой Пятровіч і знік у рубцы.
— І радасна і шкада...— нечакана прашаптаў Алег, і Антон зразумеў, пра што ён думае.
Алег сумна паглядзеў на скрыні, у якіх акуратна быў укладзены трал, бобенцы, кухтылі, на чыстую, прыбраную палубу.
— Здаецца, што нічога і не было...— зноў сказаў ён.
— Ты што, дадому сабраўся? — спытаўся Антон. Яму хацелася крыкнуць: «Ты ж наш хлопец, ты проста не маеш права гэта рабіць!..» Але ён нічога не сказаў, толькі з патаемным хваляваннем чакаў адказу.
— Што я, дурны? — паглядзеў на яго Алег.— Тут такія справы на флоце пачынаюцца, а я дадому?.. Не, дудкі!..
— На палубе! — крыкнуў у мегафон першы памочнік.— Далі дазвол падыходзіць да прычала!
— У-р-р-а-а! — закрычэлі хлопцы.
— У-р-а...— піснула над Антонавым вухам Лена. На ёй шэрае футра, на галаве — белы цёплы шалік.
— Ну, ты і прыбралася!..— толькі і змог сказаць Антон.
— А што, прыгожа? — Лена, дурасліва высунуўшы язык, пакруцілася вакол хлопцаў. З-пад апушчаных веек паглядзела на Алега. Той у адказ развёў рукамі і падняў угару вялікі палец.
Антону хацелася пажадаць Лене шчасця, сказаць, што яна добрая і прыгожая, а ён — дурань, бо не мог гэтага ўбачыць раней. Але толькі махнуў рукой і адышоўся.
Лена ўзяла Алега пад руку, паклала на ягонае плячо галаву. Ёй, мабыць, ніколі ў жыцці не было так утульна і спакойна.
У паветры круціліся маленькія кволыя сняжынкі, «Бусоль» паволі набліжалася да прычала, і Антон, убачыўшы радыста, радасна пляснуў рукамі. Ён таропка падбег да яго, пацягнуў за рукаў:
— Хадзем у рубку!
Радыст паглядзеў на Антона, як на вар'ята.
— Я ўжо рубку запячатаў... Жонка з дзецьмі на прычале чакае...
— Ты чалавек ці не? — упарта спытаўся Антон.
— Ну, чалавек...— здзіўлена адгукнуўся радыст.
— Тады ты пойдзеш.
Начальнік радыёстанцыі пацiснуў плячыма, хацеў нешта сказаць, але, паглядзеўшы на Антонаў твар, уздыхнуў, выцягнуў з кішэні паліто ключы.
— Звар'яцелі вы сёння ўсе...
— Во, во,— засмяяўся Антон,— звар'яцелі... І сам ведаеш, чаму...
Яны падняліся ў радыёрубку. Антон адразу палез у маленькую шафу, выцягнуў пласцінкі. Радыст усеўся на крэсла, расшпіліў паліто, скоса паглядваючы на Антона, нездаволена чмыхаў, нешта бурчэў сабе пад нос. «Ну і нудны чалавек,— усміхаючыся сваім думкам, паглядзеў на радыста Антон.— Як з такім жыве жонка?»
Ён, нарэшце, знайшоў пласцінку. Паклаў яе на прайгравальнік. Потым загадаў радысту:
— Давай трансляцыю на верхнюю палубу!
— Ты хто такі? Ты хто такі?..— ускочыў той з крэсла.— Можа, цябе ўжо прызначылі на маю пасаду?
— Ну, не цягні ты душу! Так трэба!..— паморшчыўся Антон.
Начальнік радыёстанцыі апусціў плечы, уключыў трансляцыю. Антон хуценька выскачыў на шлюпачную палубу. Ішоў снег, быццам вялізныя белыя дубы, выраслі ў вачах партовыя краны. Яны, як сівыя вартавыя, выцягнуліся ўздоўж прычалаў. Там, каля іх, мітусіліся маленькія постаці. У дынаміках нешта зашыпела, а потым разнёсся над морам пяшчотны і сумны голас:

Мой самый главный человек,
Взгляни со мной на этот снег,
Он чист и бел, как наяву...

Антон паглядзеў уніз. Алег стаяў задумёны, клапатліва трымаў пад локаць Лену.

Нейкая пакутлівая журба агарнула Антона. Ён глядзеў, як вырастаюць у вачах прычалы, дамы, людзі. З пірса махалі рукамі, хусткамі, нешта крычалі.

Антон не вытрымаў, кінуўся да хлопцаў на ют. Падбег да Юркі, патузаў яго за плечы.

Толькі вузкая палоска вады аддзяляла судна ад прычала. І раптам яны ўбачылі Кацю. Яна выбегла з натоўпу, узабралася на чорны кнехт, махнула ў паветры хусткай.

— Што робіць, што робіць! — схапіўся за галаву Юрка.— Ёй жа нельга... Злазь, дурная, злазь!..— не сваім голасам закрычэў ён.

Мабыць, Каця пачула. Яна саскочыла з кнехта, спынілася, прыціснула да грудзей рукі.

— Ю-ю-р-к-а! Юр-ка!..

У яе голасе чулася такая радасць, што Юрка як звар'яцелы кінуўся на лееры штармавой агароджы.

Антон застаўся адзін. Ён глядзеў, як, нібы па вінтавой лесвіцы, падымаюцца ў чорнае неба агні. Шукаў вачыма знаёмую постаць і не знаходзіў. У грудзях расло і балюча кранала сэрца пачуццё адзіноты.

«Вось так,— сумна падумаў ён.— Вярнуўся дадому...»

Ён стаяў разгублены, адзінокі, і яму здавалася, што ўсё тое, што было раней, стала нязначным і маленькім. Ён панура ўзняўся зноў на шлюпачную палубу, каб не замінаць чужому шчасцю.

Бліскучыя шырокія промні пражэктараў скрыжаваліся на натоўпе, і з палубы гэты натоўп нагадваў мурашнік. Апошні раз з нейкай пакутлівай надзеяй Антон паглядзеў у бок прахадной і не ўбачыў той, якую чакаў і ў душы верыў, што яна прыйдзе...

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

Днём трохі пасвятлела, але ноч і не думала адступаць. Чорная, яна схавалася за сопкі, быццам чакала свайго часу. Толькі там, дзе ўдалечыні патанала стужка заліва, неба стала блакітнае, нібы ў шэрую фарбу хтосьці выліў бялілаў.

Па-ранейшаму ішоў снег. Ён быў нейкі размоклы, ліпкі. Ён абляпліваў паліто, раставаў на твары і халоднымі ручайкамі поўз па целе.

Ідучы побач з Алегам і Ленай, Антон Булынка нечакана адчуў, што ён супакойваецца. Яму было прыемна, што з ім Алег, да якога ён вельмі прывык і якому верыў. Верыў у тое, што ў Алега да Лены не хвілёвае захапленне, а сапраўднае моцнае пачуццё.

Ён штурхнуў локцем Алега ў бок.

— Давай зойдзем на пошту.

— Маэстра, што за абнаўленне праграмы? — здзівіўся Алег.— Мы ж дамовіліся арганізаваць таварыскі абед у «Арктыцы». Ці ты забыўся?

Антон пакруціў галавой. Упарта паўтарыў:

— Хадзем на пошту. На хвіліну.

Цяпер ён ведаў, што рабіць. Гэта было, як маланка: нешта ўспыхнула перад вачыма — і тое, што здавалася незразумелым, адразу пасвятлела.

— Калі там цябе чакае інтымная перапіска, дык я згодзен у кампаньёны,— пажартаваў Алег.

Да пошты ісці было далёка. Антон падумаў, што дарэмна яны пайшлі гуляць па горадзе, зайшлі аж на другі канец: цяпер вяртайся назад пад снегам. Успомніў пра Хлебнікава, і гэтая думка адразу здалася недарэчнай. Антон ведаў, што ён проста абавязаны зрабіць тое, што надумаўся.

Увесь час, пакуль ішлі, Алег нешта незадаволена бурчэў сабе пад нос, а Лена ўсміхалася. Ёй, мабыць, было ўсё роўна, куды ісці, абы побач з Алегам.

У будынку пошты людзей аказалася мала. Нават ля кабінаў міжгародняга тэлефона. За шкляным акенцам, на якім вісела маленькая шыльдачка «Газетны кіёск», мірна спала жанчына. Антону не хацелася яе будзіць. Ён трохі патоўкся каля кіёска. Нарэшце ціхенька пастукаў у шкло. Жанчына ўзняла галаву, вінавата ўсміхнулася:

— Прабачце. Муж раніцой з мора вярнуўся. Дык я яго на прычале сустракала...

— Зразумела,— сказаў Антон і пашкадаваў, што разбудзіў гэтую жанчыну.— Выпадкам, не на «Бусолі» ходзіць?

Яму нечага вельмі захацелася, каб муж гэтай жанчыны быў абавязкова з іхняга судна.

— Не,— адказала жанчына,— ён на «Паміры»... А вам што, газеты?

— Газеты нам сёння аж за тры месяцы прынеслі. Так што і да наступнага рэйса ўсе не перачытаю,— засмяяўся Антон.— Мне на рубель марак. І канверт.

— Філатэлістычных? — спыталася жанчына.

— Звычайных,— азваўся Антон. Потым, падумаўшы дадаў: — Самых звычайных...

Жанчына паглядзела на яго са здзіўленнем, але нічога не сказала. Доўга адлічвала маркі. Нарэшце падала іх Антону. Крыху памарудзіўшы, ён паклаў іх у канверт. Потым прайшоў праз усю залу, сеў за столік, узяў ручку. Акуратна, вялікімі літарамі напісаў на канверце: «Васілю Хлебнікаву» і заклеіў канверт.

Лена з Алегам таксама сядзелі за сталом, аб нечым весела размаўлялі. Антон паклікаў іх. Лена падышла радасная, усхваляваная.

— А мы, Антон, пакуль судна будзе стаяць, вырашылі ў Маскву паехаць.

— Віншую,— сказаў Антон.— Табе вельмі пашанцавала. Не кожную дзяўчыну возяць у сталіцу.

— І мне таксама,— засмяяўся Алег.— Не кожны мужчына вяртаецца дадому ў такім суправаджэнні...

— Вось што, браточкі,— калі зноў выйшлі ў завіруху, сказаў Антон.— Абед, мабыць, сёння будзе без мяне... Справа вялікая ёсць. Трэба да аднаго чалавека зайсці...

Алег з Ленай пакрыўдзіліся, але выгляду не падалі. Развіталіся, і ўжо калі Антон крыху адышоўся, Алег крыкнуў наўздагон:

— Будзе час — прыходзь! Чакаем!..

Ад гэтых слоў пацяплела ў грудзях. Усё ж такі ён не адзін, ён патрэбны, яго чакаюць. І адразу стала лягчэй.

Антон ішоў і думаў пра тое, што, бадай, яшчэ ніколі не адчуваў такой адказнасці за свае ўчынкі. Дзесьці далёка-далёка засталіся тыя бясконцыя ночы, калі ён чакаў сустрэчы са Святланай, думаў пра яе. Цяпер нічога гэтага не было. Разгубленасць і няўпэўненасць засталіся ў мінулым, як нейкі сон. Антон не ведаў, як бы ён паводзіў сябе, калі б Святлана прыйшла на пірс, але зараз чамусьці вырашыў, што ён сустрэў бы яе толькі як таварыша, з якім прыемна ўбачыцца.

Гэтыя думкі, то супярэчлівыя, то зладжаныя, памалу захапілі Антона, і ён нават не заўважыў, як падняўся па лесвіцы і націснуў

кнопку званка. Схамянуўся толькі тады, калі дзверы адчыніліся і ён убачыў Святлану.

— Антон! — радасна сказала яна.— Я чула, што вы сёння прыходзіце, але ў нас з Васілём не было часу... А ты малайчына, што зайшоў...

Гэтыя словы неяк праляцелі міма ягонай свядомасці. Мабыць, прайшло многа часу з таго моманту, як ён выйшаў у мора. Антон проста стаяў і глядзеў на жонку Хлебнікава. Яна па-ранейшаму здавалася вельмі прыгожай і зусім не стомленай, як тады, у шпіталі.

— Як адчувае сябе лейтэнант? — нарэшце спытаўся Антон.

Яму раптам вельмі не захацелася заходзіць у гэтую добра абсталяваную кватэру, з якой было звязана ў ягоным жыцці нямала надзей.

— Васілю цяпер добра. Ездзіў на курорт,— адказала Святлана. Потым спахапілася: — Чаго ж ты стаіш у дзвярах?

«Ездзіў на курорт...— падумаў Антон.— Курорт — ён дапамагае...»

Святлана паглядзела на яго запытальна, шырока расплюшчанымі вачыма.

— Я толькі на хвілінку,— сказаў Антон і сам адчуў палёгку.— Калі Васіля няма, я зайду другім разам...

Святлана апусціла вочы.

— Глядзі сам,— ціха сказала яна.— А я цябе чакала...

Ад гэтых слоў моцнымі штуршкамі забілася сэрца. Але Антон не падаў выгляду, працягнуў Святлане канверт.

— Вось,— сказаў ён,— гэта прасіў лейтэнант.

Антон нават не падумаў пра тое, што Святлана можа адкрыць канверт. Цяпер яму стала ўсё роўна. Проста яму вельмі хацелася, каб Хлебнікаў усё зразумеў...

Святлана сумна ўсміхнулася, працягнула руку.

— Дзякую,— сказала яна. Трохі падумаўшы, дадала: — А ікры Васіль дастане...

«Нічога ты не разумееш,— з горыччу падумаў Антон.— Ды і што можна зразумець у гэтым маленькім цесным кутку...»

На вуліцы было ўжо зусім цёмна. Ноч вярнулася ў горад без зорак. Але далёка ўнізе тысячамі рознакаляровых агеньчыкаў падсвечваў чорнае неба порт. Даносіліся гудкі суднаў, сіплае дыханне паравозаў.

Антон Булынка яшчэ доўга стаяў на заснежанай вяршыні, прыслухоўваўся да неспакойнага гоману порта. Ён ведаў, што хутка адтуль пачнецца новая нялёгкая дарога, якой, мабыць, няма канца. І калі ён ужо пачаў спускацца па слізкіх прыступках, нечакана ўбачыў удалечыні знаёмыя агні рэкламы:

ЕШЬТЕ МОРОЖЕНОЕ — ОНО ХОРОШЕЕ!

Антон радасна і шчасліва засмяяўся. Яму захацелася хутчэй трапіць на плошчу, дзе гарыць гэтая старая рэклама і адкуль вуліца вядзе проста да прычала.

■ ■ ■





***ніл гілевіч***





ПАЭЗІЯ

## Першы вясновы лівень

**Яго чакалі мы на кожным дні,
І ўсё ж уразіў ён, як нечаканасць:
Густы і цёплы, хлынуў з вышыні —
Змываць пазім'е, разганяць
заспанасць.**

**І ты, пад музыку мільёнаў струн,
Шчаслівы, шэпчаш: «Верце, людзі,
верце —
У дружны рост усходаў і задум,
У добры плён на ніве і на сэрцы!»**

■

**З крыўдаў-скарг хацеў я песню
скласці,
Каб на лёс паплакацца цішком.
А мой лёс сягоння веру ў шчасце
Камсамольскім азарыў значком,**

**А мой лёс уподбег, з русай грыўкай,
Першалісты маі нясе ў руках —
І не хоча знаць ніякіх крыўдаў,
І не хоча чуць ніякіх скарг.**

■

**Паклон табе, мой беларускі краю!
Ты — мой, я — твой: ад роду і навек.
Я зноў і зноў да сэрца прыкладаю
Твой ліст дубовы — як чароўны лек.**

За хлеб, што ем, за песні, што спяваю,
За шчасце звацца іменем тваім —
Паклон, паклон табе, мой родны краю!
Ты — мой, я — твой: усюды і ва ўсім!

■

І жэніцца і родзіць вёска слаба.
Гісторык з часам знойдзе веку штрых:
У кожнай хаце — толькі дзед ды баба,
У кожным класе — толькі сем малых.

А помніцца: на школьны пляц-
падворак
З адной сям'і нас бегла семярых...
Ці зразумее будучы гісторык,
Як мне ўпіваўся ў сэрца «веку
штрых»?

■

Ах, як вітаў ён песняй родны кут —
Салоўка шэры на світанні веснім!
Слязамі шчасця плакаў росны куст,
Зямля і неба слухалі знямеўшы.

І чалавек прачнуўся ў гэты час.
З вялізнымі вушамі быў, а птушку
Пачуць не змог: злавіў у скрынцы
джаз
І громкасць уключыў на ўсю катушку.

## Усмешка паэта

Вясковы ранак на пачатку чэрвеня,
З пары маленства выкліканы
памяццю:
Каровы пасвяцца па роснай шэрані,
З сяліб дымкамі цягне — печы
паляцца.

А росы колкія — аж бегчы хочацца,
А неба сіняе — аж перасінена...
Вясковы ранак, як маленства —
сонечны,
І беларускі — як усмешка Пімена!

■

Жанчыны вёсак беларускіх, вам
Я кланяюся ўклонам самым нізкім —
За кожную іскрынку характва,
Што ззяе ў слове, ад калыскі блізкім.



Пачуеш вас, не зманеных маной,—
І весялей глядзіш у твар эпохі.
Дык пасядзіце ж, любыя, са мной,
Пагаманіце, пагукайце трохі...

■

*Н.*

У звечарэлым садзе, што, цямнеючы,
Туліўся ў першай восеньскай журбе,
Я прыгарнуў твой ценькі стан,
няўмеючы,
І ўпершыню пацалаваў цябе.

Пасля... пакуль з вачэй не знікла
ў засені —
Стаяў адзін на гулкай паласе...
Ах, як жа тахкалі твае абцасікі!
Ад стуку — грудзі, думаў, разнясе!

■

І ў лугах беларускіх, напэўна, цяпер
ужо вечар:
Дрэмлюць соладка травы, паснулі
кусты над крыніцаю.
Спі і ты, як травінка, а я за цябе
па-язычніцку
Памалюся на неба, на зорак маўклівае
веча.

Пра цябе ды Радзіму цяпер мая
кожная думачка,
Хоць малітвы маёй ты за даллю
далёкай не чуеш
І не знаеш, як горача, як апантана
шапчу я:
«Спі, мая лугавая, мая залатая
мядуначка!»

■

Лес ачнуўся, лес вялікадне святкуе —
Вунь як весела ў зялёнай грамадзе!
Толькі дуб адзін вясны як бы й не
чуе —
Нават леташнім лістом не паведзе.

Не да твару дубу ў гурце мітусіцца
І вітаць агульным шумам навізну.
Ён пазней за ўсіх павінен заявіцца
На ўрачыстасць — і сказаць:
«Пачнём вясну».

■

Я — за прагрэс. І сэрцам і душою.
Ды і чаму мне не вітаць прагрэс?
Куды ні глянь — мой край, як сад
вясною,
Непазнавальна абнавіўся спрэс.

Адну надзею толькі ў сэрцы маю
(Пра гэта скажа нехта, як пра грэх),
Што родны край і праз вякі пазнаю
Па песні матчынай...
Я — за прагрэс.

■

Зноў у спадчыну прадзеда лезу,
Каб яшчэ раз душою дапасці,
Як пад вечныя пошумы лесу
Гнеў спяліў ён у думах аб шчасці.

Як ён прагнуў з нядоляй расстацца,
Як ён марыў аб братняй суполцы,
Каб не чуцца абкрадзеным старцам
І не плакаць слязамі прапойцы!

■

Тут, дзе вучыўся і араць і сеяць,
Адкуль панёс і песню ў свет сваю,
Я з пасівелай галавой стаю
І слухаю асін журботны шэлест.

І неадчэпна ў ціхай мове лісця
Адно пытанне ловіць прагны слых:
«Скажы, ты шчаслівейшы стаў за тых,
Што тут араць і сеяць засталіся?»

■

Знаю: мне не вяртацца гэтым шляхам
ніколі —
На апошнюю ростань, на спатканне
з былым.
Белай стужкай дарога раскацілася
ў полі,
А па ўзбоччы дарогі — толькі шызы
палын.

Дзівакам неабачным — лёс кладзе
засцярогі.
Дзівакам застаецца сумна-горкі
ўспамін...
Сонцам плавіцца далеч, дзень самлеў
ад знямогі,
А па ўзбоччы дарогі — толькі шызы
палын.





■

Усё ў чалавеку, што робіць яго
чалавекам:
І памяць, і клопат надзённы, і мараў
разбег.
Таму і не проста яго зразумець, што
ў сабе
Сучаснасць ён лучыць з мінулым і
будучым векам.

Як дрэва карэннем у доле, у сховах
нябачных,
Лістотай — у сонцы, насеннем — у
заўтрашнім дні,—
Таксама і ён: да жыцця паўстае
з глыбіні,
Каб сцвердзіць сябе і застацца ў
нашчадках удзячных.

■

Гады прад сабою раскіну наўсцяж —
І бачу: не раз і не двойчы
Мне радасць мільгнула, як
грыб-звадыяш,—
Паганка, іначай, ці «воўчы».

Угледзіш — і шчасцем асвеціцца бор!
Але праз секунду-другую —
З усмешкаю горкай саб'еш мухамор
Ці порхаўку стопчаш рудую.

■

Асветленыя лавачкі — амаль усе
пустыя,
Зацененыя кусцікамі — пазайманы
скрозь.
Дальбог, дарма ад моладзі жахаюцца
старыя,
Дарма завуць распуснікамі:
сарамлівасць ёсць!

Ёсць сарамлівасць, мілыя бабулечкі
святыя!
І будзе вечна: моднае «каханне»
пранясе.
Вы бачыце: асветленыя лавачкі —
пустыя,
Зацененыя кусцікамі — пазайманы
ўсе!

■

Малою — страх вось так яна ўяўляла:
«Адна праз лес дамоў ішла я ўночы —
І так ваўка спаткаць мне страшна
стала!
На шчасце, ззаду нейкі дзядзька
крочыў...»

Іначай страх яна ўяўляе сёння:
«У лесе чую — наганяе хтосьці:
Зірнула — дзядзька нейкі незнаёмы!
Так страшна стала — бегла аж да
вёскі...»

■

«Мне не вельмі да спадобы рай
прынадлівага поўдня,
І скажу табе — хоць, можа, нехта
фыркне з абурэння:
Люд на пляжы — агрэсіўны, мора —
цёплае, як пойла,
А мядуз — аж гідка лезці: што
ў балотцы жабурэння!
Як на здзек — на кожным кроку
прапануюць за рублёўку
Мне зазняцца — у абдымку з нейкай
стромай вастраверхай...
Адным словам — прыязджай ты!
А то, кінуўшы пуцёўку,
Я прыеду сам — прыпруся ўслед за
гэтым акравершам!»

■

«Нашто трымацца так за памяць
продкаў?!» —
Скрывіўся крытык, прачытаўшы
вершы.
О, тонкі майстар каверзных папрокаў,
Схавай капусны храпак, што жуеш ты!

Паразумецца нам не ўдасца, мусіць:
Мяне — радзіла ў цяжкіх муках маці,
Цябе — гатовага знайшлі ў капусце:
Табе — даволі за качан трымацца!





**святлана лобач**



ПАЭЗІЯ



■

Сціхае боль. Не вечна быць бядзе.
І цесна, і няўтульна у пакоі,
І цягне, як магнітам, да людзей,
У звонкі бор, у поле залатое.

Абняць зямлю, наколькі хопіць рук,
Адчуць яе цяпло уласным целам,
Яе дыханне, кожны шоргат, гук
Лавіць, як песню, сэрцам набалелым.

Дзівіцца фарбам... Нібы ўпершыню,
Трымаць ў сваёй далоні важкі колас
І радавацца сонечнаму дню...
Глядзі, зямля, мацнеюць сілы, голас,
Мацнее крок...





*міхась стральцоў*

# АСЕННІМ ДНЁМ

## АПАВЯДАННЕ

Мал. К. ЦІХАНОВІЧА

Ідуць ужо халады, бяруцца прымаразкі — ападаюць інеем сырыя туманы. Чарсцвее зямля, і цёмным, ільсняна халодным зяленівам б'е ў вочы парадзелая пры дарозе трава. Ужо выпетрала зяблівa, пасівела ў гародчыках і пазванчэла бадыллё, і панішчымнела паветра. Неба ўдзень ужо ніжэй прыпадае, ціснецца да зямлі. Яшчэ выганяюць на пашу кароў — далей ад вёскі, у лес. Падвечар жывёла не хоча вяртацца ў хлеў, цаляе адбіцца ў прапахлае бульбоўнікам і сцюдзёным капусным водарам поле.

І вечарамі, і ўранку марозліва, хмельна, бы першаком, пахне ў наваколлі дымам.

Такою парою у вёсках свяжуюць вепрукоў.

Мне даўно хацелася напісаць адно апавяданне і назваць яго так: «Смаленне вепрука». Цяпер я ведаю, што бадай не напішу: баюся, каб тое, пра што хацеў напісаць, не прыцішылася няўзнак, а то і не загубілася там, у здзейсненай пісаніне, а яно ж мне самае важнае. Дык навошта ж тады згадваю і навошта пішу? Не ведаю. Мне проста падумалася, што можа ўсё ж абзавецца наастачу нейкай логікай тое, што тут раскажу. Паглядзім.

Я жыў тады ў нечапанай частцы горада, калі надумаўся пісаць, у старым раёне, забудаваным няўклюднымі цаглянымі, а найбольш драўлянымі дамкамі, што ўсцяж патаналі ў садах. Да тых дамкоў церабіўся ад вуліцы вузкі і глыбокі, як прасека, двор; здаралася, быў ён са сцежкай, цвёрда выбітай у парудзелай чэзлай траве, у лапушыстым кустоўі трыпутніку, у сухім разлапістым, як дрэва, рамонку. Пад засенню вішні, бэзу або язміну там можна было бачыць без асаблівага старання агораны стол, часам новы, з тонкіх шалёвак, а то і пацямнелы, на прысадзістым тоўстым слупку: дошкі струхлявелі, пашчарбаціліся на круглых брыжах, і павыбіваліся ямкі ля пагнутых, заржавелых цвікоў. Былі і столікі, падноўленыя свежай дошкай, і яна выдавала нязвыклай тут і кідалася ў вочы, не раўнуючы, як драпіны на чалавечым твары.

Цяпер мала засталося ад таго раёна — адны лапінкі, астраўкі, заціснутыя кварталамі несамавітых бязверхіх дамоў. Засталіся ля новых будынін, побач з дзіцячымі пляцоўкамі, то крывая кашчавая яблыня, то вішня, што вырасла ў дрэва,— купчастая ў кроне і тоўстая ў камлі. І засталася яшчэ вуліца, хоць і старая, але шыракаватая і роўная, бо быў гэта некалі брукаваны тракт. Назву яму памянялі, адхрышчваючыся ад даўніны, але не памянялі і нават забыліся даць назву базару, што месціцца пры той вуліцы, і завецца ён па-старому — Конскі базар.

Увосень, кожнай раніцы ў нядзелю, чуваць было, як парыпваюць на маёй асфальтаванай вуліцы вясковыя вазы, як цокаюць капытамі коні і як вішчаць і рохкаюць у драбінах падсвінкі. Пазней, калі ўстанеш, расходзішся ад сну, паснедаеш, а потым пойдзеш па цыгарэты ў блізкую краму — не прабіцца будзе да прылаўка праз чужых, негарадскіх людзей. Таўканіна, гармідар, і нетутэйшыя дзядзькі гукаюць нечага ад ка́сы да цётак, што стаяць у чарзе, і для большай пэўнасці на мігах нешта паказваюць ім... А на пустцы ля крамы ўжо атабарыліся цыганы. Жанчыны сядзяць з дзецьмі; гарлапаняць, нібы ў полі, увелькі з сваёй модай кудлатыя дзецюкі. Конь, выпражаны з калёсаў, цягне сена з драбін, клыча яго ды матляе галавой, нібы: «так, браткі, так!» — хоча сказаць гаманкой кампаніі падпітых мужчын. Нібыта конь той ведае, што цыганы ёсць цыганы,— ім усё можна...

Вось так было, а, можа, бывае і цяпер на тым гарадскім лапіку, дзе застаўся Конскі базар, вось так было тою парой, калі ідуць халады, калі бяруцца ўранку прымаразкі — ападаюць інеем сырыя туманы.

Тою парой, калі ў вёсках свяжуюць вепрукоў.

І ў апавяданні павінна была згадвацца тая пара і павінна была чуцца вёска: пах падмерзлых трэсак на дрывотні, тарахценне трактарка ля фермы, і на шумавым фоне гэтым — гулкім ёкатам галасы людзей, спалоханы гэгат гусака на тарфянішчы, настылы звон калодзежнага вядра і нечакана — пругкі выпад ветру наўскасы, а над усім, а ва ўсім павінна была быць каменная, зацятая маўклівасць зямлі, травы і схаладнелага, шурпата-шызага неба. Вось што трэба было **загнаць у падтэкст.** А як загнаць, я не ведаў. Трэба было, каб адчувалася, як выходзіць на ганак чалавек, як ляскае за ім, а пасля дробна брынчыць клямка; ён чуе гэта, але і наваколле пачынае ўжо валодаць ім, і вось тут, на самай трэшчынцы ўвагі, услед за скавышлівым павевам ветру, сарока з-за пуні махнецца яму ў вочы тугою сваёй чарнатой, спалохаецца, кульнецца ўгору, востра бліснуўшы гэткай жа тугою беллю, і сазлізне, падламаўшы крылы, у агарод, і на плот сігане адтуль, і трывожна зачачэкае, закалышацца там... «Бач, як бы чуе ўжо»,— раптоўна падумае ён і ўспомніць свой сённяшні клопат, і знарок безуважную жончыну стараннасць, калі раніцой стаўляла ў печ вядзерныя чыгуны з вадой... Ён падманна, нібы нейкі

другі знайшоўшы сабе клопат, прыпыніцца на ганку і твар падставіць ветру, і вочы яго трывожна будуць убіраць у сябе наваколле, і нябачна накрэсліць там яму гонкі вецер і сум палёў, і халодны вобмарак травы, і перадзімовае трыванне дрэваў...

Так ён будзе стаяць, і ў яго будуць варушыцца бровы.

Ён пачуе, як зарохкае ў пуні вяпрук...

...есці яму сягоння дадуць чым пазней, каб так, угаладаўшыся, лягчэй абмінуў ён здагадку пра тое, што прызначана яму на гэты дзень. Але ж гэта, можа, і насцярожвае яго. Ён яшчэ і не здагадваецца ні пра што, адно трывожыць яго, чаму **гаспадыня,** выходзячы з сенцаў на двор, не хоча падаць на ягонае рохканне голас, чаму з дурным кэрханнем, з бязладным лопатам крылаў пазляталі з седала і раней часу кінуліся да ганка куры. Пах пракіслага хлеба і паранкі чуваць яму, чутно, як намірна сакочуць, не падзяліўшы нешта, куры на двары і цвёрда шкрэбае аб ганак дзюбаю певень, як разладжана, роспачным нейкім голасам, злуецца на курэй гаспадыня. Але аціхае пасля ўсё, і зноўку трэба чакаць і нудзіцца. Ды вось, нарэшце, тое, што не можа быць падобным на падман: тупанне ў сенцах, знаёмы шоргат мешалкі і галасы, і другі, глушэйшы і спакайнейшы голас,— гэта **гаспадар.** І адчыняюцца сенцы, і бухаюць дзверы, прадракаючы міг нечакана-хісткай, поўнай незразумелага сэнсу цішыні. У ёй і галасы інакш чуваць: таропка-сцішаны — гаспадынін і коратка-круглы, цёмны — гаспадароў. Тады зноў як бы рушыцца, абрынаецца ўсё, паглынутае новай, яшчэ больш незразумелай цішынёй. Гаспадара не чуваць (застаўся на ганку?), і ўсё бліжэй, бліжэй да пуні гаспадыніны крокі...

Ён пачынае хламкаць, сутаргава і рашуча, як бы напярэймы той няпэўнасці, што раптоўна пасялілася ўжо ў ім і гняце яго. І гэтак жа рашуча, як пачаў, у нейкі міг перастае ён есці і, злосна рохкнуўшы, востра ўскідвае лыч і нюхае паветра, але хвараввіта-няўцямна, тужліва глядзяць у пустату яго маленькія, кволыя вочкі, і ўжо чамусьці няможна даверыцца яму ні асцярожлівай ласцы ў гаспадыніным голасе, ні паспешлівай яе руцэ, што дрыготка казыча за вухам. Рашуча і злосна ён зарохкае зноў, а потым нечакана жорстка калыхнецца ўбок аграмадна-гладкім сваім і грузным тулавам і напружыць карак, адступаючы назад і перастаўляючы пад сабой недарэчна круглыя, кароткія ногі. Каб умеў, падзівіцца мог бы ён, як тое рохканне неспадзеўкі слаба і нудліва абзавецца ў ім, не прарочачы ўжо нічога, акрамя бяды, бо не так убачыць ён, як учуе, што гаспадарова постаць непазбежна і цёмна набліжаецца ўжо да варот і забірае, засланяе сабою светлы прахон на двор. Не будзе ўжо гаспадыні, і застанецца ён сам-насам з гаспадаром. І будзе ён кідацца па пуні, рохкаць і тужыць, і нерухома будзе стаяць гаспадар, мусіць, бяспамылкова зазнаўшы, што цяпер непатрэбны і марны быў бы любы падман: трэба лепей набрацца цярплівасці і чакаць, можа, нават выйсці за вароты, на двор — набрацца цярплівасці і чакаць. Ён і зробіць гэтак, і ўжо з-за варот пачуе, як ураз аціхне, перастане рохкаць вяпрук, як потым будзе бэрсаць ён лычом падсцілку, то прыслухоўваючыся, то пачынаючы непакоіцца зноў, як аберне ён цэбар з мешанкай, і, нарэшце, рашыўшыся, пойдзе да варот. Гэта будзе самы трудны міг, калі трэба спакойна хіснуцца з-за вушака напярэймы яму і выставіць перад сабою дула ружжа, і старацца не чуць, як у грудзях цёмна чохкае, шырыцца сэрца, і цэліцца, блізка наставіўшы дула, ва ўяўную плямінку пад брывом, пад кароткімі, белымі, пруткімі вейкамі, і бачыць тужлівую, амаль па-чалавечы асэнсаваную пакору ў тым, як, змірыў-





шыся з непазбежнасцю, усё чухае, чухае ён безабаронным каркам аб вушак... Вось і ўсё.

І далей ужо няцяжка будзе ўявіць працяг. Уявіць ладнаватыя санкі, ну тыя, і фасон і памер якіх чалавек свядома ды з разлікам падладжваў пад сваю мажлівасць ды пад свой імпэт, каб выпадкам можна было і добрую вязанку дроў па шаранку прывезці з лесу, каб і малое магло ўправіцца з імі на зледзянелай горцы, каб і нядужага дзядка можна было прытарабаніць марозікам дамоў з суседняй лазні. Вось і абернуць тыя самыя санкі, і ўскоцяць яго на іх, і павалакуць па рэдкіх лапіках ранняга снегу ці па камлыжнай восеньскай зямлі куды-небудзь за пуню, у алешнікавы зацішак на лажку, і непарадак нейкі ўраз угледзіць сарока ў тамтэйшым гаспадарчым жыцці — застракоча, зашастае па алешніку ды па платах.

Вось і ўсё. Вось што, акрамя ўсяго іншага, павінна было адчувацца, трызніцца ў тым апавяданні.

А сама задума мыслілася так: ну, скажам, недзе ў нейкім горадзе, у вялікім свеце сярод людзей, жыве **сын** — магчыма, жанаты, а можа, і не. У дзяцінстве, у сваім вясковым дзяцінстве, гэта быў надзвычай уражлівы хлапчук — хударлявы, бледны, шыракароты; парывісты і адначасна ціхмяны, зацяты і ў той жа час быстры на слёзы. Можна сказаць, што душа ягоная ўбірала ў сябе многа, і можна сказаць, што яна была надзелена здольнасцю разумення і хацення дабра, і разумення людзей, але не таго хцівага, саманадзейнага разумення, заручанага з адным днём, а другога, журботнага і трохі безнадзейнага, без выгадаў для сябе: яно благога чалавека прымушала шкадаваць гэтак жа, як і добрага,— хаця б за тое, што ён благі. Але гэта — пасля. Пачаць трэба было б з ранняга юнацтва, з той пары, калі чалавек адчуваць сябе можа бадай што вясновай пупышкай: вось толькі што ўзарвала тугую сваю абалонку яна,— о, салодкі міг вызвалення, небяспечная ласка сонца ў трызненні далёкіх дажджоў! І навальніца прыйдзе, і сутаргава разарве неба маланка — не раз і не два,— і выбліснe сонца, і ападзе цёплы дым над арэшынай, і не скажа маланка, для якой завязі згубны быў яе халодны зялёны прамень... Але вось — маладосць, і герой наш і жыць спяшаецца, і адчуваць жыццё прыспешвае сябе. «Бывай жа, родная засень, і родная хата,— думае ён,— і ты, маці, не глядзі так трывожна ўслед»,— і галаву яшчэ не горача пячэ ранішняе сонца, і ў крыніцы, што так сцішна жыве пад засенню родных ліп, яшчэ так багата бруістай вады.

Расказаць трэба было пра юнака, які безразважна і смела рынуўся ў жыццё і не ашчаджаў сябе, шчыра беручы ад людзей і гэтак жа шчыра аддаючы ім сваё. Ды і што тут было ашчаджаць ці шкадаваць! Яму здавалася, што не можа быць на свеце чалавека, які, уведаўшы, не палюбіў бы яго: ну хаця б за гэтую ягоную прагу спагады і ласкі для сябе і для ўсіх! Толькі часам, у шумлівым разгары ягонай з людзьмі злагады і любові, нечакана задумлівым рабіўся ягоны пагляд, і здавалася тады, што цішыня, высокая і сцярожкая, вырастала за ім, і адчуванне было такое, нібыта нехта ў яго стаяў за спіной. І час надышоў, і пабурылася за спіною цішыня, і бяда пастукалася ў дзверы, і зазнаў ён тое, што хоць аднойчы ў жыцці зазнае кожны чалавек: і расчараванне, і адчай, і нудліва-вінаваты позірк сяброў, і нетрывалую ласку жаночага сэрца.

І вось сядзеў ён аднойчы ў добрага знаёмага ў ягонай кватэры за на скорую руку, без жаночай помачы накрытым сталом. Гаварылі, маўчалі, бралі чарку і маўчалі зноў. Гаспадар, лысаваты, цыбаты, біты жыццём і разумны чалавек, доўга нешта — ламаліся запалкі — не мог прыкурыць цыгарэту. Нарэшце натрапілася добрая запалка, і ён прыкурыў, і нечакана, з нейкай незразумелай горыччу, засмяяўся сам сабе, а потым сказаў:

— Ведаеш, быў я ў маці... Зіма. Сумнавата. Вечарам старая паставіць чыгунок з бульбай на комінак: сядзім з ёю, глядзім на агонь, гаворым ці маўчым — во як зараз з табой... І хораша неяк, то бяздумна, то трывожна мне. Закуру крамную папяросу, а яна патухне зноў. І зноў я запалкай чырк ды чырк. А маці тады ціха так кажа мне: «Дык няможна так псаваць запалкі, сынок... Можа, ад вугольчыка прыкуры, га?» І глядзіць на мяне тым шкадабліва-пранiклівым позіркам, якім толькі і ўмее глядзець маці, які бачыць у табе тое, пра што ты сам забыўся ці знарок схаваў. І, ведаеш, аж скаланула мяне ўсяго... Не тое, каб сорамна стала перад ёй,— не запалак жа маіх шкадавала яна мне,— а падалося мне, браце...— ён лёгка, усмешліва зыркнуў на субяседніка і, нібы збаяўшыся сваёй той расчуленасці, зарагатаў: — Што скажаш, га? А каб жа ты ведала, думаю, колькі мы, такія харошыя, тых запалак рублёвых па рэстаранах ды піўных у адзін вечар кідаем, га?

І пасмяяліся, і памаўчалі, і ўзялі па чарцы яшчэ.

Пасля ўсталі яны з-за стала, і гаспадар хацеў праводзіць госця, але той адмовіўся, сказаў пра гэта прабачліва і ціха, і гаспадар зразумеў, што, можа, так і трэба, што пасядзелі і памаўчалі яны добра, а ў чым паразумеліся, здагадаецца кожны сам.

Тады госць наш развітаўся і памалу пайшоў на вуліцу. Вечарэла. Сонца нізка стаяла над горадам і лена, холадна біла ў вокны, у бляшаныя дахі дамоў залаціста-барвовым, безуважным святлом. Трамвай звінеў недзе, і пах, астываючы, нагрэты за дзень асфальт, і пахла, можа, чуйней за ўсё, прапыленай цэглай і фарбай. Была пустою вуліца; ён ішоў, а даўгалыгі цень лажыўся на дарогу і соўгаўся паволі, нібы папіхаючы сябе, і раптам побач, ці не за драўляным плотам, у гародчыку, коратка і жаласна ціўкнула птушанё. Гэта як бы знак нейкі быў, і ён спыніўся і паглядзеў туды. Халаднаватая чырвань аблівала бэз, паве́ў скразняковага ветру калыхнуў лісцё, і цені ад яго затрапяталіся на жоўтай сцяне, і зноў прыцішана-жаласна ціўкала птушанё. Тады ён прыгледзеўся і ўбачыў яго. Ён бачыў яго блізка, тое сумна натапыранае, шэрае птушанё, гэтак бясконца, незразумела адзінокае ў знаёмай яму і, мусіць, не першы раз аблюбаванай засені падвечаровага куста. На сцяне, на лісці, на вялікіх прасцягах горада памірала сонца, і што адчуваў, каму і на што жаліўся ён, гэты жывы маленькі камячок, натомлены за дзень нейкім сваім, зразумелым яму, а мо зусім і незразумелым клопатам? Што гэта было: страх, натужнае чаканне непасільнага празарэння ці чуйна, вусцішна і раптоўна адчутая адасобленасць ад усяго і разлад з усім? І ці не так трывожыць, гняце незразумелым нейкім сэнсам і самога чалавека тужлівая палоска расхінутай на захадзе вечаровай зары?..

Так падумалася яму, і ён сцепануўся ад іншай, непрадбачна вострай думкі, што прыйшла разам з гэтай, але якая ўжо, мусіць, жыла ў ім з той пары, як сядзеў у гасцях і браў чарку, і слухаў сябе і ў самім сабе гаспадаровы словы. Гэта думка **пра маці** была, яна так увачавідкі падступілася да яго, што зусім невыпадковым, несумненна і адзіна значным падалося яму імгненне, у якое цень ад бэзавага лісця калыхнуўся на сцяне і неспадзеўна ціўкнула за плотам птушка. У маркотным, дзіўна запаволеным одуме ішоў ён дамоў, і разам з ім думка пра маці ішла ці, дакладней, памяць аб нейкай віне перад ёй, успамін пра марна растрачаную сілу любові, якая, можа, не сагрэла нікога. Бруілася крыніца пад засенню родных ліп, і, прыклаўшы руку да вачэй, углядалася ў далеч маці...

З таго дня неспакой і трывога пасяліліся ў ім.

Аднаго разу яму сасніўся сон. Напачатку то быў лагодны сон, то было панаванне прыцемку на мяжы святла, калі ўсё азначала і ясніла сабой не лінія, адно абрыс, няўлоўна пэўны, нібы вобраз птушкі, якая толькі што пераляцела дарогу перад табой. Высокім полем, бярозавым шляхам нібыта ехаў на веласіпедзе ён, захмарана-ціхай і цёплай чулася наперадзе далеч, і гулі ў бярозавым вецці хрушчы. І неяк расхіналася насустрач невядомасці душа, і так было добра. Куды, куды, чаго ехаў ён? Але такім знаёмым, хоць і не знаёмым дагэтуль, быў краявід, так даверліва лашчыла вочы супакойнае неба, што немагчыма не думаць было, што ўсё гэта было ўжо некалі з ім, калі не ў сапраўдным, дык у душэўна прыдуманым жыцці. «Ага, дык гэта ж я еду дамоў,— нечакана, весела, радасна здагадаўся ён,—

вунь там скончыцца шлях і зачарнеецца вёска». I далей ехаў ён, але чамусьці не канчаўся шлях, і знаёмае, пакутна знаёмае нешта, чым свіціўся, жыў і вабіў краявід, ніяк не магло акрэсліцца ні здагадкай, ні сэнсам. Азірнуцца захацелася яму, ён ужо і намерыўся, але не мог. I тады як бы парыў ветру нечакана напружыўся, ураз раскідаўся ў яго за спіной: зашалясцела, зашастала, невядома адкуль узяўшыся і асыпаючыся долу, сібернакалянае лісце. Стала ціха. Холад і спусташэнне чуў ён за сабой. Падалося на момант, што ён заплюшчыў вочы, адно чуючы, як іначылася, незразумела іначылася ўсё наўкол яго, а, можа, і ў ім; і страх працінаў ягонае сэрца. I ён тады ўбачыў... О, ён убачыў усё так дакладна — у той кароткі міг, калі нехта, дачасна схаваны ў ім, адным балючым штуршком расхінуў яму вочы і грудзі! I тады ён убачыў сцены, якія адразу пазнаў: прапахлыя павуціннем, негабляваныя сцены, і тапчан у куце, закіданы старой вопраткай, і старыя начоўкі на ім, і лаву ля дзвярэй, і вёдры на ёй, і на падлозе кашы з бульбай, і чыгуны, і цэбар з мешанкай, і вузкае, на адно бервяно прарэзанае акенца ў сцяне, і нейкі слоік на ім, і шклянку з гусіным тлушчам на ім (ён гэта ведаў), і адно замурзанае (ці не поклад?) курынае яйка... О, навошта, навошта такое знаёмае ўсё гэта, і навошта стаіць перад лавай маці, і навошта чыгуны каля яе ног, навошта яна павярнула галаву да яго,— о, які цёмны, невідушчы, цяжкі, нібы плёскат вады ў вядры, у яе пагляд! Ён хацеў ступіць да яе, але яна, засланяючыся, павяла рукой, і тады, нібы па хаценні яе, расхінуліся сцены, і трывожна, квола зашамацела, бліснула яму пад святлом ліхтара салома. То была пуня. Нейкая постаць стаяла на каленях, спіной да яго, і нешта хрыпела, трэпала па саломе за тою спіной, і сцішана блішчэла параскіданая ўсюды салома, і шкрэбліся на седале куры... I чыгуны стаялі ў сенцах, і цэбар з мешанкай, і кашы з бульбай!..

Так ён прачнуўся ўночы. А ўдзень яму прынеслі тэлеграму.

Ва ўсіх нас ёсць ці была некалі маці, і, на жаль, не заўсёды добрыя прыходзяць да нас тэлеграмы...

Вось і ўсё. Ізноў ідуць халады, бяруцца прымаразкі — ападаюць долу інеем сырыя туманы. Яшчэ выганяюць на пашу кароў — далей ад вёскі, у лес. Падвечар жывёла не хоча вяртацца ў хлеў, цаляе адбіцца ў прапахлае бульбоўнікам і сцюдзёным капусным водарам поле. I вечарамі, і ўранку марозліва, хмельна, бы першаком, пахне ў наваколлі дымам.

Такою парою пішу я эпітафію апавяданню, якое магло б называцца «Смаленне вепрука». О, вядома, не шмат логікі ў ім, але ж не шмат логікі і ў стратах, што прыносяць нам лета ці вясна, зіма ці восень. Ёсць, на жаль, рэчы, непадуладныя нам, але ж ёсць і суцяшэнне, ёсць і надзея. У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг.







***віктар ярац***



ПАЭЗІЯ



## Звычайны свет

Мы некуды спяшаемся заўсёды,
тасуем, быццам карты, адрасы
і ўсё жыццё, нібы рачныя воды,
імчымся да нязведанай красы.
Мы дзелім свет на чорны і на белы,
людзей — на спадарожных і сяброў,
што з намі дзеляць радасці і беды,
як дзеляць хлеб, ваду, цяпло кастроў.
Праходзіць час, і адчуванне страты
прыходзіць да дарослых хлапчукоў,
што перад некім сам быў вінаваты,
што некага маўчаннем абышоў.
I пачынаеш заўважаць адценні
і колеры, якіх і не злічыць,
і з вышыні бяздумных летуценняў
спускаешся, каб па зямлі хадзіць.
I бачыш свет — не ружамі спавіты,
а бачыш свет — шырокі, без мяжы,
дзе, як пытанні, гнуткія ракіты —
ля кожнае турботлівай шашы.
I позні ліст на дрэве ацалелы,
і кропелька халодная расы
прыходзяць, як забытыя напевы,
адкрыццем неадкрытае красы.
I крочыць лёгка ўдалеч без адчаю,
без мітусні ў празрыстай цішыні,
і бачыць свет стракатым і звычайным,
як восеньскае лісце ў вышыні.

■

Яшчэ, як птушцы, шлях няблізкі —
то прызямляцца, то ўзлятаць...
Кладзецца сталасці пячаць
на свет зялёны — не бязлісты.
За кожны дзень, дарма пражыты,
за міг бязмэтны і пусты
сябе самога судзіш ты
перад зямлёй, што родзіць жыта.

Глядзець на хлеб і абеліскі,
каб жыць па-новаму пачаць...
Кладзецца сталасці пячаць
на свет знаёмы кожнай рыскай.
І хоць прыветныя аблокі
яшчэ бяруць душу ў палон —
часцей відаць у полі лён,
часцей чуваць буслова клёкат,
часцей цяжкі прыходзіць роздум,
што ты павінен быць на ты
са светам добрым, грозным, розным
перад пагрозай нематы.

## Горад маёй вясны

Мне не забыць той час вясновы...
Плыў над зямлёй птушыны спеў,
і сам я, шумны і вясёлы,
здаецца б, некуды ляцеў
ад гарадскіх завулкаў, вуліц,
ад надакучлівасці іх —
туды, дзе толькі вецер блудзіць
між сосен баравых...
Ды трэба так было ўжо лёсу
у мітуслівасці людской
жывыя прыадкрыць нябёсы,
што палымнеюць над зямлёй.
І ўсё раптоўна іншым стала,
і гэты горад стаў не тым
з яго асфальтам і металам,
з яго характарам крутым.
І ўжо па-новаму расстайныя
у новым небе журавлі,
нібы паштоўкі прывітальныя,
ляцелі да сваёй зямлі,
і быццам струны, сонца промні
гучалі музыкай цяпла,
і гэты горад я запомніў,
дзе вочы,
поўныя святла.

■

Мне па начах бяссонных снішся ты,
тваіх вачэй задумлівая просінь.
На бераг мой, адкрыты і круты,
вясновы голас далятае ўвосень.
Мы — пасажыры станцыі Зямля —
так часта размінаемся шляхамі...
Прыпынкі.
Пацалункі.
А пасля
разводзім у няведанні рукамі.
А вочы неадступных семафораў
падміргваюць бясконцым паяздам,
і ўжо між намі — шырыня прастораў,
якім цябе навечна я аддаў...
Але чаму ў час позніх навальніц
бяссонніца прыходзіць, быццам восень,
і цягнецца ад сэрца к сэрцу ніць
пад таямнічы рытм нябачных кросен?..



## Вясновая ноч

Зноў слухаць ноч,
шукаць рашэнні,
на ўсе пытанні даць адказ,
што наплываюць, быццам цені,
з садоў у вечаровы час.
Ісці праз дождж з усмешкай мокрай,
не сумаваць і не спяваць,
а слухаць, як начныя крокі
у сонных вулачках гучаць,
як аддаляюцца грымоты
і месяц свеціцца між дрэў...
А недзе — дзённыя турботы,
якіх яшчэ ты не сустрэў.
І, можа, ў гэтыя хвіліны,
пад развітальны кропель шэпт,
нібы пупышкі на галінах,
адкрые ноч табе маўкліва
неразгаданы свой сакрэт...

■

Плыў свет начны, закалыханы ў сне,
плылі пялёсткі перасмяглых кветак
з гародчыкаў маўклівых у расе...
Ты спала — і я чуў тваё дыханне.

Плылі, як зоры, яблыкі ў садах,
дзесь перапёлкі ў полі шлях шукалі...
Ты спала і не ведала сама,
што нечы сон твае забралі вочы.

А я ішоў па вуліцах начных
і слухаў дрэў разважлівых размовы,
і адкрываў мне тайны кожны міг,
і кожны міг мне задаваў пытанні...

■

Цяжка прыходзяць словы...
Лёгка спяваюць птушкі.
Думкі ў таемных сховах
спяць на нябачных падушках.
Светла, ветла і рана
сонцу ўсміхнуцца вочы.
Песня вады з-пад крана
заглушыць мелодыю ночы.
Раніца зноў напомніць
аб незакончаных справах
першым у небе промнем,
апошняю зоркай на хвалях.
Раніца свет разбудзіць,
гляне ў акно дзяўчынкай.
Па-новаму будуць людзі
старыя расцэньваць учынкі.
Будуць сляпіць аблокі
беллю ў блакітнай стыні.
Так надыходзяць
спёка
і смага,
нібы ў пустыні...

***насімі***



## ПАЭЗІЯ



*Да 600-годдзя з дня нараджэння вялікага азербайджанскага паэта і гуманіста*

Нам лёс сустрэчу абяцаў, ды разлучыў
мяне з табою.
Смуткуе сэрца у бядзе і абліваецца
крывёю.

Душы маёй — майго кахання пазбавіў
жорсткі лёс мяне.
З табою развітаўся — як развітаўся
я з душою.

О, мой кумір, душа мая, да гэтага не
знаў я слёз.
Цяпер я толькі і раблю, што
заліваюся слязою.

Хто зможа вылечыць мяне? О памажы
мне, мой алах!
Ад немачы збаўленне дай усемагутнаю
рукою.

Што мы рассталіся з табой — не
вінаваты ў гэтым я.
Пануе непазбежна лёс над нашай
доляю зямною.

Хаваюць скарбы між руін, руіну
робяць тайніком.
Ты стала скарбам для мяне, мая
душа — руінай тою.

Даверыў Несімі душу раздоллю
валасоў тваіх.
Чаму ж тады няшчасны ён, нібы
спазнаўся ён з турмою?

Пераклад Анатоля **ВЯРЦІНСКАГА.**





# ПУБЛІЦЫСТЫКА



● Хведар ЗАЯЦ ● Міхась ЧАРНЯЎСКІ ● Сцяпан КУХАРАЎ ● Рыгор БУЛАЦКІ ● Святлана ТАЛАПІНА ● Якаў РУБЕНЧЫК ● Валянцін ЖДАНОВІЧ ● Святлана КЛІМКОВІЧ ● Ірына ПІСЬМЕННАЯ ● Серафім АНДРАЮК ● Юрась СВІРКА ● Валянцін РАБКЕВІЧ ● Уладзімір МАРХЕЛЬ ● Аляксандра ЧАРНЯЎСКАЯ ● Леанід ЗДАНОВІЧ ● Іван ГРАМОВІЧ



Ларыса Цітова—выпускніца Мінскага інстытута замежных моваў, працуе выкладчыцай іспанскай мовы ў 46-й сярэдняй школе г. Мінска, а летам яна—педагог-выхавацель піянерскага лагера «Бярозка».

# МЫ БУДУЕМ «МІР»

## ВЫПРАБАВАННІ

Званок «міжгародняй» быў настойлівы, патрабавальны і, падалося, трывожны. Ігар Паўлавіч Вярбіцкі, начальнік будаўніцтва прамысловага комплексу па адкорме буйной рагатай жывёлы ў саўгасе «Мір» Баранавіцкага раёна, падняў трубку.

— Вас выклікае Масква...

Некалькі дзён назад у падмаскоўны саўгас «Воранава» тэрмінова, па выкліку Міністэрства сельскага будаўніцтва СССР, выехаў Рыгор Зіноўевіч Віленскі, начальнік перасоўнай механізаванай калоны № 17, якая ўзводзіць комплекс «Мір».

«Напэўна, гэта звоніць ён», — падумаў Вярбіцкі.

На другім канцы дроту сапраўды быў Віленскі. Голас яго гучаў глухавата, але Вярбіцкі ўлавіў, што Рыгор Зіноўевіч не ў настроі.

— Ігар Паўлавіч, неадкладна спыніце заліўку бітумам сцёкавых каналаў.

— Спыніць? Ды мы ж амаль скончылі ў будынках першага перыяду!.. Што здарылася?

— Потым растлумачу, як прыеду. А пакуль што паклапаціцеся, каб больш не залівалі. Хто там зараз працуе?

— Брыгада Палуянчыка.

— Камсамольцы, значыць... Стараюцца, відаць?

— Вы ж іх ведаеце! Хіба яны могуць іначай? Ужо на паўмесяца графік апярэджваюць.

— Ты скажы там хлопцам, лагодна скажы — ты гэта ўмееш, — што непаразуменне... Прыеду — растлумачу ўсё.

Рыгор Зіноўевіч вярнуўся праз два дні. За гэты час вакол яго незразумелага распараджэння патушыць печы, у якіх плавіўся бітум, пайшлі самыя неверагодныя чуткі. І таму, калі начальнік ПМК паявіўся на ўчастку, у прарабскую самі, без запрашэння, падаліся майстры, брыгадзіры, камуністы. Віленскага выслухалі моўчкі.

— Таварышы, атрымалася сапраўды непаразуменне. Як вы ведаеце, навукова-даследчы інстытут «Гіпрасельбуд» прапанаваў пакрываць сцёкавыя каналы бітумнай плёнкай. Вы ведаеце таксама, што наш комплекс на 10 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы — чацвёртая аналагічная будоўля ў Саюзе. Першы комплекс пабудаваны ў пасёлку Воранава пад Масквой. Дык вось, эксплуатацыя комплексу паказала, што хлараваная вада, якой прамываюцца каналы, з цягам часу раз'ядае смалу. Бітумнае пакрыццё адстае ад бетону і трапляе ў помпы. У выніку гноевая жыжка залівае памяшканні. Таму прынята рашэнне адмовіцца ад рэкамендацый «Гіпрасельбуда» і будаваць *так, як і было прадугледжана ў першапачатковым варыянце праекта*, — без усялякага пакрыцця.

— А што з тымі каналамі, што ўжо зроблены?

— Давядзецца адбіваць. Малаткамі! — заўважыўшы чыйсьці здзіўлены погляд, удакладніў Рыгор Зіноўевіч. — Бітумную плёнку нельга нічым растварыць...

— А спірт ці бензін?

— Дорага гэта, таварышы, ды і небяспечна. Адна іскра — і...

— Зразумела, — уздыхнуў хтосьці.

— А мне не зразумела! — гукнуў з кутка майстар Барыс Уладзіміравіч Мартынаў. — Дзеля чаго, уласна, прыдумлялі гэтае пакрыццё «спецыялісты» з «Гіпрасельбуда» і куды глядзелі тыя, хто прымаў іх навуковыя рэкамендацыі? Без праверкі, ці што?

— Выпрабоўвалі, але, напэўна, недастаткова...



— Колькі працы патрачана! А энергіі? Чатыры месяцы, самыя гарачыя ў годзе, у куродыме пацелі... А цяпер — адбівай!

— Я вось тут прыкінуў, — адарваўся ад папераў брыгадзір Аляксандр Аляксандравіч Нізавец. — Мы залілі жолабы ў трох карпусах. 860 секцый. Больш чым адну секцыю за дзень, мяркую, не адужаеш на адбіўцы?

— Вядома. Бітум моцна прыкіпеў. Працавалі як мае быць.

— Гледзячы яшчэ які рабочы! Іншы і адной секцыі не ачысціць!

— Дык вось, толькі на адбіўцы мы страцім 860 чалавека-дзён...

— Гэта яшчэ не самая большая страта, таварышы. — Ціхі голас Рыгора Зіноўевіча зноў прыкаваў да сябе ўвагу. — Вядома, усім нам шкада марна загубленага часу, грошай, матэрыялаў. Але, паўтараю, гэта не галоўная страта. Усё гэта можна нейкім чынам нагнаць, вярнуць у чымсьці іншым. А вось як нам вярнуць настрой рабочых, іх энтузіязм? У людзей могуць апусціцца рукі...

— Вядома, могуць, — ці то пагаджаючыся з Рыгорам Зіноўевічам, ці то пярэчачы яму, выгукнуў брыгадзір Іван Міхайлавіч Копаць. — З якім азартам узяліся хлопцы за справу! З вёдрамі смалы насіліся, як чэрці. Качагары раней прыязджалі, каб загадзя бітум расплавіць...

— Рыгор Зіноўевіч, я мяркую, адбіўку смалы трэба даручыць іншай брыгадзе. Можа, гэта не так будзе вярэдзіць душу.

— Глядзіце самі, Ігар Паўлавіч. Дарэчы, што скажа брыгадзір?

Валодзя Палуянчык, які да гэтага часу сядзеў моўчкі, падняў галаву:

— Не трэба іншай брыгады, Ігар Паўлавіч. Самі пераробім.

Ішоў верасень 1972 года.

Навагодняе свята было без снегу. Да сярэдзіны студзеня пранізлівы вецер шліфаваў сухім пылам прысадзістыя карпусы будынкаў I і II перыядаў, што выраслі тут, на былым голым пагорку, быццам стараючыся сцерці іх з твару зямлі. І ўсю зіму ў гэтых будынках чуўся перастук малаткоў. Адбіваць бітум было нялёгка. Да таго ж, занятак аднастайны і сумны. На дапамогу прыехалі з Баранавіч камсамольцы — працоўны дэсант. З іх дапамогай будаўнікі заканчвалі ачыстку сцёкавых каналаў ад бітумнай плёнкі. Потым, калі іх пачалі падціскаць мантажнікі, якія манціравалі абсталяванне ў сярэдзіне памяшканняў, хлопцы з брыгады Палуянчыка — пераважна муляры — пайшлі на кладку сцен будынкаў II перыяду. Зіма — не самы лепшы час для кладкі сцен, ды брыгадзе было тое не ўпершыню. 105—110 працэнтаў нормы — меншых паказчыкаў не было. Хлопцы пачалі ўжо забывацца на тое, як асвойвалі прафесію «дзятлаў», праходзіла пакрысе і іх нядаўняя крыўда. На адбіўцы бітуму засталіся толькі дзяўчаты з камсамольска-маладзёжных брыгад Палуянчыка і Караткевіча.

Прадставіць чытачам гэтых двух зусім розных людзей хочацца адначасова.

**Анатоль Сцяпанавіч Караткевіч** нарадзіўся ў 1918 годзе ў Бабруйскім раёне. Да вайны скончыў 9 класаў. Вайну закончыў сержантам ва Усходняй Прусіі. Пасля дэмабілізацыі стаў будаўніком, бо балюча было бачыць гарады і вёскі, якія ляжалі ў руінах. Больш за ўсё шануе ў чалавеку любоў да працы, нікому не даруе нядбайных адносін да справы.

**Уладзімір Палуянчык** нарадзіўся праз тры гады пасля Перамогі. Член ВЛКСМ. Пасля дзесяцігодкі пайшоў вучыцца ў Баранавіцкае будаўнічае вучылішча, а пасля службы ў арміі паступіў у Мінскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. У ПМК-17 працуе з 1971 года. Больш за ўсё цэніць у людзях стараннасць. У самім сабе больш за ўсё не падабаецца тое, што ніяк не ўдаецца стрымаць слова, дадзенае жонцы: прыходзіць з работы своечасова.

Нечакана на будоўлю звалілася і другая бяда. Ну, няхай сабе і не зусім бяда, аднак жа...

Вынікі спаборніцтва на будоўлі падводзіліся штомесячна, і штомесячна брыгада, якая заняла першае месца, атрымлівала 175 рублёў прэміі,



Рабочая Галіна Жук.

Апрацоўка металічных канструкцый ферм перакрыцця.

На праходцы вентыляцыйнага шлюза сіласнай вежы.





Рабочы Уладзімір Міхайлаў.





Брыгадзір Уладзімір Палуянчык.





Электразваршчык Аляксей Нізаў.

Унутраны выгляд аўтаматызаванага адкормачніка.

Майстар-дублёр Віктар Сенеў.



—на ўдарных камсамольскіх

за другое месца — 150 і за трэцяе — 125 рублёў. Матэрыяльны, хоць і не галоўны, але ўсё ж важны стымул, адыгрываў важную ролю. За перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве ў гонар 50-годдзя з дня ўтварэння СССР калектыў ПМК-17 быў узнагароджаны Юбілейным ганаровым знакам ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР і ВЦСПС. Прыбытак ад датэрміновага выканання планаў і абавязацельстваў склаў у 1972 годзе 305,6 тысячы рублёў, рост прадукцыйнасці працы — 17,6 працэнта. Будаўнікі комплексу з нецярпеннем чакалі трынаццатай зарплаты.

Аднак у пачатку гэтага года стала вядома, што ўпраўленне «Брэстсельбуд», у якое ўваходзіла і ПМК-17, пераведзена на новую сістэму планавання і эканамічнага стымулявання з усімі сваімі падраздзяленнямі як адзіная будаўніча-мантажная арганізацыя. І высветлілася, што «Брэстсельбуд» з усімі яго БМУ і ПМК выканаў план па прыбытку толькі на 27,7 працэнта. Увесь прыбытак, атрыманы ПМК-17 і некаторымі іншымі арганізацыямі, пайшоў на пагашэнне страт. Трынаццатай зарплаты будаўнікі комплексу так і не атрымалі.

Гэта было новым сур'ёзным выпрабаваннем палітычнай і грамадзянскай сталасці будаўнікоў, пераважна моладзі. Вытрымалі гэтае выпрабаванне не ўсе. На стол начальніка ўчастка Вярбіцкага лягла першая заява кваліфікаванага маладога муляра: «Прашу звольніць мяне па ўласным жаданні...»

## ГОД ТРЭЦІ, РАШАЮЧЫ

«Так, становішча не дужа прыемнае, — разважае Ігар Паўлавіч, абыходзячы будоўлю. — Прыдумаў жа нехта, ліха на яго... Яно, вядома, аб'яднанне — справа карысная, але ж трэба было спачатку дапамагчы адстаючым БМУ і ПМК. Некаторыя ж з іх не выконваюць планаў нават напалову. Атрымліваецца, за наш кошт асобныя будуць жыць не адзін год... Вось і спаборнічай у такіх умовах. Ды яшчэ на адлегласці ў 200 — 300 кіламетраў. Адчувай, так сказаць, локаць суперніка. На нарадзе ў Брэсце толькі і сустрэнеш таго, з кім спаборнічаеш...»

У вочы рабочым стараўся не глядзець. Ды і тыя хмурнелі, убачыўшы яго, хоць і ведалі, што ні Ігар Паўлавіч, ні Рыгор Зіноўевіч не вінаваты. Адчувалася, што настрой у калектыве не той: няма ранейшага запалу, былога старання.

У апошні час Ігар Паўлавіч думаў над гэтым. «Трэба пагутарыць з партыйным і камсамольскім актывам, з брыгадзірамі і майстрамі. І неадкладна. На чарговай планёрцы...»

Якраз перад той планёркай да Вярбіцкага зайшоў хлопец — русявы, сярэдняга росту, прадставіўся:

— Міхаіл Прыгароўскі, накіраваны да вас ЦК ЛКСМБ начальнікам штаба.

**Міхаіл Прыгароўскі,** член КПСС, нарадзіўся і вырас у Баранавічах, тут скончыў школу і тэхнікум лёгкай прамысловасці, працаваў памочнікам майстра на мясцовым баваўняным камбінаце. Студэнт-завочнік БПІ (будаўнічы факультэт). Самымі важнымі хвілінамі свайго жыцця лічыць тыя, калі ад каго-небудзь чуе: «Міша, чакай, ты мне патрэбен». А патрэбен ён — я пераканаўся ў гэтым — усім.

— Вельмі прыемна, — падаў руку Ігар Паўлавіч. — Даўно чакаем. Сядайце, таварышы, — павярнуўся ён ужо да ўсіх. — Сёння нам трэба падумаць над тым, як ажывіць сацыялістычнае спаборніцтва на будоўлі.

Вы ведаеце, што будаўніцтва мы пачалі ў першым годзе пяцігодкі і павінны закончыць у апошнім — гэта значыць, у 1975. Вядома, будзе добра, калі будзем абганяць час, здаваць аб'екты датэрмінова. Раней нам гэта ўдавалася. Але зараз будзе цяжэй. Што рабіць? Я думаю, галоўную ўвагу трэба звярнуць на маральны бок спаборніцтва.

Вы памятаеце, што год-паўтара назад мы абмяркоўвалі пастанову ЦК КПСС «Аб далейшым паляпшэнні арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва» і намецілі некаторыя меры. Але бяда, напэўна, у тым, што не заўсёды і недастаткова пунктуальна выконвалі іх. Давайце абмяркуем, як будзем выпраўляць становішча...

Планёрка ў той раз зацягнулася. Міхаіл Прыгароўскі ледзь паспяваў запісваць прапановы.

Іх дзве — Галя Гульніцкая і Люба Філіпава. Адна з брыгады Караткевіча, другая — Палуянчыка. У адным пакоі інтэрната іх ложкі, абедзве амаль равесніцы.

**Гульніцкая Галя,** член ВЛКСМ, нарадзілася ў 1955 годзе ў Дзятлаўскім раёне. У атэстаце сталасці толькі чатыры «добра», астатнія — «выдатна», але Галя не стала нікуды паступаць, а прыйшла ў райком камсамола: «Пашліце на будоўлю. Хачу папрацаваць спачатку». Малодшая з чатырох, а таму і самая любімая дачушка ў сям'і. Вельмі сумуе па доме. «Самае кепскае ў маім характары — не магу доўга на людзей крыўдзіцца...»

**Філіпава Люба,** 1952 года нараджэння, член ВЛКСМ. На будоўлю прыехала па пуцёўцы Нова-Дугінскага райкома камсамола Смаленскай вобласці. «Характар у мяне наогул паганы, я заўсёды сама сабе пярэчу, але вельмі задаволена сабой, калі магу каму-небудзь памагчы. І яшчэ — люблю, калі і да мяне з увагай...»

У першы ж дзень Любінага прыезду ў «Мір» Галя павяла яе па будаўнічай пляцоўцы. Тлумачыла: гэта — будынкі І перыяду, тут двухтыднёвыя бычкі будуць знаходзіцца 115 дзён, потым іх перавядуць у будынкі ІІ перыяду, дзе будуць адкормліваць да вагі ў 450 кілаграмаў. Сярэднесутачная прыбаўка — 1033 грамы... Гэта — кацельная, яна ўжо гатова, там — пажарнае дэпо, майстэрні. Тут будзе пабудаваны Дом культуры, на гэтым месцы падымуцца 26 сянажных вежаў на 900 тон кожная, а там, бачыш, дамы будуюцца — вырасце пасёлак на тысячу жыхароў. Комплекс будуць абслугоўваць усяго 180 чалавек — інжынеры, ветурачы, апаратары... Заманліва, праўда?

Люба толькі моўчкі паціснула плячыма.

І вось зараз, седзячы на дошцы ў праёме канала — так зручней, — яны прыгадваюць тую першую гаворку. «Тут-тук-тук» — спяшаецца Галін малаток па левым баку жолаба. «Тук-тук-тук» — падтаквае ёй Любін па правым баку. Праўду казаў Нізавец: не кожны рабочы паспее ачысціць за дзень адну секцыю. Галя і Люба — паспяваюць, нават і другой секцыі крыху прыхопліваюць. Ды работа ўсё ж нудная, час цягнецца марудна, калі не бавіць яго ў гаворцы.

— А ты што — думаеш застацца тут і пасля?

— Не ведаю. Мне прафесія будаўніка па душы. Зробіш што-небудзь — адразу след відаць.

— А для душы што?

— І ў душы след застаецца. Я цяпер навучылася лепш разумець людзей. Ведаеш, як раней я пра хлопцаў думала? Прычоска не спадабаецца, дык за вярсту абыду. А зараз... Валодзька вось хоць бы...

— Валодзька — малайчына, — падтрымлівае гаворку Люба. — Учора Анатоль Сцяпанавіч пасылае яго да нас смалу адбіваць. Ты, кажа, слабак, там будзе лягчэй. Ведаеш, што Валодзька адказаў? Я, кажа, лепш рашоткі пайду цягаць. Яны хоць і цяжкія — па 50 кілаграмаў кожная, але гэта сапраўдная работа.

— На вучобу яго пасылаюць, у Брэсцкі інжынерна-будаўнічы. Вячэрнюю сёлета скончыў...

**Міхайлаў Уладзімір,** камсорг брыгады, 1948 года нараджэння. За плячыма — работа на шахце ў Данбасе, служба ў арміі. На будоўлю прыехаў па пуцёўцы Брэсцкага абкома камсамола разам з жонкай Аленай. Ужо тут нарадзілася ў іх дачка Анжэліка. Ад Міхайлава — уся камсамольская ініцыятыва брыгады. «Самае лепшае ў чалавеку, — лічыць Валодзя, — гэта калі ён усяго сябе аддае рабоце».

А ў другім канцы адкормачніка ў гэты час хлопцы з брыгад Караткевіча і Палуянчыка сумесна засцілаюць жолабы каналаў жалезабетоннымі рашоткамі. Рашоткі — цяжкія. Іван Воінаў і Гена Ліцкевіч бяруць іх па

адной і, перш чым перадаць Расціславу Чэрніку і Генадзю Васілевічу, уважліва аглядаюць — ці няма выбоін і трэшчын. Рашоткі пастаўляе Бярозаўскі завод жалезабетонных вырабаў. Першую партыю будаўнікі забракавалі цалкам. Пасля пісьма кіраўніцтва і камсамольскага штаба будоўлі бярозаўцы значна палепшылі якасць, аднак бракаваныя ўсё ж трапляюцца.

— Здаецца, ніштаватая, — агледзеўшы чарговую рашотку, заўважае Генадзь.

**Гена Ліцкевіч,** член ВЛКСМ, нарадзіўся ў 1952 годзе ў Баранавіцкім раёне. Прыйшоў на будоўлю пасля дзесяцігодкі і службы ў арміі. Кандыдат у майстры спорту па самба. Самая каштоўная рыса, якую адзначаюць у ім сябры, — настойлівасць. Сам Гена больш за ўсё не любіць, калі чалавек прыкідваецца, «іграе». Быць заўсёды самім сабой — гэта для яго самае галоўнае.

— Не, Генка! Паглядзі — трэшчына на канцы. А канцом рашотка будзе ляжаць на бэльцы. Бетон падасца, адваліцца, аголіцца арматура — пойдзе іржа. Давай адкладзём. Сумленне рабочае ў нас ёсць?

— А ў тых, хто выпускае такія рашоткі, ёсць? Там жа кантралёры...

— Ну, цяпер не так ужо і шмат браку. Тры-чатыры рашоткі на сотню... Прымайце, браткі!

**Воінаў Іван,** камсамолец, на будоўлю прыйшоў, як і Гена, улетку 1972, пасля службы ў арміі. Усе дзяўчаты клічуць яго «Рамэа» (Ваня — хлопец-прыгажун) і лічаць, што сапраўдная Джульета на будоўлю яшчэ не прыйшла. Ваня, да таго ж, вельмі добры і ўважлівы па натуры, заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу таварышам.

Рашотку прымаюць Расціслаў Чэрнік і Гена Васілевіч з брыгады Палуянчыка. Яны асцярожна і акуратна ўкладваюць яе ў гняздо.

**Чэрнік Расціслаў** прафесію будаўніка абраў адразу ж пасля васьмігодкі. Да службы ў арміі працаваў у Баранавіцкім аддзяленні «Міжкалгасбуда», потым — у ПМК-17. Больш за ўсё на свеце любіць сына, а сябры любяць Расціслава за тое, што ён ніколі не сумуе.

— Лягла, нібы тут і была, — весела прыгаворвае Расціслаў.

На адной руцэ ў яго няма рукавіцы — аддаў Івану: у таго прадралася, а ў Расціслава рукі агрубелыя.

**Васілевіч Генадзь** нарадзіўся ў 1954 годзе ў Новай Мышы, гэта за тры кіламетры ад будоўлі. Праз два гады будзе трымаць экзамены на атэстат сталасці (у вячэрняй школе). Працуе Гена старанна, рыхтуецца здаваць на муляра трэцяга разраду. Палюбіў прафесію будаўніка ўсёй душой, але не расстаецца са сваёй даўняй марай — паступіць у радыётэхнічны інстытут. Лепшы падарунак яму — новая схема транзістара, і натуральна, што самы любімы занятак у вольны час — карпець над прыёмнікам.

Невядома, хто прапанаваў вось так расставіць хлопцаў — двух з брыгады Палуянчыка, а двух — з брыгады Караткевіча. Аднак карысць ад гэтага ёсць. Падтрымліваючы марку сваёй брыгады, ні тыя, ні другія не паказваюць і выгляду, што стаміліся. Працуюць з жартамі і смехам, не прапусцяць, каб не зачапіць дзяўчыну, што прабяжыць міма, яшчэ больш старанна завіхаюцца, калі паблізу праходзіць каторы з брыгадзіраў.

— Наш учора паказваў Данілевічу, як трэба працаваць! Я табе скажу: от гэта клас!

— А наш нядаўна на заклад цэглу цягаў. 18 штук паклалі — панёс!

У слове «наш» — даўняя, традыцыйная павага да камандзіра і старэйшага таварыша. І хоць хлопцы і самі, як кажуць, з вусамі, але майстэрства брыгадзіра выклікае ў іх захапленне.

Недзе перад абедам у адкормачнік зазірае Караткевіч.

— Аднак і малайцы вы ў мяне! Палову цялятніка заслалі! Давядзецца сказаць Прыгароўскаму, каб граматамі вас узнагародзіў.

— А навошта яна мне, Анатоль Сцяпанавіч? У мяне іх — не ведаю, што і рабіць з імі. Хоць бы меншыя былі, дык у альбом паклаў бы. А то — прасціна!

— Але ўсё-такі прыемна грамату палучыць...

— Гэ, канечне, прыемна! Вунь наш Генка два тыдні назад грамату атрымаў, першую ў жыцці, дык да гэтага часу імяніннікам ходзіць. Бачыце, пачырванеў? Я вось што хачу сказаць. Па-першае, граматы не трэба тайком уручаць, як у нас гэта часам робіцца. Пры людзях трэба, каб усе бачылі, каму і за што. Ведаеце, якая аддача будзе? Вунь наш Генка: удвая лепш стаў працаваць. Ну, не чырванеі... А па-другое, варта было б крыху менш гэтых грамат выпісваць, не раздаваць налева і направа...





— Гм, а ты Росцік, галава... Перадам Прыгароўскаму... На сходзе мо выступіш?

— І выступлю...

Камсамольскі сход сабраўся праз месяц, і быў той сход прысвечаны падвядзенню вынікаў работы за першае паўгоддзе. Паведамленне зрабіў Вярбіцкі.

— Таварышы, мне прыемна сказаць вам, што мы дасягнулі пэўных поспехаў. Урэшце мы скончылі валаводзіцца з праклятым бітумам і прыступілі да мантажу абсталявання ў будынках І перыяду. Неўзабаве мантаж будзе скончаны, і на комплекс паступіць першая партыя бычкоў. Ідуць работы ў будынках ІІ перыяду, добраўпарадкоўваюцца дворыкі, вырасла першая сянажная вежа... Па комплексе асвоена пяць з гакам мільёнаў рублёў пры плане 4 мільёны 600 тысяч, у тым ліку ў сёлетнім годзе — адзін мільён 838 тысяч пры плане ў адзін мільён 580 тысяч. Па выніках першага квартала мы заваявалі Пераходны сцяг Міністэрства сельскага будаўніцтва СССР і 3.000 рублёў прэміі за першае месца ў сацыялістычным спаборніцтве. Тут нямала і вашай самааддачы працы, таварышы камсамольцы! Уперадзе сёння ідзе брыгада Аляксандра Нізаўца, якая план выканала датэрмінова — 8 чэрвеня!

Счакаўшы, калі аціхнуць воплескі, Ігар Паўлавіч працягваў:

— Відаць, камітэту камсамола і штабу будоўлі варта падумаць над тым, як зрабіць, каб «сакрэты» брыгады Нізаўца сталі вядомы ўсім, як распаўсюдзіць накоплены ў калектыве вопыт.

Вы заўважылі — у апошні час мы амаль не адчуваем цяжкасцяў з пастаўкамі тэхнікі і матэрыялаў, і за гэта — вялікае дзякуй вашаму «Камсамольскаму пражэктару» і камуністу Дзмітрыю Вішнеўскаму, які яго ўзначальвае. Але тут мне хочацца сказаць: каму многае даецца — з таго многае і патрабуецца. Трэба шырэй прапагандаваць перадавыя метады працы. Вось адбыўся ў нас конкурс на лепшага муляра. Пераможцам конкурсу, як вы ведаеце, стаў сакратар камітэта камсамола нашай ПМК Франц Ліцкевіч. Быццам і нядаўна быў той конкурс, а вынікі ўжо відочныя. Прыкметна павысілі сваё майстэрства Расціслаў Чэрнік, Генадзь Васілевіч, Леў Данілевіч і многія іншыя маладыя муляры. Ім ёсць на каго раўняцца, з каго браць прыклад. Трэба было б праводзіць такія конкурсы і сярод рабочых іншых прафесій, адкрыць на будоўлі школу камуністычнай працы і разам з практыкай вывучаць у ёй тэорыю сацыялістычнага спаборніцтва, працы Уладзіміра Ільіча па гэтым пытанні.

У заключэнне хачу парадаваць брыгаду Нізаўца яшчэ адной прыемнай навіной. Брыгада апошнія тры месяцы займала першыя месцы ў сацыялістычным спаборніцтве і ў адпаведнасці з распрацаваным намі «Палажэннем аб спаборніцтве» атрымлівае Ганаровую грамату ПМК і права зрабіць экскурсію ў любы горад рэспублікі!

Пакуль Аляксандр Нізавец пад дружныя воплескі і радасныя воклічы ідзе да трыбуны, дазвольце прадставіць яго.

**Нізавец Аляксандр Аляксандравіч,** беспартыйны, нарадзіўся ў 1928 годзе ў Баранавічах, скончыў тэхнікум сувязі і папрацаваў па спецыяльнасці два гады, але ...пацягнула на будоўлю, мо таму, што і дзед яго, і бацька былі добрымі цеслярамі. Будаваў у Баранавічах завод «Станкапрылады», электрастанцыю, школы, жылыя дамы, ЗЖВ. На будаўніцтве комплексу — з першага дня. Любіць, каб пад рукой заўсёды быў цяслярскі аловак. Любіць вялікія будоўлі. Не любіць малыя... «Размах не той, маштабы не тыя...»

Атрымаўшы грамату, Аляксандр Аляксандравіч ступіў колькі крокаў наперад, бліжэй да краю сцэны.

— Тут Ігар Паўлавіч гаварыў пра нейкія сакрэты нашы. Дык вось, ніякіх сакрэтаў у нас няма. Прыходзьце, глядзіце, як мы працуем — калі ласка! А калі ўжо гаварыць, сакрэт наш — у планаванні рабочага часу, ва ўзаемападмене і ўзаемавыручцы. Без гэтага нельга спаборнічаць. Мы плануем, што будзем рабіць заўтра, паслязаўтра, плануем расстаноўку рабочай сілы і аб'екты, дзе будзем працаваць, і матэрыялы, якія нам будуць патрэбны, заказваем загадзя. Таму ў нас і няма прастояў. А ў некаторых брыгадах бывае так, як казаў Райкін: цэгла ёсць — раствору няма, раствор ёсць — цэглы няма... Цяпер ад напружаных дзённых планаў мы пераходзім да тыднёвых. Распрацоўваць і вытрымліваць іх цяжэй, бо тут мы трапляем у залежнасць ад рытму ўсёй будоўлі. Дарэчы, нешта занадта часта падводзяць нас кранаўшчыкі — учора праседзелі дзве гадзіны мантажнікі без работы. Вельмі патрэбна ваша дапамога, таварышы камсамольцы. Мусіць, трэба скласці асобны графік — графік для ўсёй будоўлі з напружаннем. Як у нас здаралася раней? Плануем штосьці і сумняваемся: можа, выканаем, а можа, і не. Такога быць не павінна.

Пра ўзаемападмену. У маёй брыгадзе кожны мантажнік мае некалькі спецыяльнасцяў. Аляксандр Аўсіевіч, напрыклад. Ён і з нівелірам працаваць умее, і муляр неблагі, і зварку ведае. Пра тое, якую карысць гэта прыносіць, гаварыць не давядзіцца. На рабоце ўсялякае можа быць: хтосьці захварэў, той у адпачынку ці ў камандзіроўцы...

І яшчэ — спецыяльна для брыгадзіраў. Брыгадзіру часта даводзіцца адлучацца: то на планёрку, то па якой іншай прычыне. А што робіць у гэты час брыгада? Бывае, што і перакур ладзіць. І не таму, што пасачкаваць захацелася, а таму, што не ведаюць, што далей рабіць. Брыгадзір не сказаў. Мне здаецца, трэба даваць заданні на ўвесь дзень, а не па прынцыпе: «прынясі сюды і занясі туды». Давярайце сваім рабочым, вучыце іх мысліць самастойна, самім прымаць рашэнні... Рызыка, кажаце, вялікая? Магчыма! Але ў адваротным выпадку вы ніколі не падрыхтуеце сабе памочніка. Правяраць, вядома, трэба, але хай і самі часам памазгуюць — народ зараз адукаваны...

Доўга ішоў той сход. Услед за Нізаўцом выступаў Расціслаў Чэрнік, які падзяліўся сваімі думкамі аб спаборніцтве. Затым слова ўзяў Міхаіл Прыгароўскі. Пачаў ён з гаворкі пра настаўніцтва. Паказальнай у гэтым сэнсе з'яўляецца брыгада Івана Міхайлавіча Копаця. Загартоўку брыгада прайшла на самым пачатку будаўніцтва і на самых цяжкіх работах. Паказалі сябе тады ветэраны: Сяргей Ананьевіч Паклікаеў, Мікалай Уладзіміравіч Свістуновіч, Аляксандр Фядосавіч Аносаў. А неўзабаве ў брыгаду прыйшлі навічкі. Прывёў на будоўлю свайго сына Ігара Сяргей Ананьевіч, прыйшлі яго аднагодкі Дзмітры Данісевіч, Мікалай Астапчык, Іван Прушынскі. Мала што ўмела моладзь. Бралі ўсё сілай, азартам. Вось тут і спатрэбілася працоўная загартоўка ветэранаў, іх вопыт.

Выступіў і Франц Ліцкевіч. Расказаў, як «Камсамольскі пражэктар» сочыць за захаваннем тэхнікі бяспекі на будоўлі, як бічуе ў сваіх выпусках прагульшчыкаў і аматараў чаркі, праводзіць рэйды па праверцы чысціні і парадку ў бытоўках, якасці складзіравання і захоўвання матэрыялаў і будаўнічых дэталяў...

Анатоль Сцяпанавіч Караткевіч пачаў сваё выступленне з таго, што прыгадаў, як адразу пасля вайны ішлі на штурм па аднаўленні разбуранай гаспадаркі рэспублікі.

— Цяпер патрэбна планамерная, прадуманая работа. Поспех справы рашае не адзін чалавек, а ўвесь калектыў. Штурмаўшчына адышла ў нябыт. І прыемна, што на нашай будоўлі яе і раней, можна сказаць, не было. А калі прымяніць напружаныя планы, пра што тут гаварылі, тады, мне здаецца, яе ў нас не будзе ўвогуле.

І яшчэ — пра сустрэчныя планы. Вось мы спаборнічаем з брыгадай Палуянчыка. Я толькі што гутарыў са сваімі хлопцамі. Мы вырашылі выканаць гадавое заданне да 16 снежня, асвоіўшы 327 тысяч рублёў. Дадатковая выпрацоўка на аднаго чалавека складзе 45 рублёў. Думаю, што брыгада Палуянчыка падтрымае мяне.

Уладзімір Палуянчык з месца, пад апладысменты, сказаў:



— Што ж, падтрымліваем вашу ініцыятыву, Анатоль Сцяпанавіч. Наш сустрэчны план такі будзе: запланаваныя 100 тысяч рублёў асвоіць да 20 снежня. Дадатковая выпрацоўка на чалавека складзе да канца года 40 рублёў...

Аўтобус мякка коціцца па новай асфальтоўцы. Людзі, што ездзяць у ім штодня на будоўлю, даўно ведаюць адзін аднаго, ім быццам і ёсць пра што пагаварыць, і ў той жа час — быццам усё ўжо перагаворана. Але сёння ў аўтобусе — «новенькія»: муляр, які калісьці зволніўся, а зараз зноў едзе прасіцца на будоўлю, і хлопец з брыгады Караткевіча — спазніўся на работу. Ён становіцца аб'ектам асуджэння і спачування.

— Пападзе табе, хлопец! Анатоль Сцяпанавіч не даруе!

— Працоўны каэфіцыент абавязкова зрэжа!

Каэфіцыент працоўнага ўдзелу ўведзены на комплексе не так даўно. Ён таксама спрыяе актывізацыі спаборніцтва. У канцы кожнага месяца збіраецца савет брыгады і абмяркоўвае паводзіны кожнага члена калектыву, яго працоўную актыўнасць, яго ўклад у агульны поспех. Спазніўся некалькі разоў на працу, лайдачыш, калі іншыя завіхаюцца, не выконваеш распараджэнняў брыгадзіра, лаешся — мінус адну, дзве, а то і тры дзесятых бала. Пры размеркаванні зарплаты гэтыя тры дзесятыя абернуцца зусім пэўнай сумай, якая будзе вылічана з заробку. Наадварот, калі ты праявіў ініцыятыву, калі заўважана твая працоўная актыўнасць, — атрымлівай тыя ж адну, дзве, тры дзесятыя бала...

Будоўля гудзе, раве маторамі, поўніцца бразганнем металу. Майстар Барыс Уладзіміравіч Мартынаў не быў тут два дні.

— Толькі два дні, а колькі змен! Караткевіч са сваімі хлопцамі агароджу пачаў ставіць, Палуянчык — дворыкі асфальтам мосціць. Значыць, наваселле хутка.

— Але! Хутка прыгоняць першую партыю цялят, — гаворыць інжынер тэхнагляду Дзмітры Мікалаевіч Крывель. — Вы ведаеце, што мяне больш за ўсё ўразіла на гэтай будоўлі? Не тэмпы і не размах, а — людзі! Чэснае слова, нідзе не сустракаў раней, каб будматэрыялы вось так рвалі з рук адзін у аднаго.

Падышлі Міхаіл Прыгароўскі і начальнік вучэбнага пункта на будоўлі Іосіф Фёдаравіч Галуза.

— Аддзелачнікі нам зараз патрэбны найперш, Іосіф Фёдаравіч, — гаварыў па дарозе Міхаіл. — Комплекс расце. Значыць, вам трэба перакваліфікоўвацца.

— За вамі хіба паспееш? Толькі што 100 мантажнікаў падрыхтаваў, а вам ужо аддзелачнікаў падавай!

— Не мы падганяем — час не церпіць...

Вакол жыла, гаманіла на поўны голас будоўля, іх родны «Мір».

А ім здавалася — яны чуюць і рытм КамАЗа, і працоўны пошум Магнітکі, і рабочую хаду цюменскіх нафтавікоў. Усе працоўныя клопаты краіны аднолькава адгукаюцца і на гэтай не вельмі вялікай будоўлі, але надзвычай вялікай і важнай у біяграфіі кожнага з тых, пра каго я паспрабаваў расказаць.

**Хведар ЗАЯЦ.**
Фота **В. ДУБІНКІ.**

■ ■ ■

● Міхась ЧАРНЯЎСКІ

# БУРШТЫНАВАЯ ПАЦЕРКА

## ДЗЁННІК АРХЕОЛАГА

### ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Недзе ўжо над Бярозай белая коўдра воблакаў парадзела, і з акна самалёта пачала праглядацца восеньская зямля з цёмна-зялёнымі хвойнікамі, жоўтымі бярэзнікамі і альшэўнікамі, што рудзізной разлівалася паўз звілістых рэчак. А перад Леплем пачаліся азёры. Яны на дэкарацыях лялечнага тэатра. Яны былі мініяцюрныя, і на іх блакітнай роўнядзі тонкімі рыскамі вылучаліся зусім мікраскапічныя адсюль лодачкі. На азёрных берагах туліліся да вады вёсачкі і мястэчкі, падстаўляючы скупаватаму верасьнёўскаму сонцу шэрыя далоні стрэхаў.

Зямля здавалася роўнай, узгоркі ледзь угадваліся па абстрактных авалах шэрарудой, а месцамі аж чырванаватай, свежа ўзаранай раллі. І ўжо зусім цёмнарудымі плямамі, разлінаванымі надта ж роўнай сеткай канаў і каналаў, праплывалі пад намі тарфянікі. І скрозь былі ніткі, шнурочкі, стужкі і плямкі вады. Непаўторная Віцебшчына — беларуская Поўнач, прыгажуня ў зялёнай сукенцы з блакітнымі кветкамі азёр...

Праз нейкі час пад самалётнае крыло густа высыпалі маленькія дамочкі, затым большыя — на два і тры паверхі, а злева паказалася шырокая стужка ракі. «Мусібыць, Дзвіна»,— падумалася. А калі закурэлі коміны заводаў, тоненькія з такой адлегласці, як алоўкі, зразумеў, што пад намі Віцебск.

Самалёт, завальваючыся на бок, пачаў заходзіць на аэрадром. Зямля крута напаўзала на гарызонт, і імгненне здавалася, што неба перакуліцца пад ногі і зямля са смяротнай хуткасцю рынецца на нашу дрыготкую птушку...

Дарога з Віцебска на Сянно — між лясоў, палёў і зноў лясоў. Да самага Галоўска не даехалі — аўтобус сапсаваўся. Давялося ісці яшчэ кіламетры са тры спачатку лесам, а затым — перад самай вёскай — праз асушаны тарфянік.

Гаспадыня, у якой я спыняўся яшчэ летам з нашым інстытуцкім фатографам,



Бурштынавыя каралі.

успрыняла маё з'яўленне без асаблівай радасці:

— Поўная хата студэнтаў, прыехалі бульбу капаць.

— Дык я можа зноў у пуню на сена?

— Ідзіце, калі ноччу не змерзнеце...

Змерзну не змерзну, але начаваць недзе трэба, і я вузкай сцежкай праз гародчык прабраўся да пуні, прыставіў драбіны і палез на духмянае і шорсткае сена. Выкапаў нару і, не распранаючыся, схаваўся ў сене ледзь не з галавой.

Цёпла, як часта бывае хмарнай ноччу ў пачатку восені. Ляжу і слухаю начную цішыню. Забрахаў сабака. Потым на вуліцы пачуліся дзявочыя галасы. І зноў ціха. А пасля пасыпаўся дробны дождж. І, ужо засынаючы, пашкадаваў, што пуня крыта саломай, а не дранкай: спаць пад дажджавое шапаценне па дранцы — адна асалода.

### ДЗЕНЬ ДРУГІ

Раніца хмарная, але дажджу няма. Толькі б ён не пайшоў днём, бо на балота тады не сунешся. Выбіраюся з сена бадзёры і ў добрым гуморы—і не змерз, і выспаўся нішто, а ўперадзе была цікавая дарога, і нагам не цярпелася адмерваць кіламетры...

Спачатку ісці трэба было па вузкай палосцы тарфяніку, ператоранай у нейкае падабенства дарогі, затым звярнуць управа — уздоўж канавы. Дарогу тут я ўжо збольшага ведаю і таму рашаю зрэзаць кут між канавай і рэчкай і шыбую проста праз малады бярэзнік. Неўзабаве бярэзнік радзее, пачынаецца травяное балота. На кожным кроку чапляюся то за пень, то за паваленае дрэва. А трава-трыснёг — ледзь не ў мой рост, наперадзе нічога не відно. Недзе збоку трывожна затрашчала сарока, і рука міжволі мацае — ці на месцы нож? Можа, трэба было б павярнуць назад і ісці знаёмым шляхам уздоўж канавы, але злосць на самога сябе штурхае наперад: «Папёрся на скрут галавы, то і пхніся да канца, калі карацейшай дарогі захацелася...» Выходжу да рэчкі нечакана — проста з травы ссоўваюся на скос берага.

Рэчка Крывінка тут простая, як страла. Толькі зрэдку робіць павароты, строга вызначаныя магістральным каналам, каб потым зноў, праразаючы хмызняк, бегчы напрамкі да Дзвіны. Час ад часу нешта плёхаецца ля берага, але маім блізарукім вачам не разгледзець — ці то жабы ўцякаюць, ці то шчупакі ганяюць драбнечу.

Гадзіне а дзесятай, калі пачало добра смактаць пад лыжачкай, паперадзе забялеў мост, а лявей, на невысокіх пагорках, паказалася, нарэшце, і вёска Асавец — мэта маіх імкненняў. Ля самай вады торф знік, і зараз можна ўжо было ісці па цвёрдым грунце з белага дробназярністага пяску.

У Асаўцы пасля нядоўгіх угавораў цётка ўзяла мяне на пастой у вялікую, як пуня, хату.

### ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

Яшчэ ўчора вечарам схадзіў у суседнія Дабрыгоры, дзе дырэктар мясцовай школы паабяцаў даць на раскопкі некалькі вучняў — «не на шкоду заняткам». Сёння прыйшлі два асавецкія хлопцы. Для пачатку хопіць і такой «рабочай сілы».

Дзе пачаць капаць? Ведаю, што культурны пласт, які і хавае ўсе знаходкі, залягае глыбока пад тарфяной тоўшчай. Значыць, трэба капаць многа лішняга, а грошай на рабочых не так ужо і шмат, ды і каб абкладныя дажджы не пачаліся. Але мне пашанцавала...

Наогул, верасень гэты быў для мяне шчаслівым месяцам, а ўсё лета неяк прайшло цераз пень калоду: хадзіў я і па Віліі, і па Нёмане, трапіў нават на далёкую Браншчыну, а ўсё без асаблівай карысці. І нерваваўся, і мітусіўся і, наогул, хацеў узяць водпуск і з'ехаць да бацькоў на Мядзельшчыну, аж тут...

У самым пачатку верасня прыйшоў ліст з Лагойска: «Ля вёскі Зацэнне мясцовы жыхар Сяргей Шубара знайшоў старажытнае паселішча». Неадкладна еду. Капаць было цяжка, месца раскопак залівалася вадой рэчкі Цны, але чаго там толькі ні было: матыкі, кінжалы, стрэлы, сякеры, кавалкі глінянага посуду. І ўсё гэта аж з чацвёртага тысячагоддзя да нашай эры!..

Шанцуе, здаецца, і тут. Ля ўпадзення ў Крывінку вадазборніка бульдозер выкапаў нешта накшталт катлаванчыка — загарэлася было тарфянішча, дык запрудзвалі рэчку. Невялікі той катлаванчык, але пад раскопкі якраз падыходзіць. Толькі бярэ сумненне, ці не пашкодзіла машына культурны пласт. Усе разам бярэмся за рыдлёўкі і пачынаем «зачышчаць» гэтае месца.

Капаецца лёгка і спорна, і нішто нам не перашкаджае. Толькі вось пастухі падагналі статак, і на нашу працу прыйшоў падзівіцца бык — такі здаравенны, што не дай бог сустрэцца з ім на адной дарозе. Стаіць ён непадалёк, за нашымі спінамі, капыціць зямлю ды час ад часу пагрозліва раве. Кідаю торф, а сам вока з быка не спускаю. Чорт ведае, якія думкі ў ягонай галаве. Ды і наогул: ці бываюць у яго думкі, акрамя як нажэрціся ды каго-небудзь падчапіць на рогі? І карціць мне перабрацца на другі, бяспечнейшы бок, але няёмка перад хлопцамі. Нарэшце надакучыў бык і маім работнікам, яны замахалі рыдлёўкамі і адагналі жывёліну.

— Вы не бойцеся. Бачыце, у яго ў носе кальцо! Калі кінецца, то хапайце за кальцо, і тады ён будзе, як цяля.

Я падзякаваў хлопцам за добрую параду, але ні страчацца з тым быком, ні за кальцо яго хапаць усё ж не хацелася.

Урэшце рыдлёўка аб нешта чвіркае. Падымаю чарапок глінянага гаршка, пачарнелы, з нагарам. І ён быццам шэпча мне: «Я служыў тваім вельмі далёкім продкам, і калі будзеш уважлівы, дык знойдзеш тут шмат цікавага і спазнаеш не адну таямніцу».

Ужо амаль скончылі «зачыстку», як прыбег пастух.

— Браткі, памажыце! Бык у багну ўсунуўся.

Мы ўскідваем рыдлёўкі на плечы і шыбуем уздоўж канала за пастухом. Дзе ж той бык?

Нехта крыкнуў:

— Асцярожна!

Гляджу пад ногі і бачу, як між асакі і дробнага лазняку чарнее пляміна густой, як каламазь, тарфяной вады — заплылы тванню канал.

— Мы тут мералі. Жардзіна на метры чатыры лезе, а дна ўсё няма,— тлумачаць мне хлопцы.

Снежань 1921 года стаў незабыўным для Харужай—яе, 18-гадовую камсамолку, камуністы Бабруйска аднагалосна прынялі ў партыю.

У 1922 годзе ў Мінску адкрываецца рэспубліканская саўпартшкола, і Вера ў ліку першых яе слухачоў. Як звычайна, яна ў гушчы моладзі, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, рэдагуе школьны рукапісны часопіс, пачынае выступаць у рэспубліканскім камсамольскім друку.

На заклік У. І. Леніна і партыі ўзмацніць барацьбу з беспрытульнасцю горача адгукнулася і Харужая. Як прапагандыст у Мінскім Доме юнацтва і Камсамольскай камуне яна змагла стаць блізкім сябрам, добрым дарадчыкам хлопчыкаў і дзяўчынак, якія страцілі бацькоў у агні грамадзянскай вайны.

Пасля заканчэння саўпартшколы Харужая працуе сакратаром палітасветаддзела ЦК камсамола Беларусі, рэдагуе камсамольскую газету «Малады араты». Адначасова яна супрацоўнічае ў газеце «Красная смена», з'яўляецца членам рэдкалегіі «Полымя рэвалюцыі».

Актыўны змагар за новае жыццё, камуністка Харужая ні на мінуту не забывалася пра тое, што побач, у Заходняй Беларусі, працягваецца суровая класавая бітва. «Маё месца там, на перадавой»,—рашае яна і ў пачатку 1924 года пад імем настаўніцы Веранікі Карчэўскай з'яўляецца ў прыгарадзе Беластока. Гаваркая і вясёлая, дасканала валодаючы польскай і беларускай мовамі, Вера хутка асвойталася ў новых для яе ўмовах канспірацыі.

У хуткім часе яе голас гучыць на мітынгах, масоўках і сходах у Брэсце і Беластоку, Гродне і Вільні, Пінску і Пружанах. Для кожнай аўдыторыі ўмела яна падабраць патрэбнае слова, кожнаму са слухачоў перадаць частку сваёй пераконанасці, упэўненасці ў перамозе агульнай справы. Пры яе актыўным удзеле ствараюцца камсамольскія ячэйкі ў многіх вёсках Палесся, Слонімшчыны. Навагрудчыны.

Тайна раз'язджаючы па гарадах і вёсках Заходняй Беларусі, яна інструктуе кіраўнікоў падпольных арганізацый, дапамагае наладзіць работу юнацкіх прафсаюзных секцый, піша і распаўсюджвае лістоўкі і адозвы з заклікам да барацьбы з акупацыйным рэжымам. Уменне згуртоўваць моладзь, збіраць сілы было, па водгуках саратнікаў Харужай, яе самай адметнай рысай як камсамольскага дзеяча, агітатара, і гэтаму майстэрству вучыліся ў яе многія рэвалюцыянеры.

Нават ворагі, як відаць з архіўных дакументаў, прызнавалі яе арганізатарскія і прапагандысцкія здольнасці. Так, начальнік паліцэйскай экспазітуры ў сваім данясенні аб мітынгу сялян вёскі Чахец Пружанскага павета пісаў: «Агітатарша казала прыкладна такія словы: «Дрэнна жывецца рабочым і сялянам, фабрыкі закрываюцца, рабочых выкідваюць з кватэр і нічога ім не даюць. З сялян бяруць падаткі, на якія ўтрымліваюць паліцыю, якая прыгнятае нас. І ўсё гэта таму, што ў нас урад панскі. Далей цярпець мы не можам і заклікаем вас да рэвалюцыі. Вядома, самі здзейсніць яе вы не зможаце, яе пачнуць рабочыя, а вы павінны падтрымаць іх. Заклікаем вас на барацьбу з урадам. Сродкам гэтай барацьбы з'яўляецца адмаўленне ад выплаты падаткаў, ад выплаты адмаўляйцеся, як толькі можаце...» Прамову закончыла заклікам да арганізацыі і гатоўнасці да барацьбы. Закончыла прывітаннямі ў гонар Камуністычнай партыі: «Няхай жыве Камуністычная партыя! Далоў паліцыю! Далоў урад!» Натоўп сялян адказваў ёй выкрыкамі: «Няхай жыве!», «Далоў!».

Веру Харужую выбіраюць членам Цэнтральнага Камітэта КПЗБ і кааптуюць у склад ЦК камсамола Заходняй Беларусі. Пазней яна становіцца сакратаром ЦК КСМЗБ і членам ЦК КСМ Польшчы. Праз сувязныя яна падтрымлівае пастаянны кантакт з кіраўнікамі КСМ Польшчы, каардынуючы з імі рэвалюцыйную дзейнасць камсамола Заходняй Беларусі.

Пры садзеянні Харужай камсамол Заходняй Беларусі пачаў выдаваць газету «Малады камуніст». Яна ўдзельнічае ў стварэнні газеты «Чырвоны сцяг», супрацоўнічала ў часопісах «Коммунистический интернационал» і «Мировой комсомол».

Ахопленая пафасам рэвалюцыйнай барацьбы, Харужая піша з падполля: «...я не толькі жыву, але і гару жыццём, працай, захапленнем, энергіяй. ...Якая цудоўная штука — жыццё, ды яшчэ такое жыццё, якім я жыву! Любімая, цудоўная праца, непаўторныя, якія нельга апісаць, умовы працы, найшырэйшы размах...»

На рост нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі польскія ўлады адказалі ўвядзеннем ваеннага становішча, надзвычайных судоў, карнымі экспедыцыямі. З дапамогай правакатараў дэфензіве ўдалося дабрацца да кіруючага ядра КПЗБ і КСМЗБ, за актывам партыйнага і камсамольскага падполля быў устаноўлены тайны нагляд. На Харужую ў аддзяленні ахранкі заводзіцца дасье: «Вера Харужая, дачка Захара і Аляксандры Каляцэвіч, псеўданім — Карчэўская Вераніка, псеўданім—Верка, грамадзянка Савецкай Расіі (Савецкай Беларусі), 22 гадоў, па дакументах мае праваслаўнае веравызнанне, у цяперашні час без веравызнання. ...Памянёная, уступіўшы ў партыю, свядома імкнулася да звяржэння ў Польшчы грамадскага дзяржаўнага ладу. Лічыла, што мэты можна дасягнуць шляхам рэвалюцыі і ўстанаўлення дыктатуры пралетарыяту. Прызнавала формай кіравання савецкую рэспубліку, прычым лічыла, што ўсходнія ваяводствы... пасля ўстанаўлення ў іх савецкіх урадаў павінны аб'яднацца з Савецкай Беларуссю, аддзяліўшыся ад Рэчы Паспалітай Польскай».





У сярэдзіне верасня 1925 года ў адным з паліцэйскіх рапартаў паведамляецца, што «кур'ер ЦК Вера Харужая некалькі дзён назад выехала ў Беласток», дзе ў ноч з 14 на 15 верасня на адной з явачных кватэр была схоплена дэфензівай.

Пасля 15-месячнага зняволення ў беластоцкай турме Харужую судзілі ў Брэсце ў студзені 1927 года разам з трыццаццю іншымі кіраўнікамі партыйнага падполля.



**Сям'я Харужых (злева направа): Надзежда Захараўна з дачкой Ліляй, маці Аляксандра Іеранімаўна, Васіль Захаравіч, Вера Захараўна з дачкой Аняй.**

У Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці захаваліся матэрыялы так званага працэсу 31-га, сярод якіх—выступленне Веры Харужай. Яна з гонарам пацвердзіла сваю прыналежнасць да Камуністычнай партыі: «Я адданая камуністычнай ідэі і буду верна служыць ёй усё сваё свядомае жыццё. Мяне не спалохае турэмнае зняволенне, якім бы доўгім яно ні было і якім бы цяжкім ні быў мой лёс, які чакае мяне». Яна была прыгаворана да шасці гадоў пазбаўлення волі.

За першым працэсам паследаваў другі, і Харужая зноў на лаве падсудных. Суд, які праходзіў у Беластоку з 17 красавіка па 28 мая 1928 года, увайшоў у гісторыю як працэс 133-х членаў КПЗБ і КСМЗБ. Па рашэнню ЦК КПЗБ толькі некалькім камуністам даручалася выступаць на судзе, адкрыта заявіўшы аб сваёй прыналежнасці да партыі. У іх ліку была і В. Харужая.

У адным з Верыных лістоў на волю чытаем: «За ўвесь час працэсу мы былі моцна арганізаванай, згуртаванай, поўнай энергіі масай. Усе выступленні гаварылі аб нашай несакрушальнай сіле, гатоўнасці змагацца далей, дыхалі пагардай і нянавісцю да іх, смеласцю і бязмежнай адданасцю справе».

Восем гадоў строгага турэмнага рэжыму—такі быў прыгавор гэтага судзілішча. Турэмныя краты паўсталі на яе жыццёвым шляху, і Харужая, якая полымем сваім запальвала сэрцы людзей, апынулася ў каменных сценах. З сябрамі, таварышамі, роднымі Веру звязвае з гэтага часу адзіная нітка — пісьмы, якія тайна перадаюцца на волю.

«...Я сяджу за тое, у што палымяна веру. ...Некалькі гадоў гвалту, зняваг і голаду—гэта глупства, гэта толькі надасць бадзёрасці, злосці, энергіі. Буду больш любіць свабоду, мацней ненавідзець ворагаў, лепш працаваць».

Шматкі паперы і палатна, якія дайшлі з катаржнай турмы «Фардон» і кожны радок якіх іскрыўся невычэрпальным аптымізмам, стойкасцю, верай у перамогу, станавіліся дарагімі рэліквіямі для сяброў і родных Харужай. Частку яе пісьмаў ім удалося сабраць і падрыхтаваць для выдання. У 1931 годзе выйшла кніга «Пісьмы на волю», поспех якой быў настолькі вялікі, што на працягу кароткага часу яна перавыдавалася некалькі разоў на рускай, беларускай і польскай мовах. Імя аўтара было схавана пад псеўданімам «Польская камсамолка».

Пра аўтара кнігі цёпла адгукнуліся А. М. Горкі і Н. К. Крупская. Надзежда Канстанцінаўна лічыла, што гэтыя пісьмы мог напісаць толькі «чалавек моцнай волі, перакананы рэвалюцыянер, змагар за рабочую справу».

У 1930 годзе ў турэмныя засценкі прыйшла радасная вестка: за вялікія заслугі перад Радзімай Прэзідыум ЦВК БССР узнагародзіў Харужую ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Сем доўгіх гадоў правяла Харужая за турэмнымі кратамі. І вось, нарэшце, прыйшла доўгачаканая свабода. Па дамоўленасці паміж урадамі СССР і Польшчы восенню 1932 года быў праведзены абмен палітзняволенымі. Сярод сарака вязняў, якія падлягалі абмену, была і Харужая.

Лячэнне і кароткі адпачынак—і яна зноў уключаецца ў актыўную працоўную дзейнасць. Аднак кабінетная работа не задавальняе Веру Захараўну. Ёй, як паветра, была неабходна жывая сувязь з людзьмі, яе нястрымна цягнула ў гушчу рэвалюцыйных падзей. Але вярнуцца ў Заходнюю Беларусь, куды яна рвалася ўсёй душой, было немагчыма—занадта добра ведала яе польская ахранка. Харужая настойліва патрабуе накіраваць яе на самы цяжкі ўчастак сацыялістычнага будаўніцтва і дабіваецца гэтага. Па пуцёўцы ЦК партыі яна едзе ў Казахстан.

Пустэльны бераг велізарнага возера, дзе нават трава не расце, людзі жывуць у юртах і зямлянках, будматэрыялы дастаўляюцца на вярблюдах і баржах—такой паўстала перад Харужай важнейшая будоўля другой пяцігодкі—Прыбалхашбуд. Гэта быў у той час адзін з самых цяжкіх участкаў, куды ехалі энтузіясты па закліку партыі, па загаду свайго сэрца.

Райком партыі Прыбалхашбуда ў маі 1935 года прызначае Веру Захараўну інструктарам, замацоўвае за ёй групу партыйных арганізацый будоўлі і даручае весці пытанні культурна-асветнай работы і народнай адукацыі ў раёне. Гэта была яе стыхія—работа з людзьмі і сярод людзей.

У пачатку 1936 года Харужую выбіраюць сакратаром парткома аддзела галоўнага механіка, а ў хуткім часе зацвярджаюць загадчыцай Дома партыйнай асветы і выбіраюць старшынёй Прыбалхашскага раённага камітэта Міжнароднай арганізацыі дапамогі рэвалюцыянерам (МОПР).

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Вера Захараўна змагла вярнуцца ў родныя сэрцу мясціны, з якімі было звязана яе рэвалюцыйнае юнацтва. Спачатку яна працуе ў райкоме партыі ў Целяханах, а затым—у аддзеле прапаганды і агітацыі Пінскага абкома КПБ. Тут і застала яе вайна.

На Піншчыне партызанскі атрад быў сфарміраваны яшчэ да прыходу немцаў, і Вера Захараўна ўвайшла ў склад яго кіраўніцтва. У атрадзе яна заставалася прапагандыстам—сустракалася з жыхарамі навакольных вёсак, падбадзёрвала тых, хто страціў надзею, выкрывала фашысцкую хлусню, усяляла веру ў перамогу над ворагам.

У адным з першых баёў атрада быў цяжка паранены і пасля загінуў муж Харужай. Мужна перанесла яна бязмерную горыч страты і засталася сярод народных мсціўцаў, нягледзячы на тое, што чакала дзіця.

Абставіны на фронце ўскладняліся, і гэта патрабавала актывізацыі партызанскай вайны ў тыле ворага. Атрад рос з кожным днём, яму не хапала зброі і боепрыпасаў. Неабходна было перайсці лінію фронту, звязацца з Масквой і забяспечыць дастаўку самалётамі ваенных грузаў. Гэта адказнае заданне, ад якога ў многім залежаў лёс атрада, даверылі Веры Захараўне. Яна выканала даручэнне.

ЦК Кампартыі Беларусі не дазволіў Харужай вярнуцца ў атрад і адправіў у савецкі тыл, дзе ў горадзе Скопіне Разанскай вобласці 5 кастрычніка 1941 года ў яе нарадзіўся сын, якога яна назвала Сяргеем у памяць аб загінуўшым бацьку. Але не доўга змагла пражыць Вера Захараўна далёка ад змагарнай Беларусі. Калі яе сыну споўнілася чатыры месяцы, яна вырашае вярнуцца ў захопленыя ворагам родныя мясціны, каб, выкарыстоўваючы багаты вопыт падпольшчыцы, прадоўжыць барацьбу за вызваленне Радзімы.

Цяжка, вельмі цяжка было пакідаць пяцігадовую дачку і маленькага сына. Але «хіба я маю абавязкі толькі перад маімі двума дзецьмі?—чытаем у яе запісках, пакінутых перад адыходам у тыл ворага.— А мільёны іншых—беларускіх, украінскіх, літоўскіх, эстонскіх дзяцей, якіх катуюць фашысты, кідаюць жывымі ў агонь, закапваюць у зямлю? Хто ж павінен іх ратаваць? Хіба перад імі няма ў мяне абавязкаў? За ўсіх дзяцей на свеце адказвае камуністка».

Харужая дамагаецца дазволу ЦК КПБ на арганізацыю партыйнай групы для вядзення падпольнай барацьбы на акупаванай ворагам тэрыторыі. Яе зацвярджаюць сакратаром Віцебскага падпольнага гаркома партыі і перакідваюць за лінію фронту. З прыходам Веры Захараўны дзейнасць Віцебскага падполля значна актывізавалася. У горадзе больш частымі сталі акты сабатажу і дыверсій, з ваенных складаў пачалі знікаць зброя і боепрыпасы, на базу партызанскага атрада пачалі паступаць звесткі аб руху цягнікоў з войскамі і тэхнікай, аб размяшчэнні ваенных складаў і гарнізонаў, колькасці самалётаў на аэрадромах.

Фашысцкім шпікам удалося напасці на след кіраўнікоў Віцебскага падполля, і ў лістападзе 1942 года В. З. Харужая была схоплена і кінута ў гестапаўскія засценкі.

«У акупаваным горадзе Вера прабыла каля паўтара месяца. За гэты час,—адзначае адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Віцебшчыне Герой Савецкага Саюза У. Е. Лабанок,—яна перадала на Вялікую зямлю вельмі многа каштоўных для камандавання Савецкай Арміі звестак».

Харужая загінула. Яе смерць была гэткай жа гераічнай, як і ўсё жыццё.

Згодна прадстаўлення ЦК Кампартыі рэспублікі і Беларускага штаба партызанскага руху яна пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга. У 1960 годзе Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР адзначыў яе подзвіг вышэйшай узнагародай Радзімы, прысвоіўшы В. З. Харужай за актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай дзейнасці і праяўлены гераізм у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у гады Вялікай Айчыннай вайны пасмяротна званне Героя Савецкага Саюза.

Савецкія людзі свята захоўваюць памяць аб слаўнай дачцы беларускага народа. Яе легендарным імем названы плошчы і вуліцы нашых гарадоў і пасёлкаў, яго з гонарам носяць камсамольскія арганізацыі і піянерскія дружыны.

**Рыгор БУЛАЦКІ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар БДУ імя У. І. Леніна.**
**Святлана ТАЛАПІНА,**
**аспірантка кафедры гісторыі журналістыкі.**

# НЕЗАБЫЎНАЕ

Вера Харужая ўпершыню паявілася ў Мінску ў 1922 годзе. Хударлявая, рухавая, з кароткай стрыжкай і гарэзнымі вачыма, яна хутка асвойталася ў камсамольскім асяроддзі. Любіла музыку, спевы, мастацкую літаратуру, была вясёлая і дасціпная. Яе голас гучэў на літаратурных дыспутах і на вечарах-спрэчках аб камсамольскай этыцы. Там, дзе паяўлялася Вера, знікала нуда і сум: то жарт які-небудзь кіне, то верш прачытае, то песню заспявае. А спявала Харужая хораша, з душой...

На рэдкасць жыццярадасная і абаяльная, Вера прыйшлася да душы ўсім, у тым ліку хлопцам і дзяўчатам з рабочых сем'яў. А такім поспехам у той час карысталіся далёка не ўсе «інтэлігенты». Асобныя з іх у пагоні за танным аўтарытэтам падробліваліся пад рабочых, прыстасоўваліся да іх густаў і звычак, падчас нават адсталых. Вера арганічна была супраць гэтага. Яна падкупляла ўсіх сваёй шчырасцю, непасрэднасцю, камсамольскай баявітасцю і прынцыповасцю.

Пасля заканчэння партыйнай школы Вера працавала ў апараце ЦК КСМБ сакратаром палітасветкамісіі.

Аднойчы я запрасіў яе на сход камсамольскай ячэйкі пры Цэнтральным праўленні прафсаюза гарбароў—я быў тады сакратаром гэтай арганізацыі. Яна ахвотна згадзілася. А пагаварыць з нашымі камсамольцамі трэба было шмат пра што. Многія з іх, працуючы ў прыватных майстэрнях, падпалі пад уплыў гаспадароў. Надараліся выпадкі, калі камсамолец ішоў па вуліцы пад ручку з напудранай і нафарбаванай дзяўчынай, іншы брыдкасловіў і прыкладаўся да чаркі, а адзін наш член ячэйкі нават падаў заяву аб выхадзе з камсамола «ў знак нязгоды з новай эканамічнай палітыкай». Карацей кажучы, мелася адбыцца сур'ёзная гаворка аб камсамольскай этыцы—любімая тэма Веры Харужай.

Нашы сходы адбываліся звычайна ў адным з пакояў клуба «КІМ». Вера прыйшла загадзя. Да пачатку сходу яна паспела прачытаць нам урыўкі з новай паэмы Аляксандра Безыменскага «Камсамолія», затым мы разам праспявалі (Вера дырыжыравала) некалькі жартоўных песень.

Я адкрыў сход і даў слова Харужай. У пакоі запанавала цішыня, і Вера, не вымаючы з кішэняў ніякіх паперак, пачала гаварыць. Гэта не была прамова з трыбуны—яна проста, па-сяброўску гутарыла з камсамольцамі, спасылаючыся на канкрэтныя факты з жыцця нашай ячэйкі, камсамольскай арганізацыі горада і падаючы гэтыя факты ў святле камсамольскай этыкі. Свае разважанні яна падмацоўвала жартамі і дасціпамі.

На сходзе паважна сядзеў шавецжаніх. Валасы на галаве тлуста адсвечвалі фіксалінам, апрануты ён быў, як кажуць, з іголачкі. Нявеста

шаўца—дачка гаспадара. Той абяцаў будучаму зяцю багаты пасаг, а да вяселля справіў яму касцюм з англійскага бастону, пікейную сарочку і гальштук. Угледзеўшы гэтага жаніха, Вера сказала прыблізна так:

— Сэрцу, вядома, не загадаеш, каго палюбіць. Гэта вызначаецца не сацыяльным паходжаннем каханай і не рашэннем бюро ячэйкі. Але адно бясспрэчна: браць пасаг, ды яшчэ ад гаспадара,—зневажальна і брыдка для камсамольца. Гэта несумяшчальна з раўнапраўем жанчын. Малады чалавек гэтым самым прыніжае сваю чалавечую годнасць, тым больш, калі ён камсамолец.

Дасталося на сходзе і «праціўніку» НЭПа, хоць ён і ўдакладніў, што выступае не супраць НЭПа, а супраць нэпманаў. Растлумачыўшы сутнасць новай эканамічнай палітыкі і прычыны, якія спарадзілі яе, Вера пераканаўча і даходліва давяла моладзі неабходнасць НЭПа для аднаўлення разбуранай народнай гаспадаркі, а заадно вытлумачыла, што ўзнікненне новай буржуазіі—з'ява часовая, якая хутка мінецца...

У кастрычніку 1923 года я ўдзельнічаў ці то ў пленуме ЦК камсамола, ці то ў нарадзе актыву. Там Вера Захараўна рабіла даклад аб становішчы ў сельскіх камсамольскіх ячэйках Слуцкага павета. Сельскія ячэйкі былі ў той час малалікія, у рабоце камсамольцаў было нямала праліках і ўпушчэнняў—паўсюль было яшчэ беспрацоўе, голад, на камсамольцаў аказвалі ўплыў дробнабуржуазная стыхія, духавенства, адсталасць бацькоў.

Пра ўсё гэта і гаварыла з трыбуны Вера, гаварыла горача, з запалам, часам з болем у голасе. Затое з якой радасцю расказвала яна пра тое, што аўтарытэт камсамольскіх ячэек у вёсцы расце, што моладзь актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Радавалася яна і таму, што ў ячэйках няма спрэчак на нацыянальнай глебе, што камсамольцы даюць рашучы адпор папам і баптыстам. Разам з тым Вера рэзка асуджала перагібы ў антырэлігійнай рабоце.

Вельмі засмучала яе тое, што сярод камсамольцаў мала дзяўчат: іх на той час ва ўсім павеце было нешта каля пятнаццаці. Яна тлумачыла гэта нежаданнем ячэек працаваць сярод дзяўчат.

Даволі падрабязна, памятаю, гаварыла Вера пра цягу вясковай моладзі ў горад. Сёй-той з камсамольцаў успрымаў горад як месца, дзе можна вучыцца, развіваць свае здольнасці, знайсці лёгкую работу. Вера Захараўна тлумачыла моладзі сапраўднае становішча спраў. Цяга ў горад, гаварыла яна, будзе з кожным годам расці, але пакуль што горад не можа забяспечыць работай вясковых хлопцаў і дзяўчат—там і так шмат беспрацоўных, асабліва сярод моладзі. Яна заклікала камсамольскі актыў забяспечваць работай сельскіх камсамольцаў на месцы, абуджаць у іх цікавасць да прагрэсіўных метадаў гаспадарання на зямлі, задавальняць іх культурна-бытавыя патрэбы...

Памятаю жалобны сход у Мінску, прысвечаны смерці Уладзіміра Ільіча Леніна. Марозным студзеньскім вечарам камуністы і камсамольцы сабраліся ў клубе імя Карла Маркса. Пад скляпеннямі мармуровай залы гучэлі мелодыі жалобных маршаў. Усе сядзелі разгубленыя і самотныя, у многіх блішчэлі на вачах слёзы,—нібыта асірацелая сям'я. З прамовамі і ўспамінамі пра Ільіча выступалі партыйныя работнікі, старыя бальшавікі, былыя паліткатаржане. Былі прамоўцы, якім пашчасціла бачыць і чуць дарагога правадыра, адчуць цяпло яго рукі...

І раптам старшыня сходу абвясціў:

— Слова мае Вера Харужая.

Прызнаюся, мы, камсамольцы, крыху разгубіліся і занепакоіліся—што можа сказаць яна пасля таварышаў са старой гвардыі? Ці знойдзе яна патрэбныя словы, каб выказаць наш боль і душэўнае ўзрушэнне?

Вера, пакінуўшы на крэсле старэнькае паліто і шапку-вушанку, у знаёмай касаваротцы паднялася на трыбуну, некалькі хвілін памаўчала, затым, нібы праглынуўшы перасельі ў горле камяк, загаварыла:

— Спрадвеку жанчыны выказвалі сваё гора праз плач. Мы, жанчыны-бальшавічкі, нягледзячы на велізарнасць страты, не будзем плакаць. Плакаць па Уладзіміру Ільічу—значыць зневажаць яго памяць. Мы будзем гаварыць пра нашага правадыра гордыя і высокія словы, хоць сэрцы нашы і перапоўнены смуткам і жалобай... Абавязак камсамольцаў—увекавечыць яго памяць так, каб будучыя пакаленні не толькі памяталі аб ім, але і жылі і змагаліся так, як ён...

Усё свядомае жыццё Веры Харужай, ад першых камсамольскіх крокаў да апошняга ўдару сэрца,—подзвіг. Імя яе стала сімвалам мужнасці і душэўнай прыгажосці, бясстрашша і бязмежнай адданасці справе камунізму. І радасна ўсведамляць, што баявая эстафета з пакалення ў пакаленне пераходзіць у надзейныя рукі. Юнакі і дзяўчаты нашых дзён памнажаюць славу сваіх папярэднікаў працоўнымі справамі.

**Якаў РУБЕНЧЫК.**



# ПАЭМА МАЙГО ЛЕСУ

Ужо кінулася пад ногі соснаў «полымя ружовых верасоў». Перад апошнім магутным акордам сваіх фарбаў — жоўтых, залатых, барвовых — сцішыўся, замаркоціўся лес. У чаканні няўмольнага набліжэння восені сцішвае бег думак і чалавек. Восень — час няспешных разваг і ўспамінаў...

А яшчэ зусім нядаўна лес гудзеў і спяваў, бы арган. У шуме лесу — і птушынае шчабятанне, і гоман вятроў у вяршалінах, і перуновыя ўдары па асілках-дубах... Лес гучыць на сто ладоў і рэгістраў. Мы жартуем з чалавекам, што ўлёгся на зямлі: маўляў, слухае, як трава расце. Яна ж і сапраўды расце-шапаціць ціхім красавіцкім вечарам — не трэба класціся на зямлю, каб пачуць. І ледзь чутны шоргат у мурашніку. І моцна, безупынку пераціраюць кару караеды ў старым выываратні.

На глухіх мядзведжых выспах у Бярэзінскім запаведніку, недзе за Пастрэжжам, багата старых выварoтняў і заломаў. Шмат іх вакол возера Палік. Дзівосныя гэта мясціны! Па дрыгве, асцярожненька, вобмацкам, след у след за праваднікам ідзеш многія кіламетры. На мяжы багны і пясчанай выспы — гушчар хмызу і чорнага алешніку. Ён так густа перавіты хмелем, што без сякеры не прадзярэшся. А вышэй стаяць асіны і бярозы, сям-там чырвонымі агнямі ўспыхвае рабіна. Вянчае выспу, нібы гатычны замак, адвечны ельнік.

Ёсць выспы, па якіх у жніўні немагчыма хадзіць: параспелыя, аж чорныя, і буйныя, як вішні, брусніцы суцэльным дыванам пакрываюць дол — ступаеш па імху, а з-пад ботаў, нібы кроў, свішча сок ягад. Іх ніхто не збірае — цяжка дайсці, яшчэ цяжэй выйсці з поўнымі кашамі, а найбольшая перашкода для жанок — мядзведзі.

На лясных выспах у час вайны жылі партызаны. Вясною, улетку, восенню дрыгва надзейна прыкрывала партызанскія базы: рэдка калі эсэсаўцы рызыкавалі блакіраваць іх. Мінула з тае пары нямала часу, але яшчэ і сёння, здараецца, пад нагою, у спелай чырвані брусніц, раптам дзынкне іржавая каска...

Беларускія лясы надзвычай маляўнічыя. Строгая готыка ялін на Полаччыне і Віцебшчыне паступова пераходзіць у гонкія бары пад Лепелем, Бягомлем, Плешчаніцамі. На Лагойшчыне лес перабіваецца жоўтымі нівамі, блакітнымі хвалямі лёну; ультрамарынавыя аблокі бароў перамешваюцца з паласатымі мажорнымі бярэзнікамі. Ад Полацка да Мінска лес сягае па ўзгорках і лагах, глядзіцца ў люстры азёр, а далей на поўдзень мякка сцелецца па раўніне і амаль знікае на палескіх (як гэта ні дзіўна) абсягах.

А над Прыпяццю, у пойме магутнай ракі, дзе нават і па сённяшні дзень ёсць што рабіць рабінзонам, пачынаюцца беларускія субтропікі. Кліматычная зона Прыпяцкага Палесся здзіўляе сваёй адметнасцю. Дайце веры: навальніца можа тыдзень грымець перунамі над левым берагам — і ні кроплі дажджу не ўпадзе, а на правым — раптоўна хлыне лівень. Як ні стараюцца сіноптыкі, а не могуць дакладна вызначыць на заўтра прыпяцкае надвор'е. На два тыдні раней тут пачынаецца вясна, пазней прыходзіць мяккая, вільготная зіма — нават выспяваюць абрыкосы, вінаград. У маі на мяжы бору і імшары батанікі знайшлі сапраўдны цуд — абсыпаныя залацістымі кветкамі кусты рададэндрану. Нідзе — на поўнач адсюль і на поўдзень аж да самага Крыма і Каўказа — не сустракаецца гэтая расліна (хіба ў батанічных садах). А мясцовая, палеская назва недвухсэнсава падкрэслівае дасведчанасць збіральнікаў траў: турэцкі багун. Сапраўды: расце ў Турцыі і падобны на наш багун.

Якім чынам трапіў рададэндран на Палессе? Ніхто не адказаў пакуль што на гэтае пытанне, як ніхто не можа сказаць, чаму гнездзіцца тут, нібы ў дэльце Дуная, белая чапля і, нібы ў данскім стэпе, цiркушка. А, можа, было так спрадвеку, бо спрадвеку ж на Прыпяці самавіта і пышна растуць дубы, і толькі да нас дайшлі рэшткі цяпер ужо экзатычных, а раней зусім звычайных раслін і жывёлін. І мы вымушаны абгароджваць апошнія экземпляры плюшчу і пірамідальнага ядлоўцу нават у Белавежскай пушчы, і няма ў нас упэўненасці, што праз які час не стануць экзотамі волаты-дубы і рэзанансныя яліны.

А як хочацца, каб ва ўсе вякі чалавек мог хадзіць па прыпяцкіх дубровах, здзіўляючыся іх хараству, прыкмячаючы, і як буяюць пад шатамі дрэваў папараць, арэшнік, кісліца і крапіва, і як імкліва праносяцца над вяршалінамі сокалы, і як дзяруць горла з перапуду на сваіх гнёздах дразды, і як б'юцца пад дубамі вялізныя жукі-алені.

Як хочацца, каб восень не кранала лесу, бо і так дастаткова ў ім фарбаў, незлічоных і радасных нашаму воку. Ды ўжо немагчыма стрымаць гарачае полымя барваў, нельга спыніць лёт павуціння.

На доўгую-доўгую зіму застанецца ўцеха і радасць — успамін пра летні лес.

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**
Фота **аўтара.**






# 1973
## КАСТРЫЧНІК

**1**

55 гадоў з дня заснавання (1918) Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава.

**5**

70 гадоў з дня нараджэння Л. А. Кацовіча (1903—1953), пісьменніка.

30 гадоў з дня гібелі (1943) членаў Обальскай падпольнай камсамольскай арганізацыі.

**6**

155 гадоў з дня нараджэння С. К. Заранкі (1818—1871), мастака, прафесара Маскоўскага вучылішча жывапісу, культуры і дойлідства. (Нарадзіўся ў Магілёўскай губерні).

**11**

75 гадоў з дня нараджэння (1898) Х. С. Гарагляда, вучонага ў галіне ветэрынарыі, акадэміка Акадэміі навук БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР.

**13**

45 гадоў назад (1928) ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову «Аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук. (Пастанова здзейснена ў студзені 1929 г.).

**14**

75 гадоў з дня нараджэння (1898—1973) І. М. Сяржаніна, вучонага-біёлага, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

20 гадоў назад (1953) з канвеера Мінскага трактарнага завода сышоў першы трактар з серыі «Беларусь».

**17**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) М. І. Шумава (Шульмана), пісьменніка.

**18**

80 гадоў з дня нараджэння У. І. Уладамірскага (Малейкі) (1893—1971), народнага артыста СССР.

**26**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) М. А. Герасімава, пісьменніка.

**Кастрычнік**

30 гадоў назад (1943) пачала выходзіць газета «Мінскі бальшавік» — орган Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.



С. Х. Гарагляд.



У. І. Уладамірскі (Малейка).



І. М. Сяржанін.



# «Я ВЯСКОВАЯ, Я ЗВЫЧАЙНАЯ...»

●

## МАНАЛОГ

— Ах, які ў мяне быў дзед! Звалі яго Восіп. Высокі, сівы, прыгожы... Ведаеце, такі волат з казкі. І добры-добры. Здаецца, і жыццё нялёгкае было, а спагада да людзей, наіўнасць, даверлівасць да старасці засталіся. Відаць, таму, што дабрата заўсёды спадарожнічае таленту...

Дзед іграў на скрыпцы. І як святлеў яго твар, калі ён браў яе ў рукі! Дзедава скрыпка ўмела і гаварыць чалавечым голасам, і плакаць, і смяяцца, і суцяшаць, і весяліць. Прырода была шчодрай да яго і адкрыла яму такія таямніцы, якія іншыя не могуць спасцігнуць і з дапамогай настаўнікаў. Дзед сыграў маленькі аркестр, які складаўся з яго братоў. Сямён іграў на цымбалах, Павел—на баяне, а яшчэ адзін з братоў (забылася ўжо, як яго звалі) біў у бубен.

Дзед быў мастак, дзед быў рамантык. «Матэрыялістка» бабка вяла гаспадарку. І вяла, трэба сказаць, надрэнна. Калі купіць карову, дык малаком вёску заліць можна, выгадуе парсючка—дык з добрую цялушку. Наогул, усё ведала, усё ўмела, нават з нічога магла зрабіць нешта. У вёсцы яе звалі чараўніцаю, а хто (пэўна, з зайздрасці)—і вядзьмаркаю. Але гэта так, успаміны..

Дзеці і ўнукі—усе як адзін у дзеда. У нашай маці быў цудоўны голас. Калі я з маім, шчыра скажу, невялікім голасам зрабілася прафесійнаю спявачкай, уяўляю, як магла б узняцца яна! Ларыса Пампееўна Александроўская, калі выязджала ў далёкія вёскі ў пошуках талентаў, вельмі ўгаворвала маці пайсці вучыцца. Ды неяк жыццё не склалася. Усё пра іншых ды пра іншых думала, а для сябе—часу не хапіла.

Мае стрыечныя сёстры Іна і Генрыета сталі музыканткамі, а іх браты Лёня і Вова—інжынеры па адукацыі—таксама не расстаюцца з гітараю і песнямі.

Мусіць, таму і я спяваю. Пад такою ўжо шчасліваю зоркаю нарадзілася. Калі пачала спяваць—не памятаю. Можа, калі з дзедам кветкі збірала, можа, калі з бабкай каровы пасвіла. Наогул, хто можа сказаць, калі ў чалавеку нараджаецца музыка? Напэўна, ён яшчэ ў калысцы ляжыць, свет божы дагары нагамі бачыць, а песня ў ім прарастае ўжо. Бо чаму ж тады адным з самага дзяцінства паперу і аловак падавай—малююць і ўдзень і ўначы, а другія прыціхаюць, пачуўшы музыку па радыё...





А вось першы поспех свой ніколі не забуду (не верце, калі пачуеце, што нехта абыякавы да поспеху). Смак гэтай салодкай атруты і да сёння адчуваю ў сэрцы. Было мне тады якіх дзесяць гадоў, і выступала я ў Шымкавіцкім клубе. Гэта ў нас, пад Асіповічамі. Разумею, што апладзіравалі мне не столькі за майстэрства, колькі за сур'ёзнасць, з якой я імкнулася данесці змест песні:

Ой, цветет калина в поле у ручья.
Парня молодого полюбила я...

А потым? Потым зноў спявала. У школе вучылася—спявала, працаваць пайшла—спявала. Праца ў мяне была вельмі празаічная—рэгістратарка ў трэцяй мінскай клінічнай бальніцы. Здаецца, пра што тут успамінаць? А ўспамінацца многае.

Адсюль пачаўся мой шлях з самадзейнага мастацтва ў прафесійнае. Тут я знайшла шмат добрых сяброў. Тут адбылася тая сустрэча, пра якую марыць кожная жанчына. Каханне было вялікае і нялёгкае. Можа, сапраўднае каханне заўжды нялёгкае?..

Хірург Саша Губко стаў маім мужам. Ён абараніў дысертацыю, у нас расце сын Паўлік. Безумоўна, ён самы прыгожы і самы разумны хлопчык,—так думае пра сваіх дзяцей кожная маці. Нядаўна я была з канцэртам у клініцы, у маіх колішніх калег. Перад канцэртам я сказала маім слухачам, што тут я была шчаслівая. І казала, зразумела, праўду—не прытваралася.

Ужо больш дваццаці гадоў жыву ў Мінску, а сны сняцца вясковыя: ніцыя вербы над вадою, цёплыя сцяжынкі ў зялёным мурозе, дымок з комінаў, ружаваты на золку, утульныя прызбы... І ўсе падзеі ў маіх снах адбываюцца там, у родным Дварку пад Асіповічамі, на рэчцы Сінька. Таму я назаўсёды залічыла сябе ў вясковыя. Памятаеце, як у Дануты Бічэль-Загнетавай? «Я вясковая, я звычайная...»

**Дзмітры СМОЛЬСКІ, кампазітар:**

— Звычайна кажуць: кампазітар і паэт стварылі песню. Не, ствараем яе не толькі мы. Ствараюць яе і выканаўцы—спевакі. Тамара Раеўская так дакладна адчувае характар песні, так прафесійна падае матэрыял, так выгадна прадстаўляе твор слухачу, што я ад душы залічаю яе ў сааўтары сваіх песень «Маці чакаюць сыноў», «Мінская вячэрняя» і іншых, якія яна выконвае.

Нядаўна мы з Тамарай вярнуліся з паездкі на Алтай. Там я яшчэ раз пераканаўся ў яе надзвычайных чалавечых якасцях, пра што мне не менш прыемна гаварыць, чым пра якасці прафесійныя. Яна верны сябра, прыемны спадарожнік, валодае рэдкім у наш час дарам—уменнем уважліва слухаць. Словам, у жыцці яна такая ж абаяльная, як і на сцэне.

## КАНЦЭРТ

Лютуе навальніца. Сякуць маланкі, ліе дождж. Замест плошчаў—азёры, і на іх бездапаможна смуткуюць машыны, не прыстасаваныя для плавання.

Навальніца! У Мінску—навальніца!

А ў зале поўна людзей. Нават гулкія грымоты не могуць перашкодзіць гнуткаму, пяшчотнаму, усхваляванаму голасу спявачкі. Не заглушаюць гэты голас таксама шумы і рытмы вялікага горада. Мастацтва не павінна супярэчыць ні прыродзе, ні цывілізацыі. Яно народжана імі, яно зліта з імі, яно часцінка іх.

Жанчына стаіць ля мікрафона. Стройная, высокая, пластычная.

«Люблю цябе, Белая Русь»... Голас спявачкі гучыць то ціха, нібы здалёк, з бязмежных палёў, то мацнее, як плынь магутнай ракі.

З гэтай песняй Ю. Семянякі і У. Карызны артыстка аб'ехала ледзь не ўсю краіну. Слухаючы яе, лепш уведалі, больш палюбілі нашу зямлю жыхары Масквы, Вільнюса, Тальцы. У маленькіх вёсках Алтая плакалі жанчыны па сынах Беларусі, якія загінулі...

«Люблю цябе, Белая Русь»... Голас плыве, выклікаючы замілаванне родным краем, гордасць за адважных і дужых, што жывуць у ім, бясконцую тугу па тых, якія ніколі не вернуцца з вайны...

Тамара Раеўская выдатна адчувае вобразны лад песні, для кожнай знаходзіць непаўторныя, свае фарбы. Толькі што мы разам з ёю перажылі радасці і пакуты кахання жанчыны з песні А. Бабаджаняна і Р. Раждзественскага «Дзякуй табе», і вось ужо артыстка—зухаватая і бойкая вясковая маладзіца з народнай песні «Небыліца» (апрацоўка Л. Смялкоўскага). Верыш, што такая не разгубіцца, і ўсіх перастанцуе, і лепшага хлопца «адхопіць». Ёй не трэба чалавек, які мільгануў і знік. Яна шукае шчасця трывалага, рэальнага, зямнога...

У зале людзі розных узростаў, інтэлектаў, характараў, прафесій. І ўсе разам яны называюцца адным словам—слухачы. Усе разам яны валодаюць багатым жыццёвым вопытам, шырокімі ведамі. Іх рукамі ствараюцца матэрыяльныя і культурныя багацці.

Песня павінна ўзбагаціць усіх. Інакш навошта тады песня? Таму не можа быць добрым спеваком чалавек невысокай культуры—трэба многа мець, каб аддаваць. Тамара мае многа.

Чалавечая шчодрасць... Адкрытае сэрца... Іншы раз і не шкада добрага слова для чалавека, але ў жыццёвай мітусні не знаходзіш магчымасці яго сказаць. Іншы раз апануе душэўная лянота, і патрэбнае слова загіне ў табе. А як гэта важна—сказаць яго ў час!

Тамара ўмее гаварыць людзям і пра людзей добрае. Колькі добразычлівай шчырасці ў яе адносінах да Нэлі Багуслаўскай, Юрыя Смірнова, Ігара Сарокіна і іншых «супернікаў» па эстрадзе. Зайздросная адсутнасць зайздрасці—таксама адзнака таленту. Нам проста шкада, што Іосіф Кабзон не чуў тых слоў, якія гаварыла нам пра яго Тамара. Ёй, чалавеку чуйнаму і далікатнаму, вельмі імпануе яго інтэлігентнасць, уменне «шэптам сказаць пра гучнае».

Звычайна Раеўская выступае ў суправаджэнні інструментальнага ансамбля Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам Леаніда Смялкоўскага і эстраднага аркестра пад кіраўніцтвам Барыса Райскага. Б. Райскі —бадай што хросны бацька Тамары. Гэта ён у свой час заўважыў у самадзейнай спявачцы «іскру божую». Гэта ён, беручы яе салісткай радыё, смела аддаў ёй перавагу перад артыстамі са спецыяльнай адукацыяй. Потым Тамара скончыла музычнае вучылішча, але да гэтага часу называе Райскага сваім найлепшым настаўнікам. Лічыць, што ўсім абавязана яму. Але сам настаўнік з гэтым не згодны.

**Барыс РАЙСКІ, дырыжор:**

— Каб вырасла дрэва, дастаткова пасадзіць яго. Ну, паліваць, праўда, трэба. Але чым вырасце яно—бэрай ці дзічкай,—усё ж залежыць ад таго, якая праграма была закладзена ў насенні...

Гэта мне пашанцавала, што Тамара прыйшла да мяне. Здольная, працавітая, самаахвярная. Мне заставалася толькі накіроўваць яе.

Я за ёй—як за каменнай сцяной: ніколі не саб'ецца, не падвядзе. Нават пры запісе, перад мікрафонам, не ўбачыце ў яе нот ці слоў песні, як гэта звычайна бывае (публікі ж няма). Але Тамара не прыйдзе ў студыю, не прапусціўшы песню праз сэрца і памяць.

Асабіста я лічу, што Раеўская—адна з лепшых эстрадных спявачак у нашай краіне. І што б добрае я пра яе ні сказаў, усё будзе мала. Таленавітая, вельмі таленавітая...

## ЗАПІС

Яна сціпылася ў позе, якую цяжка прыдумаць і тым больш цяжка «трымаць». Яна стаіць ля магнітафона і слухае, як стужка паўтарае толькі што праспяваны раманс.

Тамара слухае.

Тамара спявае.

Танцует в Севилье Кармен
у стен, голубых от мела.
И жарки зрачки у Кармен,
а волосы снежно-белы.
Невесты,
закройте ставни!

На радыёстудыі ідзе стэрэафанічны запіс рамансаў Л. Смялкоўскага на словы Гарсія Лоркі.

Кармэн у нашым уяўленні—гэта Кармэн Мерымэ і Бізэ. А ў рамансе сустрэча з немагчымым—са старой Кармэн. Што ў яе танцы? Выклік? Туга па мінулых цудоўных днях? І што значаць словы: «Невесты, закройте ставни»? Гэта просьба, загад? Спявачка думае над кожным радком верша са зборніка «Кантэ хонда». У гэтым зборніку Лорка паспрабаваў перадаць дух старадаўніх песень Андалусіі, якія надзвычай высока цаніў: «Кантэ хонда глыбей за ўсе студні і ўсе моры свету, многа глыбей, чым тое сэрца, якое яго творыць, і голас, які яго спявае... Яно перасякае могілкі гадоў і лістапады завялых вятроў. Яно ідзе ад першага плачу і першага пацалунка».

Якая складаная задача стаяла перад кампазітарам і спявачкай!

Тамара то заходзіць у апаратную, каб праслухаць праспяванае, то зноў вяртаецца ў так званую рэха-камеру, аддзеленую ад апаратнай сцяной з тоўстага гуканепранікальнага шкла.

— Тамара, ты зараз добра адчула настрой,— гаворыць гукарэжысёр Барыс Кавалеўскі.

— Так хочацца «схапіць» характар старой Кармэн! Але вось гэтае «ла-ла-ла...» Не выходзіць. «Ла-ла-ла...» Не, не выходзіць!



Пяць, шэсць, дзесяць разоў паўтарае раманс Раеўская. Нарэшце, на твары яе—усмешка. Атрымалася!

Гэта зусім не азначае, што можна адпачыць. Гэта азначае—можна пачынаць запіс наступнага раманса...

Праз некалькі дзён па тэлебачанні прагучэлі іспанскія вершы, пакладзеныя на музыку беларускім кампазітарам. Прыгожая тэмпераментная мелодыя арганічна зліласся са словамі.

**Юры СЕМЯНЯКА, кампазітар:**

— Мне здаецца, што Раеўскай асабліва ўдаюцца лірычныя песні. Але разам з тым яна, безумоўна, і драматычная спявачка. Не перастаю здзіўляцца, колькі ў гэтай сціплай, тоненькай жанчыне ўнутранай сілы, пачуцця, апантанасці. Я адчуваю сябе вінаватым перад ёю, што ў апошні час мала пішу песень. Але дамовіліся: як толькі выпусцім «Паўлінку» (яе зараз ставіць наша аперэта), напішу новую песню спецыяльна для Тамары.

Калі Раеўская бярэ твор, за яго лёс ужо не хвалюешся. У яе, як кажуць, лёгкая рука. Пасля Тамарынага прачытання песня звычайна робіцца папулярнай.

## ІНТЭРВ'Ю

— Тамара, некаторыя песні вы выконваеце сотні разоў. Вы імкнецеся замацаваць ужо аднойчы знойдзенае ці імправізуеце зноў і зноў?

— Адну песню не праспяваеш двойчы аднолькава, як двойчы не ўвойдзеш у адну рэчку. Няхай знойдзенае замацоўваюць магнітафоны, а мастак павінен шукаць. Да таго ж многае падказвае аўдыторыя.

— Вы салістка аркестра тэлебачання і радыё. Значыць, часта спяваеце ў студыі, без слухачоў. Ці адбіваецца гэта на вашым натхненні?

— І ў студыі я ўяўляю перад сабой залу. Але жывая зала, зразумела, дае больш, чым мая, прыдуманая. Кажуць, зараз інжынеры працуюць над праблемай, каб не толькі тэлегледачы бачылі артыста, але і ён мог бачыць нейкую частку сваіх слухачоў.

— А цяпер пытанне, якое стала традыцыйнае: пра ўзаемаадносіны тэксту і музыкі ў песні, ці, калі хочаце, паэта і кампазітара.

— Мне здаецца бясспрэчным, што яны маюць роўныя правы. Хаця многія кампазітары лічаць словы нечым другарадным—маўляў, чым яны горшыя, тым лепш на іх фоне выглядае музыка. Гэта несправядліва, бо вельмі крыўдна спеваку ўкладваць пачуццё ў банальныя, а часам і бессэнсоўныя радкі. Я люблю песні з тэкстам глыбокім, разумным, арыгінальным.

— А вы самі ніколі не спрабавалі пісаць песні?

— Што вы! Ува мне жывуць тысячы чужых мелодый. Яны то мірна суіснуюць, то спрачаюцца, высвятляюць адна адну. Данесці іх да людзей—вось мой клопат. І чым больш, тым лепш. Але, на жаль, добрых песень мала, і не так проста абнаўляць рэпертуар.

— Але ж у нас ёсць кампазітары...

— Так, але амаль усе яны захапіліся буйнымі творамі—опера, аперэта, сімфонія. А ў іншы час, памятаю, адна за адной з'яўляліся песні Юрыя Семянякі, Генрыха Вагнера, Яўгена Глебава, якія я так любіла спяваць.

З болем і жалем успамінаю пра Жэню Грышмана, майго вялікага сябра, які шмат песень напісаў спецыяльна для мяне. І па сённяшні дзень у маім рэпертуары «Казка ў казцы», «Вярніся, каханне», «Сонечны вальс». Як шкада, што гэтага таленавітага кампазітара няма з намі...

Хочацца нагадаць нашым кампазітарам, што Дастаеўскі, працуючы над «Братамі Карамазавымі», знаходзіў час пісаць фельетоны. У маленькай песні можна сказаць так многа! «Марсельеза», «Інтэрнацыянал», «Вставай, страна огромная»—хіба гэтыя песні пакінулі ў жыцці і мастацтве меншы след, чым многія творы вялікай формы? Песня здольная ўзняць людзей на барацьбу, натхніць на подзвіг, ускалыхнуць, абудзіць... Дзесяткі гадоў трывожаць сэрцы закаханых і «звезда надежды благодатная, звезда любви волшебных дней», і зорка Венера, што ўзышла над зямлёю. Што б ні здарылася з чалавекам, побач з ім—песня.

— Ці было ў вас у хвіліны поспеху такое адчуванне, што ўвесь свет пакораны вашаю песняю?

— Навошта адразу ўвесь свет? Хапае і адной глядзельнай залы, каб адчуць сябе шчаслівай.

— І апошняе пытанне. Калі б вы не сталі спявачкай, што б вы рабілі?

— Спявала б.

**Святлана КЛІМКОВІЧ,**
**Ірына ПІСЬМЕННАЯ.**




**Алесь ЖУК. «АСЕННІЯ ХАЛАДЫ». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972 г.**

# УВАГА ДА ЧАЛАВЕКА

У літаратуру кожны прыходзіць пасвойму. Адзін—неяк нясмела, як бы сумняваючыся. Другі—залішне самаўпэўнена. Трэці ідзе спакойна, годна. З адчуваннем, што робіць ён якраз тое, што і павінен рабіць.

Вось з такім спакоем і ўпэўненасцю, мне здаецца, ідзе ў нашу літаратуру малады празаік Алесь Жук. Яго апавяданні, што пачалі з'яўляцца ў перыядычным друку некалькі гадоў таму назад, адразу прыцягнулі ўвагу чытача і крытыкі аўтарскай сур'ёзнасцю і ўдумлівасцю, сцвярджальным пафасам.

У сваёй першай кнізе—«Асенніх халады» малады пісьменнік добра перадае эмацыянальнае ўспрыняцце навакольнага свету, раскрывае яго сутнасць і шматзначнасць. Падзеі ў пераважнай большасці апавяданняў адбываюцца восенню ці зімою, часцей за ўсё завязваюцца тады, калі ва ўзаемаадносінах чалавека з навакольным светам адчуваецца нейкая асаблівая напружанасць, драматызм. Драматызм наогул жывіць творы А. Жука, ляжыць у аснове сюжэта, у прынцыпах даследавання чалавечых характараў.

Звычайныя людзі, звычайнае, простае жыццё. Але дастаткова зірнуць на ўсё гэта па-іншаму—і раптам чалавек асвятляецца значна глыбей, яго асоба набывае складанасць і аб'ёмнасць. Пісьменнік, беручы розныя па сваім змесце жыццёвыя факты, імкнецца глыбока даследаваць, паказаць клопаты і турботы чалавека, выявіць яго складаны ўнутраны свет, разуменне ім сваёй адказнасці за ўсё, што адбываецца навокал, заклапочанасць лёсам іншых. Героі апавяданняў Жука жывуць актыўным духоўным жыццём, думаюць пра тое, сведкамі ці ўдзельнікамі чаго з'яўляюцца. У іх заўсёды адчуваецца імкненне да лепшага. Гэта робіць іх дзейнымі, унутрана прыгожымі.

Жыве старая жанчына Антосіха. Жыве адзінокая. Антосіху любяць аднавяскоўцы, шкадуюць і паважаюць—ніводная бяседа не абыходзілася без яе. Запрасілі і Пераходы: Віктар і Волечка. Волечку некалі кахаў сын Антосіхі. Наплываюць успаміны. Гаспадар Антосіхі памёр пасля мікалаеўскай вайны. З горам папалам яна пракідалася з дзецьмі. Выгадавала іх. Надышла вайна. Старэйшы сын Андрэй стаў паліцаем, меншы, Пятрок, пайшоў у партызаны. Пятрок загінуў. А Андрэй адседзеў пасля вайны дваццаць гадоў. Антосіха адракалася ад сына, не пусціла яго на парог. Колькі гора лягло на плечы гэтай старой жанчыны! Колькі пакут! Але сэрца яе адкрытае людзям, поўнае добразычлівасці, цеплыні.

Апавяданне натуральнае ў разгортванні падзей, поўнае чалавечнасці.

Увогуле чалавечнасць, не крыклівая, а засяроджаная, складае адну з самых характэрных, вызначальных якасцяў таленту Жука. У выказванні пачуццяў аўтар нешматслоўны.

Вось апавяданне «Жонка героя». Свежае па думцы, арыгінальнае, магчыма, некалькі нават нязвыклае ў мастацкім паказе чалавека, сцвярджэнні прыгожага.

Асенні надвячорак. У хаце прыцемак. Жанчына дрэмле на чарэні печы. «Ад дажджу, які глуха шастаў хвалямі па гонтавым даху, ад нуднае асенняе шэрані за заплаканымі шыбінамі вокнаў—ад усяго гэтага было адзінока». Так у самым пачатку схоплены настрой жанчыны—настрой не толькі сённяшні, але і ўжо многіх гадоў яе жыцця. Узмацняецца ён неадпаведнасцю яе стану і той ролі, якую абставіны прымушаюць узяць на сябе,—ролі жонкі героя. Да яе ў апошні час пачалі прыязджаць, распытвацца пра мужа, яго жыццё. А колькі яна з ім пражыла?! І года не былі разам. Пайшоў ён да другой. Яна адна гадавала сына, працавала... І цяпер трэба расказваць пра мужа-героя...

Жанчына глядзіць у акно на клёны старога парку. Бачыць, як зрываюцца, «адзінокія дрыготкія лісцікі, нібы пісьмы, поўныя адчаю і невыказнага суму, пісьмы, якім ніколі нікуды не даляцець, ніколі не быць прачытанымі...» Пісьмы ад яе.





На гэтай ноце канчаецца апавяданне. У часопісным варыянце канцоўка была іншая. Там далей былі яшчэ наступныя словы: «Назаўтра па яе прыехалі на поле з раённага музея, каб яна зноў расказвала пра мужа-героя. І яна пакорліва пайшла да нізенькага, абцягнутага брызентам газіка,—маленькая, няўклюдная ў гумовых ботах, у ватоўцы,—пайшла, цяжка ступаючы па вільготнай свежай раллі, абмінаючы белыя, толькі што выкапаныя карчы бульбы». Гэтая канцоўка, на маю думку, паглыбляла твор, надавала яму сілу абагульнення.

Даследаванне жыццёвых фактаў, аналіз чалавечых характараў у апавяданнях Алеся Жука заўсёды вядзецца глыбока, суаднесена з часам. Магчыма, адгэтуль грунтоўнасць, пераканальнасць аўтарскіх этычных высноў.

Сюжэт апавядання «Замеценыя дарогі» вельмі просценькі. Няма вострых калізій, рэзкіх сутычак чалавечых характараў. Ёсць пільная ўвага да чалавека, роздум над звычайнымі і такімі складанымі чалавечымі ўзаемаадносінамі.

Працуе Павел, галоўны герой твора, на бульдозеры. Чысціць ад снегу дарогі. Жыве ў Слуцку, на ўскраіне горада. Пагадаваў дзяцей, пайшлі яны ў людзі. Дома стала неяк няўтульна. Жонка сустракала, бы староння, цыкалася. І ён ужо нехаця ішоў дадому, яшчэ больш «улягаў у работу, зарабляў, але перамены на лепшае не было, і ён неяк раптоўна, яшчэ моцны, чырванаваты, з пасярэбранымі чорнымі валасамі, пачаў сутуліцца—і нібы пастарэў на многа год».

Выпадкова здараецца гісторыя, якая па-іншаму прымушае яго паглядзець на жыццё. Павел трапляе на вяселле. Яго частуюць, ён назірае за вясёлай, жыццярадаснай бяседай. Начуе. Выпадкова падслухоўвае размову гаспадароў. Бачыць, што для іх усё вымяраецца грашыма, трымаецца на грашовым разліку.

Адзін з гасцей, Віця, расказвае Паўлу пра тое, як некалі,—па сутнасці, з-за Тараса, гаспадара—загінуў яго бацька. Пісьменнік як быццам і не паказвае, як падзеі, сведкам і ўдзельнікам якіх з'яўляецца Павел, адбіваюцца ў яго душы і свядомасці. Матыў унутранай незадаволенасці чалавека, які выразна адчуваўся ў пачатку апавядання, у канцоўцы прагучэў з новаю сілаю. Павел раптам адчуў сваю віну. Ён ідзе дахаты, «дзе адзінока і бездапаможна злавалася на яго жанчына, якой не патрэбны былі лішнія заробкі, на якія ён гнаўся, як яму сягоння—гарэлка і чырвонец, якой цяжка было пасля раз'езду дзяцей ад адзіноты, што ён зараз так востра адчуваў, і яму было шкада і вінавата перад ёю і за апошнія гады неладоў, і за выбітыя ў верандзе шыбінкі, праз якія ходзіць завейны вецер і холадна, намяло снегу». Сказана проста, псіхалагічна дакладна.

Увогуле, лепшым апавяданням маладога пісьменніка (да вышэй названых можна дадаць «Баладу», «Даўнюю памяць», «Сонечны снег», «Дом») уласцівы адчуванне ўнутранай складанасці характараў, чулыя адносіны да чалавека, стрыманасць апавядання. Сама манера, шырэй—форма гэтых твораў, неяк натуральна асвятляе тую звычайную, драматычную ў сваёй аснове, жыццёвую стыхію, якая часцей за ўсё цікавіць аўтара, адпавядае яго натуры. Да таго ж у выбары жыццёвага матэрыялу пісьменнік не паўтараецца.

Нельга сказаць, што аўтар усюды ў аднолькавай ступені глыбокі і арыгінальны. Магчыма, арыгінальнасць, глыбіня пранікнення ў жыццё, сваё бачанне чалавека менш відаць у такіх апавяданнях, дзе Жук піша пра сваіх аднагодкаў («Сок манга», «Завулак», «Водсветы зорак»). У адным выпадку празаік не пазбег уплыву далёка не лепшых, хаця і модных, літаратурных з'яў. У другім уражанне псуе штучна-аптымістычная, публіцыстычная канцоўка. У трэцім аўтар не змог прыватнаму выпадку надаць значны сэнс, шырокае мастацкае гучанне.

Раней ужо адзначалася, што лепшым творам А. Жука ўвогуле ўласціва моцнае адчуванне драматычнай супярэчлівасці жыцця. Драматызм у іх як бы пранізвае ўсё. А творам накшталт апавядання «Сонечны снег», з іх агульным лірычным тонам, драматычная нота надае трывожнае адчуванне. Прачытайце, напрыклад, драматычную сцэну пра смерць зайца ў «Сонечным снезе», напісаную так дакладна і глыбока, з такім сталым майстэрствам.

Наогул, майстэрства Алеся Жука добра адчуваецца ў большасці апавяданняў зборніка. І хаця, шчыра кажучы, часам бывае крыху боязна гаварыць пра майстэрства першай кніжкі маладога аўтара, усё ж у «Асенніх халадах» ёсць апавяданні, якія не губляюцца ў агульным літаратурным патоку і стаяць упоравень з лепшымі ўдачамі нашых празаікаў—як старэйшага, так і сярэдняга пакаленняў.

Сур'ёзнае стаўленне да сваёй працы, пільная ўвага да чалавека, умелы выбар мастацкіх сродкаў у першай кнізе маладога пісьменніка даюць падставы ў будучым чакаць ад яго значных мастацкіх здабыткаў.

**Серафім АНДРАЮК.**




**Сяргей ЗАКОННІКАЎ. «БЯСЕДА». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

# ПАТРЭБА СВАЙГО АДКРЫЦЦЯ

Першую кнігу паэта хочацца параўнаць з першым каханнем. У ёй павінна быць шчырасць, адкрытасць і наіўнасць, якую звычайна сам не заўважаеш. Такая непасрэднасць першародная, яе нельга запазычыць. У адваротным выпадку яна будзе смешнай, ненатуральнай, як прызнанне закаханага, выказанае чужымі словамі.

Амаль палову зборніка Сяргея Законнікава «Бяседа» склалі вершы-«ўспаміны» пра незабыўныя гераічныя гады. І гэта добра, што малады паэт не адчувае сябе адарваным ад старэйшых пакаленняў нашай паэзіі. Блізка ён стаіць і да тых, хто апошнюю вайну перажыў хлапчукамі.

Але бяда ў тым, што С. Законнікаў не заўсёды выказвае менавіта свае пачуцці і ўражанні. Ён як бы адштурхоўваецца ад чутага, вядомага. Прыемнае выключэнне складае верш «Партызаны». Тое, пра што напісана, мог бачыць сам аўтар:

Партызаны прыйшлі да магіл
дарагіх...
На вачах заблішчэлі раптоўныя
слёзы,
І глядзяць устрывожана
сёстры-бярозы
На братоў пасівелых, маўклівых
сваіх.

Шкада, што ў большасці вершаў пра мінулае малады паэт у сваіх высновах неарыгінальны. Ён павялічыў колькасць радкоў на гістарычна-патрыятычную тэму, але нявыяўленымі засталіся яго ўласны вопыт і адчуванне. Гэтую думку могуць пацвердзіць вершы «Прабуджэнне», «Хатынь», «Балада аб чырвоных», «Памяць герояў-абальцаў», «Размова з цёзкам», «Успаміны», «Снягі», «Ваеннае кіно».

Вяртанне ў мінулае, якога аўтар сам не мог помніць («Радзіўся я ў сорак шостым»), вядзе да апісальніцтва, што дыктуецца кнігамі, успамінамі старэйшых, фільмамі. Чытаеш такія творы — і ўяўляецца школьны ўрок, калі вучні пішуць сачыненне, узнаўляючы толькі што прачытанае, пачутае.

Я не хачу, зразумела, раіць паэту абмяжоўваць сябе ў выбары тэм, звужацца толькі да свайго вопыту. Аднак практыка паказвае, што пра балючае можа лепш напісаць той, хто перажыў боль, а не той, хто пра яго толькі чуў.

У кнізе «Бяседа», калі можна так сказаць, выразна вызначаюцца два пласты. Першы — літаратурны, а другі — арыгінальны, свой. Пласт літаратурны адчувальна прыцiскае тое, што адкрыў упершыню сам С. Законнікаў, з чаго і пачынаецца паэт, назіральны і засяроджаны. Ён можа спыніць імгненне, даць яму акрэсленую форму, каб данесці да іншых прыгажосць маладога сэрца, хараство і непаўторнасць навакольнага свету.

Што С. Законнікаў паэт, бачыцца з лаканічнага верша «Першаадкрыццё». Хочацца прывесці яго цалкам.

На небе, як сняжынкі, зоркі таюць,
Ад цішыні хмялее галава.
За лесам коні ходзяць па атаве,
Хрумсціць ледзь чутна жухлая
трава.

Прайдзі праз бор па маладой
іглiцы—
І ўбачыш,— толькі ціхенька пастой,
Як жарабя цікаўнае ў крыніцы
На месяц наступае капытом.

Кропка пастаўлена своечасова. Тут адсечана дарога да гаварлівасці. Восем радкоў спатрэбілася, каб засведчыць лугавую цішыню вечара, стыласць атавы. І хаця вобраз жарабя і месяца ў вадзе не вельмі новы, і хаця тут ёсць не прадуманыя да канца радкі («Як жарабя цікаўнае ў крыніцы...») — верш, можна сказаць, стварае адпаведны настрой.

Добра чытаюцца ў зборніку «Бяседа» вершы-звароткі да маленькіх. Паэт дакладна ведае, што яму неабходна сказаць дзіцяці, як тактоўна задаволіць яго цікаўнасць. Аўтар застаецца ў цэнтры бяседы, ён непрыкметна кіруе ёю.

Вось яго лірычны герой нясе суседчыну дачушку. Колькі радасці, замілаванасці, пяшчоты!

Пазайздросьце сёння мне, паэты,
Кіньце рыфмы, праганіце сум.
Я нясу кавалачак Сусвету,
Будучыню нашую нясу...

Асцярожна крочу, каб не ўпасці,
І плыве сцяжынка да ракі...
Не мае, але такое шчасце
Туліцца ласкава да шчакі...

Я лічу ўдачамі С. Законнікава і такія вершы, як «Дзяўчынка цягне ручаняты», «Хочаш ведаць кожную прычыну», «Вясна», «Замерзлі вены дрэў», «Дзесьці вучоныя расшчапляюць атам», «Дзе хвалі і ты». Яны прываблiваюць жыццёвай асновай, ёсць у іх назіранне, свае адносіны да ўбачанага і адчутага — усё тое, што неабходна для сапраўднай паэзіі.

Тут дарэчы ўспомніць прызнанне М. Пришвіна: «Адна з асноўных прыкмет жыццёвасці кнігі — калі пасля чытання чытачу здаецца, што гэта напісана пра яго».

Запомнілася мне з вершаў С. Законнікава завея, што «як цялятка, церлася аб вугал пысай халоднаю», захацелася і мне напіцца з таго калодзежа, «дзе і днём унізе зоры ў жывой вадзе хавае глыбіня», здаецца, і я чую, «як недзе за плячамі садзіцца лісце ціха на зямлю».

І ўсё ж побач з крупінкамі паэзіі часта ў зборніку «Бяседа» засмучаюць неакрэсленыя і выпадковыя строфы, радкі, параўнанні: «Ты ў далоні збіраеш пырскаў мак», «Ляжаў я на лісці, на рукі хукаў» (гаворка ідзе пра немаўля), «Да болю родны, церпкі і гаркавы, бульбяны пах, нібы сялянскі лёс...»

Нярэдка С. Законнікаў карыстаецца аднымі і тымі ж параўнаннямі. Тады аднастайнасць паэтычных прыёмаў і ходаў прыводзіць да штампу: «І спее ў душы радок, звiняць, як бомы, словы» («Спее слова»), «А на вуснах словы прарастаюць і звіняць, як пчолы, у душы» («Вясна»).

С. Законнікаў, як і ўсе яго аднагодкі (і не толькі яго), закаханы ў той куток, дзе нарадзіўся, вырас, куды заўсёды хочацца прыехаць. Усё гэта мы называем домам, пачаткам Радзімы.

Можа, не зусім акрэслена і выразна, але ўсё ж вершы паэта перадаюць шчымлівую сустрэчу са старэнькай маці, жаданне сына суцешыць яе сваім прыездам (вершы «Я трызню ласкай рук шурпатых», «Матчын парог»).

І вось я чытаю «пачастункавы» верш «Дранікі». Колькі ўжо складзена гімнаў і балад пра печ, пірагі, аладкі... Паслухаем і маладога таварыша:

Сквірчыць на патэльні падмазка.
Нібыта **ешчы, ды галодны вяпрук.**
А сама **патэльня** па загнеце ляскае,
**Вавёркай** вырываецца з рук...
(Падкрэслена мной.— **Ю. С.**)

Я так і не зразумеў, чаму «агонь **сарокай** у печы **сакоча**» і як яму гэта ўдаецца. Не ведаю, як марозу. а мне не вельмі спадабаліся такія дранікі:

На бліны і ў яго (мароза) вочы
загараюцца,
Як на шуструю мышку ў ката.
Мама пячэ дранікі.
«Ну, як?..» —
«Смаката!»

Мушу не згадзіцца з аўтарам. Не «смаката», а безгустоўна, не эстэтычна: дранікі — галодны вяпрук — кот — мыш...

Калі малады паэт спрабуе ўспамінаць не такую і далёкую гісторыю, яго падсцерагае небяспека «словатворчасці». а часам і паўтарэння іншых паэтаў. У вершы «Лясная школа» ён піша:

На пнях смаловых, проста на траве,
З бяросты сшыткі ўсклаўшы
на калені,
Сур'ёзна ўзіралася на свет
Блакаднае **худое** пакаленне.

Грымела рэха даваеннага званка,
І мроіліся **беленькія** парты...
Выводзіла дзіцячая рука
«Масква»... «Смерць акупантам!»

Нягледзячы на недакладнасць некаторых радкоў, гэты верш мог бы ўсхваляваць. Сапраўды, пра нялёгкі блакадны час сказана ўражліва і праўдзіва. Але ж у 1965 годзе Анатоль Вялюгін напісаў верш «Партызанская школа».

Прывяду з яго толькі адну заключную страфу:

Нястачы сведка — сшытачак
з раймага.
Па шоўку сонечнай кары адвага
Вадзіла, пішучы, няўмелую руку:
Радзіма, Вежа, Сцяг.
Палон і Смага.

Гучаць такія ж словы
ў «Слове аб палку...»

Я не супраць школы вучобы. Прыглядацца да майстроў нікому не пашкодзіць. Аднак бяда, калі вучоба перарастае ў школу перайманне.

Адкрытую кімсьці крыніцу не варта адкрываць яшчэ раз. Сваю крыніцу шукаюць, капаючы калодзеж, мінаючы верхаводку, каб дайсці да крышгальнага струменю. Так, мне здаецца, і ў паэзіі.

Абнадзейвае тое, што малады паэт цесна звязаны з жыццём. І ў гэтым ён бачыць усе свае знаходкі сёння, усе свае ўдачы, якія прыйдуць заўтра.

Не чакаю ніякага цуду.
Цуд адзін толькі ёсць: жыццё!
Покуль сэрца не спыніць біццё,
Добра помню і помніць буду.

Хай яно будзе ўпоравень з векам,
Хай яно, можа, пройдзе, як дзень.
Нарадзіўся, жыву між людзей,
Ну, а што трэба больш чалавеку?!

Хочацца дадаць, што паэту трэба не толькі «жыць сярод людзей», але і выказваць іх думкі, захапляцца прыгожым, абурацца ўсім загнаным.

На маладых заўсёды звярталі пільную, заклапочаную ўвагу, асабліва пасля выхаду першых кніжак. І гэта таму, што ад іх заўсёды чакаюць большага, значнага. Асноўнае ў гэтым «большым і значным» — самабытнасць, адметнасць, такія якасці, па якіх вызначаюць, што ў літаратуру прыйшоў новы паэт са сваёй тэмай, сваім бачаннем свету.

Малады, калі ён яшчэ і таленавіты, не крыўдуе на заўвагі, сяброўскае слова, а ўважліва прыглядаецца да свайго набытку, каб хутчэй вырульваць на магістральную дарогу паэзіі. А яна заўсёды вяла і вядзе праз людскія сэрцы, праз чалавечую радасць і трывогу.

Такое жаданне ёсць і ў С. Законнікава. Паэт марыць пра «шчырыя, сардэчныя, чаканныя» радкі.

Хочацца верыць, што ён будзе знаходзіць іх і больш, і часцей.

**Юрась СВІРКА.**

■ ■ ■






**Ф. ЯНКОЎСКІ. «РОДНАЕ СЛОВА». Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1972 г.**

# У СЯМ'І СЛАВЯНСКАЙ

Паўторнае выданне ўсялякай працы заўсёды выклікае абавязковае жаданне параўнаць яго з папярэднім, высветліць, ці на карысць пайшла дапрацоўка.

У нашых руках другое выданне «Роднага слова» (дапрацаванае, дапоўненае) доктара філалагічных навук прафесара Ф. М. Янкоўскага. Адрозненне другога выдання ад першага відавочнае: памер яго павялічыўся болей як у тры разы, вялікую частку кнігі заняў раздзел «Фразеалогія» (250 старонак, а ў першым выданні— 17 старонак), дадаткова ўключаны раздзел «Арфаэпія. Націск». Ёсць падстава казаць, што другое выданне «Роднага слова» — нават не перавыданне, а ў пэўным сэнсе новая праца вучонага, якая магла ісці і пад іншаю назваю.

Пераемнасць у назве тлумачыцца пастаўленай мэтаю, якая асабліва ярка выяўляецца ў другім выданні: паказаць нашу мову не ізалявана, як нешта адасобленае, а ў сям'і славянскай, вылучыць агульныя рысы, якія збліжаюць беларускую мову з усімі славянскімі мовамі, акрэсліць асаблівасці, уласцівыя толькі нашай мове, якія вылучаюць яе ў самастойную мову. З гэтай прычыны аўтар памяняў і структуру працы, свядома паставіўшы на самы пачатак раздзел «Беларуская мова. Славянскія мовы».

Адну мову, нават родную,—заўважае даследчык,—нельга засвоіць, пазнаць навукова, калі яе вывучаць ізалявана ад іншых моў, тым болей блізкіх сваім паходжаннем. Аўтар паказвае генетычныя сувязі беларускай мовы з рускаю і ўкраінскаю, якія складаюць усходнеславянскую групу славянскіх моў. Адначасова яны маюць рысы, агульныя з мовамі заходняй (польская, чэшская, славацкая, верхнялужыцкая, ніжнялужыцкая, кашубская) і паўднёвай (балгарская, сербахарвацкая, македонская, славенская) груп. Падабенства і адрозненне славянскіх моў ілюструюцца яркімі прыкладамі.

Найболей месца ў першым раздзеле аддаецца на параўнанне беларускай і рускай моў. І гэта зразумела. З усіх славянскіх беларуская мова найбліжэй стаіць да рускай, яны маюць самы цесны кантакт: руская мова вывучаецца ў школах, на філалагічных факультэтах вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, яна шырока выкарыстоўваецца ў практыцы перакладу. Засваенне фанетычных, марфалагічных і сінтаксічных асаблівасцяў беларускай і рускай моў, праз параўнанне іх, дае магчымасць глыбей пазнаць і дасканала засвоіць структуру кожнай мовы. Аўтар карыстаецца простай і зручнай формаю падачы: фанетычныя асаблівасці вылучаны ў 26, сінтаксічныя—у 14 кароценькіх правілаў, марфалагічныя даюцца па часцінах мовы. Да кожнай асаблівасці ёсць кароткія каментарыі з ілюстрацыямі.

Літаратурная мова мае дзве формы бытавання—вусную і пісьмовую. Каб ведаць літаратурную мову, трэба цвёрда засвоіць лексічныя, граматычныя, арфаэпічныя і арфаграфічныя нормы. Лексічныя і граматычныя нормы ўласцівыя і вуснай, і пісьмовай формам, арфаграфічныя—толькі пісьмовай, арфаэпічныя—толькі вуснай. Разлічваючы на шырокае кола чытачоў (вучняў, студэнтаў, настаўнікаў, выкладчыкаў, артыстаў, дыктараў, журналістаў і інш.), якія практычна будуць карыстацца «Родным словам», аўтар уключыў у кнігу раздзел «Арфаэпія. Націск». Вызначыўшы ў агульных рысах прычыны адхіленняў ад арфаэпічных нормаў (уплыў дыялектаў, іншых моў), аўтар вылучае правілы вымаўлення галосных і зычных гукаў у розных пазіцыях, спалучэння гукаў, а таксама некаторых граматычных формаў (напр., няправільна вымаўляць яблын, вішанка, вучышся; трэба яблы**нь**, вішa**нька**, вучыс'ся).

«Слова і яго ўжыванне» — такая

назва трэцяга раздзела. Задача яго — паказаць хараство мовы, заахвоціць да пошукаў гаваркога слова, сіноніма, вобразнага параўнання, трапнага выслоўя, на ўмелае выкарыстанне складаных слоў і лексічных запазычанняў, навучыць, як правільна будаваць фразу. Даследчык паказвае, як штампы і няўклюдныя выразы накшталт «Сержант убачыў **ачаг пажару,** які ўзнік на страсе, і прадухіліў пажар», **«Яны наладжвалі** паміж сабою **спрэчкі»,** «Яшчэ не закончылі **вызваляць бурачнае поле ад ураджаю»,** «Ад гэтага калгас выйграў **бы, бо ён быў бы**...» засмечваюць мову, прытупляюць успрыманне, зацямняюць сутнасць гаворкі. Вось чаму няўклюдныя выразы заўсёды выклікалі абурэнне ў выдатнага мастака рускага слова А. Чэхава: «Какая гадость чиновничий язык. «Исходя из положения», «с одной стороны...», «с другой стороны...», и это все без всякой надобности... «Тем не менее», «по мере того» чиновники сочинили. Я читаю и отплевываюсь. Неясно, холодно: пишет, сукин сын, точно холодный в гробу лежит». Некалі Кандрат Крапіва гаварыў: «Канцылярызму трэба аб'явіць самую жорсткую вайну».

Нельга абысці без увагі разважанняў у гэтым раздзеле кнігі пра ўжыванне ў беларускай мове канструкцыі з прыназоўнікамі **пра** і **аб.** Гэты кавалак раздзела грунтоўна перароблены, ён сведчыць пра шчырую зацікаўленасць даследчыка, які ў вывадах і абагульненнях ідзе ад самой мовы, праз аналіз вялікай колькасці моўных фактаў. Ужыванне канструкцый «пра+вінавальны» і «аб+месны», лічыць аўтар, не выклікае пярэчанняў, але канструкцыя «пра+вінавальны» мае большае пашырэнне. Пацвярджае гэтую думку статыстычны аналіз узораў класікі.

Чацвёрты раздзел «Роднага слова» — «Фразеалогія». У беларускім мовазнаўстве гэта першае грунтоўнае даследаванне каштоўнага нацыянальнага багацця — народнай фразеалогіі. Цяпер ёсць падставы гаварыць, што і ў беларускім мовазнаўстве фразеалогія вылучылася ў самастойную галіну, а разам з ёю развіваецца і другі кірунак навукі пра мову — фразеаграфія. Чытаючы гэты раздзел, усведамляеш, які вялікі клопат узяў на сябе даследчык. Ён пачаў працу як не на голым месцы і, як кажуць, ішоў па цаліку. Каб напісаць такое даследаванне, трэба было мець багаты матэрыял занатаваных фразеалагізмаў, а іх амаль ніхто не запісваў, калі не лічыць нявылушчаных прыкладаў з агульных публікацый фальклору І. Насовіча, М. Федароўскага, Е. Раманава, П. Шэйна, З. Радчанкі, Р. Шырмы і інш. Але гэтых матэрыялаў вельмі мала. Праўда, аўтар мог пайсці лягчэйшым шляхам: узяць за матэрыял фразеалогію мастацкай літаратуры. Клопаты пра развіццё літаратурнай мовы, якая спорна жывіцца і будзе жывіцца народнымі гаворкамі, заданне зберагчы і даць ёй неацэнны скарб — народную фразеалогію — абумовілі тое, што даследчык выбраў цяжэйшы шлях: на пачатку ён стаў збіраць народную фразеалогію. Можна ўявіць, колькі патрачана часу — першыя запісы зроблены ў Айчынную вайну, а слоўнік фразеалагізмаў выйшаў толькі ў 1968 годзе. Праўда, даследчык мае і выйгрыш: сам занатоўваючы фразеалагізмы, ён улавіў усе іх адценні, а гэта ўратоўвае ад магчымых памылак.

Ва ўступнай частцы раздзела вызначаецца экспрэсіўна-эмацыянальная вобразнасць фразеалагізмаў, іх роля ў мастацкай літаратуры, а таксама аб'ём фразеалогіі як навукі ў вузкім (вывучае толькі фраземы) і шырокім (вывучае таксама прыказкі, прымаўкі, устойлівыя параўнанні, прыгаворкі і крылатыя словы) сэнсе. Акрэсліваюцца галоўныя задачы фразеолагаў — складанне розных тыпаў фразеалагічных слоўнікаў, навуковае апісанне гэтага моўнага багацця. Вывучэнне фразеалогіі мае непасрэднае дачыненне да тэорыі і практыкі перакладу. Вось адзін прыклад. Да нядаўняга часу рускі фразеалагізм **метать громы и молнии** на беларускую мову перакладалі літаральна: **шпурляць громы і маланкі.** Няўдалая калька выклікала толькі іронію, але пад рукамі не было нічога лепшага. А ў беларускай мове, паказвае даследчык, рускаму фразеалагізму ёсць добры адпаведнік — **даваць перуноў.** І вобразна, і натуральна. Але яго трэба было знайсці.

Узнікненне фразеалагізмаў, шматзначнасць, сінанімічнасць і аманімічнасць іх, фразеалагізмы-характарыстыкі, варыянтнасць у фразеалогіі, структурна-граматычная характарыстыка фразеалагізмаў — гэта няпоўны абсяг пытанняў, распрацаваных Ф. Янкоўскім у «Родным слове».

У пятым раздзеле «Дадаткі» чытач знойдзе шматлікія адказы на пытанні — з гісторыі слова, словаўжывання, правапісу, сінтаксічнай будовы словазлучэнняў і сказаў; слоўнічак-даведнік, у які ўключаны словы, што нярэдка вымаўляюцца з памылкамі; паказчык слоў і фразеалагізмаў.

«Роднае слова» Ф. Янкоўскага — не толькі падзея ў беларускім мовазнаўстве. Гэта — добры ўклад беларускага мовазнаўства ў славістыку.

**Валянцін РАБКЕВІЧ.**



# ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ



**КАЛІНІН У БЕЛАРУСІ».** Чатыры разы прыязджаў ён у госці да працоўных нашай рэспублікі. Першы раз — яшчэ ў 1919 годзе, з агітцягнікам «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Тады «ўсесаюзнага старасту» віталі Мінск і Віцебск, Гомель і Магілёў, Орша, Бабруйск, Жлобін... Аўтарытэт ягоны сярод беларускіх рабочых і сялян быў надзвычайны, і сустракалі яго шчыра і гасцінна. У 1924 годзе, пад час другога прыезду Міхаіла Іванавіча на беларускую зямлю, цягнік, на якім ён ехаў, ненадоўга прыпыніўся на станцыі Барысаў. А там ужо ў чаканні сабраліся сотні людзей. Прыйшлі рабочыя, чыгуначнікі, сяляне навакольных вёсак. Пасля нядаўняй грамадзянскай жылося небагата. І селянін Вярміцкі паднёс Міхаілу Іванавічу ў дарунак лапці і анучы ўласнага вырабу, а нейкая сялянка — чырвоны даматканы абрус...

Восенню 1933 года М. І. Калінін удзельнічае ў рабоце Усебеларускага злёту калгасных конюхаў-ударнікаў. Летам 1935 года ён прыязджае ў Мінск, каб уручыць Беларусі за поспехі ў сацыялістычным будаўніцтве найвысокую ўзнагароду — ордэн Леніна. І кожны ягоны прыезд суправаджаўся мітынгамі, шматлікімі сустрэчамі і гутаркамі з рабочымі і сялянамі, паездкамі ў саўгасы і калгасы...

Усе гэтыя матэрыялы, звязаныя з паездкамі М. І. Калініна па Беларусі, — тэксты ягоных выступленняў на мітынгах, запісы гутарак з працоўнымі, вытрымкі з газет, шматлікія фотаздымкі — сабраны ў кнізе. Яна падрыхтавана Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Складальнікі — кандыдаты гістарычных навук Ф. О. Папоў і А. А. Кузняеў.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973 г. На рускай мове.**

**«У БАЯХ ВЫПРАБАВАНЫЯ».** Гэтая дакументальная кніга — пра баявы шлях партызанскай брыгады «Разгром», што дзейнічала ў гады вайны на Міншчыне, на тэрыторыі Бярэзінскага, Чэрвеньскага, Барысаўскага і Смалявіцкага раёнаў. Аўтар кнігі журналіст Васіль Зяленскі некалькі гадоў старанна збіраў і вывучаў матэрыялы аб дзейнасці брыгады, прыязджаў на штогадовыя традыцыйныя зборы былых партызанаў, вёў перапіску са многімі ўдзельнікамі суровага змагання з ворагам, гутарыў з жыхарамі на месцах колішніх баёў.

Асабліва поўна і ярка ў кнізе адлюстраваны баявы шлях камсамольска-маладзёжнага атрада «Іскра». Плячо ў плячо з беларусамі ў ім змагаліся прадстаўнікі многіх нацыянальнасцяў нашай краіны. Многія з іх не дажылі да светлага дня Перамогі. Разам з баявымі сябрамі ў вёсцы Кляннік Смалявіцкага раёна пахаваны бясстрашны камандзір падрыўной групы, слаўны сын узбекскага народа Гантай Ташніязаў. Светлай ягонай памяці аўтар і прысвяціў гэтую кнігу.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973 г. На рускай мове.**

**«ВЫБРАНАЕ»** народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова, якое выйшла ў серыі «Бібліятэка беларускай прозы», — найбольш поўны збор апавяданняў выдатнага майстра слова. Кніга адкрываецца творам, які вядомы кожнаму са школьнай парты, — апавяданнем «Над Бугам», напісаным амаль пяцьдзесят гадоў назад. А далей ідуць «Гой», «Андрэй Лятун», «Васількі», «Астап» і многія іншыя апавяданні, якія даўно палюбіліся чытачу.

У канцы кнігі змешчана кароткая біяграфічная даведка пра асноўныя вехі жыцця і творчасці М. Ц. Лынькова.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«ПАЭЗІЯ БАРАЦЬБЫ І ПЕРАМОГІ».** Пятро Глебка вядомы не толькі як паэт і драматург, але і як вучоны-мовазнаўца і мастацтвазнаўца, даследчык літаратуры і крытык. Па-сутнасці, у беларускай літаратуры і культуры не было ніводнай больш-менш значнай з'явы, на якую б ён не адгукнуўся дасведчаным і палымяным словам. Ягонаму пяру належаць дзесяткі літаратурна-крытычных, навуковых і публіцыстычных артыкулаў.

У гэтай кнізе ўпершыню сабрана частка літаратурна-крытычнай і навуковай спадчыны паэта-акадэміка. У яе ўвайшлі найбольш значныя раннія артыкулы Глебкі-крытыка, якія з'явіліся ў друку яшчэ ў пачатку 30-х гадоў. Прысвечаныя пытанням авалодання паэтычным майстэрствам, працы над словам, яны і сягоння гучаць на дзіва свежа, актуальна. Побач — даследаванні аб творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, П. Броўкі, А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Клімковіча, М. Лужаніна, творчыя партрэты М. Лынькова, П. Труса, Я. Пушчы і іншых беларускіх пісьменнікаў. У кнігу ўключаны артыкулы аб ролі і ўплыве на развіццё беларускай літаратуры творчасці А. С. Пушкіна, А. Міцкевіча, У. Мая-

ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ

# ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ

коўскага. Змешчаны ўспаміны пра народнага песняра Беларусі Янку Купалу, з якім Пятро Глебка сябраваў, а таксама мала вядомыя чытачам нататкі аб сустрэчах паэта з аўтарам «Авадня» Э. Войніч у Нью-Йорку пад час ягонага падарожжа на сесію Генеральнай асамблеі ААН.

Упершыню апублікаваны шэраг рэдкіх фотаздымкаў.

Прадмову да кнігі напісаў Іван Навуменка.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«РАЗМОВА З ЧЫТАЧОМ».** Даўняя і трывалая сувязь з чытачом у народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна. Героі ягоных аповесцяў і раманаў палюбіліся не толькі беларускаму, але і ўсесаюзнаму чытачу. За бескампраміснасць на нялёгкіх пуцявінах жыцця, за акрэсленую грамадзянскую пазіцыю, за характэр душы. Пісьменніку пішуць студэнты і рабочыя, воіны і настаўнікі, людзі самых розных прафесій і ўзростаў.

У сваіх артыкулах, якія з'яўляліся ў перыядычным друку, выступленнях на шматлікіх сустрэчах з чытачамі Іван Шамякін неаднойчы адказваў на адрасаваныя яму пытанні. Гэтая кніга, дзе сабраны артыкулы, выступленні, успаміны і дзённікі І. Шамякіна — своеасаблівы зацікаўлены працяг размовы пісьменніка з чытачом.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«МАЯ АСЯНІНА»** — верш, які даў назву новаму паэтычнаму зборніку Аляксея Зарыцкага. У ім паэт застаецца верны лепшым традыцыям сваёй творчасці — лірызму, тонкаму адчуванню зрухаў чалавечага сэрца. Паэт як бы нанова вяртаецца ў сваю вясну. Пры ўсёй разнастайнасці і шматпланавасці вершаў у іх адчуваецца і дыханне нашага часу, і замілаванасць роднай прыродай, і радасць светлых чалавечых пачуццяў.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«НАРЫСЫ ГЕАГРАФІІ ГАРАДОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР (1917—1941 гг.)»** Гэта першая не толькі ў рэспубліцы, але і ў Савецкім Саюзе кніга, прысвечаная даследаванню пытанняў развіцця нашых гарадоў у савецкі даваенны перыяд. Аўтар яе С. А. Польскі даследаваў фактычна не вядомы этап развіцця гарадскіх пасяленняў Беларусі — перыяд з 1917 па 1941 год, калі ў выніку сацыялістычнага будаўніцтва адбываліся карэнныя змены як у колькасным складзе і народнагаспадарчай структуры гарадоў і мястэчак рэспублікі, так і ў іх дэмаграфічным аблічы. Ён разглядае пытанні пераўтварэння прамысловай структуры рэспублікі і развіцця гарадоў, сацыялістычнай іх рэканструкцыі, праблему сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў мястэчак.

Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў — навуковых супрацоўнікаў, краязнаўцаў, настаўнікаў, студэнтаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй і геаграфіяй роднага краю.

**Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск, 1973 г.**

**«МУДРЫЯ ДАРАДЦЫ».** З вечна жывых крыніц чэрпаем мы прыказкі і прымаўкі — дыяменты шматвекавой мудрасці народа. У гэтых яркіх трапных выслоўях замацаваны маральны вопыт пакаленняў, народны розум і досціп. Адны з іх існуюць з незапомных гадоў, іншыя — аб вялікім Леніне, аб Радзіме, Камуністычнай партыі — узніклі ў савецкі час.

У гэтай кніжачцы сабрана толькі невялікая частка вусных афарыстычных твораў нашага народа. Але яна прыдасца ў жыцці кожнаму, у чым сэрцы жыве любасць да роднага слова, бо дазволіць сённяшняму маладому чалавеку адчуць прыгажосць і сілу чалавечага розуму, папоўніць ягоную мову новымі вобразамі, жывымі і экспрэсіўнымі, навучыць любіць працу, шанаваць сваіх бацькоў і настаўнікаў, абудзіць удзячнасць да Радзімы і Камуністычнай партыі.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

■ ■ ■





**У гэтым месяцы адзначаецца 150-годдзе з дня нараджэння знанага нашага земляка, слыннага паэта-дэмакрата Уладзіслава Сыракомлі, які пакінуў прыкметны след як у польскай, так і ў беларускай культуры.**

**Вершы Сыракомлі перакладалі на беларускую мову многія нашы паэты, яго творчасць цесна звязана з Беларуссю.**

**Ніжэй — адна старонка гэтых узаемадачыненняў дзвюх братніх культур.**

# Сыракомлю перакладае Лучына

Уладзіслаў Сыракомля і Янка Лучына — паэты, між якімі адлегласць у адно пакаленне. Падлеткам Лучына неаднойчы чуў у доме бацькі, дзе падчас збіралася мінская інтэлігенцыя, гарачыя размовы пра творы Сыракомлі, яшчэ да гімназіі чытаў яго прачулыя гавэнды—вершаваныя апавяданні з народнага жыцця, марыў убачыць славутага паэта, якога называлі «вясковым лірнікам». Але лёс наканаваў яму іншыя сустрэчы з паэтам.

На канікулы з Мінска Лучына ездзіў у тую ж Мархачоўшчыну, пад Стоўбцы, якую арандаваў калісьці бацька Сыракомлі і дзе хлапчуком «вясковы лірнік» ганяў з сялянскімі дзецьмі коней на начлег. І яшчэ адно. У выбары літаратурнага псеўданіма Лучына таксама паўтарыў свайго папярэдніка. «Вясковы лірнік» узяў псеўданім ад родавага герба—Сыракомля, Лучына ж—ад часткі прозвішча сваіх продкаў, якія ў афіцыйных дакументах пісаліся даўней Лучыўка-Неслухоўскія.

У верасні 1862 года Сыракомля памёр, пражыўшы ўсяго 39 гадоў. Ён пакінуў наступнікам багаты плён свайго натхнення: шматлікія вершы і гавэнды (гутаркі), вершаваныя драмы, краязнаўчыя працы, дзе выказаў вялікую любоў да беларускай зямлі, да родных наднёманскіх мясцін, шчырую сімпатыю да селяніна, прыгнечанага, прыніжанага прыгонніцтвам, але высакароднага, да чалавека, які не страціў пачуцця ўласнае годнасці. Усё гэта было шчымліва-знаёмае. Творы «вясковага лірніка» памаглі беларускаму паэту пільней прыгледзецца да жыцця, прасякнуцца глыбокім даверам да сыракомлеўскай паэзіі і назаўсёды застацца яе верным прыхільнікам.

У беларускай літаратуры Лучына быў, бадай, ці не першы, хто пачаў перакладаць «вясковага лірніка». Лучынаўскі пераклад «народнай гутаркі» Сыракомлі «Паштальён» стаў першым творам беларускай перакладной паэзіі XIX стагоддзя, які беспярашкодна прабіўся да масавага чытача. Пад назвай «Ямшчык» яго змясціла ў 1890 годзе газета «Минский листок» (№ 19). Лучынаўскі пераклад дзякуючы публікацыі ў папулярнай грамадска-літаратурнай газеце выходзіў ужо за межы асабістага вопыту паэта.

Агульнавядомае ўслед за «Ямшчыком» стала і «вольнае наследаванне» беларускага паэта сыракомлеўскай гутарцы «Горсць пшаніцы», якое было змешчана ў календары-альманаху А. Слупскага на 1892 год. Гэты твор, напісаны Сыракомлем у 1856 годзе, не страчваў сваёй вастрыні і ў 90-я гады і мог бы ўспрымацца беларускім чытачом як надзённы нават у тым выпадку, калі б Лучына проста пераклаў яго. Тым больш, что ў гутарцы яскрава выяўляецца беларуская аснова. Але аўтар «Горсці пшаніцы» на беларускай мове пайшоў па шляху, калі можна так сказаць, пераказу думкі польскага твора. Такая форма засваення іншамоўнай паэзіі была выклікана, хутчэй за ўсё, жаданнем зрабіць «Горсць пшаніцы» ў нейкай ступені самастойнай з'явай беларускай літаратуры і гэтым самым павысіць яе надзённасць. У адрозненне ад Сыракомлі, аўтар беларускага варыянту «Горсці пшаніцы», ведучы гутарку, з'яўляецца не пабочным суразмоўнікам падзей, а непасрэдным іх удзельнікам.

У Лучыны старшына Піліп, як і ў Сыракомлі стары войт Шчэпан, пасылае сваіх сыноў у чужы край на выпрабаванне, каб пасля, калі яны вернуцца дамоў, цвёрда ведаць, хто з іх зможа замяніць яго на пасадзе. Андрэй і Янка не апраўдалі надзей бацькі, бо сталі пагарджаць звычаямі і самабытнай культурай свайго народа. З гэтага выпрабавання ўзмужнелым патрыётам выходзіць Грыгор. Дбаючы пра лепшыя ўраджаі ў родным краі, ён прывозіць з Украіны мяшок пшаніцы, каб раздаць яе «па горсці» аднавяскоўцам. Гэта да спадобы Піліпу... Абраўшы форму вольнага наследавання ці, дакладней, сціслага пераказу і ўзнаўлення сыракомлеўскай гутаркі на беларускай мове, Лучына зрабіў «Горсць пшаніцы» актыўным фактам развіцця не толькі роднай літаратуры, а і нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Гэтым творам Лучына ўслед за Сы-

ракомлем сцвярджаў, што сапраўдны патрыёт імкнецца прынесці карысць свайму народу.

Патрыятычная тэма, глыбока распрацаваная «вясковым лірнікам» у многіх творах, знайшла свой працяг яшчэ ў адным перакладзе Я. Лучыны—у вершы «Бусел». Параўнанне «Гавэнды о боцяне» з яе беларускім перакладам паэтычна дакладна перадае і задуму, і настрой, і ўвесь рух алегарычнага верша Сыракомлі. Тужлівасць ростані з родным кутам, дзе былі спазнаны радасныя хвіліны, і няпэўнасць шчаслівага звароту з чужыны—словам, мінорны настрой ачалавечанага паэтам бусла, што збіраецца ў вырай,—беражліва перанесены з польскага тэксту ў пераклад. Праўда, пры ўзнаўленні карціны развітання бусла са сваёй старонкай, дзе «болей не грэе сонца», Лучына рэдка імкнецца дасягнуць эквівалентнай лексічнай замены паасобных слоў. Галоўны клопат перакладчыка—захаваць сэнсавую адпаведнасць арыгіналу і не разбурыць яго чароўнай умоўнасці.

Зімка надходзіць, звіслі туманы,
І вецер круціць і свішча.
На небе—цёмных хмар караваны.
Бусел узняўся і задуманы
Паплыў павольне на ржышча,
Сеў і клякоча, падняўшы ногу,
Дый жмурыць цёмнае вока.
Пэўне ён думку ўздумаў глыбока,
Ужо выбіраецца ў дарогу.

Беларускі паэт даволі свабодна абыходзіцца з арыгіналам, перастаўляе цэлыя фразы, апускае некаторыя мясціны, дадае свае рэаліі—і ўсё гэта, як правіла, у духу гутаркі і творчасці аўтара. Лучына не перакладае, напрыклад, словазлучэння «syn litewski»—і зусім апраўдана, бо далей, дзе гаворыцца пра «край тутэйшы», называецца Нёман. Выраз «poważny, stróż sienozęci» заклікана раскрыць у арыгінале задумёную самавітасць жыхара Прынямоння, удала кампенсуецца эпітэтам «задуманы». Замяняючы паняцце «zwiesił dziób duży» сваім «падняўшы ногу», перакладчык не ідзе насуперак арыгіналу, не парушае яго агульнай плыні. У гэтым угадваецца ўжо той перакладчыцкі прыём, якім па-майстэрску пачне карыстацца Янка Купала, калі будзе ўзнаўляць па-беларуску паэтычныя творы рускіх, польскіх, украінскіх класікаў, у тым ліку і вершы Сыракомлі. Пяру Лучыны належаць яшчэ ўзноўленыя па-беларуску вершы Сыракомлі «Надта салодкія думкі», «Не я пяю—народ божы», а таксама перакладзеная на рускую мову паэма «Воскресенье».

Увогуле, перакладчыцкай практыцы Я. Лучыны ўласцівы свабодны падыход да арыгінала—дарэчы, своеасаблівы ў кожным асобным выпадку. Калі ў «Горсці пшаніцы», вызначанай беларускім паэтам як «вольнае наследаванне», змест сыракомлеўскага твора перадаецца скарочана, то ў вершы «Надта салодкія думкі» наадварот—межы тэксту пашыраны. У ім Лучына значна аддаляецца ад лексікі арыгінала, хоць форму верша і строфабудавання захоўвае. «Надта салодкія думкі»—гэта, па сутнасці, верш, напісаны па матывах сыракомлеўскага твора. Перакладам у поўным сэнсе нельга назваць і своеасаблівую лучынаўскую інтэрпрэтацыю другой часткі верша Сыракомлі «Не я пяю...»

Гэты твор «вясковага лірніка» складаецца з трох шаснаццацірадковых строф, кожная з якіх, уяўляючы сабой закончаную па думцы паэтычную адзінку, нясе сваю вобразную нагрузку ў раскрыцці такіх крыніц творчасці аўтара, як «божая іскра», народнае жыццё і свет, прырода. Такім чынам, перакладаючы другую страфу, дзе гаворыцца пра сувязь паэзіі з народам, з яго інтарэсамі, і пакідаючы без увагі астатнія часткі верша, Лучына свядома ўступаў у палеміку з аўтарам, не пагаджаўся з яго ўспрыняццем мастацтва як божага дару. Вылучыўшы з твора сыракомлеўскае разуменне народнасці паэзіі, беларускі паэт імкнецца надаць яму ў перакладзе больш выразнае сацыяльнае гучанне.

Лучына перакладае:

Не я пяю—народ божы
Даў мне ў песні лад прыгожы,
Бо на сэрцы маю путы
І з народам імі скуты.
З ім і зліўся з добрай волі.
Чы то ў долі, чы ў нядолі...

Наследаванні Лучыны «вясковаму лірніку» Сыракомлю не засталіся аўтаномнай з'явай беларускай літаратуры канца XIX стагоддзя. З усімі лучынаўскімі перакладамі чытач шырэй змог сустрэцца ў 1903 годзе, калі быў выдадзены зборнік беларускага паэта «Вязанка».

Так атрымалася, што выхад у свет гэтай кнігі падвёў у нейкай ступені вынікі першага этапа творчага асваення беларускай літаратурай паэзіі «вясковага лірніка». Пераклады зборніка «Вязанка», ступіўшы ў новае стагоддзе, актыўна жылі і ва ўмовах, калі рэвалюцыйныя падзеі 1905 года ўзнялі з народных глыбінь такіх майстроў роднага слова, як Янка Купала і Якуб Колас, калі ўзнік, нарэшце, беларускі легальны друк.

**Уладзімір МАРХЕЛЬ.**







# Галоўны тэрапеўт рэспублікі

У клініцы—цішыня. Па звычцы, выпрацаванай гадамі, гамонім напаўголасу. Мякка, амаль нячутна сюдытуд прабягаюць сёстры—зноў жа, толькі яны, добрыя анёлы хворых, умеюць хадзіць так ціха, выдаючы сябе ўсяго толькі шоргатам накрухмаленых халатаў. У студэнтаў сур'ёзныя, нават урачыстыя твары людзей, якія далучаюцца да таінства. Таінства лекарства... Аб ім шмат гавораць, шмат пішуць. Думаю аб ім і я, чакаючы абходу прафесара, і зноў, як дзесяць гадоў назад, адчуваю сябе студэнткай, якой яшчэ трэба спазнаць гэтае таемнае мастацтва. А яно зусім не простае—лекарскае мастацтва, і я да гэтага часу не магу сказаць пэўна, у чым яго таемнасць. Адказаць на гэтае пытанне канкрэтна, даць нейкую пэўную і дакладную фармуліроўку—неймаверна цяжка.

Сапраўды, у чым яно заключаецца ці, скажам інакш, выяўляецца, лекарскае мастацтва? Можа быць, у глыбокім разуменні тонкіх біяхімічных працэсаў, што адбываюцца ў мікраскапічнай структурнай адзінцы—клетцы? Спазнай гэтыя працэсы, і табе адкрыецца ўсё: таямніца запалення, спалоху, галаўнога болю. І лячы сабе гэтыя немачы, разумеючы, што ў дадзеным выпадку ў крыві хворага павялічваецца колькасць адрэналіну, а ў другога—цукру, а ў трэцяга—парушана рэгуляцыя сасудзістага тонусу. Можна ведаць анатомію, фізіялогію, механіку, і табе будзе зразумела, чаму ў хворых на сэрца дыхавіца і павялічана печань. І зноў жа—лячы: таблеткамі, скальпелем, фізкультурай.

Усяму гэтаму можна навучыць чалавека, развесіўшы па сценах дыяграмы, паставіўшы перад ім на паліцах закансерваваныя прэпараты, завёўшы яго ў секцыйную залу.

Але біяхімія не дапаможа вам зразумець, чаму ў вашага хворага сёння самотны пагляд, хоць, калі верыць клінічным крытэрыям, здароўе чалавека не пагоршылася, чаму вось гэты хворы з усіх сіл стараецца штосьці ўтаіць ад вас—нібы баіцца паверыць у нешта жахлівае, а трэці, наадварот, бясконца выпытвае ў вас усё да драбніц—відаць, яму лягчэй будзе ведаць усё, чым заставацца ў пакутліва-трывожным няведанні.

Напэўна, лячэнне тады ператвараецца ў мастацтва, калі хворы пасля абходу адчувае сябе лепей, калі ён не ўздрыгвае палахліва ад дотыку вашай рукі, калі вы ўмееце сказаць яму няпраўду так, каб ён паверыў, што гэта—праўда: часта і «няпраўда» лечыць.

Гэтаму нельга навучыць, гэта пры-

ходзіць з вопытам, гэта выпрацоўваецца вашым чалавечым тактам, вашай здольнасцю крытычна ставіцца да ўласных слоў і ўчынкаў. Але вельмі важна, каб маладыя людзі, якія апранулі белыя халаты, зразумелі, што такое мастацтва існуе, што яго абавязкова трэба спазнаць, бо інакшай яны будуць толькі дасведчанымі рамеснікамі.

Зараз яны чакаюць абходу, абступіўшы Сусану Сымонаўну Пшонік, якая тлумачыць ім штосьці шэптам. Яны яшчэ не ведаюць, як часта пасля будуць прыгадваць яе і Рыгора Паўлавіча Матвейкава—з удзячнасцю і любоўю. Так успамінаем іх мы, тыя, хто вучыўся на гэтай кафедры дзесяць гадоў назад. Хто яго ведае, ці так яно на самой справе, але здаецца мне: менавіта таму, што мы вучыліся ў іх, так шмат студэнтаў з нашай групы сталі тэрапеўтамі.

Тады Рыгор Паўлавіч яшчэ не быў прафесарам. Яму было 34 гады, і ён быў самы малады загадчык кафедры. Добра памятаю сваё першае ўражанне: ціхі голас, выразныя вочы, зусім малады, амаль юнацкі твар. Падумала: «Ну, на гэтай кафедры будзе лёгка. Вельмі ўжо малады». І раптам у часе абходу, у прысутнасці хворых—пытанне, адрасаванае не ўсім студэнтам, а канкрэтна мне, і я не ведаю, што адказаць на яго. Нават зараз памятаю я тое пачуццё сораму. А пытанні тыя паўставалі—перада мной, перад усімі маімі аднакурснікамі—штодня, у часе кожнага абходу. І ўсе мы чытаем, старанна рыхтуемся: спачатку дзеля таго, каб не трапіць у няёмкае становішча, а з цягам часу ўжо таму, што спазнаваць новае неўпрыкмет станавілася нашай душэўнай патрэбай.

Як часта ўспамінала я гэтыя абходы і заўсёдныя абмеркаванні іх, працуючы пасля заканчэння інстытута ў невялічкай забайкальскай бальніцы! Як прыдалася мне выхаваная Рыгорам Паўлавічам патрэба чытаць, спецыяльна рыхтавацца кожны раз, калі ў бальніцу паступаў новы хворы! Мае пацыенты, пакідаючы бальнічную палату, дзякавалі мне, а я з глыбокай удзячнасцю ўспаміцала Рыгора Паўлавіча і Сусану Сымонаўну.

А ён жа ніколі не падымаў на нас голасу, не наладжваў разносаў на абходах, але затое ўмеў так гнеўна насупіцца, калі хто не ведаў відавочных рэчаў, калі хто выконваў свае абавязкі неахайна, што рабіць усё дакладна і старанна станавілася патрэбай, і ніхто з нас нават не ўяўляў, што можна працаваць неяк іначай.

У свой час мне вельмі пашанцавала: практыку на апошнім курсе па тэрапіі я праходзіла ў 2-й клініцы ў дацэнта Матвейкава. Сюды нас накіравалі дзвюх—мяне і Ніну Сазонаву, астатнія раз'ехаліся па бальніцах Беларусі. Гэта былі важныя месяцы, калі кожны з нас павінен быў вырашыць, кім ён будзе працаваць пасля заканчэння інстытута. (Ніна так і засталася працаваць у клініцы ў Рыгора Паўлавіча, я паехала тэрапеўтам у Забайкалле). Мы неўзабаве адчулі сябе супрацоўнікамі аддзялення. Загадчыца аддзялення нават спрабавала нагрузіць нас гэтак жа, як і штатных урачоў, ды Рыгор Паўлавіч не дазволіў: «Не больш, чым шэсць хворых—няхай думаюць!»

Зналі мы пра сваіх хворых усё, і ў часе абходаў паспяхова вытрымлівалі бамбардзіроўку пытаннямі. Хіба толькі Сусана Сымонаўна падкажа зрэдку што-небудзь, а шэф зробіць выгляд, што не заўважыў.

Сусана Сымонаўна... Колькі яна з намі валаводзілася: тлумачыла, паказвала, брала з сабой на начныя дзяжурствы. Яна была і выкладчыкам, і нашым таварышам. Мінула столькі гадоў, а я па-ранейшаму люблю яе, па-ранейшаму звяртаюся ў думках да яе ў самыя цяжкія і самыя радасныя хвіліны жыцця.

Апошняя практыка засталася ў памяці як самы лепшы час майго студэнцкага жыцця. Памятаецца вечар у дзень 8-га Сакавіка ў невялікай кватэрцы кагосьці з урачоў клінікі, бачу Рыгора Паўлавіча, які кружыцца ў вальсе, чую голас Сусаны Сымонаўны: «Сашачка, лепш ужо называйце мяне сястрой!» Гэта яна, міла ўсміхаючыся, сказала ў адказ на маё нечаканае шчырае прызнанне: «Сусана Сымонаўна, вы для нас—нібы маці!» Ёй тады было 34 гады.

А праз дзень я спазнілася на пяціхвілінку і, не трапіўшы на вочы шэфу ў калідоры, шмыгнула ў сваю палату. Знайшла мяне загадчыца аддзялення і з дакорам паведаміла: «Вас у кабінет да Рыгора Паўлавіча». Я пайшла, і папка з гісторыямі хвароб цяжкім грузам адцягвала мне руку. Рыгор Паўлавіч падняўся з-за стала: «Аляксандра Рыгораўна, я хацеў зрабіць гэта на пяціхвілінцы, але вы не далі мне такой магчымасці, таму давялося запрасіць вас сюды. Віншую вас з днём нараджэння». Потым я шмат гадоў пісала гісторыі хвароб атрыманай ад яго ў падарунак аўтаручкай.

Не, ён не рабіў нам скідак, ён не быў добранькім. Ён ставіўся да нас, практыкантаў, з увагай і патрабаваў ад нас поўнай аддачы. І мы стараліся з усіх сіл.

На дзяржаўных экзаменах мне давялося нялёгка. Я доўга хварэла перад гэтым, і Рыгор Паўлавіч, нібы забыўшыся, што ён член дзяржаўнай камісіі, памагаў мне выблытвацца з якогасьці каверзнага пытання па філасофіі. Выблыталіся мы з ім на «добра». Затое калі па клінічных дысцыплінах пайшлі выдатныя адзнакі, ён ззяў так, нібыта сам вучыў нас не толькі тэрапіі, але і акушэрству і хірургіі. А як ён ганарыўся бліскучымі адказамі Ніны Сазонавай! Відаць, ён меў рацыю: гэтыя навукі мы праходзілі на іншых кафедрах, але мысліць вучыліся ў яго клініцы.

Мінулі гады, Сусана Сымонаўна Пшонік абараніла доктарскую... Рыгор Паўлавіч даўно прафесар, адзін з вядучых рэўматолагаў краіны, галоўны тэрапеўт рэспублікі. Яму зараз сорак чатыры гады, але ён, як заўсёды, здаецца мне маладым: можа таму, што мы абодва пасталэлі (хочацца сказаць—пасталелі) на дзесяць гадоў.

Сяджу ў яго ў кабінеце ў нечаканай для сябе якасці карэспандэнта і мучаю яго пытаннямі. Ён цярпліва адказвае, стараючыся не глядзець на гадзіннік і не шкадаваць часу, які я так несумленна адбіраю ў яго.

Нарадзіўся ў 1929 годзе ў Рагачоўскім раёне ў сялянскай сям'і. Сярэдняя школа, Мінскі медыцынскі інстытут, дзе, дарэчы, захапляўся танцамі — нават наведваў танцавальны гурток. На шостым курсе спецыялізаваўся па хірургіі. Усё пачалося пасля, у 1954 годзе, на Мур-Ашмянскім урачэбным участку. 15 ложкаў, шэсць маладых спецыялістаў, якімі трэба кіраваць. Давялося задумацца над тым, як гэта рабіць. Нарадзіўся першы прынцып: усё для хворага. Ніякіх пабочных размоў, калі ў кабінеце хворы. Асабістыя праблемы, благі настрой, высвятленне адносін — толькі пасля работы. Праўда, рэгламентаванага рабочага дня не было—на тое ён і сельскі ўчастак. Работы — процьма: магазіны, фермы, выяўленне хворых, патранаж цяжарных.

Сёстры былі маладыя, чырванакрыжаўскія—даводзілася іх усяму вучыць нанова. Арганізаваў лабараторыю, зубны кабінет. Вельмі хацелася, каб у бальніцы было ўтульна, і ўлетку кожная сястра прыносіла ў палату палявыя кветкі.

Чытаў шмат, бо адчуваў—інакш нельга. Сельская бальніца—гэта і акушэрства, і малая хірургія, і вялікая тэрапія. Відавочна, працаваў добра, бо калі паступаў у аспірантуру, дэлегацыя калгаснікаў з навакольных вёсак слёзна прасіла пакінуць доктара. У аспірантуру пайшоў не таму, што думаў аб кар'еры вучонага,—проста хацелася ведаць больш. За два гады зрабіў кандыдацкую, а яшчэ праз пяць гадоў узначаліў кафедру. Цяжка быць вучоным: гэта месяцы і гады напружанай працы, калі даводзіцца адмаўляцца ад тэатра, ад многіх кніг, якія хацелася б прачытаць, калі, як скупы рыцар, збіраеш толькі адно багацце—медыцынскія веды. Што ж, медыцына—такая навука, што палоніць чалавека цалкам, амаль не пакідаючы яму асабістага часу.

Але не гэта было самае складанае. Цяжэй за ўсё было стаць кіраўніком. Ён нават для студэнтаў выдаваў маладым, а павінен быў кіраваць вопытнымі ўрачамі і педагогамі, у якіх сам калісь вучыўся. Відаць, вельмі старанна прадумаў і здолеў зрабіць гэта сваім стылем у працы: атмасфера на кафедры павінна быць здаровай, жыццядзейнай. Субардынацыя, а не фанабэрыя. Абходы—гэта сумесны роздум над лёсам хворага. Ніякіх заўваг у палатах. Усё пасля, у кабінеце альбо канферэнц-зале. Асабліва беражліва і ўважліва ставіўся прафесар да сваіх маладых супрацоўнікаў. Кожнаму навічку даваў час на адаптацыю. Малады ўрач прывыкае да аддзялення, а супрацоўнікі аддзялення прыглядаюцца да яго. Рыгор Паўлавіч цудоўна ведае мажлівасці кожнага свайго супрацоўніка. «Адзін можа знайсці сто прычын, каб не выканаць даручэння, другі—сто магчымасцяў, каб усё зрабіць як найлепш». Але, па ўсім відно, затрымліваюцца на кафедры толькі апошнія. Моладзі ў клініцы шмат, і працуе яна з захапленнем. За дзесяць апошніх гадоў супрацоўнікі прафесара Матвейкава абаранілі тры доктарскія і восем кандыдацкіх дысертацый. У гэтым годзе будуць абараняцца яшчэ шэсць ягоных вучняў.

Пытаюся ў Сусаны Сымонаўны, у чым сакрэт такой плённай работы вялікага калектыву ўрачоў.

— У Рыгора Паўлавіча—незвычайная працаздольнасць. Акрамя таго, ён вельмі патрабавальны да сябе. Таму сур'ёзныя патрабаванні, якія прад'яўляе ён да супрацоўнікаў, справядлівыя і ніколі не выклікаюць унутранага пратэсту. Ён заўсёды выдатна ведае праблему. Задачы, якія ставіць перад супрацоўнікамі, заўсёды дакладна сфармуляваны і заўсёды рэальныя.

Сам Рыгор Паўлавіч за гэтыя гады апублікаваў 67 навуковых прац.

Рабочы дзень прафесара спланаваны надзвычай дакладна. Гэткай жа дакладнасці патрабуе ён і ад супрацоўнікаў. У восем гадзін пяцьдзесят мінут усе павінны быць у аддзяленні. Не ў двары клінікі, не ў гардэробе, не з халатамі ў руках і з аддышкай ад хуткай хады, а ў ардынатарскай—для таго, каб у дзевяць гадзін кожны ўрач без паспешлівасці, з яснай галавой мог зайсці ў палату да хворага.

— Вядома, бываюць уважлівыя

прычыны для спазнення. Напрыклад, можа ж чалавек аднойчы праспаць,— раптам зусім нечакана гаворыць Рыгор Паўлавіч.

Я здзіўлена: жартуе, відаць. А потым спахопліваюся: не, не жартуе, ён дапускае такое, што чалавек можа проста праспаць. Ён увогуле ўлічвае і разумее многае...

Група студэнтаў на субяседаванні. Прафесар спрабуе высветліць аб'ём іх ведаў, уражанне ад кафедры, ад сістэмы выкладання. Студэнты бянтэжацца, штосьці не дагаворваюць. Высвятляецца, што выкладчык патрабуе ад студэнтаў празмерна шмат: прачытаць такую колькасць медыцынскай літаратуры ім проста не пад сілу. Парушаны важнейшы педагагічны прынцып кафедры: заданне павінна быць рэальным.

— Гэта вельмі небяспечна — патрабаваць тое, што чалавек не можа зрабіць. У другі раз ён не зробіць і таго, што мог бы зрабіць,— заключае прафесар.

За дзесяць гадоў кафедра змянілася непазнавальна. Замест агульных тэрапеўтычных аддзяленняў — чатыры вялікія спецыялізаваныя аддзяленні, адно з якіх, створанае ў мінулым годзе, надзвычай цікавае: рэспубліканскае аддзяленне вялікіх калагенозаў.

Калагенавыя захворванні, апісаныя каля ста гадоў назад, пачалі пільна вывучацца параўнальна нядаўна. Вось як апісвае іх французскі клініцыст: «На бале калагенозаў дысемінаваная чырвоная ваўчанка з воўчай маскай на твары: склерадэрмія, апранутая ў медзь; дэрматаміазіт з фарфоравымі павекамі ў сваёй мішуры арлекіна — прадстаўлены ў выглядзе яркіх сілуэтаў, якія займаюць у кадрылі калагенозаў свае пэўныя месцы. Але бываюць такія маскарады, на якіх запрошаныя госці абменьваюцца сваімі маскамі і становяцца непазнавальнымі».

Для многіх практычных урачоў фігуры гэтага маскараду яшчэ застаюцца загадкавыя. Аднак за кожнай маскай — цяжкахворы. Сучасная тэрапія пакуль што не можа яго вылечыць, але абавязана дапамагчы яму. Вось чаму з такім захапленнем гаворыць Рыгор Паўлавіч аб сваім новым дзецішчы. Лабараторыя па вывучэнні ферментаў; перфакарты; музыка на магнітафонных стужках; пасада псіханеўролага (хворыя не павінны адчуваць сябе асуджанымі). І асноўная мэта: распрацаваць дакладныя крытэрыі для дыягностыкі, падоўжыць перыяд добрага самаадчування хворых.

Ад душы жадаю яму, каб даследаванні ў галіне калагенавых захворванняў былі такія ж выніковыя, як і працы кафедры па рэўматызме. Дзякуючы прымяненню новага метаду лячэння першапачатковага рэўматызму былі паскораны тэрміны выздараўлення хворых на два з паловай тыдні.

У Рыгора Паўлавіча — шмат новых планаў і задум у маштабах рэспублікі. Гэта натуральна, бо ён кіруе тэрапеўтычнай службай Беларусі.

Задаю яму правакацыйнае пытанне:

— Якое, на ваш погляд, месца тэрапіі сярод іншых медыцынскіх дысцыплін?

Адказвае крыху збянтэжана:

— Мне не хацелася б пакрыўдзіць хірургаў, але лічу хірургію часовым этапам у медыцыне. Мяркуйце самі: раней у краіне было 95 стацыянараў, якія займаліся хірургіяй сэрца. Зараз іх толькі 35. Гэта адбылося таму, што раней 75 працэнтаў захворванняў рэўматызмам мелі сваім зыходам парок сэрца, а цяпер мы сустракаем парокі клапанаў толькі ў 10—15 выпадках (у працэнтах). Тое ж самае адбываецца і з хірургіяй лёгкіх. Усё больш паспяхова вылечваецца туберкулёз, вельмі рэдка бачым мы абсцэс і амаль не сустракаем гангрэну лёгкага. Безумоўна, з цягам часу патрэба ў хірургічным умяшанні на важнейшых органах будзе ўсё больш памяншацца. Тэрапія — навука будучыні. Гэта сапраўды філасофская навука, яна патрабуе ад урача шырокіх і глыбокіх ведаў цэлага шэрагу іншых дысцыплін: біяхіміі, паталагічнай анатоміі, фізіялогіі.

І дадае, усміхаючыся:

— Так што, не хвалюйцеся, будучыня — за намі, за тэрапеўтамі...

Раз ужо гаворка зайшла пра будучыню, пытаюся ў Рыгора Паўлавіча:

— Ці хочацца вам, каб і вашы дзеці сталі ўрачамі?

— Але, хачу. Праўда, у сына відавочныя схільнасці да матэматыкі. А вось дачка ў гульнях з лялькамі выяўляе ярка выражаную схільнасць да медыцыны.

Пройдуць гады. Будуць разгаданы шматлікія загадкі калагенозаў, мы навучымся папярэджваць атэрасклероз, будзем ведаць тэрапеўтычныя метады лячэння злаякасных пухлін. Але час паставіць нейкія новыя праблемы, новыя задачы. Прыйдзе ў клініку дачка Рыгора Паўлавіча і яшчэ чыесьці сыны і дочкі, якія сёння гуляюць з лялькамі, і з такім жа захапленнем і самаадданасцю будуць біцца над раскрыццём яшчэ неразгаданых загадак чалавечага арганізма. І з такой жа гордасцю назавуць сябе тэрапеўтамі.

**Аляксандра ЧАРНЯЎСКАЯ,**
**урач-тэрапеўт.**

г. Мінск.





# ПЕРШАЯ ПРЫСТУПКА—ШКОЛА

Ва ўсіх аматараў спорту яшчэ ў памяці цікавыя і цяжкія старты Мюнхена. XX Алімпійскія гульні прынеслі нам шмат хвалюючых мінут. З гонарам пранеслі ў Мюнхене сцяг савецкага спорту спартсмены Краіны Саветаў. У гонар 50-годдзя Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік яны здабылі ў Мюнхене небывалую колькасць ганаровых узнагарод: 50 залатых, 27 сярэбраных і 22 бронзавыя медалі. Гэта была ўпэўненая перамога. Сваю долю ў яе ўнеслі спартсмены і Савецкай Беларусі. У складзе савецкай алімпійскай каманды пасланцы нашай рэспублікі складалі сем працэнтаў, а ў агульную скарбонку яны ўнеслі 10 працэнтаў узнагарод.

Поспех беларускіх алімпійцаў — вынік той работы па падрыхтоўцы спартсменаў высокага класу, якая была праведзена ў рэспубліцы напярэдадні Алімпіяды. Падрыхтоўка гэтая пачалася адразу пасля Мехіка. Менавіта тады было вызначана 200 кандыдатаў у зборную алімпійскую каманду краіны. Першым вынікам гэтай падрыхтоўкі быў поспех беларускіх спартсменаў на V Спартакіядзе народаў СССР, дзе ў агульным заліку наша каманда ўпершыню за ўсю гісторыю спартакіяд заняла чацвёртае месца, значна апярэдзіўшы зборныя каманды Грузіі і Ленінграда.

Поспехі, вядома, справа прыемная, аднак яны не даюць права на супакаенне. І сёння нам трэба актыўна шукаць рэзервы для будучых спартыўных перамог. Шукаць іх — значыць, не забываць на вытокі нашых сённяшніх поспехаў, скіроўваць позірк туды, адкуль прыходзяць у вялікі спорт чэмпіёны. А прыходзяць яны, як вядома, са школы.

Школа і спорт... За гэтымі двума словамі хаваецца, на мой погляд, нямала складаных і надзённых праблем. Пра іх я і прыйшоў пагутарыць да старшыні Камітэта па фізічнай культуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР В. І. Ліввенцава.

— Так, менавіта ў школе пачыналі свой спартыўны шлях нашы сённяшнія алімпійцы,— пагаджаецца Віктар Ільіч.— І таму школьнаму спорту неабходна аддаваць самую пільную ўвагу. Менавіта ў школе вытокі ўсіх сённяшніх і заўтрашніх спартыўных дасягненняў. Кожны школьнік з самых юначых гадоў ведае імёны вядучых савецкіх спартсменаў. Многія хлопчыкі і дзяўчынкі мараць быць падобнымі на іх. З гадамі адны здзяйсняюць свае мары, іншыя — не. Залежыць гэта, бадай, ад таго, хто акажацца побач з падлеткам: чулы настаўнік фізкультуры, добрая мама ці тата, якія разумеюць і падтрымліваюць памкненні сына ці дачкі, альбо наадварот,— абыякавы настаўнік ці капрызлівая мама. Залежыць гэта, вядома, і ад уласнага характару юнака ці дзяўчыны. Хопіць у іх сілы волі і вытрымкі — адолеюць перашкоды і ўвойдуць у вялікі спорт, не хопіць — застануцца балельшчыкамі. Але і першым, і другім спорт усё адно дапаможа. Перш-наперш, дапаможа ў самавыхаванні, бо спорт патрабуе ад чалавека самадысцыпліны, мужнасці, настойлівасці... Заняткі спортам спрыяюць выхаванню фізічна здаровага, працаздольнага чалавека, што, можа быць, найбольш і важна.

**— Дазвольце, Віктар Ільіч, задаць вам першае пытанне. Скажыце, калі ласка, як пастаўлена фізкультурна-масавая і спартыўная работа ў школах рэспублікі?**

— Пытанне надзвычай шырокае, таму адказаць коратка на яго цяжка, аднак паспрабую.

Агульнаадукацыйная школа павінна клапаціцца, як я ўжо казаў, аб тым, каб маладое пакаленне падрастала фізічна здаровым і развітым. Настаўнікі фізкультуры і бачаць у гэтым сваю галоўную задачу. Спартыўныя ведамствы і арганізацыі таксама працуюць у імя таго, каб савецкі чалавек быў фізічна развіты. Значыць, чым больш людзей будзе прыцягнута да заняткаў фізічнай культурай і спортам, тым лепш. І тым лягчэй будзе адшукаць сярод іх новага чэмпіёна.

За апошнія гады ў рэспубліцы пабудавана 52 стадыёны, 1217 спартыўных залаў, 24 плавальныя басейны. Большая частка гэтых збудаванняў належыць зараз школам. У школах рэспублікі працуе каля 5 тысяч выкладчыкаў фізічнай культуры. 70 працэнтаў з іх маюць сярэднюю і вышэйшую спецыяльную адукацыю.

**— Значыць, у многіх школах...**

— Так, ёсць яшчэ нямала школ, у якіх настаўнікамі фізкультуры працуюць людзі без спецыяльнай падрыхтоўкі. Недахоп гэты трэба, вядома, як мага хутчэй ліквідаваць. І прыемна, што цяпер, акрамя Беларускага інстытута фізічнай культуры, выкладчыкаў фізкультуры рыхтуюць Гомельскі ўніверсітэт і Брэсцкі педагагічны інстытут. Асабліва кепска з выкладчыкамі фізкультуры ў васьмігадовых школах. Прыкра называць такія лічбы, ды што зробіш. Ад фактаў, як кажуць, не

ўцячэш. Больш чым на 2 тысячы васьмігадовых школ прыпадае ўсяго толькі каля чатырохсот настаўнікаў фізічнага выхавання са спецыяльнай адукацыяй.

**— Вы гаварылі, Віктар Ільіч, пра спартыўныя збудаванні апошніх гадоў. Усё гэта, канечне, добра, але ж... Мне вядома, напрыклад, што толькі ў кожнай трэцяй школе ёсць свая спартыўная зала, што ў такім горадзе, як Брэст, толькі кожная другая школа мае ўласную спартыўную пляцоўку...**

— Назаву вам іншыя лічбы: 1582 і 2783. Першая—колькасць школьных спартыўных залаў у рэспубліцы, другая—колькасць комплексных школьных спортпляцовак. Лічбы, як бачыце, немалыя. Тым не менш даводзіцца пагадзіцца, што такой колькасці спартзалаў і спортпляцовак для нашай рэспублікі яўна недастаткова.

**— Наша рэспубліка—ініцыятар правядзення школьных спартыўных аглядаў-конкурсаў. Якая іх роля ў ажыўленні школьнага фізкультурна-спартыўнага жыцця?**

— Гэтае мерапрыемства, як ніякае іншае, дапамагло трэнерам ДЗЮСШ знайсці дзесяткі, сотні здольных юнакоў і дзяўчат. Узяць, напрыклад, фінал другога агляду-конкурсу. Толькі ў ім удзельнічала 8 тысяч школьнікаў. Пры гэтым адзначым, што большая палова іх—вучні сельскіх школ.

Другі рэспубліканскі спартыўны агляд-конкурс быў не толькі масавы, але і больш напружаны па спартыўнай барацьбе. Гэта сведчыць аб тым, што ў многіх школах сур'ёзна паставіліся да фізкультурна-спартыўнай работы. Прыемна, што на дапамогу настаўнікам фізкультуры прыйшлі не толькі дырэктары школ, але і класныя кіраўнікі. Асабліва гэтае сяброўства адчуваецца ў сярэдніх школах № 11 г. Мінска, № 1 г. Глуска, № 9 г. Брэста, Азеранскай Жыткавіцкага раёна, Любочынскай Лунінецкага раёна, № 5 г. Бабруйска, № 4 г. Ваўкавыска, Быценьскай Івацэвіцкага раёна, Бабініцкай Віцебскага раёна, Шароеўскай васьмігадовай школе Чэрыкаўскага раёна і іншых. Вучні гэтых школ сталі лаўрэатамі фіналаў у Мінску.

Зноў жа праблема зводзіцца да выкладчыка. Што можа даць вучню юнак, які сам толькі ўчора скончыў школу? А часцей за ўсё там, дзе няма настаўніка фізкультуры са спецыяльнай адукацыяй, яго месца займае былы вучань, які быў нядрэнным спартсменам. У такога настаўніка нічога няма за плячыма. Хутка бегаць ці высока скакаць самому выкладчыку—сёння вельмі і вельмі мала. Патрэбны веды, глыбокія веды ў розных галінах. А ведаў гэтых у выпадковага настаўніка, канечне ж, няма.

Мне здаецца, выйсце ёсць. Нашы педагагічныя інстытуты маглі б узяць на сябе ініцыятыву выпускаць не толькі фізікаў, хімікаў ці філолагаў, але і настаўнікаў, якія маглі б у любы момант вывесці вучняў свайго класа на спартыўную пляцоўку. Я маю на ўвазе сумежную прафесію. На кафедрах фізічнага выхавання ў інстытутах працуюць высокакваліфікаваныя спецыялісты. Ці не варта ім пераглядзець праграму сваёй работы? Для ўсіх і даўно стала відавочна, што заняткі па фізічным выхаванні ў нашых інстытутах прыносяць студэнтам вельмі мала карысці. Чаму? Па-першае, таму, што на фізпадрыхтоўку адпушчана надзвычай мала гадзін (дзве гадзіны на тыдзень на працягу першых двух курсаў). Па-другое, заняткі гэтыя па сутнасці бессістэмныя: сёння студэнты бегаюць, праз тры дні—скачуць, яшчэ праз тры дні—займаюцца гімнастыкай або фехтаваннем. А мы ж ведаем, што атрымліваецца, калі ўсяму вучаць пакрысе. Значыць, неабходна спецыялізацыя. І спецыялізацыя не толькі па будучай прафесіі, але і па фізкультуры. Займаючыся тыя ж два першыя гады ў спартыўнай секцыі (замест рэдкіх і бессістэмных заняткаў фізкультурай), студэнт несумненна дасягне пэўных поспехаў, а, захапіўшыся тым ці іншым відам спорту, ён не пакіне секцыі да канца вучобы ў інстытуце. Напэўна, будучы настаўнік з такой спартыўнай падрыхтоўкай абавязкова стварыў бы ў школе секцыю для заняткаў сваім любімым відам спорту.

**— Віктар Ільіч, толькі недахопам настаўнікаў і можна, відаць, растлумачыць той факт, што ў школах рэспублікі займаюцца рэгулярна спортам усяго 8—10 працэнтаў школьнікаў?**

— Часткова прычына ў гэтым. Другая прычына—недахоп спартыўных збудаванняў, пра што мы ўжо гаварылі. А трэцяя—абмежаванасць часу. Школьнік займаецца фізкультурай усяго дзве гадзіны ў тыдзень, як і студэнт.

**— Але ж школьная праграма і так, кажуць, надзвычай перанасычаная. Гаварыць аб павелічэнні гадзін, напэўна, бесперспектыўна. Значыць, трэба шукаць нейкія дадатковыя шляхі?**

— Безумоўна! І тут нам бачацца два шляхі. Па-першае, трэба ахапіць вучняў фізічным выхаваннем пасля ўрокаў. Па-другое, патрэбны актыўны ўдзел у гэтай справе ўсіх настаўнікаў і кіраўніцтва школы. Думаецца, многае залежыць ад дырэктара. Пакуль што ён—рэдкі госць на ўроках фізічнага выхавання. Фізкультура для яго—не галоўнае, за яе, як кажуць, стружкі не знімуць. Думаецца, што такі





пункт гледжання пара адкінуць. Настаўнік фізкультуры павінен стаць намеснікам дырэктара школы па фізічным выхаванні. Многае залежыць і ад настаўнікаў-прадметнікаў. Фізік, географ, гісторык, матэматык павінен прыйсці на дапамогу свайму калегу-фізкультурніку.

І яшчэ адно: размову пра фізічнае выхаванне школьнікаў неабходна выносіць на педсаветы школы, бо пакуль што гэтая тэма не дабірае іх увагі.

У нас ёсць нямала школ, дзе фізічнае выхаванне прыраўнялі да іншых школьных дысцыплін. Назаву, напрыклад, школу № 77 горада Мінска. Тут пытанні фізвыхавання рэгулярна разглядаюцца на педсавеце, у школе працуе грамадскі савет калектыву фізкультуры, у кожным класе ёсць фізоргі, практыкуюцца хатнія заданні па фізічным удасканаленні. Новыя формы работы шукае і «Клуб выходнага дня». Распрацаваны і заўсёды выконваецца ў школе графік правядзення спаборніцтваў. Не забыты і вучні, якія па стане здароўя вызвалены ад заняткаў фізкультурай.

Назаву яшчэ адзін прыклад. У Полацкім раёне ёсць Ветрынская школа-інтэрнат. На першым аглядзе-конкурсе яе сёмы клас стаў пераможцам сярод сельскіх школ рэспублікі, а сёлета ветрынскія школьнікі паспяхова выступілі і на ўсесаюзнай арэне, дзе занялі другое месца. Поспех гэты, зноў жа, невыпадковы. Школа-інтэрнат мае неблагі стадыён, спартыўную залу, некалькі пляцовак, шмат інвентару. Але галоўнае—у школе працуюць ініцыятыўныя людзі на чале з дырэктарам Аляксандрам Мікалаевічам Стапуновым. Дзякуючы іх намаганням фізкультурная і спартыўная работа пастаўлена ў школе, шчыра скажу, выдатна. Асаблівую папулярнасць набылі тут традыцыйныя і рэгулярныя «Нядзелі спорту». Вынікі іх падводзяцца на ўрачыстых школьных вечарах. Вядома, кожнаму класу хочацца быць пераможцам, але заваяваць гэтае званне зусім не лёгка—умовы конкурсу надзвычай строгія, пад увагу прымаюцца не толькі спартыўныя дасягненні, але і высокія адзнакі па ўсіх іншых школьных прадметах. У школе ў вялікай пашане новы комплекс ГПА. І прыемна, што ўсю гэтую работу ўзначальвае дырэктар школы.

**— Вось вы зноў успомнілі агляд-конкурс, на гэты раз—унутрышкольны. Што гэта—новая форма спартыўнай работы ў школах рэспублікі?**

— Бадай што можна сказаць і так. Ідэя іх правядзення нарадзілася ў сувязі з пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР «Аб мерах па далейшым паляпшэнні фізічнага выхавання вучняў і развіцці спорту ў агульнаадукацыйных школах» ад 4 верасня 1970 года. Зыходзячы з гэтай пастановы мы і пачалі з 1971 года праводзіць масавы спартыўны агляд-конкурс вучняў васьмігадовых і сярэдніх школ. Агляд праводзіцца ў чатыры этапы. Першы і другі—школьныя, раённыя і гарадскія спаборніцтвы, якія праводзяцца штогод. Трэці і чацвёрты этапы—фіналы абласных і рэспубліканскі агляд-конкурс—праходзяць раз у два гады. У аснову конкурсу пакладзена школьная праграма па фізічным выхаванні і ўсесаюзны комплекс ГПА. Галоўная асаблівасць агляду-конкурсу тая, што ў ім удзельнічаюць не школы, а класы. Гэта дапамагло амаль ва ўсіх школах рэспублікі прыцягнуць вучняў да актыўных заняткаў фізкультурай і спортам. У масавых спаборніцтвах другога агляду-конкурсу, які праходзіў сёлета, удзельнічала каля мільёна вучняў, спаборніцтвы прайшлі больш чым у пяці тысячах школ. А масавасць, як вядома,—першая зарука высокіх спартыўных дасягненняў.

**— Напачатку мы гаварылі пра паспяховае выступленне спартсменаў на Алімпійскіх гульнях, але заўважылі, што ўсе чэмпіёны пачынаюцца са школы. Які ж уплыў школы на рост спартыўнага майстэрства?**

— Я ўжо казаў, што масавасць—найпершы стымул для росту спартыўнага майстэрства. Аднак існуюць для гэтага і іншыя ўмовы. У рэспубліцы створаны і працуюць амаль тры сотні дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ. Калі быць дакладным, дык 282, з іх 28—спецыялізаваныя. У ДЗЮСШ працуе больш чым дзве тысячы кваліфікаваных трэнераў.

На першы погляд, усё ў гэтых лічбах выглядае нібыта і няблага. Аднак... У сістэме Міністэрства асветы рэспублікі працуе 177 дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ, а на ўсе гэтыя школы ёсць толькі 5 спартыўных залаў неабходных памераў (36×18). Выходзіць, што пераважная колькасць вучняў трэніруецца ў непрыстасаваных, цесных памяшканнях альбо... у спартыўных залах агульнаадукацыйных школ. Тут узнікае другая праблема. Забіраючы залы для ДЗЮСШ, Міністэрства асветы пазбаўляе тым самым агульнаадукацыйныя школы магчымасці праводзіць пазакласную спартыўную работу. А што гэта азначае? Тое, што ў тыя ж самыя ДЗЮСШ прыходзяць не разраднікі, а зялёныя, непадрыхтаваныя навічкі, і трэнерам даводзіцца пачынаць з імі работу з нуля. Падлеткі ж, не вытрымліваючы нечаканых для іх высокіх нагрузак, пакідаюць секцыі, і трэнеры ДЗЮСШ вымушаны аб'яўляць дадатковыя наборы...

Да чаго ўсё гэта прыводзіць, сведчаць такія лічбы. За апошнія пяць гадоў у дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы было прынята 140 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак, а скончылі школы толькі 14 тысяч, гэта значыць, толькі кожны дзесяты.

Вядома, многае залежыць і ад трэнераў, ад іх прафесійнай падрыхтоўкі. У наш час нельга дасягнуць высокіх спартыўных поспехаў, працуючы абыякава, «на вока». Высокая культура трэніроўкі—краевугольны камень сучаснага вялікага спорту. Яна ўлічвае ўсё: трэніровачныя нагрузкі, вядзенне дзённікаў, графік фактычна выкананай работы і г. д. І там, дзе гэтая культура ёсць, ёсць і вынікі. Для прыкладу можна нагадаць вядомыя школы В. Дзмітрыева ў Віцебску і Р. Кныша ў Гродна. На жаль, у іншых школах справы горшыя. Асабліва гэта датычыць трэнераў В. Зарэніна (Гомель), Ю. Гурэвіча (Барысаў), В. Шмярко (Гродна), І. Броўкі (Магілёў) і інш.

Ідэальным часам для заняткаў спортам з'яўляюцца летнія канікулы. Даўно апраўдала сябе практыка арганізацыі летніх спартыўных лагераў. Аднак пакуль што ў такіх лагерах працягваюць летам заняткі толькі 18 працэнтаў вучняў ДЗЮСШ. Астатнім жа пасля канікулаў даводзіцца пачынаць усё спачатку.

**— Відаць, і гэтым можна апраўдаць няўдалае выступленне нашых школьнікаў на апошняй Усесаюзнай вучнёўскай спартакіядзе?**

— Так, і гэтым. Аналіз кантынгенту ўдзельнікаў спартакіяды ад Беларусі паказаў і іншае. Выявілася, што ў апошнія гады многія прызёры спартакіяды перастаюць займацца спортам. І з кожным годам з'ява гэтая набывае ўсё большыя памеры. Так, з удзельнікаў VIII спартакіяды школьнікаў (Валгаград, 1963 год) пакінулі спорт усе пяцёра веласіпедыстаў,якія занялі тады пятае месца. Праз два гады спынілі выступленні ўсе дзевяць валейбалістак, якія мелі тытул чэмпіёнак спартакіяды. З дэлегацыі ў 170 чалавек праз чатыры гады гонар рэспублікі абаранялі толькі 17 удзельнікаў папярэдняй спартакіяды, а яшчэ праз чатыры— усяго 7.

Безумоўна, з'ява гэтая—вынік безадказнасці трэнераў. Яшчэ і зараз ёсць нямала настаўнікаў, якія лічаць, што галоўнае—вынік, а выхаваўчая работа— на другім плане. А між тым усё наадварот. Толькі чалавек высокай культуры можа на сучасным этапе дасягаць высокіх спартыўных вынікаў.

**— Віктар Ільіч, набліжаецца чарговая Спартакіяда народаў СССР, а там не за гарамі і XXI Алімпійскія гульні. Што неабходна зрабіць, каб беларускія спартсмены, учарашнія і сённяшнія вучні ДЗЮСШ, з гонарам пранеслі далей сцяг беларускага спорту?**

— У апошнія гады ў рэспубліцы нямала робіцца па спецыялізацыі спартыўных баз. Зараз мы маем спецбазы амаль па ўсіх відах спорту. Вядома, гэта яшчэ не гарантуе падрыхтоўкі спартсменаў высокага класа. Напрыклад, нашы трэкавікі-веласіпедысты трэніруюцца на шашы, а дабіліся высокіх вынікаў. А плыўцы, якія маюць дзесяткі сучасных басейнаў, значна адстаюць. Вядома таксама, што не варта супрацьстаўляць кваліфікацыю трэнераў спецыялізацыі баз, аднак і тое і другое мае важнае значэнне ў падрыхтоўцы спартсменаў. Многія ж трэнеры не праяўляюць ініцыятывы і настойлівасці, каб абсталяваць месцы трэніровак спецыяльнымі прыстасаваннямі, трэнажорамі і г. д. Гэта ў першую чаргу датычыць трэнераў па лёгкай атлетыцы Магілёўскага гарана, трэнера па валейболе В. Хадановіча з брэсцкага «Лакаматыва», дырэкцыі і трэнераў па лёгкай атлетыцы Барысаўскай ДЗЮСШ і інш.

Некаторыя спартыўныя арганізацыі да гэтага часу не змаглі дамагчыся спецыялізацыі баз, аб чым канкрэтна гаварылася ў пастанове ЦК КПБ і ўрада рэспублікі.

У рэспубліцы зацверджаны спіс 250 спартсменаў, якія рыхтуюцца да чарговай Алімпіяды. Сярод кандыдатаў у зборную краіны нямала вучняў. Задача заключаецца ў тым, каб стварыць ім неабходныя ўмовы для гэтай падрыхтоўкі. У той жа час неабходна працягваць пошук маладых талентаў. І тут першае слова павінна належаць нашай школе.

**— У ліпені гэтага года была апублікавана пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшым паляпшэнні ўмоў работы сельскай агульнаадукацыйнай школы». Як вы паставіліся да яе?**

— Лічу гэтую пастанову партыі і ўрада адной з важнейшых.

У сельскіх агульнаадукацыйных школах займаецца зараз амаль палова вучняў краіны. Для нас, спартыўных работнікаў, пастанова мае асаблівае значэнне. На сучасным этапе ў матэрыяльным сэнсе гарадскія школы абагналі сельскія. Датычыць гэта і фізкультурна-спартыўных баз. Вось радкі з пастановы: «...Прызнана неабходным ажыццявіць шырокую праграму будаўніцтва ў сельскай мясцовасці новых школьных будынкаў, прыбудоў класных пакояў, кабінетаў і іншых вучэбных памяшканняў...» Вядома, тут знойдзе месца і спартыўная зала, і новая спартыўная пляцоўка. Гэта значыць, што будуць новыя аматары спорту. А наша галоўная мэта—прыцягнуць як мага больш вучняў да актыўных заняткаў фізкультурай і спортам. У гэтай справе школьны калектыў павінен стаць цэнтрам па фізічным выхаванні маладога савецкага пакалення.

**Леанід ЗДАНОВІЧ.**





**Іван ГРАМОВІЧ**

# АНЮТА З ПОЎНЫМ КАШАЛЁМ

## Гумарэска

Прафесар Васіль Сцяпанавіч Далягляд быў дома, калі пачуўся меладычны, як зязюльчына кукаванне, званок. Хтосьці ішоў, званіў да яго, а прафесару нездаровілася. Зялёны цёплы шалік, закручаны вакол шыі, грэў прафесараву хранічную ангіну. Пад вачыма панапухалі мяшкі. На пісьмовым стале прафесара ляжалі таблеткі, стаялі бутэлечкі.

— Зноў да цябе,— прачыніўшы дзверы кабінета, паціху сказала жонка Наталля.— Цётка з кашалём. Кажа, з тваёй мясцовасці. Я ёй — хворы, тэмпература... Слухаць не хоча... «Пусці!»

Васіль Сцяпанавіч адклаў раскрытую кнігу, пачаў перабіраць,— ці ўсе зашпілены,— гузікі ў піжаме. Яму так хацелася спакойна сядзець, нават легчы. Але ён цераз сілу падняўся, высокі, сутулаваты, і выйшаў.

На калідоры, нечакана і неспадзявана, адразу прапала ўсё недамаганне. Чырванашчокая, яшчэ маладая з выгляду жанчына ў сучасным модным адзенні, пляснуўшы ў далоні, памкнулася яму насустрач:

— Авохці, Базыль! Які ж ты зрабіўся?! Божухна, дальбог, не пазнаць. Лысы ўжо...

Васіль Сцяпанавіч, хваравіта ўсміхаючыся, працягнуў руку жанчыне.

— Ты мяне пазнаў ці не? Я — Анюта з Дубнікоў. Ці помніш?..

— Добры дзень, Анюта! — прывітаўся Васіль Сцяпанавіч.

— Яшчэ разам вучыцца пачыналі... Хадзілі ў адзін клас... у Мікітаву хату.

— Калі ласка, сюды!

Жанчына ўкрадкі азірнулася на свой кашэль, пакінуты ў парозе, падняць які было толькі ёй па плячы, дужай, здаровай, і пайшла за прафесарам у бакавы светлы пакой.

— Цябе слухала па радзіве. Чула! Аб'яўлялі, лаўрыят!.. Авохці, дык і голас змяніўся. Не такі. Ішла і думала: не пазнае... Або шчурэецца...

— Сядай, Анюта! Помню Дубнікі. Усё помню... Гэта яшчэ, калі было, як пераводзілі ў пяты клас?.. Мы з табою пайшлі, як кажуць, не ў нагу. Ты не рашыла задачы... І не знайшла на карце раку Амазонку.

— Ха-ха-ха! — зарагатала Анюта на два рады залатых зубоў у роце.— Я і цяпер не знайду...

— А я табе падказваў.

— Падказваў, не таюся... Авохці мне! Дальбог, помніць. От памяць!..

Утаропіўшыся позіркам на ўзор пасланага пад нагамі дывана, Анюта чагосьці засаромелася. Васіль Сцяпанавіч таксама неяк засаромеўся. Не, не такое, мабыць, нейкае незразумелае адчуванне апанавала гэтых дваіх, больш чым сталых людзей. Вядома, іх кранулі ўспаміны мінулага і далёкага. Сапраўды, разам пачыналі вучобу. У тым школьным узросце Васілю вельмі падабалася Анюта. Больш таго, закахаўся, пісьмы ёй пісаў. На лістах паперы з сшыткаў у клетачку. І клаў пад камень на прызбе Анюцінай хаты. Ды што ёй было да яго лістоў? Васіль рос доўгі, як цапільна. (Яго так і дражнілі — Цапільна. Базыль-Цапільна!) А яна ўжо танцавала на вечарынках і была на прыкмеце ў дарослых хлопцаў. Ёй, круглай, статнай, было цесна сядзець за партай. Яна адчувала сябе, як прывязаная. Аж плакала на ўроках.

З чацвёртага класа, калі Анюта пакінула вучобу і яны разлучыліся, Васіль не забываў яе. Ужо студэнтам, калі прыязджаў з Мінска на канікулы, усё цікаваў, заглядаў на вокны Анюцінай хаты... Ах, Анюта, Анюта!.. Як гэта неяк сумна, дзіўна і сапраўды смешна ўспамінаць той падлеткавы ўзрост... З той далёкай пары яны не бачыліся і не сустракаліся... У памяці абоіх толькі мільгнула адно даваеннае лета. Жнівень. Васіль прыехаў у Дубнікі на канікулы. Гэта здарылася ўвечары. Анюта сядзела на лаўцы з тэхнікам па меліярацыі. (Быў такі прыкамандзіраваны ў сяле). І якраз сядзелі, абнімаючыся, калі Васіль падышоў і прывітаўся. А месяц свяціў ярка — усё гэта вельмі кі-

нулася ў вочы Васілю. Назаўтра ж ён паехаў у горад... Вось, то быў апошні момант, калі яны рассталіся...

— Чаму ў Дубнікі не прыязджаеш? — парушыла ўспаміны Анюта.

«Чорт яго ведае, дзе падзеўся той тэхнік, што сталаваўся ў хаце,— тым часам думала вінавата яна.— І як звалі яго, ліха ведае!».

— Няма калі,— адказаў Васіль і таксама думаў зусім іншае.

— Разэлаваўся, можа. Ці не? Бадай, зазнаўся,— і тут Анюта жартам перайшла ў наступ. У яе зноў зазіхацеў увесь рад залатых зубоў.

А Васіль яшчэ больш задумаўся.

...У Дубнікоў, дзе ён нарадзіўся, дзе прамільгнула яго такое дзівацкае маленства, цяпер быў зусім не той выгляд. У вайну нямецкія акупанты спалілі бацькаву хату. Бацьку і маці забілі. Брат памёр. На той сялібе разбудаваўся калгасны аграном... У вайну, памятае Васіль, як толькі нашы войскі вызвалілі родную мясцовасць (а Далягляд з першага да апошняга дня вайны знаходзіўся ў арміі), ён адразу прымчаўся ў сваё сяло. Папялішча, дзе стаялі над хатай бярозы... Пачаў шукаць, хто застаўся жывы з родных ці блізкіх. Дзядзька Лаўрэн (таксама памёр ужо) пра Анюту сказаў: «У партызанах не была. Жыла з роднымі. Панаставіла поўны рот залатых зубоў». Помніцца, дзядзька, як заўважыў, што Васіль сутаргава хапіўся за кабур рэвальвера, разважліва перасцярог: «Не гарачыся! Яна ўжо другі раз удава. У яе поўна малых дзяцей...»

— Як жа ты жывеш цяпер, Анюта? — адхіляючы свой роздум, запытаўся Васіль Сцяпанавіч.

— Нічогенькі. Добра, можна сказаць. Дальбог, добра! Я лепш і не хачу.

— З кім жа ты жывеш?

— Другую дачку замуж аддала. Ад першай унукі ёсць. Трэцяя ўжо на выданні. Адзін сын у арміі... Цяпер вот Валодзю, Воўку, хачу ўладкаваць. От, Базыль, я і прышла да цябе. І хачу пагаварыць па душах. Ніколі да цябе не звярталася — і прышла... Што было, не маракуй! Да каго ж мне прысці? З кім параіцца? Ты чалавек — галава!..

— Прабач, што перапыняю цябе, Анюта... Я хачу запытацца, хто твой муж?

— Муж? Не шанцуе мне на мужыкоў, халера на іх! Апошні — п'яніца горкі, бадзяецца па свеце. Не ведаю, дзе ён. З міжкалгасбуда. Адліванчык! Можа, чуў?

— Не, Анюта, не чуў.

— Начорта мне цяпер мужыкі! Я сама жыву. Як гэта завуць... адзіночная мацера. Дзяржава, дзякуй богу, такіх не пакрыўдзіць...

— Дык чаго ты ад мяне хацела, Анюта?

— Няхай яно згарыць!.. Як тут адразу і вырашыць... Словам, сын, Воўка, халера на яго, замучыў мяне. Хачу, каб у твой інстытут прынялі. Хоць апошняга балбеса трэба ўладзіць. А ў вас тут навыдумлялі ўсякія конкурсы. Прыступу няма! Другое лета сваю хлопца — і нічагусенькі. Памажы, Базыль! Адкравенна,— прышла за помашчу...

Місія досыць знаёмая. Прафесар тужэй павязаў зялёны шалік на шыі і адказаў:

— Да інстытута я цяпер не маю ніякага дачынення, Анюта. Мяне перавялі на іншую работу. Я цяпер не ў інстытуце працую. Так што... разумееш, што ж я магу... нічога...

— Авохці мне! Няўжо ў цябе ў інстытуце ніякага блату не засталося?

Гэтай непасрэднасцю Анюты Васіль Сцяпанавіч быў крануты шчыра. Аж усміхнуўся. Ну, хіба яна не разумела, што ён ніколі нічога такога не рабіў, не ўмеў: ні падкупліваць, ні махляваць, або, як кажуць, «хадзіць налева»?! Як ёй гэта растлумачыць? Ды, урэшце, чым дапамагчы Валодзю, Анюцінаму сыну? Васіль Сцяпанавіч ужо гатоў быў выказаць адну прапанову. Сам ён нахмурыўся, на лбе з'явіліся зморшчыны. І тут раптам Анюта выбегла з пакоя. Яна прынесла кашэль, накрыты белым абрусам, і паставіла яго на крэсла, якое аж рыпнула пад важкім цяжарам.

— Базыль, не грэбуй! — строга сказала Анюта.— Дальбог, не выйду з хаты, пакуль не пачастуешся... Пакаштуй!

Каб сказаць, што для прафесара і гэта было неспадзяваным, то няпраўда. Ён ведаў, што ў дубнікоўцаў поўны кашэль — мудры захад. За ім «дыпламатычна» хаваецца аплата за пратэкцыю. Васіль Сцяпанавіч скрывіўся, закруціў галавой.

— У мяне дыета.... Я хворы.

— Не грэбуй, кажу, Базыль! — паўтарыла Анюта, пляснуўшы далонямі сабе ў бакі.— І сыр, і каўбасы сама рабіла...

— Дзякую, Анюта! Мне нічога не трэба. У нас у доме ўсё ёсць. Усяго ўдосталь, хапае...

— Не грэбуй!

Становішча ў прафесара было крытычнае. Зноў хваравітасць апанавала яго. Адпала думка пра Анюцінага сына. Сапраўды, госця магла застацца тут да ночы. І ніяк яе не выправадзіш...

Толькі званок у калідоры вывеў з разгубленасці. Васіль Сцяпанавіч папрасіў у Анюты прабачэння і выйшаў з пакоя. Ад жонкі ён даведаўся, што да яго звaніў сусед, хацеў зайсці, а яна адказала яму, што гаспадар заняты.

— Вярні! — аж крыкнуў прафесар.







Вучоную галаву, як кажуць, асвятліла цудоўная ідэя...

Ужо, калі сусед знаёміўся з Анютай у пакоі, Васіль Сцяпанавіч раскрыў свой замысел жонцы Наталлі:

— Засцялі стол! Гэта добра. Усё тут можа завяршыцца вельмі скора ўзаемным частаваннем. У Дубніках так. Я ўжо ведаю... Малых пашлі, Наташа, гуляць!... Закусі не шкадуй! А прынесенага Анютай, калі ласка, не кратай!..

Сусед прафесара быў культурны, начытаны чалавек. Ён выкладаў літаратуру ў тым інстытуце, дзе нядаўна працаваў Далягляд, і меў вучоную ступень. Раней, калі працавалі разам, у іх была моцная дружба, а зараз — як у суседзяў. Але і цяпер той заходзіў да Васіля Сцяпанавіча — калі трэба і калі не трэба. Як не было ніякай патрэбы, сусед заходзіў, браў высокага Васіля за штрыфлі пінжака і казаў: «Давай падужаемся» або «Хадзем, пачастую! Ты забыўся, што сёння мой дзень нараджэння»...

Пакуль Васіль Сцяпанавіч з Наталляй рыхтаваліся на кухні, сусед паспеў ужо з Анютай разгаварыцца і нават, як кажуць, знайсці агульную мову.

— Хто я? Начальнік! — любіў так заўсёды гарэзліва знаёміцца Васілёў сусед.— Над самім прафесарам начальнік. Васіль Сцяпанавіч у мяне памочнік... Ого, у цябе ў кашалі ладны кумпяк. Вэнджаны? Ці сушаны на сонцы?

— Сушаны.

— Сама сушыла?

— Сама. І не як на продаж, халера яго бяры!

— Я, прызнацца, люблю ўзяць любовую лустачку вяндліны. Такую ружовую, вэнджаную, як для сябе, па-вясковаму...

— Любовае-сушанае смачней за любовае-вэнджанае, калі вы хочаце ведаць, таварыш начальнік.

— На яго трэба добрыя зубы мець.

— Не, ён мяккі, таварыш начальнік. Я з-пад страхі зняла і перавесіла яго на гарышча. Яшчэ летам. Усохся якраз... От, пакаштуй!..

— Ого! Дык тут у цябе бусел?..— сусед панюхаў: — Чамяргесу?

— Вінавата, таварыш начальнік. Яшчэ вясной неяк сабралася выгнала, толькі для сябе. На лякарства. Бачыце, настоенае на вішнях...

— Ну, брат! Тут можа быць пір гарой. Васіль, дзе ты?

Анюта насцярожана сачыла за ўсім. Яна заўважыла, як Базыль, не такі насуплены, як надоечы, а падабрэлы, ветліва зайшоў і запрасіў яе і свайго суседа ў другі пакой.

Там, звонячы відэльцамі і нажамі, упраўлялася яго жонка, Наталля. На стале было чаго хочаш: і чырвоная ікра, і балыковая каўбаса, і рыбец. Толькі Васілёў сусед заўпарціўся: дадаць сюды Анюціны пачастункі з кашаля! А яна, здаецца, толькі таго і чакала. З радасцю, як маладая, увішна крутанулася, шчодра нарэзала чырвоных скрылёў ад кумпяка і прынесла іх сюды. Гаспадар з гаспадыняй не паспелі пераглянуцца...

— Базыль, не грэбуй! — адно паўтарала Анюта.

Яна сваёю рукой плюхнула з бутлі ў найбольшую чарку прафесара.

— Мне няможна. Не налівай, Анюта!

— Ці бачыш, які далікатны?! Гэта ж мы з аднаго сяла, таварыш начальнік. Ён жа мне яшчэ ў школе задачкі рашаў, пальцамі падказкі рабіў, як я стаяла ля дошкі... Ха-ха-ха! Адзін смех, калі ўспомніш... Цяпер во не падступіцца — вучоны!

Сусед меў звычку хутка пераходзіць на панібрацкія адносіны і быў не з тых, каго трэба ўпрошваць ці агітаваць за сталом. Ведаючы гэту рысу ў натуры свайго суседа,

прафесар зараз быў рады, што, не ў прыклад Анюце, ён не прыстае чокнуцца ні да яго, ні да Наталлі.

— Дарэмна, брат! — адно толькі сказаў сусед.— Анюціна лякарства — бальзам ад усіх хваробаў. Лепш за твой каньяк. А ў гэтым кумпяку ты, Анюта, сабрала ўсе промні сонца...

— А гэты ж — не ў губу... Ганьбуе...

— Я не ганьбую, Анюта, я бяру... Толькі, як кажуць у Дубніках, я слабую... У мяне язва. Ты вось, калі ласка, раскажы, што новага ў сяле.

— У сяле ўсё новае. Дубнікі — асноўная брыгада. Разбудавалася, як горад. Усе жывуць — дай божа! У кожнага ў доме целявізар. Вада гарачая і халодная...

— Гэта добра... Кім жа ты там працуеш?

— Як гэта кім?

— На ферме ці ў полі?

Анюце не хацелася прызнавацца, што яе часта можна было спаткаць у электрычцы і на гарадскім рынку. З квашанай капустай. З соленымі агуркамі. З маладой бульбачкай «тэмп»...

— Работа, якая ні ёсць — работа,— знайшлася што адказаць прафесару Анюта.— Без работы не мела б таго, што маю... Пі, начальнік! Пакаштуй каўбасу. Свая, як ты казаў, сялянская...

— Дзякую, Анюта! Маладзец, залатыя рукі! Бачу, самаробная... Смаката, смаката!

Такая пахвала падбадзёрвала госцю.

— Базылю толькі не па густу... Скажы, Базыль, няўжо ў Дубніках на табе ўсе вучоныя закончыліся?

У голасе яе гучэла столькі смеласці, задзірыстасці,— нібы «давай падужаемся»,— што Васілёваму суседу было вельмі да спадобы.

— Дай, дай яму перцу! — сказаў ён.

Нажаль, сусед не ведаў ці не хацеў ведаць дубнікоўскай задзірыстасці, як гэта ведаў і разумеў Васіль. Па-дубнікоўску гэта разважанне абазначала прыблізна так: «Што мы, горш за іншых?! У іх хата шыферам накрыта, давай жа і я накрыю... Ён прыдбаў матацыкл, а я што, уломачак? Давай «Маскаіча!..»

Толькі ўсё гэта — проста ад зайздрасці, і ніякага тут высокага ў сучасным сэнсе жыццёвага спаборніцтва не існавала. Усімі патрэбамі штурхала прыземістая, з вялікімі вачыма зайздрасць... «Эх, Анюта!» Васіль Сцяпанавіч, паглядзеўшы на яе зіхатлівыя зубы, паважна адказаў:

— Чаму? Я гэтага, Анюта, не гаварыў і не гавару. Безумоўна! З Дубнікоў можа выйсці яшчэ многа талентаў. І вучоных, і так розных вядомых людзей... лётчыкаў, інжынераў... Толькі трэба не ленавацца.

— Ведаю, Базыль, у чый агарод твае палкі ляцяць,— сказала Анюта.— Ведаю! Дурная была. Ленавалася... От прышла да цябе. Памажы, каб сын стаў такім, як сам. Цяпер без гэтага крута прыходзіцца жыць. Давай дзіплом! Давай каліфікацыю!..

Васілёў сусед, раскумекаўшы, аб чым ідзе гаворка, даведаўшыся, якая няўдача спасцігла Анюцінага сына, Воўку, пасля яшчэ аднае чаркі горача палез у размову:

— Не бядуй, Анюта! Я сам пайду з табою. Дзе дакументы? Дай сюды! Твой Воўка будзе ў інстытуце... Які там яшчэ конкурс!..

Васіль Сцяпанавіч раптам не на жарты разгубіўся ад такіх слоў суседа, якому, як начальніку, дагаджала за сталом Анюта. І што небяспечна: пад «мухай» сусед мог пайсці хоць куды і хоць да каго. Наталля, спалохана зірнуўшы на мужа, устала.

— Сёння ж пойдзем... Закусім і пойдзем у інстытут.

— Куды? — абурыўся прафесар.— Якія вы, аднак, людзі! Няўжо ты, Анюта, не верыш, што я хворы? Паказаць бюлетэнь?

— Не, не, не трэба!

— Дык дайце ж спакойна... ачуняць!

— Анюце паможам! — выгукнуў Васілёў сусед.— Яна заслужыла. Я поўнасцю за яе. Хто зараз лезе ў інстытут? Гарадскія! Сяло — станавіся ў чаргу!..

— Ты, бачу, гаварок, таварыш начальнік... Яшчэ адну табе на мілае сэрца,— падліла Анюта.— Гаворыш па-вясковаму, як рэпу сячэш...

— О, чуў? Якое слова! «Га—ва—рок!..» А параўнанне?.. «Як рэпу сячэш...» Здарова, прафесар! А ты, Анюта — самародак! Малайчына!.. Разумееш, Васіль, такое выходзіць з глыбінь народных. Гэта народ! Лепшыя яго прадстаўнікі. Сапраўдныя людзі! Вот хто варты прыкладу. У іх трэба чэрпаць жыццёвую мудрасць. Іх трэба шукаць і ўсім паказваць... у творах. Яны жылі. Жывуць. І будуць жыць!..

— Што вы зрабілі б, каб не наш сялянскі хлеб? — перапыніла Анюта.— Які трэба пасеяць у мяккую зямлю. Угноеную от гэтымі рукамі... Такая работа, таварыш начальнік, каштуе не менш пісанай... Звініце, калі не так сказала. Але мне здаецца, што цяпер усюды мерка адна — рубель!

— Чуеш, чуеш, Васіль? От філасофія людзей ад зямлі. Малайчына, Анюта! Ты права. Мы ўжо не тое. Інтэлігенцыя! Але, Анюта, якая інтэлігенцыя? Паслухай! Хто я такі?.. «Што я мужык, усе тут знаюць, як ёсць тут гэты свет вялік»... Хто так пісаў?.. О-о-о!.. Усе мы вышлі з-пад яго... як той выказаў... з яго шыняля!..



— Так напісана пра Гогаля,— заўважыў Васіль Сцяпанавіч.

— Усё роўна! Разумееш, Васіль, Анюце не толькі памагчы... ёй пакланіцца трэба. Яна мадона! Чым яна горш за іншых мадон? Можа Анюта магла быць маці-гераіня!..

— Я ўжо бабка, халера яго бяры!

— Вось ён, наш ідэал! Сціплы! Увесь, як на далоні. Я зусім цвяроза гавару... Жывы, канкрэтны! Нікому не раўня. І, канечне, мае свае адмоўныя якасці. Чалавечыя. Ну, там... у агульным развіцці... Толькі гэта — глупства! Нейкая перашкода была...

«Якая перашкода? — думаў прафесар.— Што не дазваляла ці перашкаджала ім, равеснікам? Хто можа разважаць так у наш час? Ці той, хто адчувае навукова-тэхнічны прагрэс, ці той, хто яго не бачыць і глядзіць назад, у мінулае? Або ставіцца да яго па-спажывецку?»

Ён ветліва папрасіў дазволу выйсці і пакінуў суседа з Анютай.

Васіль Сцяпанавіч пайшоў да сябе ў кабінет і па тэлефоне пазваніў на стаянку таксі. Потым з'явіўся на кухні і загадаў сыну аднесці Анюцін кашэль з усім, што там было, у машыну.

Усё завяршылася так, як ён хацеў. Дарэмна і хваляваўся.

— Дзякуем, дзякуем, што наведалі нас, Анюта! — сказала Наталля.— За ўсё дзякуем! Унізе машына чакае вас. Ля пад'езда. У машыне кашэль, не хвалюйцеся. Там, там!

Анюта неяк баялася Наталлі. Пры такой ветлівасці ў абыходжанні Анюта не рашылася запытацца, ці парожні ён. Ды яшчэ гэты Васілёў сусед блытаўся, стрымліваў яе гаворку.

А прафесар сказаў:

— Як папраўлюся і выйду на работу, сам паведамлю табе, Анюта... А лепш за ўсё, ты прышлі да мяне сына. Няхай прыедзе заўтра. Раскажаш, як патрапіць. Трэба ж з ім пагаварыць. Чаго ён хоча. Думаю, што мы ўмовімся пра падрыхтоўчыя курсы ў інстытут. Гэта надзейны варыянт.

Лепшай пратэкцыі, як здавалася ў гэты момант Анюце, яна і не чакала. Усё уладжана. Можна ехаць дадому. Аднак, сеўшы ў таксі, першым чынам ляпнула рукой зверху па кашалі. Па дотыку далоні адчула, што ўвесь сушаны кумпяк, кольцы каўбасы і сыры — усё некранута, на месцы. Пад абрусам... Сэрца аж ёкнула. Усё ўнутры пахаладзела.

— Зазнаўся. Грэбуе! — незадаволена прашаптала Анюта.— Якія такія курсы ён выдумаў?.. Каб захацеў, зараз уладзіў бы... Не хоча. Бач, што-та я...

Калі ж праз тыдзень, не атрымаўшы абяцанага прафесарам паведамлення, яна бачылася з дубнікоўцамі, то казала ўголас, са злосцю:

— Зазнаўся Базыль-Цапільна. Нос закапыліў. Сваіх не пазнае. Не дай бог з мужыка ды пана зрабіць. Але душыць яго нешта. Напэўна, скора загнецца, халера яго бяры!

Яшчэ праз тыдзень — цярпенне яе лопнула. Яна ўжо збіралася на электрычку — ехаць да добрага, разумнага чалавека. Ён і смелы, і надзейны, і свойскі. Вядома, хто гэта быў. Васілёў сусед.

Толькі паездка не адбылася. Валодзя, сын Анюты, увесь гэты час украдкі хадзіў у райваенкамат і напрасіўся ісці ў армію: якраз падаспеў яго тэрмін. Прыйшоў дадому, сказаў навіну, чаго хацеў, і паехаў.



Мал. С. ВОЛКАВА

## нашы аўтары

**ЗАБАЛОЦКАЯ Людміла** нарадзілася ў 1950 годзе ў Крычаве. Скончыла Крычаўскае медыцынскае вучылішча. Працавала ў райбальніцы і ў рэдакцыі раённай газеты. Цяпер — студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

**ГРАХОЎСКІ Сяргей** нарадзіўся ў 1913 годзе ў мястэчку Нобель былога Пінскага павета Мінскай губерні (зараз Зарэчнянскі раён Ровенскай вобласці, УССР). Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», на Беларускім радыё, настаўнічаў, доўгі час быў адказным сакратаром часопіса «Вясёлка».
Выдаў зборнікі вершаў «Дзень нараджэння», «Чаканне», «Табе зайздросціць сонца», «Памяць», «Тры вымярэнні», «Вершы», кнігу апавяданняў «Які вялікі дзень», аповесць «Рудабельская рэспубліка». Сёлета выйшлі выбраныя творы ў двух тамах.

**ГІЛЕВІЧ Ніл** нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна. Скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча імя Н. К. Крупскай і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт БДУ.
Аўтар паэтычных кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Неспакой», «Бальшак», «Паразовы», «Лісце трыпутніку», некалькіх зборнікаў гумарыстычных і дзіцячых вершаў. Выдаў кнігу пра беларускую паэзію 20-х гадоў «Акрыленая рэвалюцыяй» і кнігі па беларускім фальклоры «Наша родная песня» і «З клопатам пра песні народа».

**ЛОБАЧ Святлана** нарадзілася ў 1939 годзе ў Плешчаніцах. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічала, працавала выхавацелькай у дзіцячым садзе. Зараз—навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР.
Вершы С. Лобач друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

**СТРАЛЬЦОЎ Міхась** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Сычын Слаўгарадскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях газеты «Літаратура і мастацтва», часопісаў «Полымя» і «Маладосць». Аўтар кніг прозы «Блакітны вецер», «Сена на асфальце», «Адзін лапаць, адзін чунь», «Загадка Багдановіча», зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Жыццё ў слове». Сёлета выйшаў з друку зборнік вершаў «Ядлоўцавы куст».

**ЯРАЦ Віктар** нарадзіўся ў 1948 годзе ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна. Працаваў у рэдакцыях раённых газет і на тэлебачанні. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт, служыў у Савецкай Арміі. Зараз—аспірант ГДУ.
Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.


**ЖУРНАЛ «МАЛАДОСЦЬ» № 9**

**(на белорусском языке)**

Мастацкі рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Тэхнічны рэдактар **Уладзімір КОНАШ.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600, Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 29-36-48—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 29-38-54—сакратарыят і аддзел крытыкі, 29-35-92—аддзелы паэзіі і прозы, 29-38-92—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 29-37-75—фотакарэспандэнт.

АТ 08642. Здадзена ў набор 24/VII 1973 г. Падпісана да друку 28/VIII 1973 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 16 179. экз. Зак. 404. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**